АДАМ ГЛОБУС

# РЫСЫ

НАРЫСЫ ПРА ТВОРЦАЎ

**УДК 882**
**ББК 84(4Беи)**
**Г 54**



**Глобус А.**
Г54 Рысы : нарысы пра творцаў / Адам Глобус. — Мінск : Харвест, 2019. — 288 с.

ISBN

У новай кнізе Адама Глобуса «Рысы» сабраны партрэты выдатных майстроў літаратуры і мастацтва. Іх усіх добра ведае аўтар, таму чытач убачыць шмат асабістага і кранальнага, таго, пра што не змогуць напісаць іншыя. На першы погляд, суб'ектывізм Глобуса можа падавацца занадта катэгарычным, але яго кампенсуе шчырасць і праўдзівая любоў да апісаных творцаў. Нарысы, змешчаныя ў «Рысах», працягваюць шэраг літаратурных партрэтаў, якія ўваходзілі ў кнігі: «сУчаснікі», «Імёны», «Партрэты» і «Зваротная перспектыва».

**УДК 882**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN**

# КАТКОЎ

*Словы пра мастака і настаўніка*
*Сяргея Пятровіча Каткова*

## Вокны

Сяргей Каткоў навучыў мяне любіць вокны. Навучыў хутка, бо ён заўсёды ставіў эцюднік каля падаконня і пісаў зааконныя мінскія краявіды. Разам з Катковым іх пісалі і мы — яго вучні-школьнікі. Пазней я прачытаў, што і Марк Шагал любіў зааконныя краявіды, менавіта з пісання такіх пейзажаў ён пачынаў жыццё ў кожнай новай кватэры. Захапляўся вокнамі і рускі жывапісец Мікалай Андронаў. Шагал і Андронаў напісалі шмат каштоўных і значных палотнаў з зааконнымі матывамі, але сціплыя краявіды Сяргея Каткова мне даражэйшыя за творы сусветнай класікі, бо гэта частка майго жыцця, майго дзяцінства, частка мяне.

Я падыходжу да карціны Сяргея Каткова са стадыёнам на вуліцы Кірава — і вяртаюся ў дзяцінства, у нашу студыю ў Па-

лацы школьнікаў. Я чую дзіцячыя галасы. Чую і бачу нас — хлопчыкаў і дзяўчатак з пэндзлямі ды фарбамі. Бачу Гену Лаўрэцкага і Рому Заслонава, бачу Жэню Кірылава і Волю Сазыкіну, бачу Мішу Пракоф'ева і Сашу Кішчанку, Юру Яўменава і Гену Хацкевіча, Элу Гаркунову і Ніку Махнач... Бачу тых, каго Сяргей Каткоў навучыў любіць самыя звычайныя вокны і зменлівыя заакон-ныя краявіды.

## Навічок

У маім дзяцінстве было шмат Леніна. Ён быў паўсюль. Яго партрэт вісеў у кожнай групе дзіцячага садка і ў кожным класе школы, куды я хадзіў. На вуліцах і плошчах стаялі помнікі Леніну. На сценах віселі плакаты і пано з яго тварам і постаццю. У скверах узвышаліся скульптуры маладога Валодзі Ульянава і Валодзі-хлопчыка, які нагадваў нам Леніна ў шчаслівым дзяцінстве. У кнігах, часопісах і газетах былі профілі Леніна. Ён быў на грашах... Здавалася, што нельга і крок зрабіць, каб не сутыкнуцца з правадыром пралетарыяту. А вось у мастацкай студыі, якой кіраваў Сяргей Каткоў, Леніна не было. Я заўважыў, што тамака няма Леніна, калі адзін новы навучэнец, якога прывяла і пакінула маці, намаляваў дом, на сцяне якога было пано з чорна-чырвоным, вугальна-вогненным Уладзімірам Ільічом. Новы хлопчык маляваў кепска, Ленін у яго атрымаўся худы, крывы і смешны. Студыйцы ледзь стрымліваліся, каб не зарагатаць. Мы смяяліся б, каб не Сяргей Каткоў, які забараняў зневажаць навічкоў.

Таго навічка-ленінца зняважыла яго маці, калі вярнулася і пабачыла крывога і смешнага Леніна.

— Ты што гэта робіш? Ты каго гэта малюеш? — жанчына ляснула свайго сына даланёю па патыліцы. — Хто табе сказаў маляваць Леніна?

Пабіты хлопчык зарумзаў:

— Мне... Мне сказалі маляваць... Сказалі намаляваць тое, што мяне моцна ўразіла. Мяне ўразіў дом з плакатам... Я намаляваў...

На дапамогу навічку прыйшоў Сяргей Пятровіч Каткоў:

— Выдатны малюнак. Проста цудоўны. Свежы. Востры. Тут усе вам скажуць, што ваш сын правільна выканаў маё заданне. Яго ўразіў дом і вялікі плакат. Ён намаляваў дом з плакатам. Намаляваў шыкоўна. За гэты малюнак я падару яму кітайскі пэндзлік...

Сяргей Пятровіч узнагародзіў навічка залацістым пэндзлікам. Хлопчык сыходзіў са студыі задаволены. Больш я ніколі не сустракаў таго аматара плакатаў і яго злосную маці з цяжкай рукой.

## Вяровачка

У нашага настаўніка малявання Сяргея Каткова ў портках замест рэменя была звычайная вяровачка, завязаная на акуратны банцік. На такіх вяровачках у мінскіх дварах вешалі сушыць бялізну. Каб хто з маіх знаёмых мужчын замест рэменя запраўляў у порткі вяровачку, я раней не бачыў. І ў нашым Койданаве, і на бацькавых Дзятлаўшчыне і Навааградчыне, не кажучы пра Мінск, усе мужчыны хадзілі падперазаныя рамянямі. Нехта казаў на гэтую

важную частку адзення «папружка», нехта называў яго «пасам» ці «дзягай», але ўсе ганарыліся сваімі скуранымі рамянямі і металічнымі спражкамі. У самым крайнім выпадку ў тутэйшых мужчын былі шырокія салдацкія рамяні, а тут я прыйшоў займацца маляваннем у студыю і пабачыў у портках вяровачку... Была ў той вяровачцы надзвычайная простасць, нетутэйшасць і рускасць. Думаю, падобным матузком мог падпяразвацца Леў Талстой ці Сяргей Ясенін. З маіх знаёмых мужчын вяровачкай замест рэменя карыстаўся толькі Сяргей Каткоў, таму яна і помніцца дагэтуль.

## Вясна

Сяргей Каткоў захапляўся пісаннем з натуры. Выходзіў з палатном і эцюднікам яшчэ цёмным ранкам, а на сняданак вяртаўся з напісаным краявідам. У эцюдах Каткова шмат светласці, сонечнасці і лета. Ёсць на яго карцінах і адліжная зіма, і шматфарбная восень. Толькі я не памылюся, сказаўшы, што любімы час Каткова — вясна.

— Нельга прапусціць вясну, — нагадваў ён нам, сваім вучням, яшчэ ў лютаўскія маразы. — Трэба рыхтавацца да вясны. Трэба выходзіць на эцюды ў першыя цёплыя дні.

Мы прыкноплівалі паперу на планшэты і хадзілі пісаць паводку на Свіслачы. Мы пісалі вербы над рэчкай з крыгамі. Пісалі сакавіцкае неба ў рачной вадзе. Мы вярталіся ў студыю ў брудных чаравіках, поўных вясновай вады. Абмывалі абутак і сушылі яго на батарэі. Сяргей Каткоў хваліў не столькі нашы неахайныя акварэлькі, колькі нашу мужнасць і наш намер не прапусціць вясну.

## Тоўсты хлопчык

У студыю да Каткова тоўстага хлопчыка прыводзіў бацька. Большасць з нас на заняткі да Сяргея Пятровіча прыходзіла самастойна, а гэтага таўстуна прыводзіў высокі, сухарлявы, сівы тата. Хлопчык побач з сівым бацькам выглядаў як яго ўнук, а не сын. З намі таўстун не размаўляў. Мы нават не ведалі, як яго зваць, таўстун і таўстун. Ён любіў маляваць мора і караблі. Свае намаляваныя караблі таўстун упрыгожваў рознакаляровымі сцяжкамі. Каткоў хваліў хлопца за іх. Я крыху зайздросціў таўстуну, які бачыў і маляваў мора і караблі з каляровымі сцяжкамі. Я мора ніколі не бачыў, хіба што ў тэлевізары ды кіно, але тэлевізійнае і кіношнае мора мяне зусім не натхняла. Трэба сказаць, што ў нашай мінскай студыі шмат хто з дзяцей маляваў мора, але найлепшае мора з караблямі атрымлівалася ў таўстуна, якога прыводзіў сівы бацька.

## Шарыкавая ручка

З'яўленне ў нашым побыце шарыкавай ручкі ў мяне звязана з двума выпадкамі моцнага здзіўлення. Першы — мне цяжка верылася ў аднаразовасць стрыжня. Здавалася, што яго — калі моцна пастарацца — можна будзе запravіць якім-небудзь чарнілам. Я спрабаваў. Не адзін і не два разы. Перапэцкаўся страшэнна, але так і не змог заправіць стрыжань — каштоўную і дарагую на той час рэч.

Другі раз я моцна здзівіўся, пабачыўшы, што шарыкавай ручкай малюе Сяргей Каткоў. Малюе спакойна, без пераробак. Я бачыў, як Сяргей Пятровіч маляваў шарыкавай ручкай

мінскія дамкі. Ён вымалёўваў звычайны краявід з цаглянымі дамамі. Кожная рыса адразу клалася на сваё месца. Мне захацелася паўтарыць прыклад настаўніка. Карцела самому маляваць празрыста, светла, дакладна і ўпэўнена. Гэта было настолькі ж цяжка, як і заправіць самастойна аднаразовы стрыжань. Але я не здаваўся, маляваў і маляваў. Я і праз пяцьдзясят гадоў не здаюся, малюю і малюю, бо добры прыклад настаўніка застаецца з табою на ўсё жыццё.

## Шарж

Мастак Міхаіл Лісоўскі плённа працаваў у жанры жывапіснага партрэта, але вядомасць, славу і павагу яму прынеслі не алейныя карціны, а шаржы на сяброў і паплечнікаў. Усёй студыяй мы разглядалі карыкатуру Лісоўскага на нашага любімага Сяргея Пятровіча Каткова. На ёй настаўнік Каткоў бадзёра крочыў, трымаючы пад пахай планшэт з намаляваным домам. За ім, як кураняты за курыцай-квахтухай, цягнуліся дзеткі-вучні з планшэцікамі, на якіх былі намаляваны маленечкія дамкі, рыхтык такія, як у настаўніка. Сяброўскі шарж (так называлі падобныя карыкатуры) мяне моцна ўсхваляваў, бо тычыўся непасрэдна тых, каго я добра ведаў, паважаў і любіў. Шарж і мяне тычыўся, хаця ўласна майго партрэтнага падабенства ў ім не было. Мы чакалі, што пра карыкатуру скажа сам Сяргей Пятровіч.

— Праславіліся. У газету трапілі... — адкаментаваў карыкатуру Лісоўскага наш Каткоў і заўсміхаўся.

Добры настрой ад настаўніка перайшоў да нас. З таго газетнага малюнка я стаў уважліва

ставіцца да Міхаіла Лісоўскага і яго вострых ды жорсткіх шаржаў.

## Трамваі

Мінск майго дзяцінства трамвайны. У самастойныя падарожжы я ездзіў на трамваях, бо так было танней за ўсё. Паездка на трамваі каштавала тры капейкі, а на аўтобусе ці тралейбусе — чатыры. Адна капейка для малодшага школьніка — грошы, за якія можна было набыць пачак запалак ці выпіць шклянку газіраванай вады. Тагачасны горад я помню ўбачаным праз трамвайныя вокны. Ад вуліцы Чарнышэўскага я ездзіў да вуліцы Энгельса, дзе стаяў Палац школьнікаў, у студыю да мастака Сяргея Пятровіча Каткова. У трамваі я стараўся стаць каля акна на задняй пляцоўцы, каб глядзець на бліскучыя рэйкі і зменлівыя краявіды, на вялікія вокны дзіцячага басейна, на інстытут фізкультуры, на вежу, што ўздымаецца над паліграфкамбінатам, на тралейбуснае дэпо, на жаўтасценны холадакамбінат і дзіцячы парк над павольнай рэчкай. У студыю я — дысцыплінаваны вучань — прыязджаў раней за настаўніка. Разам са студыйцамі сядзеў на прыступках пад дзвярыма майстэрні і чакаў Каткова. Мне было прыемна сядзець пад жоўтымі лакіраванымі дзвярыма, побач з якімі вісеў мой малюнак з чырванаскурым індзейцам-кап'яносцам, які стаяў на варце нашай любімай студыі. Сяргей Каткоў прыязджаў у Палац школьнікаў гэтаксама на трамваі. Ён ехаў з возера. Мяне радаваў той факт, што ў студыю і назад мы з настаўнікам ездзілі на жоўта-чырвоных грукатлівых трамваях. Я ездзіў на «адзін-

цы», а ён на «пяцёрцы». Пазней Мінск стаў для мяне тралейбусна-аўтобусным, потым — метрапалітэнным і аўтамабільным. Стаў ён чыгуначным і самалётным, але мой самы любімы Мінск — трамвайны, у якім я ездзіў на задняй пляцоўцы вагона ў студыю да Каткова.

## Таленты

У студыі Сяргея Каткова ўсе вучні былі таленавітымі, а ўсе дзяўчаты, у дадатак да сваёй таленавітасці, мелі тытул прынцэсы. Сярод таленавітых вылучаліся яшчэ і геніяльныя дзеці. Ніка Махнач геніяльна малявала леапардаў і казуль, тыграў і цыркавых коней. Лёгкай рукой Ніка магла паставіць на адной арэне ажно пяць наравістых жарэбчыкаў і аднаго святочна апранутага дрэсіроўшчыка. Юра Яўменаў геніяльна маляваў караблі, чаўны і брыганціны з напятымі ветразямі. Ён маляваў касмічныя караблі і касманаўтаў у шаравідных скафандрах. Міша Пракоф'еў мог усё, што бачыла яго ўважлівае брунатнае вока, перанесці на паперу. Мог намаляваць зімовыя гульні з лыжамі, канькамі, санкамі і снежнымі бабамі, мог намаляваць кухню са сталом, крэслам і лямпачкай. З геніяльнымі Юрам і Нікай я жыў на адной лесвічнай пляцоўцы, з геніяльным Пракоф'евым вучыўся ў адным класе. Лёс так склаўся, што ў геніі нашай студыі я не трапіў, давялося туды пахадзіць звычайным таленавітым хлопчыкам, нават тытула прынца ў мяне не было.

## Дзеці мастакоў

Дзеці мастакоў — асобная каста ў студыях, вучылішчах і акадэміях. Табе сто разоў паўто-

раць, што дзеці мастакоў у вучэбных установах маюць такія ж самыя правы і абавязкі, што і астатнія навучэнцы. Не вер! Яны асобная група — элітарная, абраная, недатыкальная. У іх найлепшая папера, найлепшыя фарбы, найлепшыя пэндзлі. Адзнакі ў іх вышэйшыя на бал, а то і на два за адзнакі астатніх. Нават кнопкі і гумкі ў іх лепшыя за звычайныя. Яны шмат ведаюць пра мастацтва і жыццё мастакоў. Яны шануюць і любяць творы сваіх татуляў і матуль, часам нават больш за творы Ван Гога і Гагена. Яны бачаць, што ў мастацтве прадаецца і што купляецца.

Палова студыйцаў Сяргея Каткова была дзецьмі мінскіх мастакоў. Сашуля Кішчанка прыходзіў і маляваў сваю мамачку. Рытачка Шчамялёва малявала танцулькі. Элачка Гаркунова яркімі фарбамі рабіла партрэты смяшлівых дзяўчатак, падобных да сябе. Жэнік Кірылаў здзіўляў усіх сваім бачаннем падводнага свету з сінімі рыбамі ды блакітнымі медузамі. Ромачка Заслонаў мог намаляваць цэлы духавы аркестр з трубамі, валторнамі і геліконам. Дзеці мастакоў малявалі не горш за студыйных геніяў і прынцэс. Клянуся! Дзякуючы таму, што сталічныя мастакі давяралі Сяргею Пятровічу Каткову любімых сыноў і дачок, у нашай студыі было шмат фарбы і паперы, у нас былі выдатныя гіпсавыя галовы і добрыя дошкі для малявання. Нам давалі аўтобус, каб мы ездзілі на эцюды і пленэры ў Полацк, Хатынь і Лагойск. Наша студыя была найлепшай у Беларусі, бо ў ёй было шмат мастакоўскіх дзетак; а шмат мастакоўскіх дзетак у нашай студыі было таму, што яна была найлепшай у Беларусі. Можна было пра гэта і не казаць, але чаму не ска-

заць, калі ты ведаеш, што гэта стопрацэнтная праўда і ніхто, акрамя цябе, пра гэта не скажа.

## Запіскі

Большасць маіх мінскіх аднагодак жыло ў кепскіх умовах. Жылі ў бараках, у прахадных пакоях камунальных кватэр, у аднапавярховых дамках, якія з дня на дзень маглі знесці, у абы-як злепленых хрушчобах, у цёмных і сырых двухпавярховіках. Таму мамкам маіх аднагодак хацелася, каб іх дзеці хадзілі ў Палацы для школьнікаў. Там было светла, чыста і ўрачыста. Там вучылі любіць прыгажосць і рабіць дабро.

Такой была маці Мішы Пракоф'ева. Яна вадзіла сына ў студыю да Каткова. Міша фенаменальна маляваў. Яго хвалілі. Яго малюнкі друкаваліся ў часопісах і кнігах. Яны выстаўляліся ў розных краінах. Мішу гэта не хвалявала зусім. Ён любіў рэчку. Любіў бязмэтна бадзяцца па Мінску. Любіў сядзець у кінатэатры па тры сеансы запар. Таму Міша Пракоф'еў прагульваў студыю. Казаў маці, што ідзе да Сяргея Пятровіча Каткова, а сам бег на рэчку пускаць караблікі, выразаныя з сасновай кары. Маці паскардзілася на сына Сяргею Пятровічу. Тады і прыдумаліся запіскі.

Маці давала сыну запіску: «Выйшаў з дому ў 8:00». Міша мусіў паказаць запіску Каткову, і той пісаў на ёй: «Выйшаў са студыі ў 13:00». Нейкі час запіскі працавалі, але не доўга. Міша кінуў маляванне. Рэчка, вуліца і кінатэатры перамаглі Палац школьнікаў. Шкада, бо талент у Мішы Пракоф'ева быў вялікі і, акрамя таленту маляваць, ніякіх іншых здольнасцяў у хлопца не знайшлося. Ну хіба што ён

яшчэ добра лгаў, пераканаўча хлусіў і падманваў так, што мы ўсе яму верылі.

## Хатынь

Неяк Сяргей Пятровіч на аўтобусе павёз нас, сваіх адданых студыйцаў, у Хатынь. Па дарозе ён расказаў пра мемарыял, які там узводзіўся. Той ставіўся, каб ушанаваць памяць пра спаленыя немцамі беларускія вёскі. Бацькаву вёскуВаракомшчыну немцы зруйнавалі і спалілі, расстраляўшы з дальнабойных гармат. Варакомшчына згарэла з-за таго, што нейкі дурнаваты салдат (як казалі, татарын) стрэліў з прыдарожных кустоў у нямецкага матацыкліста-разведчыка. Матацыкліст развярнуўся і ўцёк у Наваельню, дзе праз нейкі час на груду з'явіліся гарматы. Матчыну вёску Старую Рудзіцу немцы спалілі за тое, што п'яныя партызаны забілі ў ёй п'янага паліцая. У абедзвюх нашых вёсках ужо стаялі невялікія стэлы з прозвішчамі ахвяр Другой сусветнай вайны. Можна сказаць, што пра вайну і спаленыя падчас яе вёскі мы ўсе ведалі шмат. Не толькі з кніжак і кіно, ведалі з праўдзівых апавяданняў родных людзей. Ведалі, што ўсё гэта жудасць. Недабудаваны хатынскі мемарыял зрабіў на мяне моцнае і цалкам адмоўнае ўражанне. Было халодна і золка. Хмары віселі над хатынскім полем так нізка, што здавалася, быццам неба ляжыць на чорных комінах. У самай верхняй частцы комінаў былі замацаваны тады яшчэ без'языкія званы. Каткоў сказаў, што будзе зроблена так, каб гэтыя званы білі, а іх бой нагадваў нам пра забітых у вайну людзей і пра іх спаленыя вёскі.

Мы пачалі маляваць чорныя коміны і званы. Нехта з дзяцей сказаў, што, пакуль няма Каткова, які пайшоў маляваць лес, трэба каменем пацэліць у звон, каб пачуць і паслухаць яго голас. Мы назбіралі камянёў і кідалі ў званы. Сілы ў нас, трэцякласнікаў ды пяцікласнікаў, не хапала, каб моцна шпурнуць камень. Званы, нават калі ў іх хтосьці і цаляў, адказвалі нейкім глухаватым груканнем, а не ўрачыстым звонам.

За кіданне камянямі ў званы Каткоў насварыўся на нас моцна. Яго адчытванне супала з пачаткам дажджу. Свае чорна-чарнільныя коміны мы дамалёўвалі, седзячы ў аўтобусе. Тое даўняе падарожжа ў Хатынь было, пэўна ж, найгоршым з усіх падарожжаў, якія ладзіў для студыйцаў Сяргей Каткоў.

## Рост

У Сяргея Каткова быў напалеонаўскі рост, кажучы проста, ён быў маленькі. Ніякіх напалеонаўскіх ваенных планаў у настаўніка не было. Як для мяне, ён быў мірным чалавекам, які любіў дзяцей і мастацтва. З-за свайго росту ён быў нам, студыйцам Палаца школьнікаў, бліжэйшым за ўсіх астатніх вялізных, мажных і высозных дарослых людзей. Здавалася, што Каткоў ставіцца да нас як да роўных. Мы яму верылі, мы яго любілі і слухаліся, не раўнуючы, як некалі французскія салдаты слухаліся свайго Напалеона.

## Еўтух

Прачытаў пра свайго настаўніка Каткова і такія газетныя штампы: «...усе дзеці, неза-

лежна ад таго, хто ў іх бацькі, для яго аднолькава любімыя. Ні нацыянальнасць дзіцяці, ні сацыяльнае палажэнне яго бацькоў для Сяргея Пятровіча значэння не мелі». Зразумела, што падобнае мог напісаць толькі чалавек, які ніколі не наведваў студыю Сяргея Каткова. Для яго ўсё мела значэнне. І сацыяльны статус бацькоў, і нацыянальнасць, і стан здароўя вучня... Сяргей Пятровіч асабліва цаніў і адзначаў у дзецях мастакоўскія здольнасці, яно і зразумела.

Лёня Еўтух запомніў адзнаку Сяргея Каткова надоўга:

— Таленту ў цябе няма, але ўпартасць ёсць!

Лёня ўсё сваё мастакоўскае жыццё і праехаў на адной упартасці. Зараз ён у пяцьдзясят восем піша ў манастырскай майстэрні праваслаўныя іконы. Зарабляе мастацтвам на кавалак хлеба. Зарабляе жывапісам, бо настаўніку Каткову было важна казаць сваім вучням праўду, бо для Сяргея Пятровіча было важным усё, што тычылася яго самых любімых і самых звычайных вучняў, нават тады, калі ў іх малюнках не праглядалася таленту.

## Вучань

Найлепшае помніцца, найгоршае забываецца... Каб жа ж! Са студыі Каткова мне запомніўся малюнак ужо дарослага хлопца, які збіраўся паступаць у інстытут. Ён намаляваў жоўты, як лімон, пясок, сіняе, як сінька для бялізны, мора і блакітнае, як скура арыстакраткі, неба. У той краявід, падзелены на тры роўныя стужкі — жоўтую, сінюю і блакітную — хлопец змясціў чалавека, які заходзіць з пяску ў ваду. Чалавек быў рыхтык сам

мастак. Караткаватыя ногі. Шырокія плечы. Вугальна-чорная патыліца. На беласкурым герою былі вогненна-чырвоныя плаўкі... Katкоў крытыкаваў усё чыста: прымітыўную адцэнтраванасць кампазіцыі, плакатную каляровасць, статычнасць фігуры... Настаўнік крытыкаваў усё, што толькі можна было крытыкаваць. На маленькім аркушы ён намаляваў шмат іншых варыянтаў пляжнай ідыліі... Мне помніцца гэты кепскі жывапіс, помніцца добра. Значна лепей помніцца за шмат добрых і выдатных малюнкаў, зробленых у студыі Каткова. Больш за тое, мне той малюнак усё больш і больш падабаецца, бо менавіта ён вяртае мяне ў дзяцінства, дзе я малюю ў светлай студыі.

# ЯНКОЎСКІ

*Словы пра мовазнаўцу Фёдара Янкоўскага*

## Пераклады

Вядомы ў Беларусі філолаг Фёдар Янкоўскі ў кнізе «Само слова гаворыць» выказаўся пра пераклад і перакладчыка: «Каб перакладаць, трэба ведаць хоць бы... дзве мовы, а калі на стале ляжаць падрадкоўнікі — трэба ведаць (засмяешся, чытатач?) хоць бы... адну мову. Тую, на якую перакладаеш». Філолаг меў рацыю. Перакладчык мусіць ведаць мову, з якой працуе.

Мая знаёмая перакладчыца Вера Маркава перакладала творы старажытнай японскай літаратуры не проста на рускую мову, яна іх перакладала на рускую мову Льва Талстога, на мову яго самага лірычнага твора «Дзяцінства. Малалецтва. Юнацтва». Маркава зрабіла такія выдатныя тэксты, што яе пачалі называць «вялікая руская перакладчыца». Дзякуючы яе перакладам у рускай літаратуры з'явіліся но-

выя паэтычныя жанры — хоку і танка. Ніхто з беларускіх літаратараў яшчэ не заслужыў ганаровага звання геніяльны перакладчык. Прынамсі, мы яшчэ не казалі пра гэта публічна. Спадзяюся, што ў нас абавязкова з'явяцца вялікія перакладчыкі і ў нейкай ступені гэта адбудзецца дзякуючы такім майстрам слова, як Фёдар Янкоўскі.

## «Ты»

У кнізе Фёдара Янкоўскага «Абразкі» ёсць замалёўка «У гасцях», дзе можна прачытаць: «А на другі дзень маці не ўтрывала:

— Як жа гэта? Дзе ж бачылі?! Ні ў нашай, ні ў суседніх вёсках няма і не было гэтакага. Радачка мая! Дзеці на бацькоў — на бацьку, на матку — "ты"! А тады і на мяне, старую, на бабулю, ужо "тыкаюць". Гэта ўнукаў прычакала...»

Тое самае было і ў маіх вёсках ды мястэчках. Мае бацькі да сваіх татуляў ды матуль звярталіся толькі на вы. Адпаведна, і я да бабы з дзедам звяртаўся на вы. Праўда, да таты і маці ўжо па-сталічнаму на ты, але я ніколі не мог звярнуцца да бацькоў па імені. Сказаць на тату Чэсь ці назваць маці Нінай мне і ў галаву не прыходзіла. Нават тады, калі я пачуў, як мой сусед — пяцігадовы Максім — называе сваю маці Мая. І яго сястра Ніка звярталася да яе на ты і магла сказаць ёй, нібыта якой сяброўцы ці аднагодцы:

— Мая, ты чула?

Шчыра кажучы, мяне такая фамільярнасць крыху бянтэжыла. Зразумела, што я ніколі не рабіў ніякіх заўваг ні Максіму, ні ягонай сястры. Проста ў іх сям'і было заведзена кры-

ху па-іншаму. Узрушанасці і абуранасці, пра якую напісаў Янкоўскі, я ніколі не чуў, адно чытаў. Свет змяняецца досыць хутка, было так, а цяпер інакш, але гэта не азначае, што інакш абавязкова горш, бо цеплыні ў адносінах Максіма з маці было не менш, чым у тых, хто звяртаўся да сваіх мамусь і татусяў выключна на вы.

## Сцебурака

Каб стаць паэтам, трэба напісаць два вершы, бо ў кожнага, хто спрабуе вершаваць, адзін твор абавязкова атрымаецца, а другі без таленту не складзецца. Калі я прачытаў у развагах японскага паэта Сікі, што непараўнальны Басё мае толькі дзесяць выдатных вершаў, я ледзь не абурыўся. Чаму так мала? А потым зразумеў і прыняў словы Сікі, бо, каб стаць неперасягненым паэтам Японіі, дзесяць геніяльных хоку больш чым дастаткова. Таму я паважаю анталогіі, складзеныя так, што аднаго паэта прадстаўляе адзін яго найлепшы верш. Асаблівую радасць я адчуваю, калі ў газетнай падборцы ці сярод інтэрнэтных постынгаў знаходжу добры верш з новай і маладой паэзіі. Так на старонцы «Нашай Нівы» я прачытаў «Ранішні блюз» Усевалада Сцебуракі.

***Ранішні блюз****

*У пяць гадзін раніцы, ў пяць*
*таксоўкі самотна стаяць,*
*месьцічы ўсё яшчэ сьпяць*
*у пяць гадзін раніцы, ў пяць.*

* Правапіс аўтара верша захаваны.

*У пяць гадзін раніцы, ў пяць*
*шклом алкашы не зьвіняць,*
*дзеці «Макдональдсы» сьняць*
*у пяць гадзін раніцы, ў пяць.*

*Хтосьці на працу ідзе,*
*хтосьці ідзе ваяваць,*
*хтосьці плыве па вадзе,*
*хтосьці працягвае спаць...*

*У пяць гадзін раніцы, ў пяць*
*сонна ліхтарні гараць,*
*рана судзіць і караць*
*у пяць гадзін раніцы, ў пяць.*

*У пяць гадзін раніцы, ў пяць*
*можна сабе дазваляць*
*простыя рыфмы ствараць*
*у пяць гадзін раніцы, ў пяць.*

*Хтосьці на працу ідзе,*
*хтосьці ідзе ваяваць,*
*хтосьці няведама дзе*
*толькі зьбіраецца спаць.*

Выдатны верш. Таму і чакаў я кнігу Сцебуракі, таму і шукаў у той кнізе другі таленавіты верш, каб сказаць усім, што Усевалад — паэт. Толькі другога добрага верша ў кнізе «Крушня» не знайшлося. І мог бы я не пісаць свае развагі пра два абавязковыя вершы для паэта, каб не згадка пра фальклярыста Фёдара Янкоўскага.

Пасля публікацыі адной з першых маіх вершаваных падборак я атрымаў ліст ад вядомага збіральніка фальклору. Ён хваліў мае

творы, расказваў пра сваю радасць ад знаёмства з маёй паэзіяй. Таму і я пішу пра «Ранішні блюз», бо ўсё яшчэ спадзяюся прачытаць другі таленавіты твор Усевалада.

## Бацька

Свайго бацьку я зазвычай называў словам «тата». Ён у нас быў татам, бо слова «бацька» ў нашай сям'і знітоўвалася з дзедам Уладзімірам. Баба Броня казала пра яго «наш бацька». Каб не блытацца, я на свайго бацьку казаў «мой тата».

У абразку Фёдара Янкоўскага «Бацька» прачытаў: «Калі я бачу партрэт Францішка Багушэвіча ці чую гэтае імя, побач устае вобраз бацькі. І наадварот. У абодвух былі амаль такія самыя вусы. Абодва хударлявыя, энергічныя, няўрымслівыя і, здаецца, нястомныя. Абодва дарагія мне. Адзін — родны бацька, другі — той, хто, як ніхто да яго, сказаў свету пра Беларусь і беларусаў...»

Цікава, што і для мяне вобраз Багушэвіча заўжды быў звязаны са словам «бацька», бо менавіта ён — бацька новай беларускай літаратуры. Дарэчы, і наш дзед Уладзімір Фёдаравіч Адамчык быў крыху падобны тварам да Багушэвіча, хоць заўжды галіў бараду і вусы не насіў.

# АРЛЕН

*Словы пра графіка Арлена Кашкурэвіча*

## Пяро

Арлен Кашкурэвіч зрабіў шмат малюнкаў тушшу на паперы. Ён ведаў сакрэт, як малюнак пяром зрабіць жывым. Такі сакрэт шмат хто з мастакоў ведае. Гучыць ён так: пяро павінна танцаваць на паперы. Адна справа — ведаць сакрэт, іншая справа — прымусіць сталёвае ці якое трысняговае пяро затанцаваць. Лягчэй і надзейней тым пяром наштрыхаваць рысак, наставіць кропак, якія складуцца ў патрэбную выяву. З танцам усё больш складана: пяро пачне танцаваць, а патрэбны малюнак і не вытанцуецца. Давядзецца браць новую паперу і пачынаць танец наноў. І другі, і трэці, і дваццаць пяты танец пяра на паперы не гарантуе вытанцоўвання. Яго гарантуюць іншыя рэчы: талент, упэўненасць, майстэрства... Усё гэта было ў Арлена Кашкурэвіча. Таму і танцавала ягонае пяро з чорнай тушшу

па белай паперы, таму і вытанцоўваліся з-пад яго жывыя малюнкі.

## Падзея

Ёсць графікі, якія з выхаду кнігі могуць зрабіць сапраўдную падзею. Яны здатныя зрабіць падзею нават з даўно вядомай і ўжо шматкроць прачытанай кнігай. Такім графікам быў Барыс Забораў, калі аздабляў «Сымона-музыку» Якуба Коласа і казкі Оскара Уайльда ды Аляксандра Пушкіна. Такое можна сказаць і пра графіка Валеру Славука з яго аздабленнем кніжак беларускіх народных казак. Як для мяне, дык найбольш запамінальнымі падзеямі ў тутэйшым ілюстраванні класічных кніжак былі працы Арлена Кашкурэвіча. Яго малюнкі да гётаўскага «Фаўста» моцна ўразілі чытачоў. Пасля з'яўлення абноўленага і асучасненага доктара Фаўста ў модных акулярах Арлен Кашкурэвіч стаў легендарнай постаццю. Маладыя мастакі пераказвалі адзін аднаму розныя гісторыі пра творцу. Казалі, што жонка Арлена чытала мужу «Фаўста» па-нямецку, каб ён натхняўся арыгінальнай музычнасцю вершаў геніяльнага паэта.

Ілюстрацыі Кашкурэвіча да паэм Янкі Купалы гэтаксама сталі класікай беларускай кніжнай графікі. Шмат хто набыў і перачытаў кнігі Купалы дзякуючы змешчаным у іх малюнкам Кашкурэвіча. Казачныя вобразы Андэрсана шмат хто з беларускіх дзяцей упершыню ўбачыў вачыма Арлена Кашкурэвіча. Ён з тых адметных і непаўторных мастакоў, хто сваім талентам уздымаў кнігу на больш высокі каштоўны ўзровень, а такіх сярод мастакоў — адзінкі.

## Гутуза

Каб Рэната Гутуза нарадзіўся ў Беларусі, ён стаў бы кніжным графікам і стварыў бы ілюстрацыі да «Фаўста» Гётэ і да «Песні пра зубра» Гусоўскага, як гэта зрабіў Кашкурэвіч. Каб Арлен Кашкурэвіч нарадзіўся ў Італіі, ён напісаў бы вялікае палатно пра змагара і героя Джузэпэ Гарыбальдзі, як гэта зрабіў Гутуза.

## Пекла

Перагляд малюнкаў Арлена Кашкурэвіча нарадзіў у мяне сумную думку: на пераважнай большасці яго шматлікіх аркушаў намалявана пекла. Абвугленыя людзі і абвугленыя рэчы ў абвугленым асяроддзі. Ідучы за нямецкімі ды італьянскімі экспрэсіяністамі, Кашкурэвіч не мог прамінуць пекла, але большасць еўрапейскіх экспрэсіяністаў ураўнаважвалі свае жудасныя пякельныя вобразы райскімі матывамі. Нольдэ бясконца пісаў кветкі, Марк захапляўся абрысамі катоў і казуль, Гутуза маляваў сонечнасць сланечнікаў і кукурузы... Кашкурэвіч са свайго зачарнёнага вайсковага гратэскнага пекла нават не паспрабаваў выйсці. Адзінае, што моцна адрознівае пекла Арлена Кашкурэвіча ад пекла яго папярэднікаў, — холад. У пекле Арлена, якога блізкія людзі называлі нардычным іменем Эрык, заўсёды студзёна, як у турэмных лёхах.

## Гусоўскі

Сярод самых адметных прац у творчасці Арлена Кашкурэвіча можна называць і ма-

люнкі да паэмы Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра». Паэма, перакладзеная з лаціны Язэпам Семяжонам, некалькі разоў перавыдавалася з экспрэсіўнымі і ў той жа час манументальнымі малюнкамі Кашкурэвіча. Выходзіў твор і з малюнкамі Яўгена Куліка. Што цікава ў гэтай гісторыі: партрэт Гусоўскага з часоў Адраджэння не захаваўся (зрэшты, ніхто не ведае, ці быў той партрэт наогул), а таму сучасным кніжным графікам давялося самім ствараць візуальны вобраз паэта-лацініста. Варта адзначыць, што Гусоўскія, узноўленыя Кашкурэвічам і Кулікам, падобныя між сабой. Асабіста мне падабаецца партрэт, вымалеваны Арленам Кашкурэвічам, але я не стаў пярэчыць, калі большасць тутэйшых мастакоў абрала за эталон партрэт, створаны Яўгенам Кулікам. У партрэце, намаляваным Кулікам, мне бачылася адна загана: Гусоўскі Куліка нагадваў — і вельмі моцна нагадваў — аблічча самога мастака Куліка. Зрэшты, можна дапусціць, што сапраўды паэт-лацініст быў падобны да нашага сучасніка. Чаму не? Пагатоў дамоўленасць сярод мастакоў сустракаецца не часта, а таму вартая вялікай увагі і павагі.

Карацей, на ўзор, зроблены Кулікам, пагадзіліся ўсе, акрамя Заіра Азгура, які зляпіў свайго Гусоўскага, не падобнага ні на партрэт Куліка, ні на партрэт Кашкурэвіча. Азгур зрабіў уласную версію і застаўся са сваім бюстам у ганарлівай адзіноце. Гіпсавы Гусоўскі Заіра Азгура на выставе, прысвечанай «Песні пра зубра», выглядаў смешна. «Гэта хто такі?» — пыталіся пра твор Азгура наведнікі і моцна дзівіліся, прачытаўшы на цэтліку «Мікола Гусоўскі».

## Глазава і Цалкоў

Атрымаць запрашэнне ад мастака ў майстэрню не такая і лёгкая справа. Мастакі выдатна ахоўваюць студыі ад чужых вачэй. Яны любяць цішыню, спакой і адзіноту. Лішнія людзі ў атэлье моцна раздражняюць мастака. Таму атрыманае запрашэнне ад Ірыны Глазавай я палічыў за гонар. У той дзень Глазава папрасіла нас, сваіх студэнтаў, дапамагчы ёй перанесці некалькі чырвоных нацюрмортаў з майстэрні ў шынок. Сцены піўнога бара «Шынок у Лявона» мусілі аздобіць карціны Глазавай. Тыя карціны мы і перанеслі ў шынок. Там іх паразвешвалі. З чырвонымі нацюрмортамі на шэрых сценах інтэр'ер шынка павесялеў. З бара мы вярнуліся ў майстэрню да Ірыны, дзе пілі салодкую гарбату і слухалі апавяданні пра даўнія часы, калі яна вучылася ў адной групе з легендарным авангардыстам Алегам Цалковым.

Ён захапіўся жывапісам Ван Гога і падбухторваў аднакурснікаў пісаць палотны пад апантанага Вінцэнта, бо ўсе астатнія мастакі ў параўнанні з рудабародым галандцам — ніхто. Цалкоў хадзіў па інстытуце з альбомам Ван Гога пад пахай. Шмат каго гэта ўражвала, але ніхто, акрамя хіба што Арлена Кашкурэвіча, не захапіўся напоўніцу экспрэсіямі Ван Гога і не падтрымаў Цалкова...

Глазава частавала студэнтаў гарбатай у майстэрні, што месцілася пад страхою двухпавярховага дамка, які стаяў недалёка ад піўзавода «Аліварыя». Я слухаў апавяданні выкладчыцы і марыў пра сваю невялікую майстэрню, куды абавязкова некалі запрашу маладых людзей, каб расказаць ім пра нацюр-

морты, напісаныя ў «Шынок у Лявона», і пра авангардыста Цалкова. А яшчэ ў мяне была адна мара, якая з'явілася крыху пазней і была знітавана з Алегам Цалковым. Я марыў наведаць кватэру Арлена Кашкурэвіча, дзе захоўвалася праца Цалкова.

Аднойчы абставіны так склаліся, што я трапіў у тую кватэру. Я прыйшоў да старэйшага сына Арлена Кашкурэвіча — Ігара. Ён мне і паказаў жывапіс Цалкова, зроблены алейнымі фарбамі на тоўстай фанеры. Ігар назваў карціну «Клоўн». Гэта быў чорна-бела-чырвоны твар з пляскатым носам, капрызлівымі вуснамі і дробнымі вочкамі. Цалкоў мяне ўразіў. Яшчэ мяне моцна ўразіла калекцыя абразоў, сабраная Арленам Кашкурэвічам. Іх у кватэры было многа, большасць вісела ў спальні. Ні раней, ні пазней я не сустракаў такой спачывальні, напоўненай золатам старажытных абразоў. Ігар казаў, што ў ягонага таты ці не самая вялікая калекцыя біблій, напаўзабароненых у нашай тагачаснай савецкай імперыі. Гартаць бібліі я не стаў, вярнуўся да кубістычнага жывапісу Цалкова, каб наглядзецца і запомніць яго да драбніц. Праз шмат гадоў працу Алега Цалкова Арлен Кашкурэвіч прадаў, каб набыць свайму малодшаму сыну Фёдару дом пад Ракавам.

## Франтыспісы

Шмат гадоў у выдавецтве «Мастацкая літаратура» выходзіла серыя кніг «Бібліятэка беларускай паэзіі». У ёй выдрукавалася выбранае ад Багушэвіча да Галубовіча. Кніга лірыкі Леаніда Галубовіча была апошняй з гэтай знакамітай серыі. У кожным томіку на фран-

тыспісе змяшчаўся графічны партрэт аўтара. Розныя графікі малявалі вядомых паэтаў: Фядорчанка, Губараў, Вецік, Капелян, Кашкурэвіч... Найлепшыя партрэты выйшлі з-пад пяра Арлена Кашкурэвіча. У Губарава партрэт паэта быў занадта набліжаны да фотаздымка. У Веціка не было пераканаўчасці ў вобразе. У Фядорчанкі не хапала лёгкасці і празрыстасці. Арлен Кашкурэвіч зрабіў найлепшыя партрэты беларускіх паэтаў на франтыспісах. Пра гэтую яго вялікую працу ніхто ніколі не пісаў, яе ўспрымалі як будзённую і зробленую між іншым, але са шматгадовай адлегласці добра відаць уся значнасць і вялікая каштоўнасць гэтых паэтычных партрэтаў.

## Творчасць

У самастойнай Беларусі з'явілася патрэба выдаваць кнігі, прысвечаныя знакамітым і вядомым беларусам. Падобныя працы пісаліся ды ўкладаліся і раней, але іх было ў дзесяць разоў меней. Зразумела, што большасць падобнай кніжнай прадукцыі пішацца рамеснікамі, пішацца выключна за грошы і на заказ. Зорныя імёны кормяць другасных эсэістаў і трэцясортных літарататараў. Нічога кепскага я ў гэтым не бачу, бо нават слабая кніжачка пра выдатную асобу можа прынесці радасць і карысць. Графік Кашкурэвіч — асоба зорная. Яго імя ўваходзіць у сузор'е шасцідзясятнікаў, у сузор'е стваральнікаў у нашым мастацтве суровага стылю, які паўстаў пасля падзення дыктатуры Сталіна. Не дзіва, што адно з дзяржаўных выдавецтваў захацела выдаць кнігу, прысвечаную жыццю і творчасці Арлена Кашкурэвіча. Ён пагадзіўся з

адной толькі ўмоваю, што тэкст на аснове біяграфіі напіша сам. Кашкурэвіч і раней пісаў выдатныя эсэ, таму выдавецтва пагадзілася на ўмову.

Кнігу «Ствараць — азначае жыць» Арлен Кашкурэвіч пісаў з захапленнем. Напісаўшы, прынёс у выдавецтва, дзе пачуў, што да рукапісу патрэбна яшчэ прынесці і грошы, каб заплаціць за паліграфічныя паслугі і паперу. Размову пра грошы Арлен Кашкурэвіч успрыняў як абразу. Яно і зразумела. Мастак усё жыццё паклаў на малюнкі для кніжак. Дзякуючы яго ілюстрацыям кнігі добра прадаваліся. Выдавецтвы шмат зарабілі на таленце мастака, а тут вырашылі згуляць у дурняў. Прыкра...

Калі я даведаўся пра напісаную Кашкурэвічам аўтабіяграфію, дык папрасіў Аляксея Андрэева змясціць яе фрагмент у часопісе «Маналог». На мой густ, гэта адзін з найлепшых маналогаў, якія публікаваліся ў выданні Андрэева. З той публікацыі прамінула дзесяць гадоў, а кніжка «Стварыць — азначае жыць» усё яшчэ не знайшла свайго выдаўца. Перакананы: выдавец знойдзецца, бо Арлен Кашкурэвіч — зорная асоба. І ўсё ж хацелася б, каб ён знайшоўся як мага хутчэй...

## Поўнач

Ёсць традыцыя ў Беларусі — дзяліць яе на Усходнюю і Заходнюю. Адпаведна, і беларусы лёгка падзяляюцца на заходнікаў ды ўсходнікаў. Так падзяляюцца і нашы пісьменнікі. Брыль, Карпюк, Танк — заходнікі, а Стральцоў, Караткевіч, Сачанка — усходнікі. Здавалася, што і беларускіх мастакоў можна лёг-

ка падзяліць на ўсходнікаў ды заходнікаў, але я пабачыў іншы прынцып падзелу, калі ўважліва разглядаў постэкспрэсіяністычныя афорты Арлена Кашкурэвіча.

На першы погляд і згодна з тутэйшай традыцыяй — ён заходнік, але не просты, ён заходнік з моцнымі ўплывамі Поўначы. Можна нават узяць на сябе смеласць і сказаць, што Арлен Кашкурэвіч больш паўночнік, чым заходнік. Так, як і ягоны антыпод у мастацтве Георгій Паплаўскі больш паўднёвік, чым усходнік. Паплаўскі натхняўся Індыяй, шанаваў Тагора, а Кашкурэвіч з захапленнем пісаў пра Скандынавію, любіў паўночную Германію, любіў Гётэ і Бёля. Да беларускіх мастакоў Поўначы акрамя Кашкурэвіча можна залічыць і Міхаіла Савіцкага з яго шэрым снегам і шэрым лёдам, а мастакамі Поўдня варта лічыць Аляксандра Кішчанку і Гаўрылу Вашчанку з іх мядовасцю колераў ды сланечнікамі.

## Пакупнік

Мастак-графік можа шмат чаму навучыцца ў Арлена Кашкурэвіча. У яго ўсё жыццё была зайздросная працаздольнасць. На выставы ён прыносіў толькі новыя працы. Зрабіўшы серыю вялікіх афортаў, ён адразу ж пачынаў рабіць наступную. Вядомасць, прызнанне, грошы не заміналі Арлену Кашкурэвічу плённа працаваць. Сам я вучыўся ў яго паважаць сваіх гледачоў і пакупнікоў. Паважаць людзей, якія набываюць твой твор. Шмат хто з мастакоў лічыць пакупнікоў ідыётамі, якіх варта і трэба падманваць. Што з імі цацкацца, калі яны не разбіраюцца ў мастац-

тве?! Арлен Кашкурэвіч цацкаўся. Напрыканцы жыцця ён рабіў маленечкія танныя малюнкі для самага простага і сціплага збіральніка арыгінальнага мастацтва. Такія малюнкі Кашкурэвіч развешваў у салонах і кнігарнях. Іх набывалі. Іх неслі дамоў і вешалі на сцены самых звычайных кватэр. Такі падыход да мастацтва мне падаецца правільным.

# КАРАТКЕВІЧ

*Словы пра пісьменніка Уладзіміра Караткевіча*

## Любімыя жанчыны

Казаць пра чужых жанчын, пра жонак і каханак складана і рызыкоўна. Яшчэ больш складана расказваць пра любімых жанчын такога вядомага чалавека, як Уладзімір Караткевіч. Але ўсё ж паспрабую, бо некалькі разоў чуў нахабную хлусню на гэтую тэму. Ілгалі людзі вядомыя. Казалі пра донжуанства Караткевіча, якога, на мой погляд, было досыць мала. Людзі падманвалі і не чырванелі, што для мяне і не дзіўна.

Цяпер да праўды...

У дзядзькі Валодзі было пяць самых любімых жанчын, якія адыгралі ў яго жыцці вялікую ролю.

Найперш гэта маці — Надзея Васільеўна. Валодзя Караткевіч усё жыццё заставаўся такім сабе маміным сынам. Любіў яе пяшчотна і вельмі цяжка перажываў яе смерць.

Другая жанчына, што моцна паўплывала на Караткевіча, — Ніна Молева. Яна выкладала гісторыю мастацтва ў маскоўскім літаратурным інстытуце. Караткевіч яе кахаў. Прысвячаў ёй вершы. Нават раман напісаў пра сваё вялікае каханне, раман «Нельга забыць».

Другая муза Уладзіміра Караткевіча — Валя, яго жонка. Яна натхняла пісаць запатрабаваную чытачамі прозу ў форме вострасюжэтнага дэтэктыва.

Дабрабыт і фінансы Караткевіча моцна залежалі ад яго маскоўскай перакладчыцы і сяброўкі Валянціны Шчадрыной. Яна шмат паспрыяла поспеху Караткевіча ў розных савецкіх і замежных выдавецтвах. Кажучы кіношнай моваю, яна была ягоным прадзюсерам.

Калі Караткевіч згубіў маці і жонку, яго апекавала сястра Наталля. Гэтыя пяць разумных жанчын зрабілі ўсё, каб беларуская літаратура займела яшчэ аднаго класіка — Уладзіміра Караткевіча.

## Гілевіч і кнігі

Фальклaрыст Ніл (нінеЛ) Сымонавіч Гілевіч выдаў сам сябе ў шматтомным зборы твораў. З дваццаці трох тамоў я набыў адзін, з дзённікамі. Вырашыў пацікавіцца, што панапісваў былы сусед па пад'ездзе. Чытаю... «Я дарыў яму [Уладзіміру Караткевічу] свае зборнікі з цёплымі надпісамі. А ён мне? Ніводнага ніколі». Во яно як, Уладзімір Караткевіч не адарыў Гілевіча сваімі кнігамі. Шчодры на падарункі дзядзька Валодзя не для ўсіх быў шчодры. Мне асабіста Караткевіч перадаў шмат сваіх кніг і мноства альбомаў па ма-

стацтве, а Гілевічу, як высвятляецца, — пашкадаваў. Такі факт.

## Барадулін і плёткі

У Рыгора Барадуліна была нейкая малавытлумачальная рэўнасць да ўсіх, хто сябраваў ці быў папросту блізкі з Караткевічам. Пра ўсіх набліжаных да дзядзькі Валодзі людзей Рыгор Іванавіч распаўсюджваў брыдкія плёткі... Казаў, што Караткевічу жонку Валянціну падсунуў Камітэт дзяржаўнай бяспекі. Ведаючы схільнасць Барадуліна да рызыкоўных жартаў, я не аспрэчваў і не каментаваў яго меркаванне пра цётку Валю. Не каментаваў, бо думаў, што, калі б Барадулін быў жанчынай, ён не толькі ажаніў бы з сабой Караткевіча, але і прымусіў бы яго кінуць піць і курыць.

## Акутагава і труп

Караткевіч ганарыўся сваімі шырокімі поглядамі на літаратуру і эстэтыку. «Я ўсё магу прыняць, што робіцца ў літаратуры. Пошукі, эксперыменты, традыцыю і авангард. Але ёсць рэчы, якія і я не разумею. Тваё захапленне японскай лірычнай мініятурай блізкае і мне. Хоку Басё і мяне заўжды хвалявалі, але сказ, напісаны іншым японцам пра чалавечы тлушч, я не прымаю. Не разумею, як можна пісаць, што ў трупа пад скурай ляжаў прыгожы жоўты тлушч. Каб Акутагава напісаў, што пад скурай трупа ляжаў тлушч прыгожага жоўтага колеру, я пастараўся б яго зразумець...» — разважаў Караткевіч пра фрагмент тэксту «Труп» з твора Акутага-

вы «Жыццё ідыёта». Той фрагмент пачынаецца так: «У трупаў на вялікім пальцы целяпалася на дроце бірка. На бірцы пазначаліся імя і ўзрост. Яго прыяцель нахіліўся і спрытна працаваў скальпелем, разразаў скуру на твары аднаго з трупаў. Пад скурай ляжаў прыгожы жоўты тлушч...» Заканчваецца фрагмент наступным чынам: «Апошнім часам трупаў не хапае, — сказаў прыяцель. Тады неяк сам сабою ў яго склаўся адказ: “Калі б мне не хапала трупаў, я без усялякай зламыснасці здзейсніў бы забойства”. Але, зразумела, гэты адказ застаўся нявыказаным». Пра забойства без злосці Караткевіч нічога не казаў. Ён абмежаваўся развагамі пра эстэтычнае, пра этыку прамаўчаў. Было зразумела: на забойства чалавека дзеля поспеху ў літаратурнай творчасці Уладзімір Караткевіч ніколі не пойдзе. Нават у думках дзядзька Валодзя не мог дапусціць такіх паводзінаў, пра якія пісаў хворы і шалёны Акутагава Руноскэ: «Ён глядзеў на гэты труп. Гэта яму патрэбна было для навэлы — той навэлы, дзе падзеі разгортваліся на фоне старажытных часоў. Трупны смурод, падобны да пахаў гнілых абрыкосаў, быў непрыемны. Яго сябрук спахмурнеў і марудна працаваў скальпелем...»

## Чэхаў і цягнік

Мой даўні знаёмы Алесь напісаў у дзённіку, што моцна незадаволены «Аўстрыйскімі авіялініямі», бо ў венскім аэрапорце яму давялося лішнія дзве гадзіны чакаць пасадкі. Звычайны бытавы запіс мяне здзівіў тым, што яго напісаў менавіта Алесь, які ў цяжкіх умовах адсядзеў у турме некалькі гадоў. Прачытаўшы

пра абурэнне «авіяленіямі», я згадаў дзядзьку Валодзю Караткевіча з яго любімым назіраннем са спадчыны доктара Антона Чэхава, што лепей дзве гадзіны ў далёкім стэпе пад снегам і ветрам чакаць на маленечкай чыгуначнай станцыі цягнік, чым пяць хвілін дома ў цяпле і на канапе чакаць першую чарку гарэлкі...

## Эсэ і рэстаўрацыя

У выдавецтве «Мастацкая літаратура» рыхтуецца дванаццаты том збору твораў Уладзіміра Караткевіча. У ім будзе эсэ пра Мсціслаўе. Пільныя рэдактары і цэнзары ў першай публікацыі павыкрэслівалі з эсэ шмат розных прозвішчаў. Зараз руплівыя ўкладальнікі і выдаўцы іх паціху аднаўляюць. У кнігу пра наш усходні казачны горад вернуцца рэстаўратары: Валодзя Ракіцкі, Юра Маліноўскі і Мікола Залатуха. Вярнуся і я. Некалі Караткевіч мне сказаў, каб не моцна перажываў, калі цэнзар нешта здымае:

— Будзеш выдаваць збор твораў — і ўсё вернеш.

Шкада, што дзядзька Валодзя не ведаў пра тое, як я дапамагу з рэстаўрацыяй менавіта яго тэкстаў. Ведаць не ведаў, але, мусіць, здагадваўся і спадзяваўся...

## Самаспальванне

Караткевіч спаліў сябе гарэлкай. Шмат хто з нашых паэтаў спальваў сябе алкаголем. Сцяпан Гаўрусёў, Яўген Крупенька, Валодзя Марук, Рыгор Семашкевіч, Міхась Стральцоў, Толя Сыс, Мікола Федзюковіч, Мікола Купрэеў...

Пра кожнага з іх і шмат пра каго яшчэ з беларускіх паэтаў можна сказаць нешта падобнае, але сфармуляваўся гэткі змрочны сказ тады, калі я з сумам згадаў апошнія дні Уладзіміра Караткевіча. Ён сам сябе спаліў...

## Куксо і злосць

Апошнім часам я стаў купляць і чытаць часопіс «Мастацтва». Нешта ў ім пачало мяняцца, і што цікава — змены пайшлі не ў горшы, а ў лепшы бок. Сярод займальнага і запамінальнага была там гутарка мастака-карыкатурыста Канстанціна Куксо з літаратарам Дзмітрыем Падбярэзскім. Журналісту патрэбны водгукі ды рэзанансы, таму Падбярэзскі папытаўся:

— Ці здаралася так, што некаму твая праца рэзка не падабалася і на той глебе ўзнікалі скандалы?

На што Куксо адказаў наступным чынам:

— У Мінску такое здаралася. У Маскве — ніколі. У Мінску мяне чамусьці лічылі вельмі злым карыкатурыстам. Неяк намаляваў Кастуся Кірэенку, і той шарж выйшаў у «Вячэрнім Мінску». Паэт раззлаваўся настолькі, што хацеў у суд падаваць. Праўда, нехта разумны патлумачыў яму, што гэткім чынам ён зробіць мастаку рэкламу. Жахліва пакрыўдзіўся Караткевіч. Тэлефанаваў, крычаў, што праломіць мне галаву... А вось Іван Чыгрынаў мае шаржы вельмі любіў.

Магу запэўніць чытачоў «Мастацтва», што Канстанцін Куксо кажа праўду. Караткевіч сапраўды моцна пакрыўдзіўся на тую карыкатуру. Ён бачыў сябе прыгожым і дасканалым рыцарам, што моцна не супадала з ягоным

сапраўдным абліччам. Карыкатурыст намаляваў чалавека, вельмі падобнага да Караткевіча рэальнага, ну і атрымаў пагрозу. Добра, што Куксо атрымаў некалькі пагроз у Мінску і ў Маскве цяпер паводзіць сябе больш абачліва і асцярожна, бо там могуць і ўмеюць не толькі пагражаць. Ведаем мы гэтую Маскву.

## Першы подзвіг

Добра, калі герой, якога ты старанна апісваеш, здатны здзейсніць подзвіг. Большасць герояў, апісаных Караткевічам, ішлі і рабілі самаахвярныя подзвігі. Нават у аўтабіяграфіі Уладзімір Караткевіч знайшоў месца для аднаго подзвігу. «...“Непісьменным” сябе не памятаю. Маці кажа, што чытаць, непрыкметна для іншых, навучыўся ў тры з паловаю гады, а пісаць трохі пазней. І, здаецца, гэта быў першы і апошні мой подзвіг...» — так апісаў класік сваё вундэркіндства ў «Дарозе, якую прайшоў». Аўтабіяграфія пісалася ў 1964-м. Наперадзе было дваццаць гадоў жыцця і працы, дваццаць гадоў самаахвярнай працы дзеля літаратуры, дзеля беларусаў і Беларусі, дваццаць гадоў суцэльнага подзвігу.

## Дом, двор і смеццявозка

Цяпер можна пражыць у мінскім шматпавярховым доме гадоў дзесяць і не ведаць у твар усіх суседзяў па лесвічнай пляцоўцы. Наша сталічнае жыццё робіцца ўсё больш замкнёным і нават больш герметычным. Ты існуеш у эгаістычным свеце, і жыццё пад адным дахам мала чым аб’ядноўвае людзей, бо ў нас больш няма аніякай агульнай штодзённай справы.

Калі я з бацькамі жыў на вуліцы Чарнышэўскага ў блочным пяціпавярховіку, дык усіх жыхароў нашай светла-шэрай новенькай хрушчобы аб'ядноўвала цёмна-шэрая смеццявозка. Яна прыязджала ў двор раз на дзень, і мы з вёдрамі, поўнымі розных маляўнічых адкідаў, выстройваліся ў стракатую чаргу. У гэтай чарзе я бачыў найлепшых беларускіх пісьменнікаў — Уладзіміра Караткевіча і Міхася Стральцова, бачыў там празаіка Пташнікава і паэта з узвышэнцаў Язэпа Пушчу, бачыў драматурга Махнача і доктара Алешку, быў там і перакладчык Хаім Мальцінскі, і дзіцячы паэт Авер'ян Дзеружынскі, быў паэт Нядзведскі і паэтэса Еўдакія Лось, быў будучы фантаст Падбярэзскі і будучы спявак з «Песняроў» — Кашапараў...

Заўсёды нехта з суседзяў спяшаўся на працу і мне даводзілася выкідаць не толькі сваё, але і чужое смецце. Чаканне смеццявозкі праходзіла весела. Добра запомнілася, што больш за ўсіх весяліўся і весяліў іншых Караткевіч. Мужчынам ён расказваў гучным — на ўвесь двор — голасам салёныя анекдоты. Жанчынам казаў салодкія кампліменты. Дзяцей спрабаваў напужаць нейкімі старымі школьнымі страшылкамі пра вялізнага сабаку з вогненнымі вачыма...

Неўзабаве з пяціпавярховай хрушчобы наша сям'я пераехала ў дзевяціпавярховік са смеццеправодам — і вясёлыя чаканні смеццявозкі засталіся ў мінулым.

## Хоку

Уладзіміра Караткевіча па-сапраўднаму захаплялі і хвалявалі тры рэчы: літаратура, гісторыя і алкаголь. Я быў для яго кепскім сабу-

тэльнікам. Розніца ва ўзросце не дазваляла нам разам напівацца. Таму большасць нашых размоў прайшлі за каваю, і былі яны пра гісторыю і літаратуру. Пераказваць тыя даўнія размовы мне цяпер цяжка, бо шмат часу прайшло і большасць слоў пазабывалася, але нешта помніцца выразна. Напрыклад, нечакана згадаўся мне любімы японскі верш дзядзькі Валодзі, які ён чытаў мне шматкроць, бо прапаноўваў браць яго за ўзор. Гэта хоку Ціё з Кага. Верш таленавітай паэткі са школы Басё. Яна рана страціла мужа і дзіця — хлопчыка, пасля чаго пастрыглася ў манахіні і прысвяціла сябе паэзіі. Ціё пісала празрыстую лірыку пра адзіноту, пра свае страты і мары... Караткевіч чытаў мне хоку пра страказу над вадой:

*Па-над ручаём*
*ловіць, ловіць страказа*
*свой уласны цень...*

Ён чытаў мне пераклад, зроблены Верай Маркавай, на рускую мову:

*Над волной ручья*
*ловит, ловит стрекоза*
*собственную тень...*

Дзядзька Валодзя чытаў і цытаваў мне шмат розных вясёлых і пафасных вершаў, але глыбей за ўсё мяне закранула трохрадкоўе пра цень стракаэы на вадзе.

## Быкаў і Мехаў

Уладзімір Караткевіч і Васіль Быкаў па-рознаму бачылі сябе ў літаратурным працэсе. Бы-

каў уяўляў сябе гэткім самотным дубам-волатам у бязмежным полі. На сустрэчах з чытачамі ён падкрэсліваў гэтую самотнасць, казаў, што пісьменнік мусіць быць адзінокім і сам ён не бачыць у наступных пакаленнях паслядоўнікаў і вучняў. Караткевіч, пры ўсёй амбіцыйнасці, не забываўся сказаць добрае слова пра сяброў і калег. На дурнаватае пытанне: «Калі раптам вас не стане, дарагі Уладзімір Сямёнавіч, хто будзе пісаць беларускую гістарычную прозу?» — Караткевіч заўсміхаўся і адказаў:

— Я магу нават сёння спакойна памерці, бо наш паважаны Уладзімір Мехаў піша выдатную прозу на гістарычныя тэмы.

Ці была ў адказе Караткевіча іронія? Думаю, што не было, ён і сапраўды высока цаніў кнігі Мехава.

## Упэўненасць

Большасць людзей не любіць рызыкаваць. Калі чалавек не ведае дакладны і разгорнуты адказ на тваё пытанне, ён адказваць не стане. Ён не адкажа нават у тым выпадку, калі адказ ведае, але не ўпэўнены ў яго стопрацэнтнай правільнасці. Ёсць, праўда, і такія, хто, ведаючы толькі якіх дзесяць працэнтаў ад патрэбнага, можа адказваць так пераканаўча і ўпэўнена, што і ценю сумневу ў цябе не будзе ў неабмежаванасці ведаў палымянага прамоўцы. Такім быў Уладзімір Караткевіч. Выглядала так, што ён ведае ўсё пра ўсё на свеце. Нават пуставатую драбязу ён мог падаць як найкаштоўнейшы дыямент. Гэта і называецца адным словам — талент.

# Шкло

Ёсць рэчы і з'явы, падзеі і ўчынкі, пра якія я не пісаў, бо лічыў гэта амаральным. Ёсць маральнае і амаральнае, а паміж імі мяжа, рыса, бар'ер... Так я лічыў, пакуль не пачуў пра імаральнасць. Гэта мяне супакоіла і дало дазвол на апісанне яркіх падзей, звязаных з жыццём Уладзіміра Караткевіча...

Сказаць, што Караткевіч піў, — гэта палова горкай праўды. У апошнія гады жыцця пісьменнік напіваўся да бяспамяцтва, да страты прытомнасці, да падзенняў... Ён падаў на кніжную шафу, разбіваў галавою тоўстае шкло і ляжаў у акрываўленых аскепках. Жонка, цётка Валя, не магла яго падняць з падлогі і перацягнуць на канапу. Яна клікала мяне з братам. Мы перацягвалі дзядзьку Валодзю з падлогі на канапу і дапамагалі цётцы Валі прыбіраць шкло і кроў. Самым кепскім было падзенне Караткевіча за ўнітаз. Ён упаў так няўдала, што мы доўга не маглі яго выцягнуць з-за таго ўнітаза...

Згадваючы пра гэткія эпізоды з жыцця Караткевіча, я стараюся заставацца імаральным, і гэта ў мяне атрымліваецца дзякуючы таму, што паміж падзеямі і іх апісаннем ляжыць чвэрць стагоддзя.

# НІНЭЛЬ

*Словы пра мастачку Нінэль Шчасную*

## Карціна

Нінэль Шчасная напісала карціну «Пад сонцам». На ёй побач з высокім сланечнікам выструнілася дзяўчынка. На палатне яшчэ была цэлая процьма самага сапраўднага святла. Карціна так уразіла мастакоў, што ўсе яны адразу ж закахаліся ў таленавітую Нінэль. У яе закахаліся не толькі тутэйшыя мастакі, але і мастакі з Японіі. Яны купілі ў Шчаснай шмат карцін і звезлі іх у сваю далёкую-далёкую Японію.

Пагалоска, што Нінэль Шчасная стала вядомай і прызнанай мастачкай у недасяжна далёкай Японіі, вельмі радавала тутэйшую публіку. Тая першая і яркая закаханасць публікі ў Шчасную засталася з ёй на ўсё доўгае жыццё; бо, на добры розум, мастаку, каб яго любілі і паважалі, дастаткова напісаць адну выдатную і запамінальную карціну.

## Закаханасці

Старэйшыя мастакі расказвалі, што ў Нінэль Шчасную былі закаханыя ледзь не ўсе мужчыны ў багемным Мінску 1960-х.

— Нават Барыс Забораў быў закаханы ў Нінэль! — шэптам казаў мне архітэктар Алег Хадыка і прымружваў заакуляраныя вочы, як самы сапраўдны вучоны кот. Закаханасць Заборава мусіла быць — дый была — аргументам у расказах пра абаяльнасць і прыгажосць мастачкі Шчаснай.

Я тую маладую прыгажосць не заспеў. Для мяне Нінэль Іванаўна Шчасная была простай і абаяльнай жанчынай, якая сябравала з маёй маці. Але я верыў старэйшым калегам, бо лгаць пра фантастычную прыгажосць Нінэль і закаханасць у яе графіка Барыса Заборава не было аніякага сэнсу.

## Жорык

У мастацкім вучылішчы я хадзіў у адну групу з Жорыкам Шчасным. Ён быў апантаны маляваннем, але блытаў зялёны колер з чырвоным. Жорык быў такім брутальным дальтонікам, што замест агніста-чырвонай морквы мог намаляваць моркву жоўта-зялёную. Акрамя малявання нашага Жорыка мала што цікавіла, таму па большасці агульнаадукацыйных прадметаў ён атрымліваў дваякі і калы. Добра, што ў мастацкім вучылішчы выкладчыкі песцілі менавіта мастакоўскія здольнасці і Жорыку дазволілі правучыцца ўсе чатыры гады.

Ён вучыўся і ганарыўся тым, што меў адметныя артыстычныя здольнасці. А яшчэ

Жорык Шчасны ганарыўся тым, што носіць прозвішча вядомай і паважанай мастачкі. Ён нават спрабаваў даводзіць, нібы з'яўляецца далёкім сваяком Нінэль Іванаўны, але хлусня хутка выкрылася. Жорык з Нінэль быў толькі цёзкай па прозвішчы, але нават гэтага яму хапала для гонару.

## Максім Танк

Паэт Максім Танк даволі спакойна ставіўся да разнастайных эксперыментаў у выяўленчым мастацтве. Ён неаднойчы абараняў нашых авангардыстаў, у тым ліку і мяне. Наогул, я ведаю толькі адзін выпадак, калі Максіму Танку не спадабалася карціна і ён прылюдна яе пакрытыкаваў. Гэта быў ягоны партрэт, напісаны Шчаснай. На тым партрэце Максім Танк стаяў побач з Аркадзем Куляшовым.

— Нашто мяне намалявалі побач з нябожчыкам? Побач з нябожчыкам я стаяць не хачу... — сказаў Танк на адкрыцці выставы.

Шчасная, вядома, моцна перажывала, лічыла сябе вінаватай. Думаю, што ў словах Максіма Танка была крытыка не толькі Шчаснай, але і паэта Куляшова, які побач з жывым і вясёлым Танкам заўсёды выглядаў каменным і халодным, як манумент.

## Святочная серада

У кожнага мастака ёсць свой любімы і свой найгоршы дзень на тыдні. Нехта любіць працаваць у нядзелю, камусьці ўдаецца вызваліць панядзелак для заняткаў любімай справай, хтосьці з захапленнем працуе цэлую ноч з суботы на нядзелю.

У вядомых мастакоў шмат прыхільнікаў, якія прыходзяць у майстэрню, сядзяць там доўга і замінаюць працаваць. Апошнім часам праблема з прыхільнікамі вырашаецца лёгка, бо ў горадзе паадкрывалася безліч кавярняў. Цяпер мастак можа з журналістамі ды мастацтвазнаўцамі сустракацца ў іх. Раней кавярняў і бараў у Мінску было мала, таму і гарбату, і каву, і віно з гарэлкай мастакі пілі ў майстэрнях. Шмат хто праз гэта і спіўся.

Каб менней піць і менней пускаць у сваю майстэрню чужых людзей, Нінэль Шчасная прыдумала сабе Святочную сераду. Менавіта ў сераду Шчаснай працавалася кепска, і яна вырашыла ахвяраваць гэты дзень для сустрэч з сябрамі ды living рознымі патрэбнымі людзьмі.

— У свае пяцьдзясят я зразумела, што вельмі мала напісала карцін. Замест таго, каб пісаць, я сядзела за сталом з сябрамі. Цяпер я сяджу з сябрамі толькі ў Святочную сераду... — казала мне гасцінная Нінэль Іванаўна.

Два разы я трапляў на Святочную сераду да Шчаснай. За келіхам чырвонага віна там вяліся павольныя гутаркі пра мастацтва і паэзію. Гутаркі мяне не ўразілі, а таму змест іх хутка выветрыўся з памяці. Мяне ўразіла каляровае шкло, якога было поўна ў майстэрні Нінэль Іванаўны. Яна тое шкло раздорвала. Маёй маці Нінэль падаравала вялікую зялёную кветку, адлітую на шклозаводзе «Нёман». Маці ганарылася той кветкай і ўсім расказвала пра Нінэль і яе гасцінны дзень — Святочную сераду.

Часам у мяне таксама ўзнікае жаданне зрабіць у сваёй майстэрні дзень наведванняў, але большасць сустрэч проста пераносіцца ў кавярню «Цэнтральнага» ўніверсама,

а стварэнне сваёй Святочнай серады адкладаецца і адкладаецца.

## Выключэнне

Большасць людзей перакананa, што манументы, роспісы, вітражы, як і ўсё астатняе мемарыяльнае мастацтва, ствараюцца на стагоддзі і нават на тысячагоддзі. Таму назіраць за збіваннем фрэсак і разбурэннем каменных помнікаў цяжка. Нават тады, калі выявы на знявечаных фрэсках і героі пабітых помнікаў табе моцна не падабаюцца. Усялякае руйнаванне — цяжкае відовішча. Толькі малаадукаваны хам ці вандал можа радавацца шалёнаму руйнаванню, якое ў цывілізаваным грамадстве павінна быць акуратным і спланаваным дэмантажом.

У нашым Мінску шмат што дэмантуюць і руйнуюць. Былі знішчаны вітражы маіх настаўнікаў Вашчанкі і Стэльмашонка, было зруйнавана пано Кішчанкі, зніштожаны роспісы Літвінавай. Перабудоўшчыкі гатэля «Беларусь/Свіслач» у *Crowne Plaza* збіраліся выкінуць на сметнік і вітраж Нінэль Іванаўны Шчаснай.

Разгубленую і зніякавелую, сустрэў я Нінэль Іванаўну каля гатэльнай будоўлі. Яна скардзілася, я параіў напісаць ліст у абарону твора. Вітраж у гатэлі захаваўся. Адбылася хай і маленькая, але перамога мастака над вандалізмам, і я ёй трохі ганаруся. Разумею, гэта толькі выключэнне з агульнага правіла. Манументальныя творы і мемарыялы выконваюць ролю дэкарацый, на фоне якіх выступаюць дзяржаўныя правадыры. І змяняюцца разам з імі. З’яўляюцца новыя дэкарацыі, но-

выя манументальныя і мемарыяльныя творы, зробленыя нібыта на вякі, нібыта на тысячагоддзі.

## Спевы

Скажы, з кім ты спяваеш, і я скажу — хто ты. Думаю, што гэта правільнае вызначэнне чалавека. Ты тое, што ты спяваеш. У маладосці я шмат спяваў. Спяваў з аднадумцамі і сябрамі, спяваў для любімых жанчын, спяваў на вяселлях. Можна сказаць, што я захапляўся спевамі і маё пакаленне песеннае.

Шкада, што з мастачкай Нінэль Шчаснай я спяваў толькі аднойчы. Гэта здарылася ў Піцундзе. Я адпачываў у пісьменніцкім доме творчасці. Беларусаў сярод адпачывальнікаў набралася шмат. Таму і ўзнікла ідэя зрабіць на беразе мора беларускую вечарынку. Мужчыны панапрыносілі павыкіданага морам ламачча і расклалі вогнішча. Жанчыны накрылі на пасцілцы імправізаваны стол. Па шклянках разлілося абхазскае лёгкае светлае віно. Мы выпілі і заспявалі. «Купалінка»... «Касіў Ясь канюшыну»... «Ой, рана на Йвана»... Мы спявалі ўсё грамчэй і грамчэй.

Спявалі Нінэль Шчасная і яе муж Сяргей Красікаў. Спяваў паэт Міша Шэлехаў. Спявалі Іван Чарота і Мікола Мятліцкі... За сняданкам нас віншавалі розныя пісьменнікі і казалі, што ніколі не чулі, каб беларусы так зладжана спявалі. Пра грузінскія і ўкраінскія спевы ведалі ўсе, а беларускія спевы пачулі ўпершыню. Шчыра прызнаюся: мы і самі здзівіліся, што ў нас так добра атрымалася паспяваць. Пазней у размовах з Нінэль мы заўжды згадвалі свае спевы на беразе Чорнага мо-

ра, спевы каля вялікага вогнішча пад зорным небам.

## Наста

Першая адукацыя, якую мне пашчасціла атрымаць, — настаўнік малявання. Таму ўсё жыццё я некага вучу маляваць і пісаць лірычныя дзённікі. З тымі, хто малюе, я абавязкова размаўляю пра літаратуру, а з тымі, хто піша, хаджу на выставы і ў музеі.

Апошнім часам на выставы я хадзіў з вучаніцай Настай. У Дзяржаўным мастацкім музеі я папрасіў яе выбраць адну карціну, якая спадабалася ёй найбольш. Для школьніцы, якая ўсё жыццё празаймалася спортам, а ў музеі і тэатры не завітвала, задача была не з лёгкіх. Відавочна, Наста стамілася, прайшоўшы ўвесь наш не такі ўжо і малы музей. Мне здавалася, што ёй спадабаюцца японскія кімано ці рамантычныя і натуралістычныя нацюрморты Хруцкага. Але Наста выбрала партрэт пісьменніка, які выканала Нінэль Іванаўна Шчасная. Прызнаюся, я не чакаў такога выбару і таму моцна парадаваўся за дзяўчынку і яе прыродны густ. Прыемна, калі ў настаўніка і вучаніцы ёсць супадзенне ў выбары ўзорных рэчаў.

# КНЯЗЬ ПРОЗЫ

*Словы пра тату Вячаслава Адамчыка*

## Бясцэнныя рэчы

Людзі сыходзяць у нябыт, пакідаючы блізкім усе як ёсць свае рэчы... Ад таты ў мяне шмат рукапісаў і лістоў. Іх можна перачытваць. Пачытаеш — і быццам пагаворыш з жывым татам. За словамі, напісанымі татавай рукою, я выразна чую яго голас. Ад маці ў мяне застаўся флакон з духамі. У хвіліны горкага адчаю можна адкрыць яго і на нейкае імгненне адчуць водар, які так любіла маці. Закрываеш вочы, згадваеш яе твар, яна нібыта і блізка, нібыта і зусім побач. Ад цесця ў мяне ёсць добра навостраны нож, якім я зразаю тоненькую скурку з яблыкаў. Ад паэткі і перакладчыцы старажытнай японскай літаратуры Веры Маркавай у мяне застаўся невялічкі парцалянавы званочак. Уздымеш яго над кніжнай паліцай, страсянеш, пачуеш звон і ўслухоўваешся: а раптам нехта адгукнецца...

Для іншых людзей усе гэтыя рэчы звычайныя, а для мяне бясцэнныя.

## Трамвай

«Трамвай даімчаў яго аж да Дома друку», — вычытаў у татавай ранняй кнізе «Млечны шлях». «Трамвай даімчаў...» — цяпер так ніхто не напіша. Трамвайная імклівасць засталася ў далёкім мінулым. Імклівыя ў нас легкавікі, а трамваі за тыя шэсцьдзясят гадоў, што праміналі з дня напісання апавядання «Млечны шлях», зрабіліся паважанымі і даволі павольнымі. Але менавіта гэтая неадпаведнасць сучаснасці і кранае ў старым бацькавым апавяданні, і спыняе мяне-чытача, і змушае задумацца пра імклівасць такога кароткага чалавечага жыцця.

## Мянушка

У мяне было шмат розных мянушак і псеўданімаў, але самая выразная і запамінальная — першая. Мне было два гады. Хадзіў і гаварыў я добра. Тата, мама і я ішлі па вуліцы Якуба Коласа. Гулялі побач з домам. Я тупаў паперадзе, бацькі — праз тры крокі за мной. З-за рога з вуліцы Ламаносава мне насустрач выйшаў афіцэр. Ён быў вясёлы, спыніўся, прысеў на кукішкі і працягнуў руку:

— Давай знаёміцца, салдат!

Тата памкнуўся праганяць п’янаватага жартаўніка, але маці спыніла:

— Хай пазнаёмяцца!

Я працягнуў руку афіцэру, той паціснуў мне далонь і спытаў:

— Як цябе завуць, салдат?

— Адамка! — сказаў я, гледзячы ў афіцэравы вочы.

— Сур'ёзны ў вас хлопец! — кінуў маім бацькам афіцэр і пабег да трамвая.

Афіцэр з'ехаў, а мая саманазва Адамка засталася. І бацька, і маці нейкі час называлі мяне не звычным і цёплым іменем Валодзя, а па-новаму — Адамка. І калі ў нашым доме заходзіла гутарка пра маю сур'ёзнасць, бацькі заўсёды прыгадвалі даўняе знаёмства з п'яным афіцэрам. Дарэчы, гэта адзін з самых першых успамінаў пра тату. Маці я памятаю і да свайго нечаканага знаёмства на сонечнай вуліцы Якуба Коласа, а тату толькі з таго моманту, як ён бярэ мяне на рукі і мы разам глядзім на афіцэра, які сядае ў чырвона-жоўты трамвайны вагон.

## Шэвераў

Хацеў зрабіць добрую справу. Вырашыў папрасіць у мастака Аляксандра Шэверава малюнкі, якія ён зрабіў для татавай кнігі «Чужая бацькаўшчына». Я спадзяваўся, што малюнкі захаваліся, што іх атрымаецца выкупіць і можна будзе аформіць у рамы пад шкло ды перадаць у школьны музей, які адкрылі бацькавы землякі. Шэвераў выслухаў мяне, паабяцаў пашукаць малюнкі. Ён іх не знайшоў...

Размова з кніжным графікам Шэверавым атрымалася доўгай і цяжкай, але самае галоўнае ў тым, што я нарэшце высветліў, чаму ў яго так выдатна атрымаліся малюнкі да бацькавага рамана. Шэвераў аздабляў дзіцячыя кнігі, маляваў безліч вясёлых персанажаў, меў процьму заказаў. Чаму ён узяўся за драматычны раман? Нашто ўступіў у канкурэнцыю

з Кашкурэвічам, Шаранговічам і Паплаўскім? Чаму адмовіўся ад сваёй заўсёднай каляровасці і стракатасці? Раней я не ведаў. Цяпер ведаю...

Шэвераў захварэў. У яго пачаліся галавакружэнні. Ён не мог рабіць малюнкі малых фарматаў. Не мог засяродзіцца. Таму ўзяў паперу вялікага памеру і напісаў на ёй алейнымі фарбамі экспрэсіяністычныя карціны. Напісаў іх тэмпераментна, дзе пэндзлем, а дзе і мастыхінам. Напісаў фактурна, з прадрапваннямі. Малюнкі да «Чужой бацькаўшчыны» — удача Шэверава. Выдатнаму раману пашанцавала — і ён атрымаў выдатнае аздабленне. Галавакружэнні ў Шэверава прайшлі. Ён вярнуўся да вясёлых дзіцячых бестурботных кніжак і не шкадуе, што арыгіналы малюнкаў да «Чужой бацькаўшчыны» згубіліся. Ён не шкадуе, а мне шкада.

## Эдзік

Ніколі не захапляўся нумізматыкай, але за жыццё я назбіраў розных манетак. Панапрывозіў іх з блізкіх і далёкіх краін. Бывае, зірнеш на якую маленькую капейку — і згадаеш цэлую вялікую краіну. Тата вельмі хацеў, каб з'явіліся нашы манеты і каб нехта, глянуўшы на іх нават праз сто гадоў, змог згадаць Беларусь. Тата не дачакаўся беларускіх манет. Цацачныя і сувенірныя былі, а звычайных народных ён так і не пабачыў. Цяпер, калі ў кожным беларускім кашальку звіняць нашы манеты, я радуюся за сябе і за тату. Цешуся з таго, што яго патрыятычная мара здзейснілася. Шмат хто прарочыў беларускім манетам кароткі век. Маўляў, іх вельмі хутка з'есць ін-

фляцыя. Я не прарок, але скажу, што развітвацца нам са сваімі манетамі будзе цяжка. Адзін мой знаёмы латыш Эдуард нават плакаў, калі ў Латвіі замест лата стаў хадзіць еўра. Ён дастаў з кашалька ўсе наяўныя латы, расклаў іх на стале, паглядзеў і заплакаў. Ёсць час радавацца манетам і час іх аплакваць. Толькі не трэба галасіць і плакаць над манетамі ў той момант, калі варта радавацца іх з'яўленню.

## «Дзікі голуб»

Найлепшую кнігу сваіх узорных апавяданняў тата назваў «Дзікі голуб». Цяпер, калі бачу дзікага голуба, — заўсёды згадваю тату і яго кнігі. Для мяне ў кожным дзікім голубе жыве частка таты. Добра, калі твая частка застаецца жыць у птушцы ці нейкай іншай прывабнай з'яве. Горш, значна горш, калі тваё творчае жыццё працягваецца ў ідыётах ці прыніжаных ды пакрыўджаных, як у змрочнага Фёдара Дастаеўскага.

## Рэдактарства

Шмат хто з маіх знаёмых паэтаў шкадаваў, што многа часу ахвяраваў на пераклады чужых вершаў. Так і шмат хто з мастакоў перажываў праз тое, што безліч дзён і начэй сышло ў іх на халтуры дзеля заробкаў. Тата шкадаваў, што шмат гадоў прасядзеў за рэдактарскім сталом. Замест таго каб пісаць сваё, выпраўляў чужое і перапісваў графаманскае. Мне рэдактарская праца падабалася. Яна давалася лёгка, захапляла, прыносіла вядомасць і прыбытак. Сваё рэдактарства я ніколі

не расцэньваў як службу на пана, як ганебнае рабства. Я не шкадую, што мала напісаў, але я шкадую, што мала напісаў тата, хацелася, каб ён напісаў больш свайго, а не правіў чужое дурноцце.

## Дом у Каралішчавічах

Тата любіў пісьменніцкі дом творчасці ў Каралішчавічах, былую дачу Якуба Коласа. Яму там добра працавалася. Зазвычай ён туды ездзіў на тыдзень, каб напісаць апавяданне. Найлепшыя свае апавяданні тата напісаў у Каралішчавічах, пад Мінскам. Збіраўся ў дом творчасці ён вельмі грунтоўна. Тыдні два пакаваўся, складаў і разбіраў, каб скласці па-новаму рэчы ў чамадан. Маці дапамагала. Яна сачыла, каб у бацькі былі з сабою цёплыя рэчы і чыстая змена бялізны. Світар і безрукаўка складаліся з асаблівай пяшчотай, бо іх маці звязала сама, каб яе Чэсь не змерз, седзячы за пісьмовым сталом у тых Каралішчавічах, у тым доме творчасці, што стаяў пасярод заснежанага і ўсё адно цёмнага лесу.

## Бацькоўская дача

Яны называлі яе дачай. Слова «лецішча» так і не прыжылося ў доме маіх бацькоў. Жартам яны называлі любімаю дачу на Лысай гары фазэндай. З нейкага лацінаамерыканскага серыяла кшталту «Рабыня Ізаўра» прыйшла гэтая «фазэнда». Я яе прадаў. Бацькоўскае лецішча, бацькоўскую дачу, бацькоўскую фазэнду я прадаў у добрыя рукі. Увечары прыслухоўваўся да сябе... Ці шкада мне той дачы каля вёскі Валоўшчына? Ці шкада мне

садовага дамка ў яблыневым садзе? Не. Па маці я сумую, сумую без таты, а па іх блакітным дамку, што стаіць сярод бацькоўскіх яблыняў, не сумуецца.

## Эпіграма

Ніколі не чытаў эпіграмы і пародыі на татавы творы. Некалькі радкоў пра яго мільганула ў адным з малаталенавітых працягаў сатырычнай паэмы «Сказ пра Лысую гару». Можа, таму я парадаваўся, калі ў гумарыстычнай кнізе Георгія Юрчанкі «Парнаскія ўхабы» знайшоў эпіграму «На Вячаслава Адамчыка»:

*Усё: завулак, прыгуменне,*
*Прымак, падрадчык, біч, паркан,*
*Каханне, вернасць і падман —*
*Усё ў карычневым трымценні.*
*Відаць, з карычневым натхненнем*
*Пісаў Адамчык свой раман.*

Хай яна слабая, павярхоўная і памылковая ў колеры, бо тата заўжды любіў розныя адценні шэрага, а не карычневага, як кажа Юрчанка. Хай эпіграма даўно згубіла актуальнасць, і ўсё ж яна мяне парадавала. Я ажно ўявіў, як прачытаю эпіграму ўголас і як тата паблажліва ўсміхнецца.

## Вітка і Куксо

Не кожны пісьменнік атрымлівае прызнанне. Сярод тых празаікаў, каму ўсё ж пашанцавала яго атрымаць пры жыцці, быў мой тата. Да свайго прызнання ён пражыў шмат кепскіх гадоў. Яго выключылі з універ-

сітэта за тое, што паслаў апавяданне ў «Ніву», якая выходзіла ў Польшчы. Яго кнігу апавяданняў «Дзікі голуб» не выдавалі сем гадоў. Гэтыя сем гадоў тата быў пісьменнікам без новых кніжак. Кожная публікацыя жорстка цэнзуравалася. У рамане «Чужая бацькаўшчына», які друкаваўся ў часопісе «Полымя», рэдактар Кастусь Кірэенка зрабіў больш за семдзесят цэнзурных выкрэсліванняў. Раман выйшаў, і тата атрымаў прызнанне. У той час паэт Васіль Вітка і напісаў «Велічальную Вячаславу Адамчыку»:

*Расступіся, веча славы,*
*Пацясніся, стар і млад, —*
*Слава, слава Вячаславу,*
*Вячаслава на пасад!*

*Мае розум ён цвярозы —*
*Няхай будзе князем прозы.*

Малюнак да вясёлага верша зрабіў майстравіты Канстанцін Куксо.

Мне спадабалася, што прызнанне прыйшло да таты не толькі ў сур'ёзных і афіцыйных формах, але і ў выглядзе вясёлых малюнкаў і жартоўных вершаў.

## Стол

Тата пісаў, седзячы за сталом. Пісанне для яго — справа жыцця, адказная работа, пакліканне. Таму тату і весяліла прызнанне пісьменніка Віктара Казько, што ён дапісваў канцоўку рамана, лежачы на жываце. Весяліла шчырасцю, нейкай нават распуснасцю і блазнаватасцю. У татавым разумен-

ні пісьменнік мусіў нават у падыходзе да працы заставацца сур'ёзным. Стол, крэсла, аловак, аўтаручка, чарніла, папера, друкарская машынка, стэлажы з кнігамі, сонечны кабінет для яго мелі вялікую значнасць, каштоўнасць. Тата працаваў так, нібыта за ім у час працы назіраў настаўнік. Нешта вучнёўскае праглядалася ў такіх паводзінах, але, безумоўна, вучнёўска-станоўчае. Тата за пісьменніцкім сталом выглядаў старанным працаўніком. Якое можа быць пісанне лежачы на жываце? Смешна і недапушчальна для яго — сур'ёзнага чалавека.

## Вочы

Усё радзей і радзей згадваю тату. І не таму, што я яго перастаў любіць. Проста на месца мёртвых прыходзяць жывыя. Натуральна. Але мне ўсё яшчэ не хапае таты, асабліва ягоных вачэй. Часам я нават бачу, як ён глядзіць на мяне са свайго ціхага далёка.

# «СЫБОТА»

*Успаміны пра тату Вячаслава Адамчыка, напісаныя да яго васьмідзесяціпяцігоддзя*

## Вайна

Тата верыў у сваё пакліканне — пісаць праўду пра вайну. Верыў, што ён пакажа ў творах рэальную вайну, а людзі, пабачыўшы жах і абсурднасць масавых забойстваў, паразумнеюць і будуць усімі сіламі пазбягаць ваенных канфліктаў. Тата пабачыў вайну вачыма хлопчыка, пабачыў яе зблізу, бачыў цягам сямі доўгіх галодных гадоў — з 1939-га па 1945-ы. Яго раздражняла пафасная хлусня пра перамогі. Яго абуралі навыдумляныя дзівосныя героі, якіх куля не бярэ і шабля не сячэ. Тата верыў, што абраны ім кірунак правільны. Ён памыліўся. У чарговы раз масавую свядомасць захапіла хлусня пра лёгкую вайну з ільжываабліччнымі героямі. Маладыя людзі зачытваюцца кнігамі пра прыдуманых герояў, глядзяць фільмы пра бясконцыя перамогі, ідуць ваяваць і гінуць тысячамі. Няма

такога дня, каб людзі не гінулі на бясконцай вайне. Шкада, што праўда, напісаная пра жахі Другой сусветнай бойні, патанула ў прапагандысцкай ілжы. Бачачы гэта, я амаль не перачытваю татавы творы пра голас крыві брата твайго, а чытаю пра песні і пах летніх траў.

## Замежная прэмія

Тата адчуваў сябе зусім кепска. Хвароба з'ядала яго хутка. Часам ён пачынаў губляць веру ў патрэбнасць уласнага жыцця. Прынамсі, мне так падавалася. Каб неяк яго падтрымаць, я ўзяў ды сказаў:

— Тата, табе трэба яшчэ пажыць. Трэба яшчэ прычакаць прызнання. Трэба дачакацца прэміі якой замежнай...

— Не дадуць. Чужыя мы для іх, а чужым прэмію не даюць. На сябе варта спадзявацца. Колькі зробіш, колькі заробіш, колькі збярэш, столькі твайго і будзе, столькі ад цябе і застанецца...

Тата яшчэ нешта расказваў, разважаў пра беларускую долю. Але галоўнае я пачуў, галоўнае — «не дадуць».

## Значок

Сяржук Сокалаў-Воюш прынёс у Саюз пісьменнікаў на пасяджэнне літсуполкі «Тутэйшыя» торбу са значкамі. Яны былі зроблены ў форме бел-чырвона-белых сцяжкоў. Нацыянальнымі сцяжкамі Сокалаў-Воюш адорваў змагароў за беларушчыну. Атрымаў і я тую добра зробленую ажно ў Амерыцы ўзнагароду. Дома паказаў бацькам. Тата папрасіў значок сабе. Я падумаў, што ў Сержу-

ка іх цэлая торба, ён мне і другі дасць. Так мой значок апынуўся ў таты. Але Сокалаў-Воюш не хацеў даваць другі значок. Казаў, што я атрымаў сваю ўзнагароду, а дзве ўзнагароды нікому не даюць. Я настойваў на тым, што мой бацька больш змагар за беларушчыну, чым мы з Сержуком разам узятыя. У выніку значок ён мне даў, і я яго насіў, ажно пакуль на нейкім пратэстным шэсці ў час тузаніны значок не адарваўся і не згубіўся. Тады на мітынгах і шэсцях было столькі сутычак, боек і хваляванняў, што я зусім не перайма́ўся з-за страты значка. На адным з шэсцяў на Дзень волі я нават гадзіннік «Рада» за тысячу долараў згубіў — і то не моцна перажываў. Жывы, здаровы, не за кратамі... На новы гадзіннік зараблю. Мітынговыя страсці паціху сышлі ў мінулае. Татаў бел-чырвона-белы значок пасля яго смерці маці перадала мне. Значок вярнуўся, але я яго не нашу, берагу. Ну хіба што на стагоддзе БНР чапляў на пінжак. У майго бел-чырвона-белага значка павінен быць святочны вечар, бо і ён яго заслужыў.

## Словы

У нашай сям'і былі і засталіся татавы словы. Ён лічыў, што па-беларуску больш правільна казаць і пісаць «сыбота» замест «субота». Не прымаў слова «ладна» ў значэнні «добра». На маё «ладна», кінутае замест «так», мог раздражнёна сказаць:

— Срака ў бабы ладна!

Тата адмаўляў слову «рэдкі» ў яго значэнні «бывае не часта» ці «адбываецца ў вялікія прамежкі часу». У гонар таты я ў дзённіку пішу «сыбота», і з гэткім словам склалася хайку:

*Пляшка з-пад віна*
*адпачывае ў траве,*
*сыботні ранак...*

## «Крык на хутары»

Шмат хто з пісьменнікаў паводзіць сябе так, нібыта ва ўсім белым свеце ёсць толькі адна-адзінюткая кніжка — і тую напісалі менавіта яны. Такія пісьменнікі са сваімі кніжуленцыямі носяцца як кот са здохлай мышшу. Найбольш запамінальна ў падобнай сітуацыі дзейнічае Жора Марчук з Давыд-Гарадка. Ён можа спыніць чалавека пасярод сталічнага праспекта і настаўніцкім голасам запытацца:

— Ты прачытаў мой раман «Крык на хутары»?

Ілгаць Марчуку сэнсу няма ніякага, бо, як той настаўнік, Жора пачне распытваць пра ўражанні ад эпізодаў і дэталяў. Таму большасць спыненых чытачоў адразу прызнаюцца, што не чыталі «Крык на хутары». Тады пісьменнік паблажліва кажа:

— Прачытай неадкладна! Прачытай маю вялікую кнігу!

Разумею, ад такога пісьменніка цяжка адчапіцца, калі не дасі абяцання прачытаць «вялікую кнігу». Мне цяжэй удвая, бо Жора ніколі не забывае сказаць, што ён вучыўся пісаць раманы ў майго таты.

## Франтавік

У таты быў знаёмы паэт-франтавік... Жудаснае вызначэнне — франтавік. Вайна для такіх людзей пачалася і не скончылася. Яны так і не вярнуліся ў мірнае жыццё. Знаёмы

франтавік меў адно вока, а замест другога насіў шкляны пратэз. Паэт не любіў шкляное вока і, калі моцна напіваўся, даставаў з вачніцы шкляны шарык, з усяе моцы кідаў яго ў сцяну і разбіваў на дробныя аскепкі. Кожнае зазіранне ў люстэрка вяртала франтавіка на вайну. Бацька яму спачуваў, а шмат хто і падсмейваўся з дурнаватай звычкі разбіваць аб сцяну пратэз.

## Матылёк

На пятнаццатыя ўгодкі татавай смерці я адведаў Кальварыйскія могілкі і паклаў белыя хрызантэмы на каменную шэравата-зялёную пліту... Там і ўбачыў хайку:

*Над цёмнай травой*
*паміж іржавых крыжоў*
*ляціць матылёк...*

## «Буду праз гадзіну»

Калі ўвечары тата тэлефанаваў дамоў і казаў: «Буду праз гадзіну», — мы ведалі, што ён недзе выпівае з пісьменнікамі і вернецца позна. Мы хваляваліся, яно і зразумела; але наш тата быў чалавекам абачлівым і асцярожным. Таму «буду праз гадзіну» азначала толькі тое, што ён вернецца зусім позна і можна сядаць вячэраць без яго.

## Комплекс Тэлемаха

Задумаўся над комплексам Тэлемаха — пастаяннымі пошукамі сынам свайго зніклага бацькі... Ці ёсць у мяне нешта падобнае?

Так — мяне цікавяць першакрыніцы. Так — я ўвесь час заглыбляюся ва ўласнае мінулае. Так — татава творчасць і пасля яго смерці застаецца для мяне ўзорнай. Такой жа ўзорнай, як і жыццё маці. Такой жа цікавай, як жыццё маіх дзядоў. Факты з мінулага, успаміны, згадкі натхняюць на творчасць, але падобным чынам мяне натхняе і сучаснасць, навакольная зменлівая рэальнасць. Мусіць, комплексу Тэлемаха ў мяне столькі, колькі яго ёсць у самым звычайным чалавеку, не больш.

## Грошы

Тата быў беражлівы. Сялянская натура выяўлялася ў тым, што грошы прытрымліваліся, прыхоўваліся і не распускаліся. Разменьваючы вялікую купюру, тата цяжка ўздыхаў і казаў сваё заўсёднае:

— Во! Распусціў грошы...

З-за прыхоўвання і прытрымлівання ў таты прапала досыць вялікая сума савецкіх рублёў. Перад сваім сконам савецкая імперыя абрабавала ўласных грамадзян. Шмат у каго ў тыя змрочныя часы грошыператварыліся ў кавалачкі фарбаванай паперы. Савецкі міністр Паўлаў позна ўвечары абвясціў, што купюры ў пяцьдзясят рублёў з наступнага дня больш не дзейнічаюць. Міністр цудоўна ведаў, што менавіта ў гэткіх купюрах народ захоўвае большую частку сваіх капіталаў. Грошы, якія народ захоўваў у банку, з’ела інфляцыя. Ці перажываў тата пра страчанае? Так. Казаў мне, што чалавек мусіць не толькі прытрымліваць і берагчы грошы, ён мусіць іх патраціць...

— Колькі ты зможаш спажыць — столькі ў цябе твайго! — казаў.

І ўсё ж з усёй татавай эканоміі мне найярчэй помніцца яго цяжкі ўздых і фраза з глыбокай шкадобаю:

— Распусціў грошы...

## Лісты

Тата ўвесь час старанна пісаў лісты. Ён пісаў лісты пра каханне ў ціхі гарадок Скідзель да маладой бібліятэкаркі Ніны Глобус. Пісаў да бацькоў у невялічкую заходнебеларускую вёску Варакомшчыну. Пісаў з Масквы ў Мінск да мяне — тады яшчэ адзінага сына Валодзі. Пісаў і на флот да свайго малодшага брата Яна. Шмат лістоў не захавалася. Прапалі ледзь не ўсе лісты, што тата пісаў з Нью-Ёрка, калі працаваў у прадстаўніцтве ААН. Іх шкада. З таго, што засталося, я стараюся выбраць найцікавейшае і апублікаваць. Недзе ў перспектыве мне бачыцца выдадзены асобнай кнігаю томік лістоў Вячаслава Адамчыка. Перспектыва тая далёкая.

# РЫГОР

*Словы пра паэта Рыгора Барадуліна*

## Заядлы чытач

Ад бацькоў у спадчыну мне пазаставаліся чорныя канверты з фотаздымкамі. Там шмат партрэтаў з подпісамі. У словах столькі любові і павагі, што дзіву даешся. Зразумела, што большасць падпісаных фотапартрэтаў жаночыя, але ёсць і мужчынскія. Сярод іх трапіўся зусім малады твар густавалосага стылягі — Рыгора Барадуліна, які на зваротным баку картачкі напісаў для таты цэлы верш:

*Жадаю пану Вячаславу,*
*Каб уздымаў ён прозы славу.*
*Каб, як кагор,*
*Быў кожны твор...*
*Чытач заядлы*
*Твой — Рыгор.*

## Броўка

Пятрусь Броўка назваў сваю кнігу паэзіі «А дні ідуць». Рыгор Барадулін сказаў пра тую кнігу лаканічна і ёмка: «А другія стаяць».

## Су Дун-по

Кітайскі паэт Су Дун-по асуджаў тых, хто напіваецца і спіць у прысутнасці гасцей. Су Дун-по, больш вядомы як Су Шы, нават напісаў верш «Сюцаю Лі Сін-чжуну, каб ён не засынаў, як толькі крыху ап'янее». Падобную звычку меў паэт Барадулін, які хутка хмялеў і пасля некалькіх чарак клаўся спаць. Сябры-сабутэльнікі працягвалі баляванне, а Рыгор Іванавіч Барадулін салодка хроп ў ложку. Уставаў Барадулін на досвітку і адразу сядаў за працоўны стол. Пакуль сабутэльнікі спалі і пакутавалі ад цяжкага пахмелля, Рыгор Барадулін паспяваў нарыфмаваць процьму радкоў. Я ні разу не чуў, каб нехта асуджаў Барадуліна за такія паводзіны. Наадварот, усе хвалілі Рыгора за вялікую працаздольнасць і веданне меры ў выпіўцы. Мусіць, ніхто са знаёмцаў Барадуліна не прачытаў верш Су Дун-по, дзе сказана, што напіцца і спаць пры гасцях — кепскі ўчынак.

## Рэдактура

Рыгор Барадулін шмат гадоў прапрацаваў рэдактарам у выдавецтве. Набыў там аўтарытэт сярод больш маладых калег. Таму малады рэдактар панёс паказаць мой паэтычны зборнік Барадуліну.

— «Парк»? Кепская назва... Разгортвай змест... Так! «Сон у трамваі» — вось вам назва для збор-

ніка. Чытай верш... Не! Памірае душа, памірае, перарэзаная трамваем... Не, не, не... Хай застаецца назва «Парк». Траецкае? Нельга пісаць «Траецкае прадмесце», трэба пісаць «Троіцкае прадмесце», бо гэта ад Святой Троіцы. Трэба верш перапісаць... Усё!

Малады рэдактар паслухаўся Барадуліна, і верш пра Траецкае выкінуўся з кнігі.

Для мяне Барадулін як рэдактар ніколі не быў пераканаўчым. Верш пра Траецкае я паставіў у наступны зборнік лірыкі «Скрыжаванне».

Цяпер, калі на ўваходзе ў прадмесце зроблена металічная брама, на якой залатымі літарамі напісана слова «ТРАЕЦКАЕ», я, гледзячы на краявід з брамай, часцяком згадваю хуткаслоўнага рэдактара Барадуліна і сваю першую кнігу паэта.

## Нядзведскі і смерць

Рыгор Барадулін пачуў, як мы — зусім зялёныя паэты-пачаткоўцы — смяёмся са смерці старога выдавецкага графамана. Барадулін не стаў казаць добрых слоў пра графамана, ён расказаў, што ў маладосці разам з Караткевічам і Стральцовым таксама пасміхаўся са смерці старых дурняў. Так было, пакуль не памёр Уладзіслаў Нядзведскі.

— Мы працверазелі і зразумелі, што заўтра-пазаўтра прыйдзе і наша чарга выпраўляцца ў лепшы свет. Чаму гэта адбылося менавіта на пахаванні Нядзведскага? Каб жа хто ведаў. Мусіць з-за таго, што мы ўсе з ім шмат пілі і шмат смяяліся над магіламі кепскіх паэтаў. І з вамі здарыцца нешта падобнае, і вас чакае пахаванне свайго Нядзведскага...

Прароцтва Барадуліна ўражвала, бо я выдатна помніў вечна захмялелага паэта Нядзведскага. Ён быў падобны на кінематаграфічнага верхаводу з італа-амерыканскай мафіі, такі сабе Аль-Капонэ. Уладзіславу далося ў знакі цяжкае дзяцінства, якое прайшло ў дзіцячым доме. Ён мог за сябе пастаяць у бойцы, але супраць выпіўкі быў зусім слабы. У нашым літаратурным двары на вуліцы Чарнышэўскага Нядзведскі першы купіў свайму сыну хулахуп. Хлопчык выдатна круціў на таліі вялікі пластыкавы абруч. Двор быў у захапленні. Паэзію Уладзіслава Нядзведскага я, прызнаюся, ведаю кепска, бо ніколі не захапляўся савецкімі газетнымі рыфмаванкамі. Толькі, каб расказаць пра прароцтва Барадуліна пераканаўча, без паэтычнай цытаты не абысціся. Таму я пашукаў і выбраў чатыры радкі з першай кнігі Уладзіслава Язэпавіча Нядзведскага «Вясновыя барозны»:

*Над полем і абалоннем*
*Туман белаваты вісне,*
*Такі, што вазьмі ў далоні —*
*І шклянку вады націснеш...*

Маё пакаленне паэтаў перастала жартаваць і смяяцца над трунамі графаманаў пасля смерці Анатоля Сыса.

## Акутагава

Акутагава заўважыў, што тыя, хто насміхаецца з іншых, пабойваюцца насмешак з сябе. Па-японску жорсткае і дакладнае назіранне. І гумарыст Ніл Гілевіч, гэты напалову Вядзь-

мак Лысагорскі, са сваімі вершыкамі ў «Вожыку», і з’едлівы Янка Брыль з «Ніжнімі Байдунамі», і рагатун-весялун дзядзька Валодзя Караткевіч з карыкатурнымі малюначкамі — усе як адзін баяліся кпінаў і жартаў у свой бок. Яны крыўдзіліся, злаваліся, а часам і помсцілі насмешнікам. Але ёсць сярод беларускіх насмешнікаў і выключэнні... Рыгор Барадулін больш весяліўся, чым злаваўся, калі бачыў карыкатуры на сябе і чуў вострыя словы пра сваю шматаблічную персону.

## Ала

Калі ў паэта знаходзіцца адзін прыхільнік таленту — выдатна. Зразумела, адна пчала мёду не наносіць, і ўсё ж нават адзін прыхільнік кардынальна змяняе сітуацыю. Цяпер паэт не можа сказаць, што ён нікому не патрэбны, што яго ніхто не разумее, што жыццё яго — марная справа.

У паэта Барадуліна было шмат прыхільнікаў, але сярод іх вылучалася Ала. Яна лічыла Барадуліна найвыбітнейшым паэтам свайго часу. Яна арганізоўвала пераклады яго вершаў на англійскую мову. Яна рабіла яго бібліяграфію і думала, што з беларускіх пісьменнікаў Барадулін першым мусіць атрымаць Нобелеўскую прэмію. Нават сустрэчу Барадуліна з рымскім папам Ала дапамагла зрабіць. Можна сказаць, Барадуліну пашанцавала мець сярод прыхільнікаў такую Алу.

Праўда, усіх астатніх яго прыхільнікаў Ала лічыла другаснымі.

— Замінаюць Яму працаваць. Не дагледаюць Яго. Прымушаюць Яго займацца розны-

мі глупствамі! — шмат усяго падобнага я чуў ад Алы.

Кепскае пра свайго куміра жанчына сказала мне толькі аднойчы. Яна сказала гэта, стоячы на Кальварыйскіх могілках:

— Як Ён мог пахавацца на нейкіх вясковых кладах? Такі чалавек — і на вясковых могілках! Кепска. Ён мусіў быць пахаваны ў Мінску, на Кальварыі, тут!

Калі Ала нападала на прыхільнікаў Барадуліна, я маўчаў, а тут, калі зрабіла закід паэту-нябожчыку, я з ёй пагадзіўся.

## Шапкі

Ёсць мужчыны, якія ў пэўным узросце замест прычоскі пачынаюць насіць шапку. Рыгор Барадулін быў з такіх. Дарэчы, берэты і кепкі яму заўжды пасавалі.

## Любімыя заняткі

Барадулін любіў наліваць гарэлку ў чарачкі. Нават калі не піў сам. Нават калі нехта не вельмі і хацеў, каб яму налівалі. Барадулін напаўняў чаркі з непрыхаванай радасцю. Яму падабалася, калі за сталом шмат пілі, гучна спявалі і моцна напіваліся. Мяне Рыгор Барадулін напаіў двойчы. Напаіў да бяспамяцтва і дуроты. Аднойчы ў сябе дома, а другі раз на фэсце ў Дудутках. Каб побач са мною не было знаёмцаў, я не дайшоў бы да свайго ложка. Першы раз я ішоў ад Барадуліна з рэдактарам Дранько, а другі раз мяне вёз на машыне апаратар Андронаў.

Барадулін захапляўся перакладамі. Перакладаў усіх. Перакладаў заўжды. Перакладаў

паўсюль, дзе ездзіў. Мусіць, няма на свеце такой краіны, чыіх паэтаў не перакладаў Барадулін. Ён перакладаў, і яго перакладалі. Мусіць, больш за Барадуліна нікога з беларускіх паэтаў і не перакладалі. Ты мяне перакладзеш, а я цябе паперакладаю. Я вам, а вы нам. Мы ў сябе надрукуем і выдадзім, а вы ў сябе. Барадулін сябраваў з усім светам. Перакладніцкую эстафету Рыгора Барадуліна перахапіў Андрэй Хадановіч. Нават бародка ў Хадановіча часам выглядае ну чыста барадулінскай.

Рыгор Барадулін умеў сябраваць са знакамітымі, выбітнымі і патрэбнымі людзьмі. Ён быў найлепшым паслядоўнікам Петруся Броўкі, калі той лічыўся найпершым з савецкіх беларускіх пісьменнікаў. Ён быў найлепшым сябруком і сабутэльнікам Уладзіміра Караткевіча, калі той стаў папулярным і запатрабаваным. Ён хадзіў у сябрах Васіля Быкава, калі таму далі ўсе савецкія ўзнагароды. Рыгор Барадулін не саромеўся быць другім, быць Санча Панса пры Дон Кіхоце. Ён нават мог пацалаваць руку патрэбнаму чалавеку. Калі Рыгор Барадулін сказаў мне, што я разумны і пацалаваў мне руку, я так расчуліўся і расхваляваўся, ажно не заўважыў, як набраўся самагону.

## Літаратурныя суполкі

Таварыства «Тутэйшыя» Рыгору Барадуліну не падабалася, бо не было ў ім лёгкасці і бадзёрасці, не было дзёрзкасці і тэатральнасці. Барадуліну быў бліжэй рэвалюцыйны і бурапенны «Маладняк», чым паэты-нашаніўцы і празаікі з «Узвышша». З больш позніх

літсуполак Рыгору Барадуліну можна было б уступіць у які «Бум-Бам-Літ». Разам з Валянцінам Акудовічам Рыгор Барадулін выдатна глядзеўся б у рознааблічнай зграі бумбамлітаўцаў. Нават назва паэтычнага зборніка «Нагбом» больш падыходзіць да паэзіі Жыбуля ці Вішнёва, чым да паэзіі філалагічнага пакалення. Зразумела, што Рыгор Барадулін — сын свайго часу і яркі прадстаўнік менавіта філалагічнага пакалення пісьменнікаў, але мне шкада, што бумбамлітаўцы не залічылі яго ў свае стракатыя шэрагі.

## Сапернік

Думаў напісаць пра ворагаў Барадуліна, але паняцце «вораг» страшэнна ёмкае. Назавеш нейкую дробную нікчэмнасць ворагам, а гэтая дрэнь і ўздымецца ў сваіх вачах. Пачне напінацца, пыхаю надзімацца, геройстваваць. Таму абмяжуюся паняццем «сапернік». Асноўным сапернікам Рыгора Барадуліна лічыўся Ніл Гілевіч, якому захацелася застацца ў беларускай літаратуры Ведзьмаком Лысагорскім. Барадулін і Гілевіч усё жыццё бегалі навыперадкі, бегалі за ганарарамі, за дзяржаўнымі прэміямі, за званнямі народных паэтаў. У Барадуліна, як і ў Ніла Гілевіча, было пачуццё гумару, але яно прападала, калі гутарка заходзіла пра Гілевіча. Дарэчы, і ў Ніла Сымонавіча гумар пераходзіў у зласлівы сарказм, калі згадваўся Барадулін:

— Рыгорка — народны паэт? Барадулін — народны? Якога такога народу ён народны?

Сам чуў такое ад Ніла Сымонавіча Гілевіча.

Парадокс маіх адносінаў з Барадуліным і Гілевічам у тым, што творчасць Рыгора Іва-

навіча мне значна бліжэйшая за творчасць Ніла Сымонавіча, якога я паважаю выключна як аднаго з аўтараў «Сказа пра Лысую гару», а вось грамадская дзейнасць Гілевіча мне больш зразумелая за дзейнасць Барадуліна. Рыгор Барадулін заўжды цягнуў на паэтычны алімп шмат другараднага, слабага і маламаленавітага. Ніл Гілевіч не баяўся дапамагаць і здольным людзям, прынамсі, ён дапамог літаратурнаму таварыству «Тутэйшыя» з аматарскага гуртка ператварыцца ў творчы саюз.

## Кніжныя серыі

Узровень пісьменніка правяраецца выхадам яго твораў у серыйным аздабленні. Здараецца, усё зроблена, як і ва ўсіх астатніх творцаў: вокладка, якасць паперы, колькасць старонак, — але нейкая кніга ў серыі прадаецца лепей за астатнія, яна карыстаецца попытам, яна запатрабаваная. Пры знешняй роўнасці яна лепшая за іншыя.

Серыйныя кнігі Рыгора Барадуліна заўсёды вылучаліся ў лепшы бок. Яго зборнік — адзін з найцікавейшых у «Бібліятэцы беларускай паэзіі», і ў «Бібліятэцы “Вожыка”» кнігі Барадуліна з найвесялейшых. Цікава, што «Бібліятэка Свабоды. XXI стагоддзе», якая выдатна пачалася зборнікам «Верш на Свабоду», нічога лепшага за кнігу «Дуліна ад Барадуліна» не выпусціла. Здавалася б, маглі зрабіць кнігу народнага Янкі Брыля ці самабытнага Алеся Разанава (дарэчы, фармулёўку «самабытны паэт Разанаў» я пачуў ад Рыгора Іванавіча), зрэшты добра, што Барадуліна паспелі зрабіць. Разгляданне і перачытванне кніг

Барадуліна ў серыйных вокладках наштурхнула мяне на думку, што яго талент паэта бліжэй да коласаўскага, а не да купалаўскага, як шмат каму падаецца. У Барадуліна коласаўскі гумар, коласаўская заземленасць, коласаўская матэрыялістычная грунтоўнасць. Кніга Барадуліна «Дойны конь» у «Бібліятэцы "Вожыка"» выглядае арганічна і натуральна побач з кнігай Якуба Коласа «Дзядзькаў сведка».

## Рух

Рыгор Барадулін шмат рухаўся. Ён быў рухавы, акрылены і несупынны. Апошні раз я бачыў Барадуліна на вуліцы Кірава. Ён ішоў кароткімі крокамі і ледзь падымаў над зямлёю падэшвы. Яму было цяжка, але ён усё роўна спяшаўся. Я не спяшаўся і вырашыў прайсці пару кварталаў з Барадуліным. Загаварылі пра паэзію, пра вершы Алеся Разанава на нямецкай мове...

— Разанаў пачаў пісаць па-нямецку. Думае здзівіць немцаў сваімі вершамі. Не здзівіць, — у словах Барадуліна чуўся сарказм.

У Рыгора Барадуліна заўжды было шмат гумару, а яшчэ болей іроніі. Ён быў перакананы, што вершы мусяць здзіўляць і весяліць публіку. Нават у сваёй сівабародай старэчасці Рыгор Барадулін насіў клятчастую цёмначырвоную блазнаватую кепку. У той цыркавой кепцы я і бачыў Барадуліна апошні раз.

## Прэміі

Рыгор Барадулін любіў прэміі. Шмат намаганняў ён прыкладаў для іх атрымання. Атрымліваў. Розныя — дробныя і дзяржаўныя.

Лічыў, што варты атрымаць Нобеля за літаратуру. Не ён адзін так лічыў. Яго вылучалі. Яму дапамагалі. Ён верыў у свой кар'ерны поспех... А тут неспадзяванка: на Нобелеўскую прэмію вылучылі праваабаронцу Шурыка Бяляцкага. Яго намінавалі за палітычна-праваабарончую дзейнасць, і ўсё ж... Канкурэнт, бо з Беларусі. Барадулін перастаў з Бяляцкім вітацца. З ім шмат хто перастаў вітацца па розных прычынах, але Барадулін не вітаўся з-за Нобелеўскай прэміі, якую не атрымаў ні ён, ні Бяляцкі. Шкада, што ім не дасталася тая прэмія... Мне шкада.

## Барадулін і адпаведнасці

Барадулін і касцёл. Барадулін і каталіцызм. Барадулін і рэлігійная лірыка... Усё гэта і да гэтага падобнае асабіста мяне моцна дзівіла, а пазней і трохі напружвала. Нашто яму ўсё гэта? Дзеля выгод? Дзеля зручнасці? Дзеля адпаведнасці часу? Дзе быў Барадулін, калі руйнаваліся касцёлы? Там, дзе большасць савецкіх грамадзян...

Барадулін і мядзведзі, Барадулін і Смаргонская акадэмія, Барадулін і дрэсіроўка дзікіх жывёл... Усё гэта і натуральна, і адпавядала прыроднай барадулінскай медзведзяватасці. Паэма пра Смаргонскую акадэмію ў Барадуліна атрымалася добра. Блазнаванне, цыркацтва, арэна, кірмаш, нядзельная весялосць — ягонае... Бясспрэчна.

Да сваёй прыроднай медзведзяватасці Барадуліну карцела дадаць каталіцкай выкшталцонасці. Ён паспрабаваў. Ён напружыўся. Ён паслізнуўся, упаў і зламаў руку на касцёльным ганку.

## Парады

Ёсць людзі, з якімі ў мяне заўжды ўзнікаюць праблемы. Адзін з іх — Рыгор Барадулін. Як сутыкаўся з ім, так і з’яўлялася праблема. Напрыклад, Барадулін даваў параду:

*Ступай па знаёмых,*
*Сябрах,*
*Як па трапу,*
*Угору дзярыся,*
*Упарты, старанны.*
*Дзе трэба, пацісні дагодліва лапу,*
*Зрабіся такім,*
*Хоць прыкладвай да раны.*

Ад такой парады мой твар крывіўся. Адразу было відаць, што не паслухаюся я барадатага Рыгора. Ён бачыў пагардлівую скрыўленасць, але не супыняўся і працягваў вучыць:

*Нічым ты не грэбуй,*
*Як трэба — пад рэбры*
*Давай, каб не змог*
*Твой апомніцца вораг.*
*На новым этапе*
*Ўжо новы патрэбны*
*Дружбак, што расціісне*
*Злаcліўца на твораг.*

Я сыходзіў, бо разумеў: не супыніцца Барадулін з падобнымі парадамі, будзе вучыць і вучыць. Хай сабе вучыць іншых, але не мяне. Абыдуся. Хапала ў мяне настаўнікаў і без Барадуліна.

# БАРАНОЎСКІ

*Словы пра жывапісца Анатоля Бараноўскага*

## Застоллі

У застоллях вельмі важна, хто з кім сядзіць за адным сталом. Не дай ты бог, калі ворагі трапяць на крэслы, што стаяць побач. Яны могуць і пасля першай чаркі сварку з бойкай учыніць. Таму арганізатары банкетаў старанна складаюць спісы запрошаных і па некалькі разоў правяраюць і пераправяраюць, хто з кім патрапіць у застольныя суседзі. Зразумела, што алкаголь моцна змяняе свядомасць — і двое добрых сябрукоў падчас выпіўкі могуць пасварыцца да варажнечы, але гэта не віна арганізатара. Ад такога не застрахуешся. Зрэшты, ёсць людзі, з якімі ў застоллях утульна. Яны шмат не гавораць. Яны ўсміхаюцца. Не лезуць да цябе са сваімі праблемнымі размовамі.

Такім быў і жывапісец Анатоль Бараноўскі. З ім добра балявалася, з ім прыемна сядзе-

лася за святочным сталом, з ім лёгка пілося і смачна елася. Не стану казаць, што я шмат разоў баляваў з Бараноўскім. Не! Але тыя святы, калі я сядзеў з ім побач, помняцца светла. Пра такіх, як Бараноўскі, зазвычай кажуць: дай яму Бог здароўя, добраму чалавеку.

## Паслядоўнікі

Анатоль Бараноўскі выкладаў першакурснікам жывапіс на кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва. Сам ён да манументальнага мастацтва дачынення не меў. Бараноўскі не пісаў фрэсак і сценапісаў, не рабіў вітражоў і мазаік. Ён усё жыццё праз займаўся станковым пейзажным жывапісам. Бараноўскі захапляўся беларускімі краявідамі, маляваў з натуры Браслаўшчыну з яе пагоркамі, азёрамі і духмянымі травамі. Да манументалістаў Бараноўскі патрапіў праз сваё сяброўства з загадчыкам кафедры Вашчанкам. Можна тут не пасаромецца і сказаць, што жывапісны і вытанчаны свет Бараноўскага быў далёкі ад брутальнай і графічнай мовы манументальных пано.

Сярод студэнтаў-манументалістаў у мастака не было прыхільнікаў, і тым больш паслядоўнікаў. Яны ў яго былі на іншых кафедрах. Паслядоўнікі Анатоля Бараноўскага вучыліся на жывапісцаў. Самыя вядомыя з іх — Сулкоўскі і Ткачэнка. Эцюды Бараноўскага, Сулкоўскага і Ткачэнкі былі такімі падобнымі, што нават дасведчаны ў іх творчасці чалавек мог лёгка заблытацца і не пазнаць, дзе чый твор. Паслядоўнікі ў мастацтве — натуральная з’ява. Зазвычай шмат іх у тых мастакоў, хто займае пасады і размяркоўвае зака-

зы на мастацкія вырабы. Такі меркантыльны падыход паслядоўнікаў зразумелы. Вучні дапамагаюць свайму куміру і настаўніку зарабляць на хлеб. У выпадку з Бараноўскім было інакш: паслядоўнікі захапляліся яго тэхнікай і светапоглядам проста з-за любові да чыстага мастацтва. Школу Бараноўскага мастакі жартам называлі «Барбізонцы», была такая групоўка жывапісцаў у Францыі, прадстаўнікі якой яшчэ да імпрэсіяністаў ездзілі ў мястэчка Барбізон пісаць краявіды на паветры. Яны пісалі ў Барбізоне, а нашы «Барбізонцы» старанна пісалі Браслаўшчыну пад кіраўніцтвам Анатоля Бараноўскага.

## Запатрабаванасць

Творы жывапісца Анатоля Бараноўскага былі заўсёды запатрабаванымі. Думаю, што якраз праца на кафедры манументальнага мастацтва паспрыяла той запатрабаванасці. Ёсць у манументалістаў акадэмічнае заданне — карціна ў інтэр'еры. Студэнты спрабуюць напісаць карціну для пэўнага інтэр'ера. Выбіраецца офісны будынак, і ў яго робіцца карціна з адпаведным настроем і зместам. Студэнты рабілі шматфігурныя батальныя карціны, рэдка — партрэты выбітных дзеячаў, краявіды амаль ніхто не рабіў, бо яны аплочваюцца па мінімальнай стаўцы. А вось Анатоль Бараноўскі ўсё жыццё пісаў менавіта краявіды з бярозамі, якія выдатна ўпісваліся ў розныя міністэрскія кабінеты. Сталы намеснікаў і загадчыкаў, галоўных і сакратароў стаялі і стаяць пад сціплымі па колеры і багатымі па фактуры краявідамі Бараноўскага. Таму творчае жыццё жывапісца можна лі-

чыць паспяховым. У яго заўжды былі заказы, якія прыстойна аплочваліся. Выкладчыцкая дзейнасць яго дысцыплінавала. Можна смела казаць, што Бараноўскі пражыў доўгае, добрае і спакойнае жыццё сучаснага дзяржаўнага мастака.

## Жывапісная мова

Карціны Бараноўскага пазнавальныя, бо ён здолеў стварыць адметную жывапісную мову. Палітра трымалася на бялілах. У кожную фарбу на палітры Бараноўскі дадаваў шмат бяліл, таму яго карціны маюць светла-перламутравае адценне. Другім прыёмам Бараноўскага было дадаванне. Ён лічыў, што карціна мусіць насычацца рознымі каляровымі падрабязнасцямі. «Трэба дадаваць, а не аднімаць!» — заклікаў мастак. Дадаванне ператварала паверхню палатна ў каралы, вылепленыя з густой фарбы. Шмат хто з мастакоў выкарыстоўвае фактуры. Рэмбрант рабіў рэльефным святло і гладкімі цені. Руо з дапамогай пастознага жывапісу прымушаў карціну свяціцца на ўзор гатычных вітражоў. Выкарыстоўвалі фактуры і беларускія жывапісцы. Найбольш фактурныя палотны — у Нінэлі Шчаснай і Барыса Аракчэева, але і ў іх фактуры выглядаюць не рукатворнымі, як у Анатоля Бараноўскага, а механістычнымі. Трэці прыём мастака — шматпланавасць. Бараноўскі выбудоўваў на карцінах паветраную перспектыву. Сваім вучням ён заўжды паказваў на працах кантрасты, якіх не павінна быць на аддаленых планах.

Анатоль Бараноўскі нікому не навязваў сваю жывапісную мову. Хочаш працаваць

інакш? Працуй, але працуй у межах, дазволеных інстытуцкімі канонамі. Калі нехта са студэнтаў выходзіў з канонаў, Бараноўскі пачынаў рабіць заўвагі. З-за гэтага нават да сваркі магло дайсці. Так атрымалася і ў мяне, калі я вырашыў напісаць натуршчыцу ў стылі Рэмбранта. Нічога добрага з гатага намеру ў мяне не атрымлівалася. Натуршчыца — чачэнка Іра Камілава — зусім не адпавядала рэмбрантаўскім тыпажам. Анатоль Бараноўскі тактоўна параіў мне напісаць пастаноўку без адсылак да вялікага галандца. Настрой у мяне быў кепскі і без ласкавых заўваг выкладчыка. Я пачаў агрызацца:

— Вы хочаце, каб я напісаў пастаноўку пад Бараноўскага ці пад Вашчанку? Вы думаеце, што вывучэнне Рэмбранта — марная справа? Вы так мне і скажыце: пішы, як усе навокал, пад Вашчанку, і не будзе ў цябе, хлопец, праблем!

Бараноўскі пачырванеў. Ён заўсёды чырванеў, калі злаваўся. Ён відавочна злаваўся, але не казаў мне зняважлівых слоў і не крычаў. Сказаў, што не прымушае мяне пісаць пад Вашчанку і пад Бараноўскага, але раіць улічыць патрабаванні інстытуцкай праграмы.

## Натуршчыца

Студэнты прывозілі з жывапісных практык краявіды. Траплялiся і партрэты. Іх было значна меней. Зазвычай выкладчыкі ўгаворвалі папазіраваць зусім старэнькіх бабуль і дзядкоў. Жыла-была вёска, а ў той вёсцы жылі-былі дзед і баба. Так адным сказам можна апісаць вынікі пленэрных практык за сто пяцьдзясят гадоў.

Анатоль Бараноўскі быў наватарам. Ён выбраў не простую вёску, ён выбраў Слабодку на Браслаўшчыне. Велічныя груды і шырокія азёры пад бязмежным небам. Белы неагатычны касцёл над нізенькімі дамкамі. Сосны. Ядлаўцовыя кусты. Яблыневыя сады. Псіхіятрычная лячэбніца. Хворыя, стрыжаныя пад нуль людзі ў шэрых пыльных халатах. Ахоўнікі ў фуфайках. Уся Браслаўшчына эпічная і манументальная. Жывапісныя практыкі з Бараноўскім былі выразныя, адметныя і запамінальныя. Была ў іх яшчэ адна надзвычайная рэч — натуршчыца. Бараноўскі прывозіў у Слабодку прафесійную натуршчыцу, якая пазіравала на свежым паветры. Акрамя Бараноўскага, я не ведаю выкладчыкаў, якія прывозілі б на практыку прыгожую натуршчыцу, у якую мастак мог нават закахацца.

## Апантанасць

Анатоль Бараноўскі быў захоплены жывапісам. Ён быў апантаным мастаком. Жывапіс — і больш нічога. Так можна сказаць пра жыццё Бараноўскага. Іншыя справы, вядома, былі, але ён іх лічыў другаснымі. Анатоль Бараноўскі ад жывапісу п’янеў, не раўнуючы, як выпівоха хмялее ад віна. Ён пісаў і не мог напісацца. Толькі ад п’яніц у Бараноўскага мелася кардынальнае адрозненне: яго захапленне прыносіла прыбытак, якога хапала на прыстойнае жыццё. Са сваёй апантанасці, страсці, са свайго недахопу Анатоль Бараноўскі змог зрабіць сваю асноўную жыццёвую вартасць. Праўда, пра Бараноўскага нельга сказаць, што ён жывапісец і больш ніхто. Ён любіў займацца жывапісам у кампаніі. Ёсць

людзі, якія не любяць піць і працаваць на адзіноце. Анатоль Бараноўскі з такіх. Яму падабалася пісаць з вучнямі і студэнтамі, ён любіў працаваць з паслядоўнікамі. Вакол Анатоля Бараноўскага збіраліся такія ж апантаныя мастакі, як і ён сам.

## Паветра

У моманты, калі размова набывала для Анатоля Бараноўскага небяспечны характар, ён набіраў поўныя грудзі паветра. Такі сабе паветраны Бараноўскі наліваўся сарамлівай ружовасцю і цяжка ўздыхаў. Ён уздыхаў так змрочна і красамоўна, што ні ў кога і думкі не ўзнікала пра раўнадушша. Усе прысутныя былі перакананыя ў тым, што мастак страшэнна чулы і моцна перажывае за сутнасць вострай гутаркі. Насамрэч за цяжкімі ўздыхамі Бараноўскі проста хаваўся. Так ён адмоўчваўся. Так ён сыходзіў ад удзелу ў баявой палеміцы. Не помню, каб Бараноўскі некага бараніў ці нешта адстойваў. Ён заўжды пагаджаўся з начальствам, а ў крытычныя хвіліны напампоўваў сябе паветрам, каб уздыхнуць так цяжка, нібыта мы ўсе прысутнічаем на пахаванні.

## Матэрыялы

Не бачыў Анатоля Бараноўскага з алоўкам, як не бачыў, каб ён пісаў акварэлі ці гуашы. Звычайна мастакі выкарыстоўваюць самыя розныя тэхнікі. Шукаюць матэрыялы, адпаведныя сабе і вобразам, якія трэба ўвасобіць. Таму ў большасці альбомаў, прысвечаных таму ці іншаму жывапісцу, заўсёды знаходзіц-

ца месца для малюнкаў алоўкам і тушшу, для акварэляў і гуашаў. Не кажучы ўжо пра больш складаныя тэхнікі графікі — афорт і лінарыт — ці манументальныя тэхнікі — мазаіку, сграфіта, вітраж. Нават жывапіс на палатне можна выканаць тэмперай, акварэллю, акрылам...

Жывапісец Бараноўскі быў верны традыцыйнаму алейнаму жывапісу на льняным палатне. Ён так любіў алейныя фарбы, што кожны квадратны сантыметр на яго карцінах быў нагружаны гэтымі фарбамі напоўніцу. Таму і ў альбомах па беларускім мастацтве Анатоль Бараноўскі паказаны адно карцінамі, напісанымі алеем. Вялікі паэт Басё казаў сваім вучням, якія спрабавалі навучыцца пісаць лірыку: «Хоку, і ніякіх іншых думак!»

Нешта падобнае і ў Бараноўскага: алейныя фарбы на палатне, і ніякіх іншых тэхнік.

## Фокусы

У прафесійным асяроддзі можна мець і вельмі спецыфічную славу. У Анатоля Бараноўскага была вядомасць майстра, які мог спакойна адкруціць самы прысохлы корак на бутэлечцы з лакам. Калі такая бутэлечка трапляла ў рукі да Бараноўскага, яна рабілася паслухмянай. Пстрык — корак у правай руцэ, а бутэлька ў левай. Як у фокусніка. Як у чараўніка. Неверагодна. Тое самае і з каўпачкамі на цюбіках. Здаецца, без абцугоў не абысціся. Можна замест іх выкарыстаць зубы. Але выкладчык жывапісу Анатоль Бараноўскі страшэнна не любіў, калі нехта з яго студэнтаў зубамі адкручваў каўпачкі на цюбіках.

— Дай сюды! — казаў Анатоль і забіраў непаслухмяную рэч.

Шчоўк — цюбік адкрыты, і можна выціскаць фарбу на палітру, і можна казаць выкладчыку дзякуй, і можна пачынаць працаваць.

# СТРАЛЬЦОЎ

*Словы пра пісьменніка Міхася Стральцова*

### Ілюзіі

У большасці людзей, хто першы раз сутыкаўся з пісьменнікам Міхасём Стральцовым, узнікала ілюзія, што яны бачаць зусім простага чалавека. Такога сабе прасцячка, якога вельмі лёгка зразумець і зусім не складана падмануць. Нешта падобнае адбываецца і з чытачамі стральцоўскай літаратурнай спадчыны. Наіўным чытачам падаецца, што ў лірычных тэкстах Стральцова ўсё навідавоку, усё зразумела з першага прачытання і нішто не вымагае ўважлівага шматразовага перачытвання. Гэтыя дзве ілюзіі хутка разбураюцца.

Стральцоў быў нэндзай, за яго ўсмешлівасцю і ветлівасцю часта ішлі ныццё і бурчанне. У побыце Міхась Стральцоў быў цяжкім і наравістым. Што да яго тэкстаў, дык усе яны шматпланавыя, напоўненыя таямніцамі і вы-

магаюць напругі для разумення. Вось чаму вакол Стральцова было шмат самападманутых і шмат тых, хто хутка расчароўваўся ў пісьменніку. Як на мой розум, гэтыя расчараванні — доказ вялікага стральцоўскага літаратурнага таленту.

## Чурлёніс

Ёсць шмат згадак пра тое, як у часы майго дзяцінства суседзі хадзілі адзін да аднаго «на тэлевізар». У больш багатых кватэрах гэтыя прыборы з'явіліся крыху раней, і ўладальнікі першых тэлевізараў не адмаўлялі сваякам і суседзям у радасці паглядзець вечарам кіно ці спартыўныя спаборніцтвы. Паходы «на тэлевізар» былі гэткай жа нормай, як і разгляданне чужых бібліятэк з просьбай: «Можна я гэтую кнігу вазьму пачытаць?» Адмовіць гледачам тэлевізара і чытачам кніжак было няёмка, бо падобныя адмовы лічыліся дурнымі мяшчанскімі паводзінамі.

Існавалі і выключэнні... Альбомы з рэпрадукцыямі карцін гаспадары не давалі выносіць з кватэры, але дазвалялі іх разглядаць: гэта нейкім чынам прыраўноўвалася да прагляду тэлевізара. У нашым пад'ездзе самы цікавы альбом быў у дзядзькі Мішы Стральцова. Вялікая папка з творамі Мікалая Чурлёніса мяне вабіла. Асабліва падабаўся стралец з лука, які стаяў на гары пад зялёным зорным небам. Кароль з невялікім сонцам у руках мяне таксама радаваў. Карціны Чурлёніса я разглядаў разам з дочкамі Стральцова, Вікай ды Нікай. Мы выдумлялі сабе і нейкія казкі пра герояў карцін Чурлёніса. Змест іх я ўжо не прыгадаю, але сам казачны настрой помніцца дагэтуль.

## Кніга

Бывае, што ў адной кнізе шмат чаго важнага супадзе, праявіцца і пазначыцца. Так было з першай кнігай Міхася Стральцова «Блакітны вецер». На першы погляд — звычайная брашурка з досыць сціплым аздабленнем. Прыглядаешся — і бачыш: густоўная вокладка выканана таленавітым кніжным графікам Барысам Заборавым. Пачынаеш чытаць тэксты, а яны ўсе як адзін выдатныя. Назвы апавяданняў лаканічныя і класічныя: «Дома», «Мацеевы дровы», «Восеньскі ўспамін», «Блакітны вецер», «Двое ў лесе», «Суседзі», «Перад дарогай». Меладычная і празрыстая проза Міхася Стральцова не толькі напісана геніяльнай рукою, але і адрэдагавана рукой дасціпнага і ўважлівага да дэталяў рэдактара — Вячаслава Адамчыка, майго таты. Яшчэ ў першай кнізе Стральцова важная дата яе выхаду ў свет — 1962 год. У той час аслабла імперская цэнзура і шмат хто паспеў сказаць, напісаць і надрукаваць праўдзівыя словы. Такіх узорных кніжак, як «Блакітны вецер», у нашай літаратуры мала. Іх і не можа быць шмат, гэта першыя кнігі нашых класікаў.

## Пеньюар

Быў час, калі пісьменнікі з пакалення майго таты сябравалі. Цяжка паверыць, але я сведка таго, што Чыгрынаў, Сачанка, Пташнікаў, Караткевіч, Быкаў, Дамашэвіч, Адамчык, Кудравец, Стральцоў, Наўроцкі сябравалі.

Іван Чыгрынаў часта рабіўся аб'ектам розыгрышаў, кпінаў і жартаў. З Чыгрынава было прыемна жартаваць, бо ён заўсёды бурна рэа-

гаваў. Можна было па некалькі разоў паўтараць адзін і той жа прыкол і атрымліваць чыгрынаўскі крык абурэння. Усе ў студэнцкім інтэрнаце ведалі, што ложак у Чыгрынава прадаўлены. Каб спаць на ім, Іван засоўваў пад расцягнутую сетку ложка свой вялікі дыктавы чамадан. Уласна кажучы, на чамадане і спаў студэнт Чыгрынаў. Раз на месяц нехта з суседзяў па пакоі Івана (а іх было блізу дзесяці) выцягваў з-пад ложка чамадан. Іван сядаў на свой ложак і правальваўся да падлогі. Тут і пачынаўся бясплатны канцэрт з абяцаннямі ўсіх пазатоптваць, пазабіваць і павыкідаць на сметнік.

Жарт з чамаданам быў прымітыўным, а вось розыгрыш з пеньюарам — вытанчаным і шматхадовым. Неяк жонка Міхася Стральцова набыла сабе напаўпразрысты чырвоны пеньюар. Пад яго Галіна апранула чорны станік і чорныя майткі. Абулася яна ў чырвоныя туфлікі на высокіх шпільках. Усе былі ў захапленні ад спакушальнага выгляду Галіны Стральцовай. Нехта (ці не Караткевіч?) сказаў, што Люда Чыгрынава паехала з дзецьмі на вёску, Іван сядзіць дома адзін, таму яго можна разыграць. Пачалося хуткае прыдумлянне сцэнарыя...

Галя ў напаўпразрыстым пеньюары прыйшла да самотнага Івана і сказала, што Мішэль пабіў, абразіў і выгнаў яе з дому: яна набыла для мужа гэты шыкоўны пеньюар, а ён, стыляга і бабнік, выгнаў адданую жонку з дому. Расчулены Чыгрынаў пачаў шчыра шкадаваць Галю і накрываць па-святочнаму на стол. Калі стол быў накрыты, Стральцова падышла да акна і запрашальна махнула рукою. Праз хвіліну ў кватэры зніякавелага Вані Чыгрынава ўжо смяяліся сябры: Валодзя Карат-

кевіч, Мішэль Стральцоў, Чэсь Адамчык і Ніна Глобус. Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў роў, абяцаў усіх пазатоптваць, пазабіваць і павыкідаць на сметнік разам з пеньюарам.

## Багдановіч

Міхась Стральцоў у кнізе «Загадка Багдановіча» развіжае пра паэзію класікаў беларускай літаратуры, і ў яго атрымліваецца апісаць узаемаадносіны беларускага з агульначалавечым. Пэўна, у эсэ Стральцова самае каштоўнае — агульналюдское, якога заўсёды не стае размежаванаму і паразрыванаму на кавалкі свету.

## П'янства

Міхася Стральцова ўсе любілі. Было зроблена ўсё, каб ён стаў прызнаным пісьменнікам. Ён стаў ім і... спіўся. Часам я думаю, што Стральцоў спіўся ад шчасця.

## Лячэбна-працоўны прафілакторый — ЛПП

У Барыса Сачанкі ёсць успамін пра Міхася Стральцова «Конь гуляў на волі...» Там апісваецца, як Стральцоў патрапіў у ЛПП і выйшаў з яго:

«Новая яго жонка доўга неваждалася з Міхасём. Як толькі атрымала кватэру, здала яго ў ЛПП.

Я тады працаваў ужо ў Саюзе пісьменнікаў. І шчыра, па-чалавечы хацеў дапамагчы Міхасю — выпусціць з ЛПП як найхутчэй. Дзеля гэтага патрэбна была заява ад таго, хто прасіў туды забраць. Выклікалі жонку, папрасілі на-

пісаць такую заяву. Але яна адмовілася гэта зрабіць. Тады мы паслалі ў ЛПП кагосьці з нашых пісьменнікаў, здаецца, Л. Прокшу, ён дамовіўся з начальствам, каб Міхася перавялі на лягчэйшую працу (яго прызначылі бібліятэкарам), а потым праз нейкі час дамагліся, каб і зусім выпусцілі».

Ні са Стральцовым, ні з Сачанкам я ніколі не гаварыў пра ЛПП — турму для хворых на алкагалізм. З іншымі гаварыў шматразова, а з імі — ніколі.

Перад тым як патрапіць у ЛПП, дзядзька Міша спіўся так, што яго нават цяжка было пазнаць. Многія і не пазнавалі. Аднойчы ён пазваніў да нас у дзверы, я адчыніў. Ён папрасіў паклікаць бацьку ці маці. Я гукнуў тату. Пазней спытаў у яго: «Хто гэта да нас заходзіў?» Тата сказаў, што гэта Стральцоў прасіў на бутэльку. Я страшэнна захваляваўся, бо ў змораным і худым чалавеку не пазнаў дзядзьку Мішу. Не пазнаў, бо ён выглядаў не проста іншым, ён нібыта нават стаў ніжэйшым за сябе ранейшага сантыметраў на дзесяць.

Калі я пачуў, што Стральцоў у ЛПП, не здзівіўся.

Жыццё падобнай установы я назіраў зблізку ў Слабодцы, што пад Браславам. Чалавеку, які туды трапляе, амаль немагчыма дапамагчы. Ён трывае цяжар зняволення, а ты мусіш змірыцца з яго адсутнасцю. Тое, што дзядзька Міша там пакутаваў, зразумела. Шмат хто спрабаваў яму дапамагчы і дапамагаў, гэта вядома. На мой розум, шмат што з той дапамогі толькі ўскладняла бытаванне паэта ў ЛПП.

Крыху суцяшала тое, што Стральцоў дасылаў у Мінск вершы і ў штотыднёвіку «ЛіМ» можна было прачытаць:

*Шматок паперы, карандаш,*
*Яшчэ — цыгарка.*
*Вось гэты дзень — ён будзе наш,*
*Навошта сварка?*

## Начытанасць

Не адзін раз Стральцоў выказваў сваё здзіўленне начытанасцю графаманаў... «Сам не можа просты верш скласці, а разважае пра літаратуру так, нібыта збор твораў выдаў. І гэта ён прачытаў, і тое ён ведае, і гэткае ён прагартаў. Дзіву даешся...» Мяне начытанасць графаманаў здзіўляла значна меней. Міхась Стральцоў усё жыццё прапрацаваў у рэдакцыях, дзе за ворага лічыўся нахабны графаман. Таму нават глыбокія веды пра літаратуру не ўратоўвалі такіх пісак ад жорсткай стральцоўскай крытыкі.

Мяне графаманы не раздражнялі, як не раздражнялі і начытаныя людзі. З дзяцінства я сядзеў у маміных бібліятэках, напоўненых самымі рознымі чытачамі. Найбольш начытанымі з тых, каго ведаў я, былі школьныя настаўнікі. Яны разважалі пра паэзію і прозу так, нібыта ўчора елі дранікі разам з Купалам і Коласам, а Багдановіч з Багушэвічам ім тыя дранікі падносілі на срэбных сподках. Калі школьны настаўнік загаворвае са мной пра Кальдэрона ці Фогельвайдэ, я адразу згадваю Міхася Стральцова з яго буркатлівым абурэннем начытанасцю — і на душы цяплее.

## Акудовіч

Працуючы ў часопісе «Нёман», Стральцоў не аднойчы друкаваў там матэрыялы, на-

пісаныя маладым Валянцінам Акудовічам. Той вярнуўся з Масквы і шукаў у Мінску працу ды заробкі. Стральцоў даведаўся, што ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» вызваляецца месца загадчыка аддзела крытыкі. На пасяджэнні ў Саюзе пісьменнікаў Міхась Стральцоў прапанаваў узяць у «ЛіМ» Валянціна. Не ўзялі, бо Янка Брыль выступіў за тое, каб у «ЛіМе» крытыкай загадвалі беларусы, а не яўрэі. Зразумела, што ўсе мы галасуем абедзвюма рукамі за разумных і за беларусаў, толькі не такім чынам, як гэта зрабіў Брыль, паставіўшы Стральцова і ўсіх тых, хто спрабаваў дапамагчы Акудовічу, у малапрыемнае, мякка кажучы, становішча. Стральцоў заперажываў. Выглядала, нібыта заперажываў значна больш за Акудовіча.

## Непераборлівасць

Міхась Стральцоў быў непераборлівым у сяброўстве. Вакол яго заўсёды круціліся нейкія ліслівыя Рыгоркі ды зайздрослівыя Лявоны. Яны яму налівалі лішні куфель піва. Яны яму і падносілі тую чарачку, што абавязкова зашкодзіць. Яны прасілі правіць і перапісваць свае графаманскія вершы. Яны выдурвалі ў яго розныя рэкамендацыі, заступніцтвы, гешэфты. Міхась перапісваў графаманію, правіў бяздарныя рукапісы, перакладаў дзеля заробку. Ліслiўцы і зайздроснікі абдурвалі і падманвалі Стральцова. Абяцалі вялікія ганарары, а плацілі майстру, як пачаткоўцу. Казалі пра ўзнагароды ды прэміі, а медалі ды ордэны вешалі на грудзі іншых, нібыта больш вартых людзей. Стральцоў незадаволена бурчэў і наконт малых ганарараў, і наконт графаманаў,

і наконт чужых прэмій. Ён бурчэў, але так да канца жыцця і застаўся непераборлівым у сяброўствах ды мяккім у чалавечых узаемаадносінах.

Ці былі ў Міхася Стральцова сапраўдныя сябры? Мусіць, не было. Прыхільнікі яго літаратурнага таленту былі. Такіх не шмат, але яны былі і ёсць. Моднасці сярод чытачоў Стральцоў ніколі не меў. Нават такой беларускай моднасці, якую спазналі Наўроцкі ці Караткевіч. Усё вакол Стральцова было досыць сціплым, нават зайздроснікі і лісліўцы былі невялікія.

## Партрэт

Малады журналіст Сяргей Дубавец пайшоў працаваць у рускамоўны часопіс «Нёман» пад кіраўніцтва Анатоля Кудраўца. Сяргея ўзялі ў аддзел крытыкі, дзе некалі працаваў Міхась Стральцоў. Дубавец, седзячы якраз пад партрэтам Стральцова, заказаў мне эсэ. Я напісаў тэкст пра куміраў, пра тое, як, хто і нашто іх сабе стварае. Дубаўцу эсэ спадабалася, але яно не глянулася намесніку Кудраўца — Генадзю Бубнаву. Сяргей заказаў мне яшчэ адно эсэ пра беларускіх авангардыстаў 60-х, 70-х і 80-х гадоў. Я напісаў «Беларускі авангард»: пра Караткевіча, Стральцова і Семашкевіча, пра Заборава, Паўлоўскага і Хацкевіча. Змагар з Карлам Марксам Генадзь Бубнаў і авангардыстаў не прапусціў. Дубавец угаварыў мяне зрабіць трэцюю спробу і напісаць пра беларускіх ар'ергардыстаў у манументальным мастацтве. Я напісаў пра халтуршчыкаў, што малявалі і ляпілі Леніна. Ар'ергардысты зусім не спадабаліся пільнаму Бубнаву.

Так бывае, што ў нейкай рэдакцыі цябе не вельмі любяць. Гэта нармальна. Проста не трэба было рабіць тры спробы, каб перaскочыць антымарксіста Бубнава. З падобных рэдакцый варта сыходзіць пасля першай адмовы. Я і сышоў бы, каб не фотапартрэт Міхася Стральцова; цяпер я перакананы, што гэтыя тры эсэ я напісаў для яго.

## Літаратуразнаўчыя лішкі

Здараецца, што надыходзіць час, калі архітэктура пазбаўляецца ад лішкаў. З пыхлівага ампіру аблятаюць капітэлі, сандрыкі і пінаклі. Агаляецца і радуе вока чыстая і функцыянальная канструкцыя. У часы суровага стылю, на які прыпала маладосць Міхася Стральцова, так і здарылася. У свеце запанавалі простасць і светласць. Зараз зноў канструкцыі і формы аздабляюцца малапатрэбнымі і малапрыгожымі лішкамі. Кнігі ў гэтых працэсах не з'яўляюцца выключэннем.

Новы том Стральцова ў серыі «Беларускі кнігазбор» аблямаваны літаратуразнаўчымі лішкамі. Ёсць у кнізе прадмова Анатоля Сідарэвіча, з якой больш новага даведваешся пра Сідарэвіча, чым пра класіка Стральцова. Ёсць каментары Міхася Скоблы, у якіх можна дазнацца, што Марк Твэн — англійскі пісьменнік. Ён і сапраўды пісаў па-англійску і можа залічвацца ў пісьменнікі англійскія. Толькі Скобла англамоўнага Стывенсана чамусьці залічвае ў шэрагі шатландскіх пісьменнікаў.

Каб лішкі, напісаныя Сідарэвічам і Скоблам, былі найгоршымі ў новым зборніку Стральцова, я і не засмучаўся б. Ці мала хто пра каго

піша і друкуе пустых і недакладных слоў! Самае дрэннае ў кнізе Стральцова — падборка лістоў. Калі ў прозе і вершах, змешчаных у томе, Міхась Стральцоў геніяльны, дык у лістах ён прагматычны, сухі і не зусім шчыры. Нават злосць, выказаная пісьменнікам у лістах, не выглядае пераканаўча.

«Вунь бабы, Іпатава і іншыя, гвалтам з нашых празаікаў порткі ірвуць і падэшвы здзіраюць, а на якога-небудзь Брыля дык ужо нават і не зважаюць: і для пасцелі, маўляў, ужо стары, і пісаць не ўмее, і на хвалу скупы. А папускацца бабам, бадай, не трэба: мала ім таўчы нас у жыцці, дык яшчэ і ў літаратуры», — чытаеш падобнае і не пазнаеш Стральцова. Вядома, я не сумняваюся, што ён такое мог сказаць і напісаць, але ці трэба падобнае ставіць у кнігу з падзагалоўкам «Выбраныя творы»? Зрэшты, які ўкладальнік — такое і выбранае.

## Выпіўка

Ёсць людзі, з якімі хочацца выпіць, а ёсць і такія, з якімі выпіць трэба. З кім я толькі не выпіваў!.. Шмат выпіваў, але піць па-чалавечы так і не навучыўся... Злоўжываў. Перабіраў. Напіваўся. Самога сябе не любіў за нястрыманасць у п'янстве. Кідаў піць і кінуў. Згадваючы сваё п'янства, цяпер шкадую, што не выпіў з Міхасём Стральцовым. Калі ён прапаноўваў, я адмаўляўся. Калі мне хацелася прапанаваць чарку яму, Стральцоў ужо завязаў. Нашы п'яныя часы не супалі. Можа, яно і добра, што з Міхасём Стральцовым я ніколі нічога не выпіў мацнейшага за гарачую гарбату. Усе нашы размовы былі крыштальна цвярозымі.

## Вальтэр

Разглядаў фотаздымкі і маляваў партрэт Міхася Стральцова. На паперы вымалявалася вальтэраўская саркастычная ўсмешка. На твары Міхася я шмат разоў бачыў іранічную стыльную парыжскую ўсмешку, але стральцоўскі сарказм я пабачыў толькі з вялікай трыццацігадовай адлегласці.

## Быкаў

Нельга адначасова любіць творчасць Міхася Стральцова і Васіля Быкава. Можна быць аднолькава раўнадушным да іх літаратурнай спадчыны, гэта цалкам магчыма. Можна імітаваць роўнае стаўленне да абодвух, такое таксама рэальна; але любіць і захапляцца можна толькі адным з іх. Мілітарызм Быкава і асацыяльнасць Стральцова — рэчы несумяшчальныя. Кантрасны, плакатны, дзяржаўны Быкаў і вытанчаны, самотны, жывапісны Стральцоў знаходзяцца на розных літаратурных кантынентах. Калі ты на кантыненце разам з Міхасём Стральцовым, дык паміж вамі і Васілём Быкавым ляжыць акіян. Так што або твой Быкаў і мой Стральцоў, або наадварот; або-або — і трэцяга няма.

## Стральцоў і Сыс

Лукашэнка ў чарговы раз сустрэўся з тутэйшымі пісьменнікамі і калялітаратурнымі дзеячамі. Зноў вялася гутарка пра нашу беларускую і мясцовую рускую літаратуру. З матэрыялаў, што я прачытаў пра гэты эпізод у жыцці літаратурнай Беларусі, стала зразу-

мелым: кананізацыя творчасці Быкава і Караткевіча завершана. Цяпер надыходзіць час дадаваць новых класікаў у беларускі літаратурны пантэон. На ролю найноўшых класікаў найбольш падыходзяць Міхась Стральцоў і Анатоль Сыс. У іх паводзінах заўсёды была такая актуальная сягоння антыдзяржаўнасць.

## Ратаванне

У часы роспачы мяне ратавала легкакрылая проза Стральцова... Ратаваць ратавала, але ніколі не натхняла так, як дзённік Сэй Сёнагон ці занатоўкі Брыля.

## Наступнікі

Некалькі разоў, бачачы, што творчасцю Міхася Стральцова зацікавіліся маладзейшыя за мяне літаратары, я з радасцю казаў: «Вось і ўсё! Вось і не трэба мне займацца Стральцовым. Ёсць каму займацца і без мяне...» Праходзіў час, я вяртаўся да спадчыны Міхася Стральцова, яна зноўку прыцягвала мяне...

# MARA

*Словы пра мастака Аляксея Марачкіна — Алеся Мару*

## Палітон

У мастакоўскім асяроддзі Аляксей Марачкін стаў знакамітым у сярэдзіне 70-х. Ён насіў чорныя вусы, хадзіў у доўгім чорным палітоне і капелюшы. Першы раз я пабачыў Марачкіна ў калідоры мастацкага вучылішча. Ён падаўся мне веліканам. Я пацікавіўся, хто гэты велікан у чорным капелюшы і да каго з нашых ён прыходзіў. Валодзя Ісачанка сказаў, што гэта мастак Марачкін, які прыходзіў да Валодзі Гладкевіча, бо яны абодва з Жодзіна.

Карціны Марачкіна я ўжо ведаў на той момант, і таму так яскрава запомнілася першае ўражанне ад постаці выбітнага мастака, які крочыў шырокай хадою праз цемнаваты калідор. Фалды незашпіленага палітона былі падобныя на вялікія крылы, якія мусяць праз імгненне разгарнуцца і выправіцца ў палёт.

## Жодзіна

Адзін час Марачкін лічыўся найвялікшым мастаком у Жодзіна. Быў у яго жодзінскі перыяд. У некага ёсць віленскі перыяд, у некага парыжскі этап, а ў Марачкіна быў плённы творчы час, злітаваны з індустрыяльным Жодзіна. Ён зрабіў сабе майстэрню ў падвале. Туды збіраліся зусім маладыя мастакі. Збольшага гэта былі студэнты. Бачыў я там Сярмяжку, Ступакова, Сіўчыкава, Гладкевіча... На сцяне ў той цемнаватай майстэрні я пабачыў густоўны партрэт — «Бабка Марыля». Музейны твор вісеў у жодзінскім падвале. Гэта ўражвала. Там шмат усяго featuring рознага вісела і стаяла, але запомнілася «Бабка Марыля». Акрамя партрэта помняцца размовы вучняў Марачкіна, якія пасміхаліся з Марачкіна-малодшага — Ігара і казалі, што з яго не атрымаецца добрага мастака. Ён, маўляў, стараецца, і бацька яго прымушае маляваць, але мастака з яго не выйдзе. Шкада, што з тых жодзінскіх таленавітых і вясёлых пачаткоўцаў, якія кпілі з Марачкіна-малодшага, не атрымалася ніякіх мастакоў: ні кепскіх, ні пасрэдных, ні добрых. З тых жодзінскіх вучняў Марачкіна мне найбольш шкада Ступакова — майстравітага малявальшчыка — і Сярмяжку — вытанчанага жывапісца. Дарэчы, з Ігара мастак атрымаўся...

## Марачкін і Маркавец

У мастацтве і літаратуры шмат артыстычных пар. Калі казаць пра беларускую традыцыю, дык Колас і Купала — наша асноўная творчая пара. Яны бацькі-заснавальнікі бе-

ларускай культуры і нацыі, нашай самастойнасці і незалежнасці. У немцаў падобная пара таксама складаецца з паэтаў, у іх гэта Гётэ і Шылер. Першыя рускія пары больш празаічная — Пушкін і Гогаль, пазней — Талстой і Дастаеўскі, але ў сваім срэбным стагоддзі руская культурная традыцыя зноў вярнулася да паэтычнасці і атрымала Маякоўскага з Ясеніным. Цікава тое, што Ясенін сябраваў не з Маякоўскім, а з Марыенгофам. Яны нават спалі ў адным ложку, але не сталі артыстычнай парай. Так што не ўсе тыя артысты, якія спяць у адным ложку, з'яўляюцца артыстычнай парай. Для стварэння і замацавання паэтычнай пары патрэбны непараўнальныя творцы, якія будуць нагадваць непараўнальныя рэчы: такія як неба і зямля, як агонь і вада, як чорнае і белае, як лета і зіма... Такія рэчы не могуць існаваць адна без другой.

У мастацтве падобныя пары, можа, і не такія значныя, як у літаратуры, але і яны не менш каштоўныя. Пара Ван Гог і Гаген, пэўна ж, самая знакамітая. А Сёра і Сіньяк сваім маціцовым пуантылізмам больш як стагоддзе зачароўваюць аматараў жывапісу. У жывапісца Аляксея Марачкіна гэтаксама ёсць парны творца — Віктар Маркавец. Яны прыйшлі ў беларускае мастацтва разам. Там, дзе быў Марачкін, быў і Маркавец. Маладасведчаныя гледачы нават блыталі Маркаўца з Марачкіным, як малаадукаваныя людзі блытаюць Коласа і Купалу. Маркавец быў спакойны, як зямля, а Марачкін рухомы і дынамічны, як навальнічнае неба. Маркавец быў жывапісцам светлай раніцы, а Марачкін — шарай гадзіны і глыбокай ночы. Здавалася, што Віктар Маркавец будзе жыць доўга-доўга і на шмат га-

доў перажыве свайго асноўнага паплечніка. Толькі лёс быў жорсткі да Маркаўца, ён захварэў на рак і памёр, пакінуўшы Аляксея Марачкіна ў творчай адзіноце.

## Хуткаплыннасць

Для мяне Марачкін належыць да тых мастакоў, на творчасці якіх я старанна вучыўся. Я не проста разглядаў на выставах яго новыя карціны, яны натхнялі на пераймание. Страшэнна хацелася напісаць палотны, падобныя да «Нацюрморта з дранікамі», да «Мары пра палёт. Партрэт сына», да «Арэлі. Успамін аб маёй вёсцы», да «Алена з Прошчыцаў», да «Касі, каса, пакуль раса», да экспрэсіўнага твора «Дарога»... Нешта падобнае я і спрабаваў рабіць на апошніх курсах мастацкага вучылішча. У карцінах Марачкіна мне яшчэ падабалася іх антытэхналагічнасць. Неўзабаве яны проста мусілі змяніцца і паразвальвацца. Гэта як малюнкі на пяску ці на снезе, як скульптуры з лёду. Яны радуюць яшчэ і тым, што хутка зменяцца, знікнуць, забудуцца. Нешта падобнае я адчуваў каля палотнаў Марачкіна. Калі казаць проста, у іх была ўвасоблена хуткаплыннасць жыцця.

## Сухія кветкі

На першых этапах акадэмічнай адукацыі мастакі пішуць і малююць шмат нацюрмортаў. Гіпсавыя яблыкі і гіпсавыя конусы, парафінавыя грушы і чэрствыя абаранкі, пудзілы качак і выцвілыя анучы, запыленыя маскі і пустыя бутэлькі складаюць класічны нацюрмортны фонд у мастацкіх школах. На-

вучэнцы спрабуюць намаляваць пудзіла пеўня так, каб ён як мага больш нагадваў жывую птушку. Парафінавая садавіна і гародніна пішацца сакавітымі фарбамі, пішацца ярка, каб яе хацелася пакаштаваць і з’есці.

— Жывапіс павінен быць смачным! — кажа настаўнік. — Малюнкі павінны быць жывымі! — дадае ён. — На кончыку пэндзля ў вас не фарба, а само жыццё!

І здаецца, што так будзе заўжды. Усе мастакі будуць спрабаваць ажыўляць мёртвую натуру.

Высветлілася, што не ўсе. Мастак Марачкін пайшоў у адваротным кірунку. Усе кветкі на яго палотнах прывялыя і сухія. Усе пташкі на яго карцінах падобныя на пудзілы. Усе дранікі пачарнелыя. Увесь часнок пажоўк. Бульба падгарэла. Папера пакамячылася. Жалеза пакрылася ржою. Здаецца, што карціны Марачкіна павінны стаць мярцвейшымі за мёртвае, а яны выглядаюць жывымі, бо ў мастака ёсць талент ажыўляць рэчы.

## Сыс

Марачкін добра ставіўся да паэта Анатоля Сыса. Наогул, Марачкін — чалавек добры, а таму вакол яго заўжды круцілася і круціцца шмат людзей, большасць з іх малаталенавітыя і маласумленныя. Так заўжды бывае: калі чалавек вядомы мае яшчэ і добрае сэрца, дык за ім цугам ходзяць лісліўцы, папрашайкі ды эпігоны. Злы адразу скажа няздарам, каб яны не заміналі дыхаць, жыць і працаваць. Добры будзе трываць чужую недасканаласць, нахабства і назалянне.

У апошнія гады свайго жыцця паэт Анатоль Сыс быў цяжкім чалавекам. Піў, плакаў,

крычаў, сварыўся, істэрыкі закочваў... Мала хто мог доўга вытрымліваць каля сябе такога вечна п'янага хама і генія ў адной неахайнай упакоўцы. Марачкін не толькі трываў Сыса, ён яго паважаў і дапамагаў паэту.

Марачкін зрабіў вокладку апошняй прыжыццёвай кнігі Анатоля. На першы погляд, нічога велічнага і адметнага ў той стрыманай вокладцы і няма. Два фота Анатоля ў профіль. Паэт углядаецца сам у сябе. Звычайны шрыфт. Але ж гэта апошняя прыжыццёвая кніга вялікага беларускага паэта, а таму каштоўнасць яе вокладкі неацэнная. Можа, нехта яшчэ і не зразумеў значнасці гэтага твора Алеся Марачкіна, але я ўпэўнены, што ён з самага добрага і анталагічнага, што стварыў мастак.

## Алексіевіч

Мастак Марачкін напісаў партрэт шырока вядомай літаратаркі Святланы Алексіевіч. Можна сказаць, што партрэт атрымаўся карыкатурны. Апошнім часам нікога не здзівіш карыкатурамі, якія выконваюцца дарагімі алейнымі фарбамі на льняным палатне. Элементы карыкатурнасці ёсць у палотнах Руслана Вашкевіча, Валянціна Губарава і Вячаслава Валынца. На жаль, жывапісная карыкатура Марачкіна атрымалася не дастаткова смешнай і не дастаткова злоснай. Савецкасць і рускамоўнасць Святланы Алексіевіч — рэчы, даўно вядомыя. Алексіевіч — руская савецкая пісьменніца. Нічога камічнага ў гэтым факце няма. Марачкін менавіта з гэтых азначэнняў і спрабаваў пакпіць з яе, а таму зрабіў няўдалы партрэт.

Яшчэ адна кепская дэталь у яго карціне — малападобнасць. Мастак прыхарашыў карыкатуру, намаляваў гераіне вялікія мультыплікацыйныя вочы, такія звычайна малююцца ў японскіх коміксах манга. Мастака можна зразумець, ён жа працуе ў адным доме са Святланай. Ён будзе сустракацца з ёй у двары. Пэўна, і вітацца з ёю давядзецца. Таму партрэт маляваўся так, каб спадарыня Святлана не моцна пакрыўдзілася на суседа-карыкатурыста. Можна нават сказаць, што партрэт маляваўся не для нас, гледачоў, а для самой Алексіевіч — адзінай патэнцыйнай пакупніцы.

## Рамы

Пішаш, перапісваеш, рэдагуеш, карэктуеш, выдаеш тысячы старонак, запоўненых словамі. Што з тых тэкстаў прачытаецца? Што запомніцца? Што знікне, прападзе, забудзецца? Каб жа ведаць...

Ведаю, што з маіх вершаў запомнілася і падабаецца мастаку Марачкіну...

— Як цябе недзе нехта згадае, я адразу і ўспамінаю:

*У капліцы абрабаванай*
*Шашаль точыць парожнія рамы...*

Іншага твайго і не запомніў. Чытаў шмат, а запомнілася пра абрабаваную капліцу... — кажа Марачкін.

Кожны раз я яго папраўляю:

*— У капліцы абрабаванай*
*Шашаль точыць пустыя рамы.*

Марачкін пагаджаецца, што варыянт з пустымі рамамі больш дасканалы, але ў наступную сустрэчу я зноў чую пра парожнія рамы.

## Настрой

Вялікдзень, а святочнага настрою няма. Думаў, што ён адразу раніцай з'явіцца. Не з'явіўся ён ранкам і ўдзень не з'явіўся. Здаецца, і сонечна было, і цёпла, і я па Мінску пахадзіў-пагуляў крыху. Думаў, што настрой знойдзецца. Вялікдзень — свята. Мяне бацькі ў праваслаўныя пахрысцілі. Самі лічылі сябе каталікамі, а мяне запісалі ў праваслаўныя. Дарэчы, на каталіцкі Вялікдзень святочны настрой у мяне быў. Таму і на праваслаўны ён мусіў з'явіцца. Я працаваў. Пісаў пра мастака Марачкіна. Маляваў яго партрэты. Каву піў. Прыбіраўся ў майстэрні, бо ў «сыботу» да мяне ў госці прыйшло ажно дванаццаць дзяцей. Мы малявалі. Коміксы гарталі. Сок пілі. Паразлівалі салодкі яблычны сок. Як інакш? Дзеці ёсць дзеці. Давялося мыць падлогу з мылам. Мыў і чакаў светлага настрою. Так без настрою і дамоў пайшоў. Па дарозе зайшоў у кнігарню, там сустрэў мастака Марачкіна — і добры настрой з'явіўся. Мы пагаварылі, пасмяяліся. Марачкін купіў маю кнігу «Казкі сталічныя». На вокладцы я напісаў удзячныя словы настаўніку ад вучня... Калі ты чакаеш святочнага настрою, ён абавязкова з'явіцца, абавязкова, хай сабе і толькі напрыканцы Вялікадня.

# МУЛЯВІН

*Словы пра музыку Уладзіміра Мулявіна*

## «Песняры»

Калі Уладзімір Мулявін адзін выходзіў на сцэну і пачынаў спяваць, гэта быў ансамбль «Песняры»; а як вялікі ансамбль з назвай «Песняры» выходзіў на сцэну ды граў-спяваў без Уладзіміра Мулявіна, гэта былі ўжо не «Песняры», а нейкія «Сябрукі», «Верасні», «Дзяды», «Асілкі» ці яшчэ нехта з кімсьці. «Песняры» і Уладзімір Мулявін — для мяне з'явы непадзельныя. Нейкі час пасля смерці Мулявіна ўсе спадзяваліся, што ансамбль можа заставацца «Песнярамі» і без свайго заўсёднага лідара, бо хапала ў ім выдатных музыкаў, якіх ведаюць і любяць. Барткевіч, Кашапараў, Дайнэка, Місевіч... Выдатныя творцы. Таленавітыя музыкі. Запамінальныя і пазнавальныя. Іх паважаюць і іх па-сапраўднаму любяць, але не так, як любілі і паважалі Уладзіміра Мулявіна. Іх любяць значна менш,

таму і «Песняры» без Уладзіміра Мулявіна больш не «Песняры». Мне было цяжка гэта прызнаць, але я гэта зрабіў. Варта было б і ўсім астатнім пагадзіцца з такім сумным і непапраўным фактам.

## Багушэвіч

Новая беларуская паэзія пачынаецца з верша Францішка Багушэвіча «Дудка беларуская», з радка «Эх, скручу я дудку...»

Падобным чынам новая беларуская песня пачалася з кампазіцыі «Песняроў»:

*Ой, рана-а-а на Йвана...*
*Проць Івана ночка мала.*
*Ой, рана-а-а на Йвана...* (2 разы)
*Дзе Купала начавала?*
*Ой, рана-а-а на Йвана...* (2 разы)
*Начавала ў чыстым полі.*
*Ой, рана-а-а на Йвана...* (2 разы)
*Чым Купала вячэрала?*
*Ой, рана-а-а на Йвана...* (2 разы)
*Вячэрала белым сырам.*
*Ой, рана-а-а на Йвана...* (2 разы)
*Чым Купала запівала?*
*Ой, рана-а-а на Йвана...* (2 разы)
*Запівала гарэліцай.*
*Ой, рана-а-а на Йвана...*

У кожнай справе важна пачаць, скрануцца з мёртвай кропкі, зрабіць першы глыток паветра і выдыхнуць... У «Песняроў» атрымалася надаць новае дыханне старым беларускім песням. Уладзімір Мулявін набраў поўныя грудзі паветра і выдыхнуў:

— Ой, рана-а-а на Йвана...

## Сцэнічны касцюм

Некалькі разоў мне пашанцавала — і я трапіў на застолле разам з Уладзімірам Мулявіным. Не стану казаць, што я з ім выпіваў. Ён гаманіў, жартаваў і піў з іншымі людзьмі, а я куляў чарку на другім канцы стала. Тыя вечары запомніліся яшчэ і тым, што з усёй самай рознай публікі Уладзімір Мулявін быў адзіным, хто з'явіўся на свята ў сцэнічным касцюме. Святары і вайскоўцы таксама папрыходзілі ў парадных строях, але такой формаю яны нікога не здзіўлялі і не радавалі. Уладзімір Мулявін радаваў і здзіўляў, бо мог жа прыйсці на свята і ў цывільнай адзежы, а ён прыходзіў у шляхетным строі старабеларускага магната. Зразумела, у такім шыкоўным строі музыка адразу рабіўся цэнтрам увагі. Мне было прыемна на яго глядзець, зрэшты, я перакананы, што шмат каго радавала прысутнасць на свяце такой яркай і самабытнай зоркі, як пясняр Уладзімір Мулявін.

## Кіраванне

Уладзімір Мулявін не проста ўзначальваў ансамбль «Песняры», ён ім кіраваў, і кіраваў жорстка. У «Песняроў» была адна думка, і гэтая думка належала Уладзіміру Мулявіну. У «Песняроў» было адно меркаванне, і яно таксама было мулявінскае. На ўсе пытанні ў ансамблі адказваў адзін чалавек — Уладзімір Мулявін. Калі ён сказаў не браць канверты з грашыма ад удзячных слухачоў, значыць, ніхто з песняроў не браў канверты. Ала брала, Іосіф браў, Вахтанг браў... Усе бралі, а «Песняры» не бралі, бо так вырашыў Уладзімір Мулявін. Наракаць на-

ракалі, скардзіцца скардзіліся, нават абураліся такім антыэканамічным загадам кіраўніка, але не парушалі яго. Спрэчка песняроўскага музыкі з Уладзімірам Мулявіным магла лёгка скончыцца выгнаннем з ансамбля. Ніхто не хацеў рызыкаваць, усе падпарадкоўваліся, бо гэта было разумна і плённа.

## Народнасць

Пасля выхаду на кружэлках двух вялікіх альбомаў папулярнасць у «Песняроў» Уладзіміра Мулявіна стала фенаменальнай. Калі ў мінскім Палацы спорту ўлады дазвалялі прадаць білеты на дзесяць канцэртаў, «Песняры» гралі дзесяць аншлагаў запар. Яны гралі па два канцэрты на дзень. Каб можна было атрымаць дазвол на дваццаць канцэртаў, публіка зрабіла б і дваццаць аншлагаў, не сумняваюся. І так па ўсёй Беларусі, і так па ўсім СССР. У піцерскім мастацкім вучылішчы студэнты з Кемерава цэлую ноч спявалі нам, мінскім студэнтам, песняроўскія песні. Яны дакладна спявалі ўсе беларускія словы, а потым прасілі нас патлумачыць сэнс некаторых.

Пра Уладзіміра Мулявіна расказваліся легенды. Адну такую я пачуў ад Уладзіміра Сцяпана:

— Знаёмыя чакалі цягнік «Мінск — Гомель», сядзелі на пероне і трэнькалі на гітары. Да іх падышоў Уладзімір Мулявін. Жэстам папрасіў гітару. Сыграў. Вярнуў гітару і сышоў. Ні слова не сказаў, проста паказаў, як трэба іграць.

Падобнае апавяданне я чуў і ад Фёдара Сарокі:

— Мая жонка Алена расказвала пра суседа, які вечарамі ў іх мінскім двары за кінатэатрам «Цэнтральны», бывала, з'яўляўся і весяліў дра-

бязу сваімі песнямі пад гітару. Пазней яна пазнала ў гэтым вясёлым вусатым дзядзьку Уладзіміра Мулявіна...

Некалі мастацтвазнаўцы і літаратурныя крытыкі шмат пісалі пра народнасць у літаратуры і мастацтве. Як для мяне, жыццё і творчасць Уладзіміра Мулявіна проста ўзорны прыклад гэтай самай народнасці.

## «Ручнікі»

Ёсць яшчэ адна дэталь, якая ярка падкрэсліць народнасць Уладзіміра Мулявіна... На першым вялікім дыску «Песняроў», на другім баку, які пачынаўся кампазіцыяй «Ручнікі», было пазначана, што гэта песня народная. Насамрэч словы яе напісала выбітная мінская паэтэса Вера Вярба, а музыку да іх прыдумаў вядомы настаўнік з Полацка — Мікалай Пятрэнка. Амаль дзесяць гадоў дыск перавыдаваўся з памылкаю, і толькі ў 80-х, калі перавыданне рабілі на рыжскім заводзе грампласцінак, памылку выправілі. Зрэшты, я лічу, што песня «Ручнікі», бясспрэчна, народная, бо любімая, бо выканана сапраўдным народнам артыстам Уладзімірам Мулявіным... Сама Вера Вярба — Гертруда Пятроўна Сакалова — да ўласнай народнасці ставілася іранічна. Яна да ўсяго на свеце ставілася з гумарам і любіла гучна пасмяяцца. Таму паэт Максім Танк трапна апісаў Гертруду Пятроўну адным сказам: «Яе ручнікі даўно паплылі, а яна ўсё стаіць на беразе і рагоча...»

## Блакітная крамка

Для маіх аднагодкаў нават выпадковая сустрэча з Уладзімірам Мулявінам рабілася па-

дзеяй. Ён быў для нас знакавай постаццю, славутасцю, прыкметай, адметнай часткай нашай сталіцы, свайго раёна, сваёй вуліцы і нават сваёй крамы. Пра Уладзіміра Мулявіна можна было пачуць нешта новае і зусім нечакана...

— Пытаешся, дзе я жыву? Там, дзе заўсёды жыў, раён вуліцы Някрасава. Некалі ў нашым раёне стаяў кінатэатр «Вымпел». Памятаеш такі? Побач з ім была крамка, пафарбаваная ў густа-блакітны колер. Я ў яе і хадзіў па віно, па цыгарэты, па хлеб. Уладзімір Мулявін у тую крамку таксама заходзіў. Стаяў у чарзе, як і ўсе мы. І Жонка Мулявіна ў нашу блакітную крамку прыходзіла. Мулявіных усе ведалі. Паважалі. Жонка Мулявіна прыкметна кульгала, гэта нас моцна здзіўляла. Кінатэатра «Вымпел» і блакітнай крамы даўно няма. Даўно... Цяпер там стаіць універсам «Рыга». Па хлеб я цяпер хаджу ў «Рыгу»...

## Лондан

У партрэтнай галерэі «Ты нарадзіўся не тут» змясціў я занатоўку пра вялікага песняра Уладзіміра Мулявіна...

«Каб лёс дазволіў песняру Мулявіну нарадзіцца ў Лондане, ён стаў бы швейцарам у пяцізоркавым гатэлі, прагульваўся б па ганку ў малінавым камзоле і ціха насвістваў у бухматыя вусы песенькі бітлоў...

*Касіў Джон канюшыну,* (3 разы)
*Пазглядаў на дзяўчыну.*
*Ёка Она жыта жала* (3 разы)
*Ды на Джона паглядала.*
*Ці ты Джон? Ці ты не?* (3 разы)
*Спадабаўся ты мне...»*

Занатоўка друкавалася ў «Нашай Ніве». Ці спадабалася яна Уладзіміру Мулявіну? Не ведаю, але ў суд на мяне за тую публікацыю не падавалі. Збіраліся... Не Уладзімір Мулявін, а Элеанора Язерская збіралася. Але разумныя сяброўкі не далі ёй зрабіць гэткі памылковы крок.

## Мянушка

Муля — такую мянушку меў Уладзімір Мулявін. Так яго называлі ў музычнай тусоўцы, так яго і ў народзе называлі. Вымаўлялася мянушка мякка, нават неяк салодка прамаўлялася, бо з любоўю, з вялікай любоўю. Барткевіч і Кашапараў, безумоўна, атрымлівалі больш любоўных паштовак і лістоў, чым Уладзімір Мулявін. Яны ў «Песнярах» неслі цяжар відных жаніхоў. Але любоў да Мулі была большай за эратычную, яна была шырэйшай за яе, бо Мулю ўвесь народ любіў за яго песні.

## Страчаная магчымасць

Жэня Эльпер прапанаваў мне напісаць тэкст для песні. Раней я пісаў самыя розныя вершы, але першы песенны тэкст напісаў на заказ. Эльпер паклаў верш на музыку, атрымалася песня пра горкае каханне. Пра такое цяжкае каханне, калі можна казаць: «Гары яно гарам, такое каханне!» Жэня ніколі не сумняваўся ва ўласных кампазітарскіх здольнасцях, таму панёс свой вальс Уладзіміру Мулявіну. Здарыўся цуд — наша першая песня спадабалася мэтру, і ён паабяцаў яе выканаць. Такое абяцанне натхніла на працу. Мы хутка напісалі яшчэ некалькі песень. Жэня Эльпер пазнаёміў мяне з кампазітарам Яўгенам Ма-

галіфам. Для таго я таксама хутка зрабіў некалькі тэкстаў...

Мінуў год. У маладосці адзін год — гэта як пяць гадоў у сталасці, а можа, і ўсе сем. Жэня Эльпер стаміўся чакаць. Ён пайшоў да Уладзіміра Мулявіна і забраў у «Песняроў» нашу песню. Праз пару тыдняў яе запісалі «Сябры». На тэлестудыі знялі нават кліп з той кампазіцыяй. Выкананне атрымалася выдатнае, але ж не песняроўскае і не мулявінскае. Каб можна было вярнуцца ў мінулае і нешта там змяніць, я вярнуўся б і ўгаварыў Жэню Эльпера пачакаць і дачакацца таго дня, калі Уладзімір Мулявін заспявае:

*У садзе стаяла*
*зялёная вішня.*
*Дзяўчына кахала,*
*а замуж не выйшла...*

## Зорнасць

Зоркі вабяць сваёй геніяльнасцю. Узнікае жаданне наблізіцца да зоркі, падысці як мага бліжэй, загаварыць, пасябраваць. Таму вакол знакамітых музыкаў віруе зграя фанатаў. Прабіцца праз іх цяжка. Зорку ахоўваюць. Мае стасункі з рознымі зоркамі сцэны, мастацтва і літаратуры прывялі да сумнаватай высновы. Трэба ахоўваць не толькі зорку, але і сябе стрымліваць ад набліжэння да генія. Можаш пабачыць побыт таленавітага чалавека і назаўжды расчаравацца ў ім. Шмат хто пасля блізкага знаёмства з Уладзімірам Мулявіным расчароўваўся.

Так было з музыкай Пітам. Ён усё жыццё марыў пасядзець за адным сталом з кумірам.

Разам выпіць, разам пайграць на гітарах. Піт дамогся свайго, яго запрасілі да генія сцэны. Пасядзелі, выпілі...

— Адам, я скажу табе шчыра. Скажу так, як думаю. Дам параду... Не выпівай з Мулявіным. Запросяць — адмоўся. Хай ён для цябе застанецца выдатным артыстам...

Тое шчырае і трагічнае апавяданне Піта спыніла мяне не толькі ад збліжэння з Уладзімірам Мулявіным, яно дапамагло мне сфармуляваць парадокс, які варта паўтарыць... Трэба ахоўваць не толькі зорку ад нахабных фанатаў, але і сябе стрымліваць ад набліжэння да генія.

## Карона

Уладзімір Мулявін з тых адораных вялікім талентам творцаў, побач з якімі пастаяць на сцэне — вялікі гонар. У юнацтве я нават марыў пра тое, што некалі буду сядзець перад выступленнем у адной грымёрцы з самім Уладзімірам Мулявіным. На «Рок-каранацыі» я пабыў з ім на сцэне. На ёй у той вечар уся беларуская рок-тусоўка грала, танчыла і спявала, але Уладзімір Мулявін запомніўся мне каралём нашай рок-сцэны. Думаю, што залатая рок-карона нумар адзін дагэтуль застаецца на галаве Уладзіміра Мулявіна.

У кожнага народа ёсць свой вялікі рок-кароль. У амерыканцаў гэта Элвіс, у англічан — Джон Ленан, у рускіх — Віктар Цой, а ў нас — Муля, Мулявін, Уладзімір Мулявін.

# РАЯ

*Словы пра паэтэсу Раісу Баравікову*

Януаравіч

З паэтэсай Раісай Баравіковай я пазнаёміўся ў аўтобусе «Мінск — Мсціслаўе». Ехаў працаваць рэстаўратарам у напаўразбураны кармеліцкі касцёл, а Рая ехала ў камандзіроўку ад бюро прапаганды, каб пачытаць вершы звычайным мсціслаўцам. У Раі быў спадарожнік — Леанід Прокша. Пра пісьменніка Прокшу я мала што ведаю. Адно дакладна: калі нешта кепскае рабілася ў пісьменніцкім асяроддзі, усе казалі: «Улукшылі і ўпрокшылі!» Акрамя Прокшы тутэйшыя пісьменнікі кепска і зайздросліва ставіліся яшчэ і да дзіцячага паэта Лукшы. Баравіковай было крыху сумна з паважаным Леанідам Януаравічам Прокшам, таму яна ўзрадавалася маёй прапанове сесці побач і пагаварыць пра жыццё-быццё ды паэзію. Мы прагаварылі ўсю тую доўгую дарогу. Перад развітан-

нем я запрасіў Раю ў свой напаўразбураны касцёл.

Яна прыйшла. Блакітнавокая і модная — у дарагой джынсавай куртцы і гэткай жа спадніцы. Я быў упэўнены, што Баравікова не прыйдзе, а калі і прыйдзе, дык з вусатым і сівым Януаравічам. Рая прыйшла без яго. Я гадзіны дзве расказваў беларускай паэтэсе пра барока, пра роспісы, пра вобраз Дзевы Марыі на мсціслаўскіх сценапісах. З аўтобуснага знаёмства і экскурсіі ў касцёле пачалося маё доўгае сяброўства з выдатным чалавекам — Раісай Баравіковай. Шмат хто думае, што доўгае сяброўства пачынаецца са сваркі. У мяне з Баравіковай усё пачалося з запамінальнага летняга падарожжа ў рэйсавым аўтобусе.

## Відавочнае

Рая Баравікова — прыгожая жанчына. Відавочна. Ніхто не запярэчыць. Зробяць, як і даўней рабілі, зусім інакш. Замест таго, каб усхваляць таленавітасць, прывабнасць і прыгажосць паэткі Баравіковай, будуць падымаць на шчыт нешта іншае. Падобнае творыцца ў сацыяльных сетках: пад фотаздымкамі крыватварых і крывацелых пачварак пішуць, што яны маюць чароўную знешнасць. На кнігі палітграфаманаў і паліткрыкуноў выходзяць хвалебныя рэцэнзіі. Мярзотнікі, злодзеі і забойцы падаюцца як нацыястваральнікі... Чорт з імі! Лепей я пра добрае...

Баравікова мае выдатныя кнігі, прывабнасць і сумленне. Толькі гэта ўсё ёй заўсёды не столькі дапамагала, колькі шкодзіла. Чыны, званні і ўзнагароды хапалі іншыя. Гарла-

паністая і нахрапістая Тася, хітраспрытная і ўсюдыісная Вольга, мужыкападобная Валя, няшчасныя Ніна і Жэня атрымалі нашмат болей за Раісу Баравікову. Ёй жа і так добра! У яе блакітныя вочы і светлыя валасы, і ўся яна наскрозь светлая, ветлівая ды сонечная. Яе любяць мужчыны і юнакі. Ёй лёгка дыхаецца і лёгка пішацца нават пра слёзы кахання. Што ёй яшчэ трэба? Пыталіся... І не адказвалі! Адказ просты. Раісе Баравіковай, як і ўсім, патрэбна адно — прызнаць відавочнае. З гэтым прызнаннем у людзей і ўзнікаюць цяжкасці. Большасць, як бачым, лягчэй пачне ўсхваляць пачварнае, чым казаць праўду пра таленавітае, светлае і прыгожае. У гэтым большасць не мае рацыі. Адназначна.

## Лаяльнасць

Рая сябравала з рускім пісьменнікам Уладзімірам Максімавым, з тым, які стварыў і выдаваў літаратурны, палітычны і рэлігійны часопіс «Кантынент», таму і запісалі яе ў дысідэнткі, залічылі ў ворагі савецкай улады і перасталі друкаваць. Першае, што забаранялася ў савецкім друку, — прозвішча. Баравікову забаранілі. Таму Рая сваю чарговую падборку лірычных вершаў падпісала іншым прозвішчам. Падпісала і паслала ў часопіс «Маладосць». Вершы зрабілі фурор, яны страшэнна спадабаліся ў рэдакцыі. Яны так спадабаліся, што Бураўкін і Аўрамчык вырашылі неадкладна з'ездзіць да новай беларускай геніяльнай паэтэсы. Прыехалі і пабачылі Раю Баравікову. Гэта падарожжа да геніяльнай паэтэсы неўкім чынам выправіла сітуацыю, і забарону з Раінага прозвішча знялі. Толькі ўсё адно Ба-

равікову не прынялі ў лаяльныя да савецкай улады паэтэсы.

## Два чамаданы

Сярод шматлікіх мужчын, захопленых у палон светлынёю Раі, вылучаўся салодкагалосы пясняр. Ён меў шырокую вядомасць і безліч прыхільніц свайго надзвычайнага таленту, узорнай знешнасці і трывалай заможнасці. Толькі вось Рая не моцна ім захаплялася. Аднойчы яна дазволіла сабе нават засумнявацца ў прывабнасці спевака. Ён пакрыўдзіўся, як падлетак. Дарэчы, ён і выглядаў заўжды русагаловым сінявокім здзіўленым падлеткам. У якасці доказаў уласнай прыгажосці спявак прынёс і паказаў Баравіковай два вялізныя чамаданы, поўныя лістоў і паштовак з прызнаннямі ў каханні. У яго і сапраўды было мора адданых прыхільніц, а ён выбраў Раю і праз гэта адпакутаваў, бо нават два чамаданы дзявочых лістоў не прымусілі яе застацца з песняром.

## Голас

У паэта павінен быць адметны голас. У Раі Баравіковай ёсць незвычайнасць і адметнасць у голасе. Эратычны, цёплы, мяккі. Ён зачароўвае і заварожвае. Ім напоўнены яе вершы. Ніводная беларуская паэтэса не мела і не мае падобнага голасу. Нават выдатныя паэты саступаюць Баравіковай. У Разанава голас драўляны і цацачны, у Булыкі — дзявоцкі, а часам і зусім дзіцячы, у Галубовіча — звычайны... Толькі з такім надзвычайным голасам, як у Баравіковай, паэтэса можа выдаць

зборнік лірыкі пад назвай «Каханне» і не памыліцца.

## Прыгажосць

Рая заўсёды ведала пра сваю адметную светласць і жаноцкую прывабнасць. Ведала і старалася не прыніжаць уласнай прыроднай прыгажосцю іншых менш прыгожых жанчын. Але тыя ўсё адно зайздросцілі, абгаворвалі, аблайвалі Раю. Яны пісалі мярзотныя лісты. Брыдкатварыя і крывадушныя бабы пісалі на Раю даносы і рассылалі іх паўсюль, куды можна рассылаць падобнае паскудства. Яны распускалі плёткі пра паэтку Раю Баравікову. Казалі, што яе выгналі з маскоўскага Літаратурнага інстытута за п'янства і распусту. Казалі, што яна не любіць Радзіму і заўтра-пазаўтра абавязкова з'едзе да сваякоў ў Амерыку. Казалі, што Баравікова кожны тыдзень заводзіць новага палюбоўніка. Рая праз гэта перажывала. Асабліва моцна перажывала, калі на яе нагаворвалі і яе аблайвалі былыя сяброўкі. Але перажыванні перажываннямі, а прыгажосць і светласць у Раіным абліччы не прападалі і не прапалі.

## Шчасце

Шукаў у кніжках Раі Баравіковай апісанне жаноцкага шчасця. Знайшлося такое:

*Пакахаю Васю-мельніка,*
*будзе жорны ён круціць,*
*за сцяной густога ельніка*
*мілай пацеркі дарыць...*

Калі б Роберт Бёрнс нарадзіўся жанчынай, пра жаноцкую радасць пісаў бы нешта падобнае з млынам, ельнікам ды пацеркамі.

*Што за дзіўнае пытанне:*
*у каноплі з кім хаджу?..*

І гэтыя два радкі пра чалавечае шчасце мог напісаць Роберт Бёрнс, але іх напісала Рая Баравікова.

## Бардачок

Тэледраматург Максім Клімковіч неяк убачыў у бардачку аднаго з грузавікоў, што вывозіў кнігі з «Дома друку», зборнік вершаў Раі Баравіковай «Каханне». З таго часу кожны раз, сустрэўшы гэты грузавік, ён прапаноўваў прысутным адгадаць, якую кніжку трымае ў бардачку шафёр. Ніхто і блізка не называў кнігі, падобныя да зборнікаў лірыкі пра каханне. Папярэдзе ўсяго называлася баявітая фантастыка, за ёй ішло фэнтазі, потым — дэтэктывы і ваенныя прыгоды. Не забываліся на кнігі пра рыбалку і рамонт аўтамабіляў. Атласы таксама былі ў лідарах згаданага. Некалькі разоў людзі не верылі Клімковічу і хадзілі правяраць. У бардачку правяралы бачылі «Каханне» Раі Баравіковай і моцна гаравалі. Некаторыя нават перапытвалі шафёра: ці не падклалі яму ў бардачок гэткую незвычайную кнігу? Шафёр смяяўся і казаў, што яму падабаюцца Рая Баравікова і яе зборнік «Каханне».

Некалі мастак Валера Мартынчык мне з гонарам за свой Лондан казаў:

— Уяўляеш, там нават будаўнікі на абедзенным перапынку чытаюць Альбера Камю. Палуд-

нуюць і чытаюць Камю. Яны селі палуднаваць. Дасталі кнігі. Чытаюць. Я пацікавіўся... Камю!

Так што ў Лондане — Камю, а ў Мінску — Баравікова. Між іншым, з Баравіковай у Мінску мне нават больш утульна.

## «Слон»

Добра, калі ў пісьменніка ёсць надзейны і таленавіты публікатар. Ты нешта напішаш сабе, а ён твой тэкст акуратна адрэдагуе і хутка надрукуе. У свой час мой тата збіраўся напісаць сто апавяданняў. Калі адно з іх апублікуюць, ён намерваўся стаць пісьменнікам. Першае татава апавяданне згубілася ў рэдакцыі. Яго так і не знайшлі. Страчанае апавяданне тата не аднаўляў. Пісаў новае, іншае і больш актуальнае.

Майму першаму апавяданню «Слон» пашанцавала: яно легла на стол да Раі Баравіковай і праз які тыдзень з'явілася на газетнай паласе. У хуткім часе апавяданне выйшла па-руску і па-грузінску. Пасля «Слана» Баравікова надрукавала шмат маіх вершаў і апавяданняў. Яна не пабаялася друкаваць і шчырыя татавы дзённікі, якія я рыхтаваў да публікацыі пасля яго смерці. Як пісьменніку мне моцна пашанцавала з публікатарам, і не толькі мне, бо Рая Баравікова ў часы свайго рэдактарства выпусціла ў свет шмат добрых беларускіх літаратурных тэкстаў.

## Селяшчук

Паэтка Рая Баравікова сябравала з графікам Мікалаем Селешчуком. Ён рабіў аздабленне яе кніжак, яна прысвячала яму вершы.

Сяброўства іх скончылася раптоўна. Яно перарвалася ў час тэлефоннай размовы. Рая патэлефанавала Селешчуку, каб папрасіць яго зрабіць вокладку і малюнкі да новага зборніка «Адгукнуся голасам жалейкі». Ён спытаў, ці плануецца выданне ў палепшанай паліграфіі. Зборнік быў запланаваны ў самым сціплым, звычайным шараговым варыянце.

— Я цяпер толькі палепшаныя выданні аздабляю. Калі заплануюць тваю кнігу ў палепшаным варыянце, тады і звані...

Паэтка Баравікова больш ніколі не тэлефанавала графіку Селешчуку.

## Ружы

Ёсць у мяне звычка — перадорваць букеты. Няўтульна я сябе адчуваю з кветкамі ў руцэ. Чым хутчэй ад іх пазбаўлюся, тым мне лягчэй. Выкінуць букет не магу: яго дарылі ад усяго сэрца. Букет — своеасаблівая ўзнагарода. Якое тут выкіданне? Таму, як толькі атрымліваю букет, дык адразу пачынаю шукаць вачыма жанчыну, якой варта перадарыць кветкі...

Адзін з самых прыгожых сваіх букетаў я перадарыў Баравіковай. Калі мяне ўзнагародзілі літаратурнай прэміяй і далі ружы, я паглядзеў у залу, дзе сядзела больш як сотня беларускіх пісьменнікаў і пісьменніц, і выбраў Баравікову. Яна выдатна глядзелася з букетам. Дарэчы, што хто ні казаў бы, а жанчына з букетам выглядае больш натуральна за мужчыну з кветкамі. У руках мужчыны яны нагадваюць не столькі пра ўрачыстасць, колькі пра жалобную ўрачыстасць. Таму я заўсёды і перадаю свае кветкі ў жаночыя рукі.

## Любоў

Ёсць жанчыны, на якіх толькі зірнеш — і адразу ўзнікае жаданне паразважаць пра любоў і каханне. Рая Баравікова з такіх жанчын, можна не сумнявацца, бо доказаў таму процьма...

Заходжу я ў стары Дом друку, што на праспекце, бачу, на падаконні кнігі стаяць. Бяры і чытай! Бяру, разгортваю і чытаю: «Культавае глёбусаўскае апавяданьне “Слон” я ўпершыню пачуў у аўтарскім чытаньні ў рэдакцыйным пакоі “ЧЗ”, і друкавалася яно ўпершыню ў гэтай камсамольскай газэце. Больш нідзе б не надрукавалі. Баравікова любіла Валодзю Адамчыка...» Гэта Алесь Аркуш пісаў у эсэ «Вяртаньне ў “Тутэйшыя”». Сапраўды, Баравікова мяне любіла і друкавала, яна і таварыства «Тутэйшыя» дапамагала мне легалізаваць. Такая вось праўда пра нашу з ёй узаемную любоў. Кніжачку Аркуша я пакінуў на падаконні, можа, яшчэ хто возьме, разгарне і нешта там знойдзе сабе пра любоў.

# ЖЭНЯ

*Словы пра паэтэсу Яўгенію Янішчыц*

## Плакат

У старым Саюзе пісьменнікаў быў аддзел прапаганды, які займаўся выступленнямі і рэкламай літаратараў. Той аддзел і заказаў мне плакат для паэтэсы Яўгеніі Янішчыц. Зазвычай мастакі рабілі вялікія плакаты — дзевяноста на шэсцьдзесят сантыметраў. На тых плакатах усміхаліся твары, перамалёваныя каляровымі алоўкамі з афіцыёзных фотакартак. Пад тварамі груваcткімі літарамі пісаліся імёны і прозвішчы ўладароў афіцыйных усмешак. Ад плакатаў патыхала водарамі зашмулянага рубля і дзяржаўнай халтуры. У падобнай стылістыцы рабілася і тагачасная наглядная агітацыя з лозунгамі: «Камунізм пераможа ва ўсім свеце!», «БАМ — будоўля стагоддзя!», «Партыя — розум, гонар і сумленне нашай эпохі!» З такіх камуна-плакатаў нам пасміхаліся і камуна-пісальнікі. Рабіць падобную халтуру не хацелася.

Таму я дамовіўся на больш сціплы фармат — трыццаць на сорак пяць — і на чорна-белы друк. На плакаце мусіла стаяць невялікая графічная фігурка паэткі ў сціплай чорнай сукенцы на фоне белай атынкаванай сцяны, на якой мусіў быць напісаны лёгкай нязмушанай рукою аўтограф — Яўгенія Янішчыц.

Здымак рабіла мая жонка, на той момант цяжарная Ядзяй. У моманты пазіравання ў Жэні доўгі час не атрымлівалася засяродзіцца. Яна шмат усміхалася і разняволена смяялася. Мы смяяліся, бо, калі Жэня на грудзях складвала накрыж рукі, з-пад караткаватай сукенкі выязджалі карункі камбінашкі. Даводзілася абцягваць сукенку і ўсё наноў пераздымаць. У той верснёвы цёплы і сонечны дзень мы шмат насмяяліся, нафатаграфаваліся і выпілі бутэльку шампанскага. Толькі наша весялосць зусім не адбілася на плакаце. Ён атрымаўся строгім і ўрачыстым, але галоўнае — плакат атрымаўся празрыстым і лірычным.

## Любоў

У кнізе лірыкі Яўгеніі Янішчыц «Пара любові і жалю» шмат вершаў пра каханне, але мала якія з іх мяне кранае. Такое адчуванне, што паэтэса апісвала пачуцці, якія даўно згаслі і засталіся ў далёкім мінулым. Найлепшае ў яе інтымных вершах якраз не пачуццёвае, а разумовае. Чытаем:

*Плачу за ласку і за гнеў — плачу,*
*Пакуль цябе нарэшце зразумею.*
*Я вінавата часта, што маўчу,*
*І вінавата, што хаваць не ўмею*
*Сваю любоў.*

Разумна. Любоў і сапраўды варта хаваць, калі не хаваць, дык прыхоўваць, каб не скралі, не стапталі і не запаскудзілі зайздрасцю.

## Начальства

Янішчыц любіла начальства. Гэта вельмі своеасаблівы талент — падабацца начальству і ў дадатак любіць чыноўнікаў шчыра. Жэня Янішчыц мела такія адметныя здольнасці. Чым яна і вылучалася сярод сваіх каляжанак кшталту Іпатавай, Бондар, Алексіевіч і Коўтун. Яны таксама падабаліся начальству і таксама яго любілі, але не так шчыра і аддана, як Жэня. Можна сказаць, што ўсё пакаленне Янішчыц любіла ўладу, дзяржаву і начальнікаў. Уладатрымальнікі плацілі за праўдзівую любоў і глыбокую павагу такім, як Жэня, рознымі ўзнагародамі. Жэню пасылалі за дзяржкошт у самыя розныя камандзіроўкі. Нават у заакіянскую ААН Янішчыц выпраўлялі. Начальства дапамагала Жэні вырашаць яе бытавыя праблемы і спрашчала яе выхады са складаных сітуацый.

Часам падобная дапамога збоку выглядала дзіўнай. Але калі ты на свае вушы пачуў бы, як пяшчотна вымаўляла Янішчыц прозвішча чыноўніцы Сняжковай, табе адразу ўсё стала б зразумелым. Далёка не кожная маці так ласкава вымаўляе імя свайго любімага дзіцяці... Я табе кажу! З вуснаў пісьменніцы Янішчыц прозвішча чыноўніцы Сняжковай гучала так, нібыта яна намесніца ідэальна белага Бога ў нашым брудным і цёмным свеце. «Сняжкова!» — так можна было сказаць толькі пра свайго анёла-ахоўніка, калі дапусціць што твой анёл працуе ў беларускім урадзе.

Жэня моцна здзівілася і ледзь не абурылася, калі даведалася, што я не ведаю пасады Сняжковай.

— Твой тата Вячаслаў Уладзіміравіч ведае, дакладна! А ты ў яго нават не пацікавіўся? — Янішчыц дзівілася шчыра, як дзіця, а я і сапраўды не цікавіўся дзяржаўнымі пасадамі ні тады, ні пазней.

## Вітка

Жэня Янішчыц часам не магла запомніць даволі простыя рэчы. Яна забывала, што паэт Васіль Вітка — Цімох Васільевіч Крысько. Жэня называла Вітку не Цімох Васільевіч, а Васіль Цімохавіч. Калі ёй даручылі прывітаць са сцэны самага старэйшага з пісьменнікаў, якім на той час і быў Васіль Вітка, Янішчыц тройчы назвала яго Васілём Цімохавічам. Жэню папраўлялі, яна выбачалася і зноў рабіла памылку. Нават смех перапоўненай пісьменнікамі залы не выправіў Жэню. Цімох Васільевіч застаўся для яе Васілём Цімохавічам.

## Подпісы

Збіраць подпісы пад зваротам — справа цяжкая і малапрыемная. Кожны раз, калі просіш подпіс, ты можаш пачуць адмову і крытыку. Каму прыемна выслухоўваць тырады пра ўласнае глупства? Таму я толькі ў выключных выпадках звяртаюся да людзей з просьбаю падпісаць ліст. Таму і запомніў усе выпадкі, калі трэба было дзеля сапраўды важнай справы сабраць некалькі дзясяткаў подпісаў. Каб легалізаваць і ўзаконіць таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», я напісаў

зварот у Саюз пісьменнікаў. Адным з першых на тым дакуменце з'явіўся подпіс паэткі Жэні Янішчыц.

У той вечар ішоў моцны дождж, увесь мокры, я прыйшоў на кватэру да Жэні. Яна ўважліва прачытала ліст. Сказала, што моцна сумняваецца ў паспяховасці нашай справы, але подпіс паставіла. Мне было важна атрымаць некалькі подпісаў ад старэйшых і паважаных паэтаў. Акрамя Жэні ліст падпісала яшчэ і Рая Баравікова. Да іх подпісаў дадалося яшчэ з тры дзясяткі аўтографаў уласна «тутэйшых». Кіраўніцтва Саюза праз «не хачу», «не люблю», «не буду» надало нашай рэвалюцыйнай і баявой арганізацыі легальны статус. Перакананы, што якраз подпіс Жэні Янішчыц адыграў у гэтай справе важную і ствáральную ролю. Янішчыц паручылася за нас, за сваіх аўтараў з паэтычных старонак часопіса «Маладосць». Яна рызыкнула і ў гэтым выпадку не прайграла.

## Фінляндыя

Янішчыц належала да таго вузкага кола савецкіх пісьменнікаў, якім дазвалялася шмат разоў з'ездзіць за мяжу. Паездка за «жалезную заслону» лічыліся вялікай падзеяй. З далёкага замежжа (а ў савецкі час усё замежжа было толькі далёкім) ты мусіў прывезці як мага больш падарункаў для начальства, сваякоў і знаёмых. Ты нібыта адкупаўся ад чалавечай зайздрасці імпартнымі цацкамі. Усё замежнае лічылася фірменным — каштоўным.

З Фінляндыі Янішчыц вярнулася без падарункаў і выбачалася за гэта перад высокім начальствам, шматлікімі знаёмцамі і сваякамі.

Адсутнасць падарункаў Жэня патлумачыла тым, што ў яе стала кепска са страўнікам, бо атруцілася. Давялося тэрмінова вяртацца ў Ленінград і там класціся ў бальніцу. Янішчыц і сапраўды ляжала ў ленінградскай бальніцы. Яе і на самай справе тэрмінова вярнулі з Фінляндыі, а вярнулі таму, што ў паэткі здарыўся псіхічны прыпадак.

Дэлегацыя савецкіх пісьменнікаў падышла да аўтобуса, які мусіў перавезці гасцей з вакзала да гатэля. Янішчыц кінулася за аўтобус і прысела на кукішкі за колам. Калі паэтку паспрабавалі супакоіць, яна пачала крычаць, што яе пераследуюць людзі ў чорных масках. Для таго каб забіць. Давялося выклікаць дактароў і тэрмінова перавозіць хворую ў СССР. У Мінску пра здарэнне ў Фінляндыі ніхто не ведаў, ажно пакуль пра яго не расказаў маскоўскі літаратар, які разам з Жэняй быў у складзе савецкай дэлегацыі. Ён расказаў пра манію пераследу толькі праз два гады пасля заўчаснай смерці Янішчыц. Сама Жэня пра прыпадак у Фінляндыі нікому не казала.

## Крыж-чалавек

Доўгі час Жэня жыла на цокальным паверсе вялікага дома, што і цяпер узвышаецца над вуліцай Ульянаўскай, паміж Энгельса і Чырвонаармейскай. У Жэнінай кватэры амаль заўсёды панаваў прыцемак. Нават у светлыя дні туды амаль не траплялі сонечныя промні. Паэтка працавала з настольнай лямпай. Стол стаяў пад акном. Побач з ім была нешырокая канапа. Новыя вершы Жэня раскладала на ёй. Калі прыходзілі госці, паэтка брала з канапы аркушы і чытала...

Яе хвалілі. Яна любіла цёплыя словы пра свае вершы. Без такіх слоў паэтэсам цяжка. Жэня жалілася на цяжкасці. Яна скардзілася і на праследаванне. Ёй здавалася, што, калі яна ўночы запальвае лямпу, да яе акна з цемрадзі падыходзіць чалавек. Ён вялікі. Апрануты ва ўсё чорнае. Ён уздымае рукі і робіцца падобным да крыжа. Спачатку Жэня думала, што нехта з зайздросных паэтаў так па-дурному жартуе. Пазней яна пачала бачыць у крыжы-чалавеку д'ябла. Як толькі паэтка выключала сваю настольную лямпу, крыж-чалавек знікаў, расплываўся, як дым. Ён замінаў ёй працаваць уночы, а ўдзень ёй заміналі працаваць успаміны пра вялікага начнога прывіда.

## Бальніца ў Навінках

Пісьменнік Алесь Асіпенка пачаў абзваньваць сяброў і сябровак паэтэсы Яўгеніі Янішчыц. Усім ён задаваў адно пытанне:

— Ці не казала Жэня пра самагубства?

Шмат хто пацвердзіў Алесю Харытонавічу, што Жэня і сапраўды скардзілася на жыццё, беспрычынна плакала і разважала пра свой хуткі сыход. Асіпенка сустрэўся з галоўным урачом паліклінікі Саюза пісьменнікаў Ладуценкам і расказаў пра перажыванні за лёс Янішчыц. Ладуценка ўгаварыў Жэню легчы ў псіхіятрычную бальніцу, што знаходзіцца ў Навінках. Ён паабяцаў Яўгеніі, што ніхто не даведаецца пра яе цяжкі стан, пра захворванне і ляжанне ў бальніцы. Але ж наш свет поўны добрых і спагадлівых людзей. У Навінках Жэню адведвалі яе сяброўкі. Янішчыц казала, што вельмі радуецца візіцёрам, але выглядала напружанай і нават напалоханай. Калі Жэня

выйшла з клінікі, то нікому не сказала дзякуй за адведванні і пачастункі. Яна рабіла выгляд, што эпізоду з лячэннем у Навінках у яе жыцці проста ніколі не было.

## Коўдра

Перад тым, як скочыць з балкона, яна загарнулася ў коўдру... Было так халодна? Нервовая дрыготка біла так моцна, што хацелася яе суняць, сціснуўшы плечы коўдрай? Зрабілася так сцюдзёна, нібыта з усіх чатырох бакоў пачалі дзьмуць вятры небыцця? Цяпер ніхто не знойдзе дакладных адказаў на гэтыя і падобныя да іх пытанні. Вядомым застаецца толькі тое, што быў канец лістапада і перад тым, як скончыць жыццё самагубствам, паэтка Яўгенія Янішчыц абгарнулася коўдрай. Можа, ёй здавалася, што ўдар аб зямлю будзе не такім балючым, будзе хоць трошкі мякчэйшым, калі цела абгорнецца коўдрай... Здагадкі. Версіі. Меркаванні. Іх безліч. Яны круцяцца, як каламутны вір у рэчцы, перапоўненай навальнічнай вадою. Круцяцца вакол таго факта, што Жэня перад смерцю загарнулася ў коўдру.

## Версіі самазабойства

Ёсць шмат розных версій самазабойства паэтэсы Яўгеніі Янішчыц.

Хварэла пасля аварыі, пакутавала ад боляў і не вытрывала...

Рэдактар часопіса «Крыніца» ў красавіцкім нумары за 1989 год выклаў такі погляд на трагічнае здарэнне: «Зрэшты, застаўся і зараз нацягнуты шнур на балконе, на якім ве-

шала яна ў той дзень, у тую раніцу памытую кашулю сына; таму можна ўсё ж думаць, што аступілася, нахілілася неасцярожна, выпадкова сарвалася... Няхай бы так і было...»

Прачытала кепскую рэцэнзію на сваю кнігу і зрабіла ў рэдакцыі, дзе збіраліся друкаваць рэцэнзію, страшэнны скандал... Гісторык Анатоль Сідарэвіч шмат каму расказваў, што ў рэдакцыю штотыднёвіка «ЛіМ» Янішчыц прыходзіла з пісьменніцай Валянцінай Коўтун. Яны разам пагражалі здзейсніць двайное самагубства, калі адмоўны водгук пра вершы Жэні пабачыць свет. Заперажывала праз той скандал так, што згубіла сэнс жыцця...

Збольшага людзі тлумачаць самагубства Янішчыц зразумелымі і простымі рэчамі накшталт збегу кепскіх акалічнасцяў. Такое тлумачэнне падтрымлівае і паэт Леанід Галубовіч.

Назбіралася маркоты-гаркоты столькі, што найлепшым стала — абгарнуцца коўдрай і скочыць з восьмага паверха...

Ёсць яшчэ версія містычная і жудасная... Сам д'ябал наведаўся да паэткі і заказаў ёй рэквіем. Так некалі даўно князь цемрадзі наведваўся і да Моцарта з падобным заказам.

Жэня спрабавала пісаць рэквіем, але ў яе атрымлівалася прымітыўна. Найлепшае, што выпісалася:

*Вы з пякельных дарог выраcталі,*
*Паўставалі з агню, як з былін...*

Найгоршым у тым рэквіеме было прысвячэнне — «Памяці П. М. Машэрава».

Паэтка так сперажывалася і змучылася, што расказала пра д'яблаў заказ сваім сяб-

роўкам. За дзень да самагубства Жэня сказала сяброўцы Раісе Баравіковай:

— Мне прыслалі рэквіем, і трэба сыходзіць з жыцця.

У містычнай версіі князю цемрадзі не спадабаліся доўгаязыкасць паэтэсы і раскрыццё яго таямніцы, не спадабалася і выкананне заказу, таму ён змусіў Янішчыц скінуцца з балкона і забіцца.

## Каханне

Паўтараеш за Жэняй яе радкі:

*Спахмурнелы дзень і смутны вечар —*
*Нібы і ў каханых не была...*

Нібыта трэба запярэчыць... Нібыта і варта сказаць:

— Была! Была...

Ды не кажацца такое, не вымаўляецца, не выгаворваецца. Можа, і праўда, што «ў каханых не была».

## Маскі

Дзе б ты ні працаваў, а навагодняе свята чакаеш заўжды. Чакаеш і рыхтуешся да яго. Працаваў я ў часопісе «Крыніца» («Родник»), дзе за галоўнага лічыўся паэт-песеннік Уладзімір Някляеў. У яго кабінеце я і ўбачыў кардонную скрынку. Я спытаў:

— Што за скрынка?

— Падарункі на Новы год! — крыва ўсміхнуўся песеннік.

Мне тады на працы павінны былі выдаць два падарункі, для сына і дачкі.

— Можна паглядзець і забіраць?

— Паглядзі!

Адчыніў скрынку і глянуў... Ад неспадзеўкі мяне ажно перакрывіла. Там ляжалі маскі... Але зусім не карнавальныя і не цацачныя — там былі гіпсавыя маскі, знятыя з твару самазабойцы. Скрыня была запоўнена мёртвымі тварамі паэтэсы Янішчыц. З Яўгеніяй у мяне былі цёплыя адносіны, але гэта зусім не азначала, што я павінен быў узрадавацца, убачыўшы бяздушна-белы твар, таму, парушаючы субардынацыю, сказануў:

— Жарт дурны!

## Пячатка праклёну

Ёсць творцы, на якіх лёс ставіць пячатку праклёну. Шмат хто пасля смерці Анатоля Сыса казаў, што той быў нашым адзіным праклятым паэтам. Мяне, шчыра кажучы, дзівіла гэткае трафарэтнае бачанне значнай постаці Сыса. Выклятасць я бачыў на тварах зусім іншых нашых творцаў. Мастакі Андрэй Савіцкі і Валянцін Дзялендзік былі пазначаны пячаткай праклёну. Паэты Вася Шугалей і Жэня Янішчыц таксама мелі на сабе страшны знак. Таму і смерць у іх была нялюдская. Васіля задушылі ў маскоўскай здымнай кватэры шнуром ад камп'ютара. Андрэй абапіўся гарэлкай. Валік павесіўся ў інстытуцкай майстэрні. Жэня скочыла з балкона.

Цяпер я ўглядаюся ў іх постаці і бачу адну агульную для ўсіх адметнасць. Уся адзежа на гэтых творцах была не ў памер. Адзежыны былі або крышку большыя або трошкі меншыя, чым патрэбна. Андрэй насіў завялікі світар і караткаватыя порткі. Валік меў курт-

ку на два памеры большую, чым яму было патрэбна. Вася хадзіў у малых шортах. У Жэні Янішчыц увесь час з-пад сукенкі выязджаў карункавы край камбінашкі.

Як завялікай камбінацыі было няўтульна пад замалой сукенкай, так і самой Жэні было няўтульна ў нашым свеце. Ёй не дыхалася, не спалася, не жылося... Так не жылося і Дзялендзіку, і Савіцкаму, і Шугалею. Так не жывецца ўсім, каго лёс адзначыў пячаткай праклёну. Наш сонечны свет для іх нязручны, ён для іх нібыта чужога памеру.

# ТОЛЯ

*Словы пра майго сваяка —*
*мастака Анатоля Александровіча*

## Паста з гуталінам

Толя Александровіч расказваў, як яму ў дзяцінстве хацелася маляваць фарбамі, панавыцісканымі з цюбікаў. У сапраўдных мастакоў, на думку пяцікласніка, фарбы павінны захоўвацца ў цюбіках, а не ў баначках і ванначках. У нашым Койданаве такіх фарбаў не прадавалі, таму Толя ўзяў у работу цюбікі з зубной пастай і гуталінам. Паста была белая і салатная, «Памарын» і «Лясная». Гуталін быў чорны і брунатны. Гэткімі «фарбамі» Толя напісаў на кардонцы, выразанай са скрыні для абутку, партрэт суседскага сабакі Арсіка. Сабака атрымаўся падобным, нават вочы ў яго паблісквалі так, нібыта былі жывыя. Карціна, створаная пастай і гуталінам, пражыла не вельмі доўга, яна хутка высахла, пасівела і паабсыпалася, але першая гульня ў дарослага мастака ў Толі Александровіча атрымалася на выдатна.

## Майстэрні

Бывае нешта збярэшся рабіць, а так і не зробіш. Звычайна пра нязробленае хутка забываеш, але пра нешта памятаеш доўга, цягам усяго жыцця. Мне так помняцца мастакоўскія майстэрні, якія парабілі сабе на гарышчах койданаўскіх бацькоўскіх хат Толя Александровіч і Вова Савіч. Вова паступіў у інстытут, Толя заканчваў мастакоўскае вучылішча, а я даходжваў у сярэднюю школу. Бацькі дазволілі хлопцам абсталявацца на гарышчах, а мне дазвалялі толькі зрабіць хованку над хлявом. Зразумела, у іх бацькі давалі дазвол, а ў мяне — баба і дзед. У сваёй хованцы я ляжаў на засланай посцілкамі саломе і чытаў. Там я нават і не маляваў ні разу, я хадзіў маляваць да Толі. Ён даваў паперу, акварэльныя фарбы і два пэндзлі — вялікі і малы.

## «Боцман»

Толя Александровіч не проста любіў Уладзіміра Высоцкага. Толя Высоцкага абагаўляў. У маленечкай майстэрні вісела незлічоная колькасць фотаздымкаў куміра. З магнітафона несупынна гучалі яго песні. Сам Толя вывучыў і паўтараў не толькі песні, але і рэплікі Высоцкага з розных фільмаў. Найбольш іх было з «Небяспечных гастроляў» і «Служылі два таварышы». Калі я падымаўся да Толі на гарышча, дык замест «добры дзень» ці «прывітанне» звычайна чуў ад яго сказанае рыхтык такім голасам, як у Высоцкага:

— Боцман, дуй в дудку, строй каманду... Адмірал на барту.

## Капейкі

Бацькі кожную нядзелю давалі Толю дзесяць рублёў. З дзясяткай ён ехаў з Койданава ў Мінск, дзе займаўся ў мастацкім вучылішчы. Пакуль Толя хадзіў у вучылішча і інстытут, ён жыў у кватэры маіх бацькоў. Разам з ім я пражыў у адным пакоі восем гадоў. Гэта шмат, асабліва для такой найлепшай пары жыцця, як дзяцінства, калі час яшчэ цячэ няспешна.

Калі Толя меў штотыднёвыя дзесяць рублёў і штомесячную васямнаццацірублёвую стыпендыю, дык мне давалі ў школу пятнадцаць капеек на дзень. Даводзілася падзарабляць. Я збіраў і здаваў бутэлькі, хадзіў па крамах за пакупкамі, каб пакінуць сабе капеечную рэшту. Грошы ў мяне — школьніка — былі заўсёды. У Толі яны часцяком у чацвер ці пятніцу заканчваліся. Ён пазычаў у мяне рубель ці пяцьдзясят — семдзесят капеек, абяцаў у панядзелак вярнуць. У панядзелак пазыка пераносілася на наступны тыдзень. Толя большасць пазык так і не вярнуў. Мне іх не шкада. Зазвычай у мяне вялікія праблемы з людзьмі, што не вяртаюць грошы; а тут ну зусім не шкада тых пазычаных капеек і рублёў.

## Альбомы

Толя Александровіч набываў кнігі па мастацтве і завозіў іх з Мінска ў наша Койданава. Там яны стаялі ў зашклёным серванце ў вялікай і светлай зале бацькоўскага дома. Раз на тыдзень, у нядзельную раніцу, Толя гартаў тыя альбомы і натхняўся. Калі ў яго быў добры настрой, тады і мне дазвалялася пагартаць каштоўныя альбомы і панатхняцца разам з ім.

## Кардыган

Бацькі падаравалі Толю новенькі чорны шарсцяны кардыган. На ім былі чатыры тонкія белыя вертыкальныя паскі. Яны раздражнялі Толю, бо не задавальнялі вытанчаны патрабавальны мастакоўскі густ. Было вырашана паскі зафарбаваць. З першага разу яны не зафарбаваліся, адно толькі моцна пашарэлі. Не зафарбаваліся яны і з другога разу. Толькі пасля трэцяй спробы паскі зніклі. Сакрэт трэцяй фарбоўкі кардыгана быў у тым, што ў фарбу для замацавання яе на шарсцяной тканіне дадалося крыху чалавечых сікуноў.

Толя ў суцэльна чорным кардыгане выглядаў элегантна, а пра мастакоўскі сакрэт стварэння прыгажосці публіка не ведала.

## Урубель

Толя захапляўся творчасцю рамантыка Міхаіла Урубеля. Асаблівае ўзрушэнне ў яго выклікалі ўрубелеўскія акварэлі. Пра «Ружу» ён мог разважаць бясконца.

— Ты заўважыў, як старанна вылеплены пялёсткі? Столькі працы, а свежасць і празрыстасць засталіся. А яго шклянка з вадою? Глядзіш — і адчуваеш яе напоўненасць і ўстойлівасць. Урубель — вялікі і непаўторны мастак. Яго трэба ведаць, у яго трэба вучыцца, ён варты любові...

Толя старанна вывучаў творчасць Міхаіла Урубеля. Яму былі блізкія ўрубелеўскія тэатральнасць, казачнасць ды кніжнасць. Разам з усім станоўчым, што ўтойвалася ў спадчыне знакамітага мастака, Толя атрымаў і шмат

адмоўнага. Хваравітасць, дэманічнасць, надломленасць і шмат чаго іншага дрэннага перайшло ад майстра эпохі мадэрну да Толі. Халодная, колкая і ліловая зорка Урубеля заўжды ззяла ў майстэрні Толі Александровіча.

## Высоцкі

У свае студэнцкія часы скульптар Вова Жбанаў быў вясёлым Санча Панса з Цівалёў пры Дон Кіхоце з Койданава, пры графіку Толю Александровічу. Яны былі вясёлай парай, любімцамі тэатральна-мастацкай публікі. Яны захапляліся тэатрам і кіно. Яны так любілі кіно і кінаартыстаў, што паехалі ў Маскву знаёміцца з Уладзімірам Высоцкім. Яны нават пазнаёміліся з народным кумірам Сямёнавічам. Падышлі да яго і пазнаёміліся. Ён папрасіў хлопцаў злётаць у гастраном па віно. Тыя прынеслі бутэльку. Высоцкі правёў іх за сцэну.

Вова і Толя прастаялі за сцэнаю ўвесь спектакль. Яны пратрымалі бутэльку ў руках увесь час, пакуль ішла п’еса. Пасля Высоцкі выпіў са Жбанавым і Александровічам. І развітаўся...

Апавяданне пра падарожжа ў Маскву і знаёмства з Высоцкім я выслухаў разоў са сто, а можа, і больш. Я выслухаў гісторыю і ад Толі Александровіча, і ад Вовы Жбанава. Я так наслухаўся пра непараўнальнага Сямёнавіча, што на нейкі час зненавідзеў Высоцкага. Калі той памёр, я быў якраз у Маскве, праходзіў пераддыпломную практыку ў Строганаўскім вучылішчы, але на пахаванне не пайшоў. І Жбанаў, і Александровіч, і шмат хто яшчэ вельмі здзівіліся, што я быў у Маскве, калі хавалі Сямёнавіча, але не пайшоў з ім развітвац-

ца. Не мой ён герой. Не мой. Чужы. Толя Александровіч і Вова Жбанаў — мае героі.

## Мара

У юнацтве Толя марыў паплаваць на белай яхце пад белымі ветразямі па Чорным моры са знакамітай спявачкай Сафіяй Ратару. Мара не спраўдзілася, але тут варта зрабіць адно ўдакладненне... Толя Александровіч меў адметную знешнасць. Ён быў такі прыгожы, што аднойчы спявачка Ірына Панароўская, пабачыўшы яго, перапыніла свой канцэрт і сказала, што выканае песню пра прыгажуна ў «красной рубашоночке» і спяваць яна будзе для хлопца ў чырвонай кашулі, які стаіць каля дзвярэй. Панароўская спявала для Толі Александровіча. Так што, я ўпэўнены, і Ратару магла б для яго заспяваць.

## *KINO*

*KINO* — польскі часопіс, што прадаваўся ў мінскіх саюздрукаўскіх кіёсках у савецкія часы. Каб набыць яго, трэба было прыходзіць раніцай пад адкрыццё кіёска і ведаць дзень, калі часопіс прывязуць. Яшчэ варта было мець папярэднюю дамову з кіяскёршай, каб яна не выставіла *KINO* на вітрыну, бо нехта іншы мог схапіць каштоўны часопіс. *KINO* прадаваўся па блату. Блат меў Александровіч. Калі Толі не было ў Мінску, я хадзіў у кіёск каля кінатэатра «Перамога» і выкупляў чарговы нумар. Чорна-белыя здымкі друкаваліся аксамітнай фарбай, таму яны здзіўлялі кантрастам і глыбінёй. Толькі самымі каштоўнымі здымкамі там былі вялікія каляровыя і з аго-

ленымі акцёркамі. У імперыі, дзе эротыка і парнаграфія былі пад забаронай, мецьфота з аголенымі кінадзівамі было сапраўднай раскошай. Яны радавалі, яны абуджалі жаданне, яны клікалі ў свет эратычных асалод. Яны былі тымі ўзорамі мастацтва, якія моцна паўплывалі на пакаленне маіх аднагодкаў і пакаленне старэйшых братоў. За што мы ўсе і ўдзячныя польскаму часопісу *KINO*.

## Таемны партрэт

У розны час самыя розныя віды мастацтва робяцца моднымі ў шырокіх народных масах. Бывае, што народ захопіцца керамікай, збірае розны посуд і гліняных чорцікаў з конікамі. Здараецца, што захапленне крышталём робіцца татальным. На нейкі час акварэльныя краявіды ў светлых рамах таксама зрабіліся модна-народнымі. Зрэшты, у кожнай лаўцы з сувенірамі народна-моднага мастацтва поўныя паліцы і вітрыны... Быў час, калі моднай зрабілася чаканка. Ледзь не ў кожнай кватэры над часопісным столікам каля таршэра вісела металічная дзяўчына з металічным сонцам. Мастакі спрабавалі патрапіць народнаму густу і пастуквалі ды пастуквалі па латунных пласцінах. Што толькі не вычаканьвалася на тонкім метале! Ільвы, сабакі, каты, аголеныя дзявулі, егіпецкія багі, сонцы з месяцамі...

Толя Александровіч вычаканіў партрэт свайго куміра — Уладзіміра Сямёнавіча Высоцкага з сямíструннай гітарай. Чаканнага Высоцкага ён змясціў у шырокую раму з дошак, апрацаваных паяльнай лямпай і лакам. Такая апрацоўка дошак тады называлася «Ворагі спалілі родную хату». Чаканны

Уладзімір Высоцкі вісеў на гарышчы ў кайданаўскім доме Александровічаў. Толькі вельмі блізкія да Анатоля людзі маглі палюбавацца шэдэўрам. Напэўна, і зараз той чаканны партрэт усё яшчэ вісць на гарышчы ў кайданаўскім доме, што стаіць на вуліцы Чапаева.

## Пятроў-Водкін і Саламаткін

Толік неяк прыйшоў дамоў у кепскім настроі.

— Што? — пытаюся.

— Не здаў экзамен па расійскім мастацтве. Не змог адказаць.

— Пераздасі.

— Канешне пераздам. Крыўдна, што адно пытанне з трох я добра ведаў. Трэцяе было пра творчасць Пятрова-Водкіна. Я ж яго выдатна ведаю, і «Чырвонага каня», і «Смерць камісара». Першае пытанне было пра гурток перасоўнікаў. Таксама можна было нешта нагаварыць. Але я прагарэў на другім пытанні пра мастака Саламаткіна. Пра такога я першы раз на іспытах і даведаўся. Яго прозвішча пішацца ў адно слова — Саламаткін. А я прачытаў ў два — Сала-Маткін. Мяне ўзяў смех. Спрабую нешта казаць і не магу. У галаве толькі Сала-Маткін і Пятроў-Водкін... Эльмарт Адэльбертавіч Петэрсон мяне выгнаў.

Чамусьці мне было не смешна, бо я падумаў, што Толя жартуе з мяне і не можа быць мастака з такім брыдкім прозвішчам, як Сала-Маткін. Толю нават давялося ў якасці доказу паказваць мне сваю залікоўку, дзе не было адзнакі па расійскім мастацтве. Каб яшчэ больш не псаваць настрой старэйшаму чалавеку, я нават зрабіў выгляд, нібыта паве-

рыў у Сала-Маткіна. Толькі па-сапраўднаму ўпэўніўся я ў яго існаванні на наступны дзень, калі у бібліятэцы прачытаў энцыклапедычны артыкул пра расійскага жывапісца-перасоўніка Леаніда Саламаткіна.

## Мора

Так здарылася, што Толя Александровіч, яго жонка Алена і я адначасова адпачывалі на беразе Чорнага мора. Мы не толькі хадзілі на адзін пляж, мы яшчэ і жылі ў адной кватэры, у маёй цёткі Рэні. У Толі і Алены быў асобны пакой, а ў мяне койка-месца на балконе. Я ўставаў як мага раней, снедаў і бег на пляж, каб паплаваць і пазагараць, а потым хадзіў у горад маляваць.

Толя з Аленай уставалі позна і няспешна ішлі на базар па садавіну. Яны куплялі самыя вялікія і самыя дарагія яблыкі і грушы, бралі найлепшы вінаград, выбіралі самыя сакавітыя абрыкосы. Потым іх старанна мылі. Рэня казала, што так старанна і доўга ніхто на яе памяці садавіну не мыў. На мора Толя з Аленай ішлі ўвечары. Яны сядзелі на апусцелым пляжы, елі бездакорна вымытую садавіну і глядзелі на мора. Толя і Алена сядзелі на пустым пляжы да самай ночы. Я не помню, каб яны купаліся ці хадзілі на якія танцы. Я нават не помню, каб яны на тым пляжы размаўлялі. Яны сядзелі моўчкі. Іх адпачынак звёўся да любавання вечаровым морам. Гадзінамі Толя і Алена праседжвалі, гледзячы, як змяняецца і гасне святло на марской вадзе, як астывае паўднёвае неба. Пэўна, тады яны былі ў раі.

У тым адпачынку мяне расчаравала толькі адна акалічнасць: Толя не маляваў. Раней, да жаніцьбы з Аленай, ён не выпускаў з рукі ало-

вак. Ён маляваў паўсюль і заўсёды. Разам з ім маляваў і я. У тым адпачынку я маляваў адзін і нават не паказваў Толю свае новыя малюнкі.

## Бондар і званы

У літфункцыянеркі Тасі Бондар быў любімы выраз: «Трэба біць у званы». Трэба біць у званы, бо культура гіне. Трэба біць у званы, бо руйнуецца архітэктура! Трэба біць у званы, бо гіне цывілізацыя!!! Бондар гаварыла гучна, раскацістым голасам, у нечым падобным да груганоўвага. Тасю было чуваць здалёк. Яе змаганне за цывілізацыю насамрэч было пустазвонным. Дзякуючы папулісцкім выказванням і нахабнаму імпэту, Тася замацоўвала сябе ў структуру дзяржаўнай машыны. Бондар прагла ўлады, а калі яе атрымлівала, паводзіла сябе з падначаленымі жорстка.

Неяк я прысутнічаў на абмеркаванні малюнкаў, зробленых Толем Александровічам для аздаблення часопіса «Беларусь». Тэхнічны рэдактар няправільна разлічыў колькасць тэксту на старонцы, і адзін з малюнкаў атрымаўся завялікі. Бондар схапіла яго і адарвала палову. Рваць чужы твор напалам яна лічыла цалкам нармальным і натуральным у сваім працоўным працэсе. Толя збялеў, сцяўся, сагнуўся, але не выказаў абурэння варварскімі паводзінамі Тасі Бондар. Я сказаў, што варта было паменшыць шрыфт і крыху скараціць тэкст, а не рваць добры малюнак. На што Бондар парыравала:

— Я крыху скараціла малюнак!

Каб зняць гнятлівае напружанне, яна высока ўскінула сваю веліканосую галаву і зарагатала.

## Свет

Толя Александровіч памёр. Ён быў для мяне старэйшым братам і настаўнікам у свеце мастацтва. Дзякуючы яму я паступіў у мастацкае вучылішча і стаў прафесійным мастаком. Без яго свет стаў горшым.

## Маці

За адзін тыдзень некалькі разоў у мае сны прыходзіла нябожчыца маці. Двойчы яна з'яўлялася разам з бацькам. Нешта казала і паказвала ў нейкім часопісе. Прачнуўшыся, я не мог згадаць яе слоў, не мог прыгадаць і паказанага ў часопісе. Так здараецца, што ты спрабуеш згадаць сон цалкам, а ён помніцца адно фрагментамі.

Маці хацела папярэдзіць мяне. Калі пабачыў белы матчын твар, па якім цяклі чорныя слёзы, я нават спалохаўся. Яны цяклі не з яе блакітных вачэй, а са шчок пад вачыма. Густыя, як нафта, слёзы пакідалі на бялюткім твары чорныя рагі... Была ў мяне здагадка, што нябожчыкі прыйшлі па некага мне блізкага, прыйшлі, каб забраць да сябе нашага сваяка. І ўсё адно, прачытаўшы чорную навіну пра смерць Толі Александровіча, я гучна, на ўсю майстэрню сказаў: «Не!»

## Шапкі

Толя любіў стыльныя шапкі. У мастацкае вучылішча ён хадзіў у брунатнай вельветавай фуражцы з чорным лакіраваным брылём. Тую стыльную фуражку яму сяброўкі прывезлі з Тарту. У студэнтаў тамтэйшага ўніверсітэ-

та былі — ці не ў адзіных на ўсю імперыю? — форменныя фуражкі. На пачатку сямідзясятых гадоў гэтыя просценькія фуражкі лічыліся ў маладых людзей самымі моднымі з усіх мужчынскіх галаўных убораў. Такая ж бруnatная фуражка была і ў Вовы Жбанава. Я пра падобную раскошу на галаве нават марыць не наважваўся.

Апошні раз я бачыў Толю ў чорнай вязанай шапцы. Падумалася, што шапка простая, але цёплая і стыльная. Яшчэ падумалася, што ў наступную нашу сустрэчу мы абавязкова спынімся і загаворым. Мы ж не ведалі, што бачымся ў апошні раз. Не ведаю, пра што падумаў Толя ў час нашай апошняй выпадковай сустрэчы каля крамы «Акадэмкніга», а я падумаў пра цёплую шапку.

## «Босыя на вогнішчы»

Часам варта і ўдакладніць, якім чынам той ці іншы мастак зрабіў свой твор. Ёсць майстры, якія на першае месца ставяць рацыю, яны робяць акуратныя і патрэбныя рэчы. Увесь узорны дызайн зроблены мастакамі разважлівымі і спакойнымі. Сустракаюцца творцы, якія прыслухоўваюцца да свайго сэрца, да сваіх рытмаў. Ёсць жывапісцы, што цікавяцца толькі эратычнымі пачуццямі. Пра такіх кажуць: «Міша сам ведаеш чым піша!» Толя Александровіч маляваў нервова. Яго найлепшыя вобразы былі сатканы з агаленых тонкіх нерваў. Да афортаў, зробленых ім па матывах паэмы Міхася Чароты «Босыя на вогнішчы», страшна дакрануцца. Здаецца, што дакранешся — і атрымаеш смяротны ўдар токам.

Серыя каляровых афортаў «Босыя на вогнішчы», безумоўна, самае лепшае са створанага Анатолем Александровічам. Ён зрабіў іх на апошнім курсе інстытута, гэта быў дыпломны праект. Рабіў, зрабіў і згарэў. Толя выклаўся цалкам. Выклаўся так, што на абароне дыплома не мог стаяць. Ледзь жывы, ён сядзеў на крэсле і выслухоўваў хвалебныя спевы пра сваю геніяльнасць і непаўторнасць. Тады яшчэ здавалася, што здароўе Толі паправіцца, што ён і далей будзе на цынкавых дошках выдрапваць нервовы космас новых і новых герояў, якія будуць танцаваць босымі на залатым вуголлі. Гэта толькі здавалася, на жаль.

## Вытанчанасць

Ён любіў вытанчанасць у рэчах і з'явах. Вэлюм, вільготныя складкі з найтанчэйшай тканіны, замець, імжа, шкло, крылы матылькоў і стракоз, акварэльнасць, летнія травы, дзьмухаўцы, пялёсткі... Чым больш тонка і празрыста, тым лепш для Толі. Неяк ён цэлы тыдзень разважаў, як намалюе замець на мінскай вуліцы каля старой цёмна-чырвонай пажарнай часці. Не намаляваў, бо сама пажарная, як ні круціў, выглядала брутальнай.

## Іра

Сёстры бываюць самыя розныя. Найбліжэйшыя — родныя, але ў мяне роднай сястры якраз і няма. Шкада, вядома. Стрыечных шмат. Жывуць яны ў самых разнастайных месцах па ўсім белым свеце. Адна ў Сочы, другая ў Нью-Ёрку, трэцяя пад Брэстам, а чацвёртая ў родным Койданаве. Тую, што жыве на Бе-

расцейшчыне, я нават і не бачыў у рэальным жыцці. Добра, што на фота можна глянуць. Акрамя стрыечных сясцёр у мяне былі ажно дзве сястры малочныя. Мая мама мела шмат малака, а ў цёткі Алены малака не хапала, бо яна нарадзіла двойню. Мама хадзіла ў дом нашых блізкіх сваякоў і карміла Іру і Тамару.

Іра нарадзілася другой і слабейшай за Тамару, але, можа, за гэта прырода надзяліла яе адметным матэматычным розумам. Іра скончыла ўніверсітэт і зрабіла хуткую кар'еру ў банкаўскай сферы. Ёй нават кватэру далі як здольнаму і патрэбнаму маладому спецыялісту. Шкада, што той кар'ерны ўзлёт быў кароткім. Іра захварэла і вярнулася да маці, у наша спакойнае Койданава. Цётка Алена глядзела хворую дачку. Для бацькоў усе дзеці любімыя, а той, які хварэе, — найдаражэйшы. Сваю мінскую кватэру Іра перадала сваякам. Цётка Алена пражыла доўгае жыццё. Да апошніх сваіх дзён глядзела яна любую дачушку Ірыначку. Калі цётка памерла, сваякі вырашылі, што Іра не зможа жыць адна, і здалі яе ў прытулак для хворых недзе пад Ракавам. Там яна жыць не захацела, так не захацела, што ўцякла. Іра ўцякла ўночы, пасярод зімы, у лютыя маразы, калі на вуліцы было ажно мінус дваццаць пяць. У тую ракавую ноч на сястры быў толькі халат ды хатнія тапкі на босых нагах. Іра замерзла пасярод голага поля...

Пачуўшы пра страшную смерць сястры, я хацеў пагаварыць з яе старэйшым братам, але адклаў размову, бо не ведаў, што казаць. Я і зараз не ведаю, што тут казаць. Расказаць пра Іру магу, а што казаць, не прыдумваецца. Разгубленасць у душы, страх і слёзы. Адно

што яшчэ скажу: Іра памерла ў дзень нарадзінаў свайго старэйшага брата — Толі Александровіча.

## Смерць

Смерць Толі Александровіча была для мяне поўнай нечаканасцю, а таму ў ёй я не бачу натуральнасці. Ён мог бы яшчэ жыць і працаваць. Ён, як на мой погляд, не назапасіў патрэбную колькасць грахоў, каб памерці. Толя быў сціплым, сарамлівым і ціхім. Яго паслухмянае жыццё прайшло ў кватэрнай майстэрні. Ён не хадзіў на парады, мітынгі і шэсці. Ён жыў у свеце кніжнага і часопіснага мастацтва... Калі памірае горкі п'яніца ці нахабны распуснік, ніхто моцна не дзівіцца з яго смерці. Некаторыя нават уздыхаюць з палёгкай. Смерць пыхлівага, сквапнага, лянівага, злога ці зайздроснага чалавека гэтаксама не выклікае шмат слёз. Горка плачуць па заўчасна памерлых, плачуць над трунамі добрых і таленавітых. Толя быў са здольных, таму цяжка прыняць яго смерць за натуральную. Так цяжка прымаць і думкі пра ўласны скон. Як мала нам дадзена жыцця, як хутка яно мінае, як шкада страчваць блізкіх і дарагіх табе людзей... Толю, якога я называў старэйшым братам, шкада ажно да болю ў сэрцы.

## Рэліквія

Сямейныя рэліквіі я захоўваю ў майстэрні. Ад маці да мяне перайшоў флакон з духамі. Некалі той шкляны важкі зеленкаваты флакон належаў бабе Ядзе. У дзяцінстве я браў яго з трумо, падыходзіў да акна і люба-

ваўся, ён і зараз мне радуе вока. Побач з флаконам я паставіў на паліцу вялікі, на паўлітра, цёмна-сіні парцалянавы кубак. На ім ёсць белыя, жоўтыя і аранжавыя кругі. Падобныя кубкі прадаваліся ў нашых крамах напрыканцы шасцідзясятых гадоў. Ёсць у ім посткантруктывісцкая чысціня. Кубак належаў Толю Александровічу. Восем гадоў ён піў з яго вечаровую і ранішнюю гарбату, пакуль жыў у кватэры маіх бацькоў. Трыццаць гадоў кубак захоўваўся ў бацькоўскай кухні, а цяпер стаіць, поўны рознакаляровых алоўкаў, у маёй майстэрні на відным і пачэсным месцы.

## Песні

Паўдарогі з дому на вучобу мы з Толем праходзілі пешкі. Мы ішлі па вуліцах Апанскага і Урыцкага, ішлі ад Кальварыйскіх могілак на праспект. Па дарозе мы спявалі. Калі ты спяваеш, ісці ўдвая лягчэй. Правяраў шматкроць. Якіх толькі песень я не паспяваў у дарозе!.. Не пералічыць. З Толем мы спявалі Высоцкага пра Мінск:

*В холода, в холода,*
*От насиженных мест*
*Нас другие зовут города, —*
*Будь то Минск, будь то Брест.*
*В холода, в холода...*

Спявалі Высоцкага пра Толю і смяяліся:

*В королевстве, где всё тихо и складно,*
*Где ни войн, ни катаклизмов, ни бурь,*
*Появился дикий вепрь огромадный —*
*Толя — буйвол, Толя — бык, Толя — тур...*

Спявалі Высоцкага:

*Он был мне больше чем родня —*
*Он ел с ладони у меня, —*
*А тут глядит в глаза — и холодно спине.*
*А что ему — кругом пятьсот,*
*И кто там после разберёт,*
*Что он забыл, кто я ему и кто он мне!*

Толя любіў песні Уладзіміра Высоцкага, і мы спявалі з ім толькі Высоцкага.

# КОЖУХ

*Словы пра жывапісца Валодзю Кожуха*

## Рэпрадукцыі

Валодзя Кожух, безумоўна, цудоўны жывапісец. Уся яго творчасць зводзіцца да карцін, напісаных алейнымі фарбамі на палатне. Праўда, жывапісцы бываюць рознымі. Ёсць сярод іх «тачылы». Маленечкімі, падобнымі да іголак пэндзлікамі яны апрацоўваюць кожны сантыметр свайго шэдэўра. Вымалёўваюць расінкі на пялёстках, блікі ў зрэнках і валаскі на футры.

Кожух ніколі не быў «тачылам». Ён не быў і «мазілам»: гэтыя шырокімі флейцамі замазваюць метры палотнаў густымі і яркімі фарбамі. «Мазіламі» можна назваць Альгерда Малішэўскага ды Ізраіля Басава. «Тачыламі» былі Мікола Селяшчук і Георгій Скрыпнічэнка.

Валодзя Кожух быў «танкачом». Колеры на яго карцінах вытанчаныя, трапяткія, паве-

траныя. Ніводная рэпрадукцыя ніколі не перадасць каларыт і настрой карцін Кожуха. На іх яго творы глядзяцца значна горш. Яны не проста іншыя, яны заўжды горшыя. Толькі стоячы каля палатна, напісанага Кожухам, можна ўбачыць, адчуць і ацаніць яго вялікі талент...

Аднойчы ў рэдакцыі часопіса «Маналог» я доўга разглядаў з Аляксеем Андрэевым экранныя рэпрадукцыі Кожуха. Мы іх разглядалі больш за гадзіну, але так і не зрабілі падборку для публікацыі. Расстроіліся і адклалі размову пра Кожуха да лепшых часоў. Увечары я зайшоў у мастацкі салон і пабачыў там нацюрморт з грыбамі, напісаны Кожухам. Грыбы былі жывымі, духмянымі, ахутанымі густым вясковым паветрам.

Ніхто з жывапісцаў так моцна не страчвае ў рэпрадукцыях, як «танкачы». «Мазілы» таксама страчваюць, але не так моцна, а вось «тачылам» на рэпрадукцыях яшчэ і дадаецца якасці.

## Букеты

Падумалася: на пахаванні жывапісца Валодзі Кожуха павінна быць шмат кветак. Ён памёр у самым квітнеючым з беларускіх месяцаў — у ліпені. Нашаму чалавеку ўлетку проста грэх пайсці на пахаванне без букета. Узімку можна ісці без кветак, цябе зразумеюць, а ў сярэдзіне лета трэба прыходзіць на апошняе развітанне з букетам. Сам Валодзя быў паслядоўным традыцыяналістам, на адкрыццё мастакоўскіх выстаў заўсёды прыносіў букет. Калі я сустракаў на вуліцы Кожуха з кветкамі, адразу пытаўся:

— У каго сёння выстава?

Ён спыняўся, усміхаўся і называў прозвішча.

Божа ж ты мой, колькі дарагіх букетаў Валодзя Кожух папераносіў на розныя выставы! Не пералічыць. Ды і не трэба тых падлікаў цяпер. Таму і з Уладзімірам Кожухам развіталіся па-чалавечы і квяціста. Пахаванне атрымалася жывапісным, бо на ім было шмат самых розных букетаў...

## Непазнавальнасць

На пахаванні Кожуха я стаяў у царкве, глядзеў у труну і не мог сябе пераканаць, што там менавіта ён — наш любімы жывапісец Валодзя Кожух. Замест барадатага, усмешлівага, яснавокага Валодзі я бачыў маленечкага чалавека, які адначасова нагадваў хлопчыка і дзядка. Безвалосая галоўка з заплюшчанымі вочкамі была зусім не падобная на манументальную апостальскую галаву Кожуха.

Нешта падобнае я бачыў у юнацтве, калі бязлітасны рак з'ядаў нашага дзядзьку Чэся Александровіча. Статны мужчына за якія пару месяцаў схуднеў да непазнавальнасці. Засталіся толькі вочы, скура і косткі. Я спрабаваў маляваць Чэся, але нікому не стаў паказваць: такі страшны ён атрымаўся на маім чорным малюнку.

Калі я расказаў знаёмай галерэйшчыцы пра свае ўражанні ад пабачанага на пахаванні Кожуха, яна падзялілася сваім глыбока інтымным назіраннем. Рак еў яе мужа. Высокі жыццялюб і прыгажун пачаў раптам худнець і слабець. У апошнія дні жыцця яму далі ў руку мабільны тэлефон, каб адным націскам на кнопку можна было паклікаць дапамогу.

Позна ўвечары ён націснуў кнопку. Калі жонка прахапілася ад сну і падышла да мужа, дык не пазнала яго.

— Стаяла, глядзела і не верыла вачам. Замест мужа на ложку ляжала мумія. Можа, паўгадзіны я прастаяла над нябожчыкам. Так і не змагла да яго дакрануцца. Патэлефанавала сыну. Калі той прыехаў, мы пачалі разам пацірху прыбірацца...

У гісторыі мастацтва ёсць шмат натурных малюнкаў, зробленых каля труны. Тэма пахавання — адна з самых урачыстых і ўзнёслых у жывапісе. Разумею, але думаю, што я яшчэ паспрабую намаляваць Валодзю Кожуха жывым.

## Жывіца

Валодзя напісаў эцюд з соснамі і выставіў яго на інстытуцкім праглядзе. Невялічкае квадратнае палатно мяне ўразіла. Шчыльныя колеры. Вечарова-ружовае неба. Смарагдавыя да сінечы і ліловасці шаты соснаў. Вохрыста-залатыя ствалы на цёмна-бронзавым пагорку. Падавалася, што намаляваны краявід пах не алеем і лакам, а натуральнай жывіцай. Мне захацелася схадзіць у той краявід. Проста пайсці і пастаяць у ім. Раней ніводная карціна не нараджала падобнага жадання. Зразумела, што я ўяўляў вандроўкі па намаляваных картах і выдумляў нейкія свае прыгоды ў кніжных гравюрах і малюнках, але пастаяць у натуральным краявідзе, які натхніў мастака напісаць карціну, такога раней не было, дакладна.

Можа, гэта здарылася таму, што я адразу пазнаў той мінскі куток. Я шмат разоў прахо-

дзіў праз яго і каля яго, але ніколі не спыняўся. Я не бачыў яго маляўнічасці, яго велічнасці і значнасці. Для мяне гэта быў самы просты пагорак з соснамі, за якім узвышаўся безаконны будынак хладакамбіната. Эцюд Валодзі Кожуха змяніў яго для мяне кардынальна. Кавалак дзіцячага парку стаў геніяльнай карцінай. Безыменны пагорак я пераназваў для сябе ў пагорак Кожуха. У горкія хвіліны я прыходжу туды, слухаю пошум соснаў, дзіцячыя галасы, бразгат трамваяў... Мне там добра. Мая душа на тым пагорку наталяецца водарам жывіцы.

## Яны

У нашых доўгіх размовах з Кожухам мы стараліся не казаць пра іх. Яны былі для нас чужымі, варожымі і далёкімі. Яны — тыя, хто забараняе, хто ціснe і прыніжае, хто выкідае і не прапускае. Перад тым як напісаць мне рэкамендацыю ў Саюз мастакоў, Валодзя спытаў, нашто мне патрэбны гэты састарэлы саюз. Я адказаў:

— Я прыйшоў у свет, каб намаляваць некалькі малюнкаў і напісаць пару карцін. Спадзяюся, што ў асяроддзі прафесійных мастакоў мне будзе крыху лягчэй іх выставіць і паказаць людзям...

Кожух напісаў рэкамендацыю, а калі яны пачалі мяне ў саюз не пускаць, ён устаў і сказаў:

— Скажы ім тое, што ты казаў мне!

Напэўна, трэба было сказаць, што я прыйшоў у гэты свет, каб напісаць некалькі карцін, і мне патрэбна дапамога і падтрымка прафесіяналаў, але я гэтага не сказаў. Я востра адчуў, што ёсць яны і мы. Ёсць свае і чужыя, па-

плечнікі і ворагі, таварышы і мярзота... Увечары Валодзя казаў, што яны надаюць яму па галаве за тое, што мяне падтрымлівае. Я яго як мог суцешыў:

— Валодзя, ты ім скажы, што больш не станеш са мной таварышаваць. Адрачыся ад мяне, яны табе паверацць, а я табе дарую!

## Кола

Ёсць мастакі, якія працуюць для мастакоў. Такім быў і Валодзя Кожух. Ён выдатна маляваў. Яго палітра была густоўнай і вытанчанай. Кожух старанна выбудоўваў кампазіцыі. Ён арганічна глядзеўся ў музеі, дзе расстаўляў для чарговай выставы палотны сваіх геніяльных папярэднікаў. Валодзя заслужана атрымліваў узнагароды, прэміі і званні. Прэзідэнт паціскаў руку Кожуху за супрацоўніцтва з дзяржавай. Цяпер можна сказаць, што ў Валодзі Кожуха атрымалася пражыць жыццё прызнанага творцы. Адно што ён ніколі не выходзіў за межы акадэмічнага мастакоўскага кола — і народ застаўся раўнадушным да яго сумленнай і высокапрафесійнай творчасці.

## Карціны

«Каталіцкія могілкі». Углядзіся ў зімовы краявід: гонкія бярэзіны сышліся на груду і скláліся ў гатычны сабор, хмызы, нібыта постаці анёлаў, вітаюць цябе пры ўваходзе на месца вечнага спакою. Яркая тонкая паска чырвонага плота аддзяляе ад смерці, ад мінулага, ад дзядоў-прадзедаў, ад вечнасці, бо душа чуе музыку, чуе арган...

«Ранак». Зноў груд, вялізныя валуны, якімі так шчодра ўсыпала прырода нашу зямлю, ядлаўцовыя дрэўцы, нібыта манахі, уздымаюцца да паркалёвага неба. Зялёным анёльскім крылом (не аспрэчвайце, я ведаю — бываюць анёлы колеру вясновае лістоты) узняўся ў неба малады бярозавы гаёк, на камені сядзіць хлопчык-мастак. Паклаўшы на калені белы планшэт, ён углядаецца ў далячынь, ён услухоўваецца, ён чуе музыку нябачнага, яшчэ не збудаванага беларускага сабора...

«Баба Ганка» з серыі «Зёлкі». Летні спакой, пагорак, хата, накрытая гонтаю, гумно, аблокі зеленаватых бярозавых вершалінаў у светлым небе. Старая кабета адпачывае, сядзіць на мурагу, склаўшы цёмныя рукі на хвартуху...

## Завершанасць

Валодзя Кожух, седзячы аднойчы пасярод старой запыленай майстэрні, сказаў мне, што ў яго прапала жаданне дапісваць палотны. Каля сцяны стаяў вялікі стос незавершаных карцін.

— Пагляджу на іх, — Валодзя хіснуў галавой у бок распачатых палотнаў, — сам у сябе запытаюся... Каму гэта ўсё трэба? І кладу пэндзаль на палітру. Амаль ніхто не ходзіць на выставы. Ніхто не купляе карціны. Нашто іх дапісваць? Распачаць працу над новым палатном мне яшчэ цікава, а дапісваць — не!

— У мяне ўсё роўна наадварот, — адказаў тады я. — Доўга не магу падысці да палатна. Раблю эскізы. Адкладаю пачатак работы. Але калі пачну пісаць карціну, дык яна мне не дае спакою, ажно пакуль не скончу. Незавершаная карціна займае ледзь не ўсе мае думкі,

нават у сне я яе пішу і пішу. Як толькі скончу, цікавасць да карціны прападае цалкам. Таму мне не шкада іх дарыць і прадаваць. Не... Дарыць — шкада.

## Вітрыны

Першае, што пачало змяняцца і моцна змянілася ў постсавецкай Маскве, — крамныя вітрыны. Яны заззялі новым святлом, напоўніліся замежнымі прысмакамі, зрабіліся вокнамі ў свет сапраўднага, а не паказушнага дабрабыту. За расійскім вітрынным шклом з'явіліся дарагія чалавекападобныя манекены. Яны былі такія выразныя і надзвычайныя, што спынялі нават барадатых мастакоў.

Гурт вядомых беларускіх жывапісцаў, якія зладзілі выставу ў музеі на Цвярской, аднойчы стаяў каля такой абноўленай вітрыны.

— Цёткі як жывыя! — заўважыў нехта з іх, можа, нават Качан.

— Лепшыя за жывых... — удакладніў Кожух.

— Чым лепшыя? — спытаў хтосьці — можа, Грышкевіч, а мо і Касцючэнка. Кожух вытрымаў паўзу і ціха адказаў:

— Яны маўчаць...

## Натуршчыкі

У метро краем вока бачыў Кожуха. Сівая барада, высокі лоб, правільны нос, светлыя вочы... І ўся гэтая веліч, уся леанардаўская манументальнасць правільна пасаджана на шырока разгорнутыя плечы. Партрэт! Бяры і малюй, не памылішся. З узростам усе мастакі робяцца падобнымі на... Не на карціны вялікіх майстроў. І не на малюнкі геніяў.

Робяцца падобнымі на натуршчыкаў з Акадэміі мастацтваў.

## Ручнік

Валодзя Кожух любіў выцірацца чорным ручнікам. У яго нават такая карціна ёсць — «Аўтапартрэт з чорным ручнікам».

# РУСАВА

*Словы пра авангардыстку Люду Русаву*

## Блакіт

У даўнія часы, калі я пісаў карціны ў сутарэннях пад крамай камісійных тавараў, першымі іх гледачамі былі мае сябры. Зараз, калі шмат хто з тых сяброў сышоў за край жыцця, а я працую ў студыі над універсамам «Цэнтральны», першымі гледачамі новых карцін сталі фрэнды з фэйсбука і жывога часопіса. Змяніўся свет, змяніўся і мастак, але я ўсё яшчэ застаюся ў коле каштоўнасцяў сваіх старых сяброў. Раскажу пра адну з каштоўнасцяў мастачкі Русавай...

У нейкі момант Люда Русава вырашыла адмовіцца ад служэння д’яблу. Так і сказала:

— Надакучыла служыць д’яблу. Буду служыць Богу. Цяпер у мяне асноўны працоўны колер — блакітны...

І Люда паказала шмат светла-блакітных малюнкаў, зробленых на паперы. Напрыкан-

цы жыцця палотны Русавай сталі зноў цёмнымі, пурпуровымі і змрочнымі. Больш мы ніколі не размаўлялі пра яе служэнне Богу. Я не цікавіўся, а яна маўчала.

Калі Люда памерла, я напісаў некалькі блакітных палотнаў, прысвечаных ёй. Русава нібыта пакінула мне ў спадчыну свой блакітны колер — і ва ўсіх маіх блакітных карцін першая глядачка ўсё яшчэ Люда Русава.

## «6-я лінія»

Русава неяк запрасіла мяне ў галерэю «6-я лінія». Каб не сумаваць і не мерзнуць у той халоднай галерэі, я трошкі выпіў. Калі крышачку вып'еш, можна ў любую галерэю ісці. У «6-й лініі» Русава паказвала сваё аголенае цела. Мне было лягчэй, чым астатнім, бо я выпіў чарачку і аголенае цела Русавай бачыў раней — Люда пазіравала мне як натуршчыца. Скажу тут як прафесійны мастак і як аматар маляваць з натуры: кепскіх натуршчыц не бывае, бываюць толькі гора-малявальшчыкі, якія не могуць радавацца натуральнаму. Адзін з такіх гора-малявальшчыкаў — танцор Тарановіч — цела Люды Русавай раней не бачыў, ён узрушыўся і сказаў мне, што ў яго танцавальным тэатры ўсе дзяўчаты значна прыгажэйшыя за Русаву. Я спытаў у танцора, ці можна спакушаць яго артыстак. Тарановіч захваляваўся і сказаў, што танцоркі не спакушаюцца такімі мужчынамі, як я. Цікавасць да танцавальнага тэатра спадара Тарановіча ў мяне прапала. Канешне, я не паверыў яму, але марнаваць час на пераборлівых танцорак не захацеў. У той вечар я пайшоў балявацьз мастачкай Русавай і са спявачкай Кура-

паткінай, якая ўдала выконвала маю песню: «Танчыць чорная котка на кухонным стале...»

## Альбом

У кнігарнях з’явіўся альбом з працамі і фотапартрэтамі авангардысткі Люды Русавай. Альбом той мяне моцна парадаваў. Ён падобны да савецкіх часопісаў пра дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, падобны да выданняў з букіністычнай крамы, падобны да старых рэчаў, якія я ўсё яшчэ люблю.

## Выстава

На выставу Люды Русавай ісці не хацелася. Прыходзіш на такое мерапрыемства, а да цябе лезуць нейкія незнаёмыя цёткі і пачынаюць папракаць: не тое сказаў, не так напісаў, або добра — або ніяк... Ну скажыце вы правільна, ну напішыце вы разумна, ну вярніцеся вы ў мінулае і дапамажыце Людзе грашыма! Не скажуць, не напішуць і не дапамогуць. Яны пакліканы папракаць, крытыкаваць і асуджаць. Таму я рэдка прыходжу на выставы Русавай, не езджу на радзіму Сыса, не часта наведваю вечарыны, прысвечаныя Караткевічу...

Нашто псаваць сабе ды іншым настрой? І ўсё ж на выставу Люды «Татальны перформанс» схадзіў. Народу было мала, але ўсе свае. Прыйшлі людзі, што па-сапраўднаму любілі Русаву і яе творчасць. Іх не шмат, але яны шчырыя ў сваім захапленні. Выстава добра перадала той рэвалюцыйны напал, які заўсёды быў у Люды. Я парадаваўся за мастакоў, што ўсё яшчэ цэняць самаахвярнасць.

## Пафас

Русава заўжды захаплялася рэвалюцыйным мастацтвам. Мусіць, усе, хто вучыліся на манументалістаў, любілі рэвалюцыйны настрой, любілі роўнасць і розум, любілі касмізм і пафас. Калі я разглядаю шматлюдныя фотаздымкі з віцебскімі авангардыстамі дваццатых гадоў, сярод маладых Лісіцкіх і Малевічаў, Чашнікаў і Шагалаў я міжволі шукаю твар маладой Люды Русавай. Яна проста мусіла там фатаграфавацца, недзе побач з Надзяй Хадасевіч... Таму, складаючы змест кнігі «Віцебская школа. Беларускае мастацтва дваццатага стагоддзя», прозвішча Русавай я напісаў адным з першых.

У марудныя і задушлівыя часы застою, калі трухлявай імперыяй кіравалі састарэлыя і нямоглыя гора-правадыры, а ў мастацтве зрабіўся модным забаўляльны кіч і салодкі мяшчанскі прымітыў, Русава заставалася рэвалюцыйнай і пафаснай. Праўда, яна была больш анархісткай, чым сацыялісткай, больш індывідуалісткай, чым камандным гульцом. Яе колеры — чорны і блакітны, а не чырвоны. Яе пафас — мемарыяльны, аскетычны і касмічны. У ім няма месца смеццю і выпадковым дэталям. Пафас Русавай чысты, як кавалак свежаадколатага лёду.

## Хахлова

Мастачка з прозвішчам Русава лічылася і пісалася ў пашпарце ўкраінкай, а жонка Пабла Пікаса балерына Хахлова залічваецца да рускіх. Чамусьці.

## Герой

Люда Русава, як і ўсе манументалісты, шукала і знаходзіла героя. Без героя, без пафасу, без сур'ёзнасці і ўрачыстасці манументальнае мастацтва не існуе. Лірычны манументалізм 70-х і пачатку 80-х напоўніцу выказаўся пра райскія сады і цнатлівых падлеткаў, пра чароўных птушак і казачных жывёл, пра зорнае неба і Млечны Шлях... Здавалася, што ўсе тэмы вычарпаныя, што ўсе героі намалёваны і перамалёваны, што новае слова ў манументальным мастацтве сказаць нельга. Якое можа быць новае слова, калі нават новае неба ўжо намалявана па-новаму?

Русава знайшла паратунак у васкрашэнні. Яна ўваскрасіла напаўзабытага генія рэвалюцыі Казіміра Малевіча. Перформанс «Уваскрашэнне Казіміра Малевіча» зладзіўся ў 1988 годзе, якраз тады, калі на тутэйшых абшарах з'явіліся менеджары па продажы і перапродажы музыкі, мастацтва і літаратуры. Тады, калі роля мастака, пісьменніка і выканаўцы пачала катастрафічна змяншацца. Менеджарам патрабаваўся прадукт, а не творца. Раней нават цяжка было ўявіць адкрыццё выставы сучаснага мастацтва без саміх мастакоў. У сярэдзіне 90-х іх станавілася ўсё болей і болей. Нашто запрашаць на выставу брудных, п'яных, смярдзючых, самазакаханых мастачкоў? Іх і не запрашалі... Менеджары і пакупнікі звінелі келіхамі з дарагім шампанскім на арт-вечарынках. Нашы мастакі былі загнаны ў сутарэнні пад арт-палацамі. Каб вырвацца з іх у асветленную залу, мастаку трэба было прадаць твор разам са сваім целам, трэба было зрабіць сваё цела часткай твора.

Русава ў гэтай справе была піянеркай, яна рабіла адзін перформанс за другім, яна ўключала ў іх свае малюнкі, вершы і габелены. Гэта было адзіным магчымым варыянтам, каб не пагадзіцца са смерцю аўтара. Дарэчы, большасць мастакоў, пісьменнікаў і музыкаў пагадзілася на працу пад псеўданімам, без аўтарскіх правоў, на смерць аўтара дзеля красавання брэнда. Русава ў сваёй творчасці працавала на ўласнае імя. Яе «Самаідэнтыфікацыя, альбо Цела фарбы» (1995), яе «Муміфікаванае пісьмо. Постскрыптум 8/1» (1996), «1/8 Муміфікаваны знак» (1996), «Пасля» (1997) сталі ўзорнымі перформансамі для тутэйшай арт-прасторы. Імя Людмілы Русавай залатымі літарамі было ўпісана ў новае мастацтва абноўленай Беларусі.

## Крыж

Ніводны з вядомых мне мастакоў не зрабіў столькі запамінальных танцаў вакол крыжа і з крыжам, колькі іх зрабіла Люда Русава. Гэта асноўны элемент у яе творах. Эталонныя квадраты Малевіча ў творчасці Русавай расквітнелі крыжамі. Калі сам Малевіч вырасціў з белых квадратаў крысталічныя архітэктоны, якія пазней ператварыліся ў краявіды шматлюдных мегаполісаў з бліскучымі небаскробамі, дык у Людмілы Русавай квадраты вярнуліся ў стан мемарыяльных крыжоў, надмагільных пірамід і пясочных гадзіннікаў. Русава вярнула квадраты Малевіча з касмічнага падарожжа ў звычайныя правінцыйныя крэматорыі і калумбарыі. Крыжы мастачкі зямныя, заземленыя і цяжкія. Бачыш іх —

і твае вусны міжволі прамаўляюць: *«Memento mori»*.

Русава належыць да мастакоў, якія перакананы ў тым, што на зямлі нічога вышэйшага за надмагільны крыж проста не бывае. І яшчэ... Усе крыжы Люды Русавай знарок матэрыяльныя. У іх няма адушаўлёнасці. Яны далёкія ад таго крыжа, які знаходзіцца ў сярэдзіне чалавека і вакол якога выбудоўваецца вестыбулярны апарат. У крыжах Русавай няма вертыкалі, праверанай адвесам, і няма гарызанталі, узгодненай з нівелірам. Крыжы яе дэкаратыўныя, а не архітэктурныя. Яны тэатральныя і бутафорскія, іх добра выкарыстоўваць у перформансах і акцыях, без падобных дзеянняў яны выглядаюць зусім цацачнымі і дзіцячымі.

## Падабенствы

На каго была падобная Люда Русава? На артыстку, але не на сучасную тэлесерыяльную ці тэлетэатральную, а на артыстку вялікага нямога кіно. Так-так, і ў кіно быў час адназначнай велічы, усе так і казалі пра кіно — вялікі нямко. Гэта быў час качынага Чапліна і браняноснага Эйзенштэйна, час меланхалічнай Халоднай і зефірнага Валянціна. Як толькі ў кіно дадаліся колер і сінхронная агучка, яно страціла значную частку велічы. Парадокс. Дадаванне прывяло да страт. Больш ніхто не называе кіно вялікім і асноўным з мастацтваў.

Люду Русаву заўжды цікавіла выключная веліч, яна выбірала ўзоры з манументальнага мастацтва, яна і была падобнай да артысткі з вялікага нямога кіно.

## Нітка

Чытаю: «...Язэп перабіраў у памяці нітку свайго жыцця. За многа год наматаўся вялікі клубок: ёсць і вузлы на гэтай нітцы — не раз і не два рвалася, не раз яна звязвалася, калі на тугі, а калі і на слабкі вузел...» Чытаю і перачытваю ў бацькавым апавяданні «Свой чалавек». Не ведаю, каму як, а для мяне важная непарыўнасць такой ніткі не толькі ў жыцці, але і ў творчасці. Намацаць танюткую нітачку мастацкай праўдзівасці не так і лёгка, а намацаўшы, важна не ўпусціць яе і, крый бог, не парваць. Менавіта па такой нітцы крок за крокам можна дайсці да твора завершанага, здзейсненага, свайго і толькі свайго.

З маіх знаёмых мастакоў нітку творчасці найлепш адчувала і ўтрымлівала Люда Русава. Для яе гэты працэс, гэты шлях па нітцы і за ёю быў натуральным. Для яе нітка была не толькі сімвалам і элементам метафары, для Русавай яна была асноўным матэрыялам. Людміла ўвесь час нешта вязала, вышывала і ткала. Таму і метафарычная нітка творчасці ў яе жыцці была заўжды навідавоку.

## Боль

Люда Русава шмат разоў скардзілася на боль. Ёй балела спіна, балелі рукі, а часцей за ўсё ёй балела галава. Яна балела так моцна, што нават расчэсванне валасоў рабілася пакутай. Люда абстрыгала валасы пад нуль. Яна хадзіла з хустачкай на галаве. Так ёй было лягчэй...

У мяне захаваўся фотаздымак з вяселля дзядзькі Чэся Александровіча. На тым здымку, зробленым у цёплы летні надвячорак мая, маці Ніна Глобус стаіць у белай хустачцы. Усе апрануты лёгка і па-святочнаму, адна маці ў хустачцы. Яна завязала яе, бо на галаве пасля менінгіту не было яшчэ валасоў. Маці расказвала пра страшэнныя галаўныя болі ад таго менінгіту. Сваякі думалі, што яна не выкараскаецца са страшэннай хваробы, а калі і застанецца жыць, дык розум яе зробіцца непаўнавартасным. Маці папраўілася, скончыла школу і атрымала вышэйшую адукацыю. Яна заставалася ў добрым розуме да свайго апошняга дня.

Калі я чуў скаргі Люды Русавай на боль, калі бачыў яе ў хустачцы, дык заўжды згадваў маці, згадваў вясельны здымак з белай хустачкай, згадваў і верыў, што Люда, як некалі Ніна, пойдзе на папраўку і яе страшны боль застанецца ў мінулым.

## Перацяканне

Калі Люда Русава пачынала хвалявацца, яна чырванела. Твар яе наліваўся крывёю да цёмнай бурачковасці. Яе валасы, зазвычай пафарбаваныя ў максімальна чорны колер, рабіліся глыбока-сінімі ці нават смарагдавымі. Гэткая бурачковасць, сінеча і смарагдавасць разам з узрушэннямі, злаваннямі і хваляваннямі перацякалі на палотны Русавай. Яе карціны, асабліва ў апошні, змрочны і хваравіты, перыяд, былі натуральным працягам яе біялагічнага згасання. Жыццё Люды Русавай з чалавечага цела перацякло ў карціны, перацякло ўсё да апошняй кроплі, перацякло і там спынілася.

# Пісталет

Люда прыдбала пісталет. Так кажуць. Сам я яго не бачыў, але веру: у Люды Русавай і сапраўды магла быць агнястрэльная зброя. Кажуць, што яна вырашыла купіць пісталет, каб у цяжкую хвіліну развітацца з жыццём. Верагодна, што адной з нагод, каб займець зброю, была невылечная хвароба, ад якой пакутавала Русава. Ваўчанка — такі ёй паставілі дыягназ.

— У мяне ваўчанка. Жыць засталося мала, але я цяпер цалкам свабодная. Я адчуваю лёгкасць, бо нікому нічога не вінаватая. Хвароба спісала ўсе мае пазыкі. Лёгкасць, свабода і блакітны колер — вось што ў мяне засталося напрыканцы жыцця! — казала Люда і ўсміхалася.

Нам хацелася заплакаць, але яна ўсміхалася, а я рабіў спакойны выгляд сур’ёзнага і стрыманага чалавека.

Пра самагубства Люда Русава нічога не казала, прынамсі мне не казала. Таму я думаю, што пісталет мог купляцца не толькі, каб застрэліцца, але і дзеля абароны. Люда жыла адна. Яе кватэра мясцілася на першым паверсе. Пад яе вокнамі стаялі лавы, на якіх выпівалі мікрараённыя боўдзілы. Самотная хворая маленькая жанчына і зграя п’яных прыдуркаў. Пісталет, пэўна ж, дадаваў Людзе ўпэўненасці і крыху супакойваў.

Сам я зроблены з іншых элементаў. Не люблю агнястрэльную і розную залішне складаную зброю. Для самагубства я ніколі не абяру пісталетную кулю ці вяровачную пятлю. Віскі і атрута. Выпіў і заснуў. Лёг і не прачнуўся. У смерці я паважаю ціхамірнасць і аку-

ратнасць. Кроў, гной, бруд... Іх і так хапае ў нашым недасканалым свеце. Нашто множыць?

Люда Русава захаплялася рэвалюцыянерамі, яна ўсхваляла самаахвярных нарадавольцаў, паважала змагароў з пісталетамі і бомбамі, таму магла і сабе набыць пісталет, з якога так і не стрэліла ні ў сябе, ні ў сваіх ворагаў. Трэба мець найвялікшую смеласць, каб не страляць.

# АЛЕСЬ

*Словы пра паэта і рэдактара*
*Алеся Пісьмянкова*

## Прыязнасць

У мяне з паэтам Пісьмянковым былі прыязныя адносіны. У мяне і з рэдактарам штотыднёвіка «ЛіМ» Алесем Пісьмянковым адносіны складаліся выдатныя. З сакратаром Саюза пісьменнікаў Алесем Уладзіміравічам Пісьмянковым я ні разу не пасварыўся, хоць і хацеў бачыць на той пасадзе іншага нашага паэта — Леаніда Галубовіча. Але пісьменнікі абралі ды прызначылі ў кіраўнікі Пісьмянкова. Перакананы: яны яго абралі з-за прыязнасці ў адносінах, бо не толькі са мной у Алеся Пісьмянкова складваліся добразычлівыя і цёплыя, таварыскія і нават блізкія да сяброўства стасункі. Ён умеў выказаць павагу да старэйшых без ценю ліслівасці. Умеў выклікаць давер у маладзейшых за сябе. З ім лёгка і плённа працавалася.

## Мянушкі

У Алеся Пісьмянкова была мянушка — Пісьмянок. Так яго клікалі сябры, так пра яго казалі і супрацоўнікі рэдакцый, і пісьменнікі. Ён моцна пастараўся, каб менавіта гэтая мянушка прыжылася і стала ягонай. Ён нават верш адпаведны напісаў з пафаснай назвай «Балада роду». У ім ёсць такія радкі:

*З пяром і з граматай у згодзе*
*Ён жыў. І незнарок,*
*Казалі, князь пры ўсім народзе*
*Яму імя даў — Пісьмянок.*

Нашто так было старацца? Чаму Алесь пісаў верш пра Пісьмянка? Каб не казалі на яго Пісюнкоў. Падобнае здарылася з паэтам Пісарыкам, яго называлі Пісюарык. Паэта Пысіна клікалі Пісін. Жорсткія норавы, злыя языкі, гнюсныя мянушкі. Супраць іх і паўстаў Алесь Пісьмянкоў, паўстаў і выйграў змаганне за мянушку. Такое мала каму ўдаецца, але Пісьмянку ўдалося.

## Родныя словы

У вершах Алеся Пісьмянкова шмат любімых слоў, за якімі стаяць родныя вобразы. Найперш гэта: снег, славянства, студня, ранет, сяброўства, конь... Ёсць іншыя, але гэтыя — найперш.

## Жонка

Ніколі не бачыў жонку паэта Алеся Пісьмянкова, адно чуў пра яе. Першы раз я пачуў

пра жонку ад самога Пісьмянкова, калі сказаў, што зазвычай першая кніга паэта — найлепшая, а калі не найлепшая, дык адна з найбольш удалых. Так было ў Багдановіча, так у Купалы, так у Гаруна...

— Сваю першую кнігу я не вельмі люблю. Разам з жонкай прачытаў яе разоў сто. Мы яе вычытвалі і перачытвалі. Правілі і шліфавалі. Мы так стаміліся ад маёй першай кнігі «Белы камень», так яна нас змучыла, што я цяпер яе і не люблю... — такое я пачуў ад Пісьмянкова. І моцна здзівіўся, бо ніхто з маіх знаёмых пісьменнікаў і паэтаў не вычытваў і не выпраўляў уласныя кнігі разам з жонкамі. Кнігі чыталіся з сябрамі, з паплечнікамі, з рэдактарамі ды карэктарамі, а тут — праца з жонкай. Здзівіла.

Падобным чынам мяне здзівіла абурэнне Алеся, калі я няўдала штурхануў яго на сцяну і ён запэцкаў крэйдай новы пінжак:

— Паглядзі, што нарабіў? Ты сапсаваў пінжак! Што я цяпер жонцы скажу?

Вядома, мяне толькі развесяліла гэткае баязлівае «Што я цяпер жонцы скажу?» Я адказаў:

— Адчысцім і адмыем мы твой пінжачок. Жонка твая і не заўважыць!

Ці заўважыла спадарыня Пісьмянкова крэйду на мужавым пінжаку? Не ведаю. Пэўна, заўважыла, але мне пра тое не казалі. Мне казалі пра іншае — пра кватэру. Неяк я спытаў у Алеся:

— Чаму ты не пайшоў жыць у чатырохпакаёўку на Багдановіча?

Ён адказаў, што жонка не захацела жыць побач з інфекцыйнай клінікай, якая непадалёк адтуль, на Крапоткіна.

Мяне тая клініка не палохала. Чытырохпакаёўка дасталася мне, і жылося ў ёй проста

выдатна, за што я нейкім чынам нават удзячны жонцы Алеся Пісьмянкова, якой ніколі не бачыў у рэальным жыцці.

## Самаўпэўненасць

Заўжды мяне дзівілі самаўпэўненыя людзі, якія лёгка гавораць пра перамогі над хваробамі, а часам нават кажуць і пра гіпатэтычную перамогу над смерцю. Жонка паэта Пісьмянкова Алена, якая пабаялася сяліцца ў доме, што стаяў непадалёк ад інфекцыйнай бальніцы, раптам зрабіла смелы запіс у форме звароту да мужа нябожчыка: «Ніколі не зайздросціла тваім добрым знаёмым і сябрам. Яны былі заўсёды ў форме. У добрай літаратурнай форме. Упершыню я пазайздросціла 23 красавіка гэтага года маладой аўтарцы, якой ты рэдагаваў вершы. Яна была побач, у рэдакцыі часопіса "Вожык", калі ў цябе пачаўся сардэчны прыступ. Калі б там была я, ведаю дакладна, ты б застаўся жыць».

Нягледзячы на ўсе драматычныя абставіны, такую самаўпэўненасць я не прымаю, бо не веру чалавеку, які страціў розум ад гора.

Смерць Алеся можна назваць лёгкай. Ён хацеў адкрыць фортку ў рэдакцыйным кабінеце. Узняў руку — і жыццё пакінула цела.

Некаму з нас наканавана жыць доўга, а ў некага век кароткі ці нават зусім кароткі. Але мы мераем чалавечае жыццё не толькі днямі, месяцамі ды гадамі. Мы доўга помнім добрыя справы, зробленыя таленавітым чалавекам. Алесь Пісьмянкоў зрабіў шмат, каб яго ўспаміналі цёплымі словамі.

## Подпіс

Мастак Дзяніс Раманюк аднойчы ў шчырай размове прызнаўся:

— Адносіны да сябе я правяраю адносінамі да майго бацькі. Калі чалавек не паважае майго бацьку і без разумення ставіцца да ягонай творчай спадчыны, ён мне малацікавы. Я не веру, што можна любіць мяне і ў той жа час не любіць майго бацьку. Выказаўся кепска пра бацьку ці яго твор? Усё! Гуд бай...

У мяне такога радыкалізму няма, але падыход Дзяніса Раманюка я лічу цалкам правільным. Адно што я вымяраю адносіны не кепскімі словамі, сказанымі ў бок таты, а добрымі справамі, зробленымі для яго і ягонай спадчыны. Кепскія словы чалавек можа сказаць і ў запале, і ва ўзрушэнні, і не падумаўшы. Добрыя справы робяцца марудна і свядома. Таму я паважаю ўсіх, хто дапамагаў і дапамагае мне з публікацыямі татавых твораў, яго дзённікавых запісаў і лістоў. Я, напрыклад, удзячны рэдактару Алесю Пісьмянкову не толькі за словы павагі, сказаныя пра тату, а і за яго подпіс, які дазволіў татавым дзённікам з'явіцца на газетных старонках.

## Хрэстаматыйнасць

Алесь Пісьмянкоў у вершаскладанні абапіраўся на прыклады з класікі. У беларусаў ён выбраў Купалу, Коласа і Багдановіча, з рускіх паэтаў шанаваў Ясеніна, Блока і Фета. Сярод прысвячэнняў можна пабачыць прозвішчы Вярцінскага, Свіркі, Чыгрынава, Сіпакова, Федарэнкі. У вершах чытаем:

*Словы бываюць росныя, —*
*Як у Вялюгіна позняга...*

Чытаем далей:

*Малюся слову,*
*А ў горных высях*
*Маўчаць сурова*
*Стральцоў і Пысін...*

Яшчэ чытаем:

*Нібыта з верша*
*Віці Шніпа*
*Азяблы ліст*
*Прыліп да шыбы...*

Ніякіх выпадковых прозвішчаў. Ніякіх сумнеўных персанажаў. Толькі надзейныя, праверaныя і пераправерaныя паэты і празаікі. Толькі свае. Толькі нашы. Творчасць Алеся Пісьмянкова — суцэльна хрэстаматыйная, школьная.

## Сум

На найлепшай кнізе Алеся Пісьмянкова «Я не памру, пакуль жыву» залатымі літарамі пазначана серыя «Беларуская паэзія XX стагоддзя». У гэтай серыі выйшла шмат адметных зборнікаў, сярод якіх былі кнігі нашых велічных класікаў. Безумоўна, дваццатае стагоддзе — залатое стагоддзе беларускай паэзіі.

Чытаючы і перачытваючы Пісьмянкова, я адчуваю востры сум, бо залатое стагоддзе беларускага вершаскладання засталося ў мінулым. Усё найлепшае — ад Янкі Купалы да

Анатоля Сыса — цяпер гісторыя літаратуры і тэксты ў анталогіях. На пачэсным месцы ў гэтай гісторыі і ў гэтых анталогіях — вершы майго таварыша Алеся Пісьмянкова. Хацеў бы я паўтарыць за рускім класікам: «Мне грустно и легко; печаль моя светла...» Але ж мой сум не светлы, мой сум цёмны.

## Коміксы

Апісваць знешнасць чалавека, чый фотаздымак можна лёгка адшукаць у інтэрнэце, — справа малапатрэбная. І ўсё ж я напішу колькі сказаў пра вобраз Алеся Пісьмянкова, бо ён быў для мяне важным. Светлавалосы, светлавусы, светлатвары Алесь выглядаў як ідэальны беларус, ідэальны славянін, ідэальны герой з беларускай казкі пра волата-пераможцу. Да яго манументальнай знешнасці дадаваўся яшчэ і густы ды сакавіты бас. Таму калі я пачаў працу над коміксамі, дык адразу ўбачыў, што знешнасць Алеся Пісьмянкова падыходзіць да выявы бога Вялеса, да выявы караля Стаха. У маім коміксе «Дзікае паляванне» паводле легенды Уладзіміра Караткевіча на галоўную ролю караля я і прызначыў паэта Алеся Пісьмянкова. Вядома, у маім намаляваным варыянце ён адрозніваецца ад фотапартрэтаў, але сутнасць і светласць яго вобраза я захаваў, прынамсі стараўся гэта зрабіць.

# ІГАР

*Словы пра мастака Ігара Цішына*

## Рэпрадукцыі

Мастак, як усе астатнія майстры сваёй справы, мусіць старанна вучыцца ў папярэднікаў. Школа ў мастака доўгая, пачынаецца ў дзіцячай студыі, працягваецца ў вучылішчах, пераходзіць у інстытуты ды акадэміі і далей ідзе ва ўласнай майстэрні. Маладым мастакам дапамагаюць настаўнікі і выкладчыкі, але акрамя гэтага творцам даводзіцца вучыцца на выставах, у галерэях і ў музеях. У час нашай з Цішыным маладосці вялікую частку ведаў мастакі атрымлівалі праз кнігі.

Купіць дарагую кнігу школьніку ці нават студэнту было цяжка. Большасць нашых бібліятэчак складалі кнігі танныя, з кепскімі рэпрадукцыямі. Менавіта гэтыя бляклыя і нуякасныя выявы рабілі на Ігара найбольшае ўражанне, бо, гледзячы на іх, можна было шмат чаго дадумаць і даўяўляць. Малафармат-

ныя рэпрадукцыі і здымкі натхнялі дый зараз натхняюць Ігара Цішына значна больш, чым карціны ў музеях. Ён і сам пра гэта шмат казаў, і на яго палотнах гэткае вынесенае з маладосці захапленне моцна адбіваецца.

## Кніга

Можна нават не спрачацца з тым фактам, што найлепшую кнігу мы прачытваем у дзяцінстве. Я кажу пра лёсавызначальныя кнігі. Нехта зачытваецца апавяданнямі пра Холмса і паступае вучыцца на следчага. Хтосьці захапляецца Рабінзонам Круза і прысвячае жыццё падарожжам.

Гэтыя прыклады ляжаць на паверхні. Пра іх шмат напісана і сказана. Ёсць кнігі і менш знакамітыя, але іх уплыў на маладога чалавека можа быць гэтаксама важным. Так на Ігара Цішына паўплывала кніга Льва Аспавата пра мастака Рыверу. У біяграфіі Дыега Рыверы хлопчык Ігар убачыў сваю будучыню з доўгімі гадамі вучобы, з жыццём за мяжой, з выставамі ў Парыжы, Лондане і Венецыі. Цішын не толькі пабачыў у кнізе ўласную будучыню, ён сваё жыццё выбудаваў па ёй. Нават калі Ігар удзельнічае ў акцыях пратэста і змагаецца за сацыяльную справядлівасць, гэта моцна нагадвае палітычную актыўнасць мексіканца Рыверы. Праўда, трэба заўважыць, знешне творы Цішына мала чым падобныя на творы лацінаамерыканскага рэвалюцыянера.

## Касцюкоўка

У мастацкае вучылішча Ігар Цішын прыехаў яркім мастаком, які нават на іспытах

змог напісаць акварэллю запамінальную кампазіцыю... Праз цёмна-сінюю вясковую ноч поўз нагружаны сенам трактар. Ён свяціў бліскучымі зялёна-блакітнымі фарамі. На высокім стозе сена пад самым зорным небам сядзелі хлопчыкі. Трактар калываўся, вуркатаў і павольна насоўваўся на гледача.

Пазней я ўсё чакаў, калі Цішын паўторыць свой экзаменацыйны шэдэўр. Ён яго не паўтарыў: быў заняты іншымі, не менш запамінальнымі кампазіцыямі. Не паўтарыў сваю выразную экзаменацыйную кампазіцыю і сябра Цішына — Валодзя Сцепаненка. Яны абодва выглядалі на іспытах падрыхтаванымі мастакамі. У вучылішчы Цішын і Сцепаненка трымаліся, як і большасць землякоў, разам. Быў у іх і старэйшы сябра з іх роднага гарадскога пасёлка Касцюкоўка — Вова Ісачанка. Касцюкоўскіх у вучылішчы было трое, а вось жодзінскіх — вельмі шмат. Мае знаёмыя койданаўскія хлопцы вучыліся ўжо ў інстытуце, але падтрымлівалі мяне чым толькі маглі.

Без зямляцтва, без падтрымкі старэйшых у мастацкім свеце жыць і выжыць цяжкавата, асабліва ў самым пачатку, калі трэба пакінуць бацькоўскі дом у Касцюкоўцы і перабрацца жыць у сталіцу. Ісачанка і Сцепаненка моцна дапамаглі ў гэтым Цішыну, можна сказаць, дапамаглі як ніхто іншы.

## Пано

Ёсць такі ход у слязлівых успамінах, які пачынаецца словамі: «Хацеў зрабіць і не зрабіў...»

Яго шмат хто выкарыстоўвае, бо ён выдатна працуе. Таму і я зраблю падобнае. Згадаю, як мы з Ігарам Цішыным задумалі напісаць пано па-

мерам тры на дзевяць метраў. На ім мы збіраліся зрабіць копію фрэскі з касцёла ў Мсціславі. На тым залаціста-вохрыстым сценапісе быў па-майстэрску выкраслены арган з птушкамі. У сталярнай майстэрні мы заказалі дванаццаць падрамнікаў. Ігар знайшоў у інтэрнаце будаўнікоў прасторны пакой на тэхнічным паверсе, куды мы завезлі свежыя і светлыя падрамнікі з крыжавінамі. Трэба было неадкладна пачынаць працу над пано, а мы цягнулі час. Цягнулі і дацягнулі да таго, што жаданне напісаць вялікі арган прапала. Падрамнікі мы перадалі ў рэстаўрацыйныя майстэрні...

Часам мне сніцца, як разам з Ігарам Цішыным я пішу на вялікіх палотнах арган і птушак — белакрылых галубоў і шэрых саловак.

## Інтэрнацыянал

Цішын скончыў аддзяленне манументальна-дэкаратыўнага жывапісу. Сярод акадэмічных заданняў у інстытуце было і маляванне галавы чалавека ў вялікім памеры. Любоў да манументальных і выразна зробленых галоў Ігар культывуе заўжды. Ён зрабіў шмат партрэтаў Хармса, пісаў Платонава і Эйзенштэйна, Суціна і Сартра. Героі і гераіні з фотаздымкаў рэвалюцыйнага Родчанкі цэлымі атрадамі перайшлі на палотны Цішына. Не толькі любімцы і геніі робяцца ў Ігара веліканамі, разам са станоўчымі героямі павялічваў мастак і адмоўных персанажаў, такіх як нацыянал-сацыяліст Адольф Гітлер і яго фатограф Лені Рыфеншталь.

Яшчэ адно акадэмічнае заданне з часоў інстытута паўплывала на творчасць Ігара Цішына — маляванне шрыфтоў. У яго карці-

нах шмат літар і слоў, многа сказаў, што складаюцца ў своеасаблівую постмадэрнісцкую паэзію. Жывапісная постфутурыстычная лірыка Цішына шчыльная, лаканічная і шматмоўная. Можна сказаць, што ў творах Ігара пануе праўдзівы, рамантычны і арганічны інтэрнацыянал.

## «У-жос»

У Ігара Цішына ёсць уласнае слова для вызначэння найвялікшага паскудства — у-жос. У ім рускае слэнгавае «ужос», беларускі вужака і беларускае незваротнае «ўжо здарылася непапраўнае». У майстэрні павесіўся найбліжэйшы таварыш Ігара Цішына, наш Валік Дзялендзік — у-жос. Жыццё і праца ў Расіі, у богам выклятай Пензе, сярод знаёмых, напампаваных гарэлкай, — у-жос. Пензарт? Не жарт! Пензарт — рэальны у-жос. Выкладанне ў мастацкім вучылішчы, дзе пануе тупасць псеўдаакадэмічных няздараў, — у-жос. Калі б у мяне запыталі, якім адным словам можна акрэсліць усё жыццё і ўсю творчасць любімага паэта Ігара Цішына — Хармса, я акрэсліў бы яго цішынскім словам «у-жос». У творчасці самога Цішына хармсаўскага у-жо-са шмат, зашмат і яшчэ крышку.

## Літаратура

На канцэрце ў Доме літаратара мастачка Тамара спытала ў мяне:

— Як думаеш, пісьменнікі ведаюць пра тое, што быць пісьменнікам сорамна?

Шчыра кажучы, я тады згадаў толькі аднаго пісьменніка, які пра гэта задумваўся і казаў,

што без пачуцця сораму за сябе і за свае літаратурныя вопыты нічога вартага не напішацца. Таму я схіліўся да Тамары і ўпэўнена сказаў:

— Леў Талстой ведаў... Пэўна, і большасць тутэйшых пісак пра гэта здагадваюцца...

— Слухаючы іх бессаромныя самаўсхваленні, пра гэта не скажаш. Не ведаюць нашы пісьменнікі пра сорам ці проста ведаць не хочуць.

Я не стаў спрачацца з Тамарай, бо крыху пакрыўдзіўся на яе. Нейкім чынам я і сябе залічваў да пісьменнікаў. Больш за тое, я думаю, што працаваць палітыкам ці артыстам значна больш сорамна, чым займацца літаратурай.

Размову з Тамарай я згадаў, калі прачытаў у тэксце Ігара Цішына наступнае: «Калі паспрабаваць уявіць сябе літаратарам, робіцца гідка...»

Ігар ведае, пра што кажа, бо і сам ён таленавіты і самабытны літаратар. Сам напісаў і выдаў кніжачку гратэскных апавяданняў, у якіх супрэматыст Казімір Малевіч дзейнічае разам з беларускімі сынамі — партызанамі. Галоўнае тут тое, што да сябе і да сваёй літаратурнай дзейнасці Ігар ставіцца іранічна, звышпатрабавальна і самакрытычна.

## Нябёсы

Каб Ігар Цішын крычаў ці павышаў голас, я ніколі не чуў. Пэўна, і прозвішча ў Ігара правільнае — адпаведнае натуры. Ён сціплы, стрыманы і ціхмяны. Ён нават смяецца нягучна. Рогат, віскат і гырканне — гэта не пра яго. Таму мяне заўсёды надоўга спынялі тво-

ры Цішына, на якіх ён маляваў і перамалёўваў крык. У Ігара ёсць імправізацыі на матыў карціны Эдварда Мунка «Крык». Ёсць крыкі са стоп-кадраў, запазычаных з рэвалюцыйных кінафільмаў Сяргея Эйзенштэйна. Ёсць крыкі, зробленыя з плакатаў дваццатых гадоў. Немы крык — вобраз, які перасследуе мастака Цішына праз усё жыццё. Яго героі спрабуюць дакрычацца да нябёсаў, і зрэдчас у іх гэта атрымліваецца.

## Плыні

Па малюнках і палотнах Цішына цячэ шчыльная плынь з выяў. У літаратуры ёсць падобны мастацкі прыём — плынь свядомасці, калі аўтар запісвае думкі, што прыходзяць у галаву. Выглядае так, быццам Цішын фіксуе на плоскасці візуальныя вобразы, якія перапаўняюць яго. Вобразы з'яўляюцца і знікаюць, яны збольшага недафармаваныя і недаакрэсленыя, яны пазначаны, але не вызначаны да канца. Каб давызначыцца, дапраявіцца, давыказацца, вобразы настойліва паўтараюцца. У творчасці Цішына шмат паўтораў, але кожны выглядае пераканаўча, як чорныя акуляры на носе ў летні, сонечны і гарачы дзень.

## Маўчанне

З Ігарам Цішыным цяжка гаварыць, але з ім добра маўчаць. У Цішыне шмат змястоўнага маўчання. Словы яму даюцца цяжка. Яны ў яго каструбаватыя, грувасткія, пабітыя на кавалкі. Ён іх піша на палотнах, занатоўвае на паперках, нават у кніжках выдае. Цішын, як і кожны разумны мастак, любіць і ўмее пра-

цаваць са словам, толькі акрамя гэтага ён выдатна працуе з маўчаннем, з замоўчваннем, з цішынёю... Дарэчы, найлепшыя з паслядоўнікаў Ігара Цішына вучыліся ў яго менавіта маўклівасці.

# СЫС ПАМІЖ ІНШЫХ

*Словы пра паэта Анатоля Сыса*

## Паршчыкаў

Рускі паэт Аляксей Паршчыкаў зрабіў хуткую кар'еру: са знакамітага пісьменніка ў СССР ён лёгка ператварыўся ва ўніверсітэцкага выкладчыка ў ЗША. Там ён знайшоў каханне са швейцарскай прыгажуняй. Здавалася б... Не! Лёша вярнуўся ў Расію.

— Лёш, чаму ты вярнуўся?

— Каб зарабляць грошы, трэба было навучыцца пісаць у радок. А я — паэт, які піша ў слупок...

Паршчыкаў так і не навучыўся зарабляць, так і не навучыўся папісваць у радок, так і памёр у бядоце. Падобнае здарылася і з маім таварышам, беларускім паэтам Анатолем Сысам, які таксама не навучыўся пісаць у радок. Абодва, Сыс і Паршчыкаў, засталіся адно паэтамі, вялікімі паэтамі.

## Уладзімір

У часы маёй маладосці паэты збіраліся і пілі. Мы пілі шмат, напіваліся да непрытомнасці. Некаторыя з нас забівалі сябе гарэлкай. Застольныя размовы пра самазабойства гучалі натуральна. Толя Сыс баяўся смерці і не прымаў ніякіх варыянтаў самагубства. Нават уласнае бясконцае п'янства ён не ўспрымаў як самазнішчэнне. Сыс спадзяваўся на цуд, спадзяваўся выблытацца з гарэлкі. На п'яныя вочы самагубства мне падавалася высокамаральным учынкам. Заснуць і не прачнуцца — так мне бачыўся ўласны сыход. У мяне заўсёды быў прыхаваны запас атруты-выратавальніцы.

Наш агульны з Сысам знаёмы, паэт Уладзімір, труціўся газам. Зачыніўся ў кухні і пусціў з пліты газ. У горле пачало пяршыць. Ён некалькі разоў кашлянуў і ад таго кашлю ачомаўся, працверазеў і хутчэй праветрыў кухню... Ён нам з Сысам так расказваў.

Ці гавораць сучасныя маладыя паэты пра самазабойства? Не чуў...

## Вячаслаў

Раніцай пайшоў першы снег. Лёгкі, дробны, часам ледзь заўважны, ён круціўся ў паветры. Удзень сыпалася снежная крупа. Пад вечар неба над Мінскам зрабілася высокім, сінім і ясным. Узышоў вялікі амаль поўны месяц. Такім часам у гэты дзень нешматлікія беларускія паэты ішлі да Толі Сыса адзначаць ягоныя народзіны. Пілі. Спявалі. Весяліліся...

Сем гадоў, як Сыса няма. Людзі, што сёння адзначаюць яго народзіны, мне далёкія. Не казаў бы я пра Толю, каб не знак... Пад вечар

сустрэў на праспекце Незалежнасці паэта Вячаслава. Пагутарылі пра палітыку, пра піраміды і могілкі. Вячаслаў цяпер жыве ў вёсцы, яму так спакайней. На тамтэйшых вясковых могілках ён пахаваў дачку і жонку, якія трагічна загінулі. Вячаслаў часта ходзіць туды, за рэчку, і гаворыць з жонкай і дачкой. У Мінску яму цяжка, бо шмат дзе бачацца цені заўчасна памерлых. Вершы ўсё яшчэ пішуцца. З апошняга Вячаслаў прачытаў такія радкі:

*Дождж імжыць.*
*Груган акукліўся на грУдзе.*
*На гэтым свеце цяжка жыць,*
*На тым... Лягчэй, відаць, не будзе...*

## Купала

Не ведаю, можа, і не захаваўся верш у форме хайку ў рукапіснай спадчыне Сыса. Верш той быў прачытаны Уладзіміру Сцяпану па тэлефоне. Гучаў ён у аўтарскім выкананні так:

*Купаўся Купала*
*ў снезе,*
*а зімародкі зайздросцілі...*

Сцяпан пераказаў Сысава хайку мне. Я яшчэ перапытваў ў Толі пра намеры пісаць хайку. Ён аджартоўваўся, маўляў, напісалася аднойчы і выпадкова. Было тое ў апошнюю Сысаву зіму...

## Якасць

Каб нешта вартае напісаць, трэба мець адметную якасць. Можна быць крыху наіўным,

як Янка Маўр, а можна ўсё жыццё заставацца рамантычным падлеткам, як Уладзімір Караткевіч. У яго была душа падлетка, якая прагла прыгодаў. У творах Караткевіча ёсць юнацкая свежасць, яна і вабіць. А можна быць натуральна рэвалюцыйным, як Толя Сыс.

## Ганарары

У паэта Сыса быў псеўданім — Толік Ганарар. Псеўданім мала падыходзіў да пафаснай, лірычнай і драматычнай паэзіі Толі, але ён выдатна падыходзіў да дробных «віршаскладальнікаў», што ўвесь час круціліся вакол Сыса. Гэтым Лёнікам Ганарарам, Міхаськам Ганарарам, Ёндрусям Ганарарам бракавала самаіроніі і пачуцця гумару, але яны напіналіся, каб пажартаваць і пакпіць. Свае натужныя спробы жартаваць Ганарары нават публікавалі ў часопісе «Вожык». Каму як, а для мяне мінскі «Вожык» быў сумным, як і маскоўскі «Кракадзіл» з кіеўскім «Перцам», якія выглядалі прымітыўнымі палітшкуматамі, а не вясёлымі чытанкамі-маляванкамі. Крыху лепш гарталіся і разглядаліся тонкія старонкі варшаўскіх «Шпілек», але і яны моцна саступалі народным анекдотам.

Прыгадаць старыя часопісы мяне змусілі справаздачы з вёскі Гарошкаў, дзе на дзень народзінаў Толі Сыса збіраецца яго пасівелы «сысятнік». На свяце мала паэтаў, але шмат Ганарараў. Скобла, Акулін, Дранько-Майсюк спрабуюць быць лірычнымі і драматычнымі, але выглядаюць на вясковым свяце паэзіі аўтарамі сумнавага і тупаігольчастага «Вожыка». Ездзіць на правінцыйную ўрачыстасць, на талаку сівых вожыкаў, на шабасоўку Гана-

рараў не хочацца. Сорамна мне за іх і нават прыкра.

## Нянавісць

Заўсёды думаў, што зайздрасць з цягам часу выветрываецца з людзей. Памёр чалавек, і нашто зайздросціць нябожчыку? Нашто на яго злавацца, калі ў таго адна віна — талент, які ўсё яшчэ свеціцца ў літаратурнай спадчыне нашай краіны? Сыса няма, а дробная свалата ўсё яшчэ працягвае яму зайздросціць.

Кажу музыкаведу:

— Напішы ўспаміны пра Толю. Ты яго ведаў. Шмат разоў за адным сталом сядзелі...

— Нашто пра яго пісаць? Ну хто ён такі?

У мяне нават словы не адразу знаходзяцца, каб абурыцца.

Сустракаю літаратуразнаўцу:

— Напішы пра Толю...

— Пра Сыса? Ды яго ў Польшчы лічаць пасрэдным паэтам...

Хіба я пытаюся, каго кім лічаць у Польшчы?

Спыняю мовазнаўцу:

— Напішы пра Толю нашага...

І чую непрыстойнасць, якую і пераказваць няма жадання.

Толя іх — музыкаведа, літаратуразнаўцу, мовазнаўцу — зневажаў. Казаў, што яны ў жыцці і творчасці «пралятаюць, як фанера над Парыжам». Бо дробныя, злыя і бяздарныя. Правільна казаў. У мяне былі спадзяванні, што яны пажывуць і паразумнеюць. Пастарэць яны пастарэлі, але мудрасці не прыдбалі. Узлаваліся на таленавіты свет яшчэ больш. Мусіць, з гэтай сваёй антытворчай зайздрасцю яны і ў зямлю сыдуць. Яны сы-

дуць, а Сыс з вершамі застанецца. Яны таксама маглі б застацца з некалькімі старонкамі сваіх успамінаў пра нашага Толю. Але варта паўтарыць за Сысам: «Пралятаюць...»

## Галубовіч

З грашыма ў Лёні Галубовіча заўсёды цяжка. Фінансы не яго стыхія. Кожны рубель на ўліку. Таму і запіс такі зрабіў: «Сыс прасіў пяць тысяч рублёў на хлеб. Грошы былі, але не даў. З прынцыпу... / Грашыма хлеб не даецца». Пашкадаваны Сысу рубель моцна муляў у кішэні Леаніда. Так муляў, што ў наступным запісу чытаем зноў пра грошы: «У падземным пераходзе паклаў тысячу рублёў у вялікі футарал студэнта-віяланчэліста. На хаду, нават з нейкай сарамяжлівасцю (ад чаго?), не ўслухоўваючыся ў мелодыю, а ўслухоўваючыся ў сябе...» Ад чаго? Ды ад таго, што не даў Сысу на хлеб. Не папракаю я Лёню, крый Бог, не папракаю. Гэта ён сам сябе есць за грошы на сысаўскі хлеб.

## Суша

Паэт Сыс прыходзіў да мастака Сушы, каб разам выпіць. Сыс шмат да каго прыходзіў з адной мэтай — напоўніць чаркі, але ў апошнія гады яго жыцця большасць былых сяброў і сабутэльнікаў кінулі безнагодную выпіўку і пачалі шмат працаваць. Былі моманты, калі і мастак Суша працаваў і адмаўляўся выпіць з вечна вольным паэтам. Тады Сыс пачынаў ныць:

— Ну давай вып’ем! Ну давай...

Аднойчы Сыс раззлаваўся на Сушу і выдаў:

— Не хочаш выпіць? Ну і хадзі... цвярозы!

## Словы

Прызнаюся: я не люблю рабіць разгорнутыя запісы на сваіх кнігах. Паставіць дату і роспіс — калі ласка. Разгорнуты ж надпіс абавязвае гаспадара кнігі яе захоўваць, а захоўваць і берагчы кнігі не кожнаму падабаецца. Мне — падабаецца, але я — сын бібліятэкаркі і, можна лічыць, выключэнне. У іншых з захоўваннем кніжак справы кепскія. Напрыклад, ты разлюбіў аўтара. Любіў, любіў і разлюбіў. У такім выпадку ты зніштажаеш знакі прамінулай любові. Ты вырываеш аркуш з аўтографам.

Кнігі з вырванымі старонкамі часам трапляюць і ў букіністы. Надоечы я такую кнігу набыў. У кнізе вершаў «Сыс» не хапала першай старонкі, той, на якой Анатоль зазвычай ставіў аўтограф. Маіх крыміналістычных здольнасцяў хапіла, каб прачытаць словы. Мяккім графітам я зачарніў другую старонку — і на ёй праступілі светлыя літары, якія я склаў у наступныя словы: «Паміж галоўнымі... Я вельмі хачу, каб ты стаў самым галоўным паэтам у сусветнай паэзіі. 15 верасня 2002 г.». «Паміж галоўнымі» чытаецца кепска, а ўсё астатняе выглядае выразна і прачытваецца даволі добра. Пад словамі стаіць роспіс Анатоля.

І ў мяне ёсць такая ж кніга з роспісам аўтара. Праўда, дата там іншая — 24 верасня 2002 г., а словы больш простыя: «Глёбус, я цябе люблю!»

## Тэрміны

У кожнай краскі свой час для красавання. Адна заквітнее вясною, другая ўлетку, а

трэцяя ўвосень. Згадкі пра красаванне і заняпад паэта Толі Сыса ў людзей самыя розныя. Шмат з тых, хто на свае вочы бачыў Толю толькі напрыканцы жыцця, не могуць нават уявіць, што гэткі горкі п'яніца, сівабароды бажаволак і слязлівы жабрак змог напісаць геніяльныя вершы. Сапраўды, розніца паміж Сысам-паэтам і Сысам-чалавекам досыць вялікая. Толя пражыў сорак пяць, а паэтам ён быў толькі гадоў пяць, калі не меней.

Мне пашанцавала: я ведаў Толю яшчэ да таго, як ён зрабіўся добрым паэтам. Пасля службы ў войску Сыс прыехаў у Мінск са жменяю даволі пасрэдных вершаў. Падобных твораў у кожнага беларускага паэта процьма. Але здарылася дзіва: Толя Сыс нечакана стаў геніяльным. Ён мог узяць звычайную газету і прачытаць тэкст так, што ён ператвараўся ў паэзію. Любы тэкст мог ператварыцца ў паэзію толькі за кошт Сысава голасу. Мы — яго сябры і паплечнікі — знарок прасілі Толю пачытаць газетныя тэксты, каб паглядзець і паслухаць дзіва. Ён чытаў.

Ён пісаў, чытаў і піў. Бо яму налівалі. Яму налівалі, каб паслухаць дзіўныя вершы, каб пачуць голас, напоўнены боскай магутнасцю.

Здавалася, што Сыс будзе вечна чытаць паэзію, пісаць вершы і піць. Так толькі здавалася. Геніяльнасць пакінула Сыса раптоўна: як прыйшла, так і сышла. Ён кінуў пісаць. Ён піў і чытаў старыя вершы. Чытаў кепска, ды так, што рабілася прыкра і сорамна. Падобныя непрыемныя пачуцці ўзнікаюць, калі ты з гнілой вады дастаеш завялы букет.

За былую геніяльнасць Сысу шмат што даравалі, але тых, хто дараваў і дапамагаў, было зусім мала.

## Дубавец

Крытык Дубавец заўважыў, што ў паэта Сыса бабскія рукі. Пачуўшы гэта, я спытаў:

— Якія рукі ў Харэўскага?

— У яго рукі як у лемура!

— А ў мяне якія?

— Думаю і нічога прыдумаць не магу...

— Падкажу... У мяне рукі мастака. Рукі з мазалямі ад алоўкаў і пэндзляў. А ў цябе, Дубавец, рукі салдата, якія добра сціскаюцца ў цяжкія кулакі...

Дубавец паразглядаў свае салдацкія далоні, закурыў і сказаў:

— У Сыса бабскія рукі. Яны ў яго вялікія, але бабскія...

## Спадчына

Мне даводзіцца займацца літаратурнай спадчынай таты — Вячаслава Адамчыка. Стараюся надрукаваць найперш найлепшае і найбольш вострае, бо без майго ўдзелу ўсё спрэчнае, жорсткае і крытычнае асцярожныя рэдактары павыкрэсліваюць і павыкідаюць. У кніжным фармаце цяпер выходзіць толькі самае добрае, што тата паспеў напісаць за паўстагоддзя. Яно і натуральна. Здаецца, што ўсе, хто займаецца літаратурнай спадчынай пісьменнікаў, павінны гэта разумець. Ёсць магчымасць выдаць кнігу? Выдавай найлепшае.

Са спадчынай Толі Сыса атрымліваецца роўна наадварот. Кожная яго наступная кніга значна горшая за папярэднія. Нават пры жыцці ў Толі так было. Найлепшая кніга «Панлес» выйшла першай. Яна мела выдатнае аз-

дабленне, зробленае Фёдарам Кашкурэвічам. Другая кніга «Агмень», аздобленая Уладзімірам Лукашыкам, саступала першай. Трэцяя кніга «Сыс» была слабейшай за дзве папярэднія. Усе наступныя кнігі Сыса — «Лён», «Alaiza», «Берагі майго юнацтва» — працягвалі прыжыццёвую традыцыю пагаршэння.

Трэба сказаць, што спадчына Толі Сыса патрапіла ў кепскія рукі. Людзі, нібыта і з самымі добрымі намерамі, не ўздымаюць паэта, не дапамагаюць зрабіць з яго ўзорнага класіка, а спрабуюць апусціць творцу да свайго інфантыльнага аматарства і пошлай безгустоўнасці.

Малаабазнанаму ў творчасці Сыса чалавеку можа падацца, што я неабачліва пераставіў месцамі кнігі «Агмень» і «Пан-лес». На зборніку «Агмень» стаіць 1988 год, а на кнізе «Пан-лес» — 1989-ты. Толькі «Агмень» быў складзены Сысам з таго, што не патрапіла ў «Пан-лес».

## Прыстойнасць

У нейкі момант Сыс страціў адчуванне прыстойнасці. Калі ён толькі з'явіўся ў Мінску, дык паводзіў сябе тактоўна. З набыццём вядомасці, а пазней і славы, Сыс змяніўся. Пачаў паводзіць сябе развязна, бессаромна і нахабна. Звяртаўся на ты да старэйшых. Здзекаваўся з малодшых. Мяне гэта абурала, але я стараўся не рабіць яму заўваг і лішні раз не раздражняць ганарыстага паэта. Можа, за маю стрыманасць Толя сплочваў дабрынёй і ласкавасцю. Карацей... Адчайны Сыс ставіўся да людзей так, як і яны да яго, адно што не любіў ён няздараў і хлусаў. А хто іх любіць?

## Жыццё пасля смерці

Праглядаю чарговую брашурку пра Сыса і абураюся...

Паэтка Ала Канапелька чамусьці там Ада. Чаму?

У адным месцы напісана, што Сыс «за два зборнікі атрымаў ганарар, дастатковы для таго, каб набыць кватэру ў цэнтры Мінска. Ды ахвяраваць сцэнічнымі эфектамі дзеля банальнай бытавухі падалося тады Сысу ганебным...» Пра дурноту са сцэнічнымі эфектамі ды ганебнасцю я і казаць нічога не стану. Скажу пра кватэру. Ганарары Сыса былі нармальнымі, але на кватэру ў цэнтры іх і блізка не набіралася. Аўтару брашуркі гэта добра вядома, бо на іншай старонцы ёсць і такое: «За сталом уласнай кватэры на вуліцы Крапоткіна, якую атрымаў ад Саюза пісьменнікаў, Сыс узяў завядзёнкай пафасна настаўляць малодшых па ўзросце беларускіх творцаў».

І пра што тут казаць? Аўтар спісваў з розных крыніц і нават не перачытваў спісанае. Каб перачытаў, дык пабачыў бы неадпаведнасці. Брашурка перапоўнена лухтой, напісанай для павелічэння колькасці старонак...

Мой бедны таварыш, мой Сыс! Табе цяжка жылося, цяжка памiралася, і пасля смерці табе даводзіцца зноў і зноў сутыкацца з нейкімі боўдзіламі і пафаснымі прафанатарамі. І ніхто за цябе, Толя, не заступаецца... Ніхто не адганяе ад твайго імені зграю графаманаў, плагіятараў і хлусаў. Гартаю я паганую брашурку і бачу, як ты зноў п'еш з боўдзіламі, як ты буяніш, як твае цудоўныя вершы абрастаюць смеццем лайнакаментарыяў...

Можа, так і трэба, Толя? Можа, калі чалавек пражыў сваё зямное жыццё пагана, ён і пасля смерці мусіць заставацца з гэтай смярдзючай поганню? Як ні разгорнеш кнігу пра Ясеніна, той зноў возьме і нап'ецца, а напіўшыся, зноў павесіцца. Як пачнеш чытаць пра Купалу, ён зноўку ўпадзе ў лесвічны пралёт і заб'ецца. Так і ты, мой дарагі Толя, сам вінаваты, што я чытаю і крытыкую такую паганую брашурку пра цябе.

## Сыс і шчасце

Многія таленавітыя мастакі і літаратары мелі шчасце, вялікае шчасце і прызнанне. Толькі яго трэба берагчы, ахоўваць, даглядаць, інакш яно занепадае. Як балюча, як крыўдна, як горка, калі твой паплечнік абыякава ставіцца да свайго вялікага шчасця. Такое здарылася з геніяльным паэтам Сысам. Ён меў шчасце напісаць кнігу пявучых вершаў, меў фанатычнае прызнанне ў публікі, меў знешнасць казачнага волата.

Праз п'янства, праз ляноту, праз прымітыўнае самалюбства шчасце Толі сапсавалася. Яно загніло і засмярдзела. Сябры, паплечнікі, прыхільнікі спрабавалі ратаваць шчасце Толі Сыса, але сваё шчасце выратаваць можа толькі сам чалавек. Толя не змог яго ўратаваць, а ўсе астанія і пагатоў не змаглі.

# СА

*Словы пра мастака Сяргея Грыневіча*

## Мянушка

У кожнага сапраўднага мастака ёсць мянушка. Мастак без мянушкі і не мастак, а проста аматар мазаць фарбамі па белай паперы. У мастакоў-прафесіяналаў вучоба пачынаецца з дзяцінства, ідзе яна доўга і цяжка, а таму ўсе мастакі добра ведаюць калег і называюць адзін аднаго між сабою кароткімі і важкімі мянушкамі. У Сяргея Аляксандравіча Грыневіча яна зусім кароткая, складзеная з першых літар імені і імені па бацьку, — СА.

## Правільнасць

Сяргей Грыневіч — мастак непапраўна правільны. Менавіта ў правільнасці яго моц. Іншыя мастакі гуляюць на розных адхіленнях ад нормы, адыходах ад канона, уцёках ад школы. Грыневіч, наадварот, усяляк пад-

крэслівае сваю нармальнасць, разважлівасць, прадуманасць дзеянняў. Ён быў выдатнікам, такім і застаўся. У Грыневіча выдатныя малюнкі і палотны. У яго прасторная майстэрня. Ён прыдбаў на беразе Нёмана зямлю і будуе на ёй дом для жыцця-быцця, для адпачынку і для працы. Цікава, што выдатнасць і выдатніцтва Сяргея Грыневіча не саладжавыя і не прыкрыя, яны простыя і натуральныя, як хатнія тэпці, у якіх ён ходзіць па майстэрні.

Варта сказаць, што ў Грыневіча выдатныя мецэнаты, а яго карціны прадаюцца ў правільных і прывілейных еўрапейскіх галерэях. Можна не сумнявацца, што Грыневіч вучыўся ў правільных мастакоў. Ён вучыўся ў Гаўрылы Вашчанкі і Уладзіміра Стэльмашонка, у Алега Хадыкі і Анатоля Бараноўскага... Зрэшты, у гэтых мастакоў шмат хто вучыўся, але мала хто стаў такім правільным, як Грыневіч. Можна нават сказаць, што ён унікальны ў правільнасці.

## Валейбольны мяч

Шмат хто з мастакоў не любіць спорт, не займаецца фізкультурай і не трымае ў майстэрні спартыўных снарадаў. У народзе мастака бачаць такім сабе антыспартсменам. Народнае меркаванне пра мастака прыкладна такое: распусны, п’е, бедны. Не стану казаць, што сярод творцаў мала п’яніц і распуснікаў, але іх значна меней, чым сярод сялян і пралетарыяў. Меней, бо ў творцы мала вольнага часу, у яго няма выхадных і святочных дзён, і ўсе свае адпачынкі ён ахвяруе на любімы занятак. Многія мастакі, каб трымаць сябе ў добрай фізічнай форме, любяць займац-

ца спортам, любяць фізічныя практыкаванні. Нехта катаецца на ровары, хтосьці бегае на доўгія дыстанцыі, а некаторыя гуляюць у валейбол.

Мастак Грыневіч добра глядзіцца з валейбольным мячыкам у руках. Валейбол — яго захапленне. Рост, спрыт і характар у Грыневіча якраз валейбольныя. Глядзіш на яго і адразу бачыш: гэты чалавек можа выдатна згуляць у валейбол. Дарэчы, усіх людзей Сяргей падзяляе на тры групы. Калі чалавеку з першай групы кінуць мяч, ён або сагнецца, ашчаперыўшы голаў рукамі, або ўхіліцца ад мяча. Гэта людзі антыспартыўныя. Чалавек з другой групы мяч адаб'е, адкіне, як нешта чужое і варожае. Толькі людзі з трэцяй групы мяч зловяць і пачнуць з ім забаўляцца. Да яе належыць і сам Сяргей Грыневіч. У нашым тэатральна-мастацкім інстытуце заўсёды хапала аматараў валейболу. Сярод іх вылучаліся Кастусь Шаранговіч і Віктар Ярэська, ну і Сяргей Грыневіч, вядома.

## Сацыялістычны манументалізм

Заняпад манументальнага мастацтва ў Беларусі пачаўся ў мінулым стагоддзі, на пачатку васьмідзясятых гадоў. З велічнай формы ўжо выветрываўся ўзнёслы і натхняльны змест. Роспісы, вітражы, мазаікі страцілі прывабнасць, бо паказаныя на іх героі парабіліся персанажамі далёкай мінуўшчыны. Шмат хто з іх нават страціў станоўчасць. Касманаўты, будзёнаўцы, партызаны, камуністы, ленінцы, дзяржынцы перасталі быць узорамі для пераймання. Нават ідэалізаваныя рабочыя і сяляне больш не радавалі народ. На нейкі зу-

сім кароткі час манументалісты схаваліся за вобразамі дзяцей і гістарычных персанажаў кшталту Скарыны і Буднага. Было адчуванне, што беларускія манументалісты гавораць на мове, якую ўжо ніхто не разумее, і самае горкае — ніхто не збіраецца тую мову вучыць.

Менавіта ў гэты час Сяргей Грыневіч скончыў аддзяленне манументальна-дэкаратыўнага мастацтва ў інстытуце. Як чалавек кемлівы, Сяргей ведаў, што дрэва пачынае засыхаць з вершаліны. Пакуль у сталічным Мінску будзе ісці працэс канчатковага заняпаду манументальнай прапаганды, у прымежнай і спакойнай Гародні можна будзе крыху папрацаваць манументалістам і нарабіць вялікіх пано. Трэба сказаць, што Грыневіч — адзін з самых цікавых манументалістаў сацыялістычнай Беларусі. Калі б я пісаў кнігу пра гісторыю манументальнага мастацтва ў БССР, дык апошнім значным мастаком назваў бы Сяргея Грыневіча.

## Самаіронія

Мастаку патрэбна самаўпэўненасць, без веры ў сябе шмат не зробіш. У некаторых самапавага і бясконцыя самаўсхваленні перарастаюць у хранічную пыху. Ад пыхлівасці ёсць адзіны сродак — іронія. У Сяргея Грыневіча яна ёсць... Як і кожны беларускі мужчына, Грыневіч у пэўным веку пасівеў. Калі на адкрыцці сваёй персанальнай выставы ён з'явіўся ў чорным гарнітуры, сівізна проста ззяла.

— У цябе, Сяргей, цяпер такая сівая, срэбная і светлая галава! — нягегла пажартаваў нехта з самаўпэўненых калег.

На што тут жа атрымаў ад Грыневіча іранічны адказ:

— Не хвалюйся, неўзабаве і ты пасівееш, і гэта зусім не балюча!

## Галасы карцін

Адзін час у Мінску ладзіліся штогадовыя выставы, прысвечаныя катам і кошкам. Калі я прагульваўся з Грыневічам па адной з такіх выстаў, ён сказаў мне:

— Паглядзі, паслухай... Усе гэтыя карціны, што вісяць на сценах, толькі і робяць, што просяць прысутных: «Купі мяне! Купі!» Чуеш іх галасы?

Галасоў карцін я, вядома, не чуў. Адна з найлепшых якасцяў карціны — яе праўдзівая маўклівасць. Каб не пакідаць пытанне Грыневіча без адказу, мне давялося сказаць:

— Сёння яны яшчэ просяць, а заўтра пачнуць плакаць, што не купілі. Паслязаўтра самыя плаксівыя карціны будуць зафарбаваны і запісаны новымі, больш прадажнымі сюжэтамі...

## Заходніцтва

Беларусы, калі збіраюцца ў вузкім тутэйшым коле, любяць паразважаць пра свае рэгіянальныя адметнасці. Самая адметная частка беларусаў — палешукі. Некаторыя з нас іх і за беларусаў не лічаць, што, на маю думку, недаравальная памылка. Часта беларусаў падзяляюць на заходнікаў і ўсходнікаў. Усходнікі лічаць сябе больш таленавітамі і здатнымі да кіравання, заходнікі цэняць адукаванасць і выхаванасць. Ёсць у нас і цэнтральная

Беларусь з Мінскам і Маладзечна, але выхадцы з гэтых мясцін хутчэй зоймуць пазіцыю якога заходніка, усходніка ці палешука, чым пачнуць пералічваць свае найлепшыя якасці...

Мастак Сяргей Грыневіч — узорны заходнік. Як і кожны з заходнікаў, ён з павагаю ставіцца да Польшчы і Літвы, чытае па-польску, слухае польскае радыё, глядзіць польскія тэлеканалы і лічыць Гародню найлепшым з беларускіх гарадоў. Ён выхаваны, адукаваны і далікатны з жанчынамі ды сябрамі. Каб не прыніжацца, у нейкі момант ён незаўважна пераходзіць на іранічны тон, жартуе. Гумар дапамагае Сяргею ў цяжкую хвіліну, як ён заўжды дапамагаў нашаму ўзорнаму пісьменніку-заходніку Янку Брылю. Адпаведна, за прыклады ў мастацтве Грыневіч бярэ творы заходніх майстроў: Уорхала, Эшара, Міро, Дзюрара...

## Месца

У мсціслаўскім касцёле некалькі гадоў запар праходзіла капіравальная практыка мінскіх студэнтаў-манументалістаў. Кожны з іх доўга і старанна выбіраў адпаведнае сабе месца і выразны фрагмент сценапісу для стварэння копіі. Сяргея Грыневіча прыцягвала алтарная сцяна і цэнтральны вобраз Дзевы Марыі. Яго заўсёды вабілі і вабяць цэнтральныя вобразы, гучныя імёны і галоўная героі. Мяне, наадварот, прыцягвалі вобразы трэцярадныя, таму большасць часу я праводзіў на хорах, дзе рабіў копіі сценапісу з нацюрмортамі, складзенымі з музычных інструментаў. Дарэчы, адзіны малюнак Грыневіча, які захаваўся ў маіх паперах з тых даўніх капіра-

вальных практык, — твар Дзевы Марыі. Варта сказаць, што гэта адзіны малюнак Сяргея, які ў мяне ёсць.

## Кінаслёзы

Пісьменнікі, пералічваючы настаўнікаў, любяць называць гучныя імёны класікаў. Пыташся ў вершаплёта з пачаткоўцаў пра яго настаўнікаў і чуеш:

— Я вучыўся ў Борхеса, Дхамапады і Картасара!

Зразумела, што ні Борхес, ні Картасар, ні тым больш Дхамапада нічога не ведалі пра вершаплёта, які праслухаў курс лекцый Алега Лойкі і Аляксандра Станюты.

Мастакі ў такіх выпадках паводзяць сябе больш карэктна і называюць не тых, у каго яны вучыліся, а тых, хто спрабаваў іх навучыць мастакоўскаму майстэрству. Таму Сяргей Грыневіч пазначае ў графе «настаўнік» Гаўрылу Вашчанку. Сяргей пяць гадоў правучыўся на кафедры манументальнага мастацтва, якую Вашчанка ўзначальваў. На чацвёртым і пятым курсах Вашчанка выкладаў кампазіцыю і штотыдзень вучыў Грыневіча прафесіяналізму.

З гэтым зразумела. Тым больш што можна адшукаць пэўную пераемнасць. Ад Вашчанкі да Грыневіча перайшла любоў да нацюрмортаў з чырванабокімі яблыкамі і партрэтаў беларускіх сялян. Ад выкладчыка жывапісу Анатоля Бараноўскага Грыневічу мала што перадалося. Так выглядае знешне, але гэта не зусім так.

Менавіта Бараноўскі быў самым вялікім аматарам кіно на нашай кафедры. Мы ўсе

з радасцю хадзілі ў кінатэатры, бо толькі там можна было пабачыць вялікі каляровы Парыж, вялікі вечны Рым, вялікую паэтычную Верону. У кінатэатрах на паўтары гадзіны знікала «жалезная заслона», што падзяляла тагачасны свет на СССР і астатніх. Фільм «Рамэа і Джульета» рэжысёра Франка Дзэфірэлі Бараноўскі паглядзеў пятнаццаць разоў. Ён агітаваў усіх нас хадзіць у кіно і глядзець бессмяротнага Шэкспіра. Ён нават не саромеўся прызнавацца, што плача ў кіназалах. Ад Бараноўскага да Грыневіча перайшла любоў да кіно, да кінаафіш і кінабагоў. Калі я бачу на люстэрках напісаных Грыневічам кінематаграфічных апосталаў — Джэймсаў Бондаў, адразу згадваю нашага выкладчыка жывапісу Анатоля Бараноўскага, які ліў слёзы ў кінатэатрах.

## Малішэўскі

Сяргей Грыневіч стварыў шмат роспісаў і палотнаў. Выбраць нешта найлепшае і знакавае цяжка, бо ён мастак роўны. І ўсё ж я вылучу адзін твор, які лічу найярчэйшым. Мне падабаецца партрэт Сяргея Малішэўскага. У ім ёсць уваскрашэнне. Можаце кідаць у мяне камяні, але ў партрэце Малішэўскага прасветленасці і ўваскрашэння болей, чым ва ўсіх Ісусах, якія выйшлі з-пад пэндзляў Грыневіча.

— Хрыстос — не мая тэма! — прызнаваўся мне СА.

Насамрэч у ягоным прызнанні шмат какецтва. Ісус Хрыстос на палотнах Грыневіча глядзіцца эфектна і пераканаўча. Каб Сяргей распісаў касцёл, было б проста выдатна.

Што да партрэта Малішэўскага, дык за ім стаіць гісторыя самага сапраўднага чалаве-

чага вяртання з іншасвету... Неяк Сяргей Малішэўскі ішоў па вуліцы з малалетнім унукам. Страціў прытомнасць і паваліўся на зямлю. Унук не разгубіўся і паклікаў дапамогу. Малішэўскага ўратавалі, вярнулі да жыцця... У Грыневіча на палатне перададзены драматызм і цяжкасць чалавечага жыцця. Можаце казаць, што толькі я адзін бачу ў партрэце драматызм, цяжкасць і ўваскрашэнне. Хай так. Хай гэта маё асабістае, а для іншых драматызм і ўваскрашэнне няхай прачытваецца на карцінах з Хрыстом.

# АНДРЭЙ

*Словы пра мастака Андрэя Радзівонава*

## Ровар

Каб Андрэй Радзівонаў жыў у часы Сярэднявечча, дык быў бы рыцарам, надзяваў бы жалезныя латы і ездзіў бы на белым кані. У нашы часы жалезныя латы носяць толькі блазны, на конях скачуць спартсмены, а сапраўдныя рыцары ездзяць на роварах. Радзівонаў лётае па Мінску на чорным ровары. Калі ён падлятае да мяне, я выстаўляю яму насустрач левую далонь. Ён гучна пляскае сваёй левай даланёю па маёй левай і ляціць далей. Ён ляціць на змаганне з волатамі цемры, на бой з асілкамі невылечных хвароб, ляціць на дапамогу дзецям. Калі Андрэй Радзівонаў сядае на ровар, ён робіцца падобным да Дон Кіхота. Праўда, для паўнаты вобраза высокаму і худому Радзівонаву ўсё ж не хапае паўнацелага і каратканогага Санча Панса на самакаце.

## Дзялендзік

Каб не малюнкі Радзівонава, я не заўважыў бы, што галава ў Пабла Пікаса падобная да галавы чарапахі. Адзін мастак дапамагае другому мастаку ўбачыць трэцяга. Здаецца, і глядзіш, падаецца, і бачыш, але чарапашую галаву ў Пікаса я змог убачыць толькі дзякуючы Радзівонаву. Самога Андрэя Радзівонава я па-сапраўднаму ўбачыў на малюнках Валіка Дзялендзіка.

— Маляваць аўтапартрэты мяне навучыў Дзялендзік! — сказаў неяк Андрэй і паказаў некалькі малюнкаў Валіка.

На іх Радзівонаў быў страшэнна падобны да Радзівонава, там ён быў нават больш Радзівонавым, чым Радзівонаў у жыцці. Так і жывём, так і вучымся глядзець адзін на аднаго.

## Паказка

Зайшоў да мяне ў майстэрню Андрэй Радзівонаў. Нехта называе яго Радзівон, а нехта — Лагодны. Андрэй распавёў пра хаўтыры. Хавалі мастака Гаўрылу Вашчанку. За жалобным сталом Лагодны згадаў любімых студэнтаў нябожчыка. У пералік патрапіў Цішын з Грыневічам, я з Алай Блізнюк, ну і сам Радзівон. Ці быў я любімым студэнтам ў Гаўрылы Харытонавіча? Мажа, і быў, але на нейкі зусім кароткі час. Цішына, Грыневіча і Радзівонава Гаўрыла Вашчанка дакладна любіў, бо яны былі выдатнымі студэнтамі і, натуральна, малявалі на выдатна. Каля іх малюнкаў і іх жывапісу Вашчанка не расказваў сваю любімую паказку. Ён яе расказваў, як згадаў Лагодны,

каля твораў іншых, кепскіх, на ягоны густ. Показка такая...

Мядзведзь і Варона сядзелі высока на дубе, на тоўстым суку. Варона ад няма чаго рабіць пачала выдурвацца, высцёбвацца і выкабеньвацца. Мядзведзь паглядзеў на забаўкі няўрымслівай Вароны і таксама пачаў выкабеньвацца, высцёбвацца і выдурвацца. Сук пад Мядзведзем паламаўся, звяруга грымнуўся на зямлю і моцна пабіўся.

— Спачатку трэба навучыцца лётаць, а потым можна і выкабеньвацца! — пракаркала зласлівая Варона над пабітым Мядзведзем.

Звяртаючыся да сваіх неардынарных студэнтаў, Вашчанка да показкі, прывезенай аднекуль са Львова, дзе ён сам некалі вучыўся, дадаваў такую фразу:

— Спачатку трэба навучыцца маляваць, а потым можна і выдурвацца!

Фраза была здзеклівая і жорсткая, бо ўсе мастакі цудоўна ведаюць: каб навучыцца добра маляваць, трэба якраз выдурвацца, высцёбвацца і выкабеньвацца. Чаму Лагодны, згадваючы нябожчыка, пераказаў яго любімую показку? Мусіць, каб не так горка перажывалася страта.

## Цэслер

Я папрасіў Радзівонава прыдумаць для Валодзі Цэслера ганаровае званне. Такое, якога раней не было, і каб Цэслер займеў яго першым. Радзівонаў прыдумаў: народны дызайнер Беларусі. Падобнае званне яшчэ заслужыў і Міця Сурскі, але ў яго ёсць пасада — старшыня дызайнераў. Міця больш старшыня, а Цэслер больш народны. Сурскаму таксама варта даць званне «Народнага ды-

зайнера», але толькі пасля Цэслера. Так мы з Радзівонавым і вырашылі.

## Артэга-і-Гасэт

Андрэй мае добрае і дакладнае вока, ён бычыць у чалавеку характар. Таму я і спытаў у Радзівонава аднойчы, як ён бачыць мяне. Што галоўнае ў маіх паводзінах? Радзівонаў заўсміхаўся і схаваў за лагоднай усмешкай сваю задуменнасць. Хвілін з пяць мы прасядзелі моўчкі. Я маляваў сівабародага і доўгавалосага — рыхтык біблейскі апостал — Андрэя. Ён думаў-думаў і нарэшце сказаў:

— Паэт. Ты перадусім паэт... «Я вылюблю цябе да донца, маё ты сонца...» Такое мог сказаць толькі паэт.

Адмаўляцца ад звання паэта мне не выпадала. Калі я для Андрэя найперш паэт, дык хай так і будзе. Кепска толькі тое, што, гледзячы на вялікіх іспанскіх паэтаў, Артэга-і-Гасэт неяк заўважыў: «Паэт пачынаецца там, дзе канчаецца чалавек».

## Натуршчык

Патэлефанавала натуршчыца Ната Цімафеева. Сказала — хворая, тэмпература, тры дні трэба паляжаць. Як толькі хвароба адпусціць, яна адразу патэлефануе і з’явіцца пазіраваць. Я нават крыху запеaccording перажываў: вірус лютуе, косіць знаёмых аднаго за адным. Тут мае перажыванні спыніў Радзівонаў сваім тэлефонным званком. Я запрасіў яго папазіраваць замест Наты. Замена, як і ўсялякая замена, не зусім раўназначная, але ж лепей стары і надзейны натуршчык, чым ніякага.

## Панядзелак

Раніцай у панядзелак пабачыў у парку на лаўцы чалавека з бутэлькай піва. Яна была на літры са два, так што п'яніца не збіраўся ў гэты панядзелак распачынаць працоўны тыдзень. Ён самотна сядзеў пад цяністым канадскім клёнам і смактаў піва наўпрост з рыльца. Жыццё радавала п'яніцу, бо піва ў яго было яшчэ шмат.

Некалі на гэтай самай лаўцы я ў адну з летніх раніц пабачыў мастака Маціевіча. Ён піў з рыльца гарэлку і ад шчырага сэрца прапанаваў мне глыток сваёй апахмельнай беленькай. Пачынаць працоўны тыдзень з глытка гарэлкі я адмовіўся. Піва мне не прапанавалі, і я пабег далей, думаючы, што неўзабаве сустрэну яшчэ нейкага самотніка, і хутчэй за ўсё мастака. Так і здарылася. Ад рэчкі на мяне ішоў Радзівонаў з вялізным чамаданам, напакаваным старымі малюнкамі. Выглядала так, што Андрэй некуды спяшаецца. Ён пачынаў свой працоўны тыдзень з паходу па справах. Я махнуў Радзівону рукою, ён хіснуў срэбнабародай галавой. Такія вось паперы, як казалі героі твораў Рыгора Семашкевіча.

## «Пачакай»

— Заходзіць да мяне ў майстэрню Радзівонаў, а я спяшаюся па справах. І не проста спяшаюся, мне трэба за мяжу на тыдзень ад'ехаць. А тут — Андрэй. Я пакінуў яму ключы ад майстэрні і сказаў, каб пасядзеў і пачакаў мяне. Андрэй сеў на крэсла. Я з'ехаў... Вярнуўшыся з-за мяжы, я ўгледзеў святло ў сваёй майстэрні. Спачатку падумаў, што за-

быў выключыць... Заходжу, а Андрэй як сеў на крэсла пасярод майстэрні, так на ім і сядзіць. Прачакаў мяне тыдзень і нічога не рабіў. Сядзеў і чакаў. Ён у нас цяпер такі... — пачуў я ад Сяргея Грыневіча пра Андрэя Радзівонава.

Пачуў і паверыў. Сам я Андрэю ключы ад майстэрні не пакідаю і словы Сяргея не правяраў, але веру яму, бо падстаў ілгаць пра Радзівонава ў яго няма і ніколі не было.

## Расклады

Андрэй заўсёды ведае дзень і час, калі ў музеі пускаюць бясплатна. Некалі ён абышоў усе барселонскія музеі і не заплаціў ніводнай песеты. Такія рацыянальнасць і падрыхтаванасць не могуць не ўразіць. Звычайны чалавек адстойвае даўжэзную чаргу і плоціць вялікія грошы, каб пабачыць кераміку і афорты Пабла Пікаса. Радзівонаў разглядае і вывучае шэдэўры за проста так. У Андрэя такі падыход да музейных каштоўнасцяў: калі можна не плаціць і паглядзець, ён іх паглядзіць; калі трэба заплаціць, каб паглядзець, Андрэй ад прагляду адмовіцца. Ясна, што падобныя паводзіны дыктуе не сквапнасць, а беднасць і ашчаднасць. Іншы бедны проста не ездзіць па свеце і не ходзіць па музеях. Андрэй ездзіць і ходзіць. І робіць гэта, як кажуць, за тры капейкі.

## Глухата

Ёсць у нашым свеце звышсправядлівасць. Ёсць. Яна дае падтрымку слабым і забірае сілы ў моцных. Калі ты добры танцор і шмат

выступаеш на сцэне, дык абавязкова падвернеш нагу ці парвеш звязкі, і тваё месца на сцэне зойме больш слабы. Калі ты майстар малявання, дык сам не заўважыш, як страціш палову зрока. Добра, калі страціш меншую палову і, спахапіўшыся, дабяжыш да доктара. Калі ты музыка, дык атрымаеш глухату...

Андрэй Радзівонаў — выдатны малявальшчык. Па законе звышсправядлівасці ў яго мусілі сапсавацца вочы. Толькі яна сама вырашае, дзе, у каго і колькі забраць. У Андрэя яна забрала слых. Мусіць, палічыла, што ён больш музыка, чым мастак. Апошнія гады Андрэй і сапраўды больш граў на гармоніку, чым маляваў. Грае Андрэй выдатна. Ён і спявае выдатна. А тут на табе — маеш глухату. Дактары дапамаглі Радзівонаву вярнуць слых. Зараз гэта не вельмі складаная аперацыя. Андрэй зноў можа спяваць і граць на гармоніку. Зноў можа гаварыць звычайным голасам, а не шаптаць, баючыся, што гаворыць занадта гучна. Нібыта ўсё нармальна ў Андрэя Радзівонава. Але я чамусьці насцярожана пачаў ставіцца да звышсправядлівасці і яе радыкальных рашэнняў забіраць моц у таленавітых.

## Дапамога

Радзівонаву прыемна дапамагаць. Звычайна дапамагаеш праз «не хачу» і «не магу», Андрэю ж дапамагаецца лёгка. Таму яму шмат хто дапамагае. Грыша Сітніца дапамог яму атрымаць прасторную майстэрню ў Гародні. Сяргей Грыневіч дапамог напісаць вялікае дэкаратыўнае пано. Яго дапамагаў пісаць і Ваня Рабец. Сяргей Кныш дапамог, і не раз,

перавозіць карціны. Вольга Архіпава дапамагла зладзіць выставу ў Дзяржаўным музеі. Лёша Андрэеў надрукаваў якасныя рэпрадукцыі карцін Радзівонава ў сваім часопісе «Маналог». Дапамагаю і я. Уладкаваў на працу ў часопіс «Бярозка». Дапамог...

Усё не пералічыш, і не варта гэта рабіць. Проста ёсць людзі, якім прыемна дапамагаць, бо яны робяць нешта добрае для іншых. Сярод такіх, каму варта дапамагаць, і Андрэй Радзівонаў.

## Паштоўкі

Раней на кожнае свята людзі даставалі з паштовых скрынак віншавальныя лісты. Зазвычай большасць віншаванняў пісалася на паштоўках. Сярод маіх знаёмых мастакоў самаробныя паштоўкі пасылалі сябрам Ігар Кашкурэвіч і Андрэй Радзівонаў. Кашкурэвіч выразаў гравюру, а Радзівонаў рабіў пастановачнае фота. Паштоўкі ад Радзівонава і Кашкурэвіча прыходзілі пад Новы год. Яны так мяне радавалі, што я даваў сабе сумленнае слова: у наступнае навагодняе свята я таксама далучуся да рассылкі самаробных паштовак. За год мой энтузіязм згасаў. Ніякіх паштовак я не рабіў, але зноў моцна радаваўся, калі вымаў са скрыні навагодні ліст ад Ігара ці Андрэя.

## Героі

Андрэй жыў і жыве сярод мастакоў, сярод людзей творчых. У дзяцінстве ён вучыўся ў школе для адораных дзяцей — «Парнаце», дзе пазней, пасля заканчэння тэатраль-

на-мастацкага інстытута, і працаваў. Таму на яго карцінах шмат мастакоў і музыкаў, шмат тэатральнага і казачнага. Пікаса, Веласкес, Брэйгель, Лежэ, Далі, Шагал, Матыс — любімыя героі Андрэя Радзівонава. Ён іх паважае, вывучае, услаўляе. Яны для яго не толькі настаўнікі, куміры, яны для яго самыя надзейныя сябры. З імі Андрэю цікава: цікава размаўляць, спрачацца, гуляць у шахматы. Акрамя геніяльных мастакоў у Радзівонава на карцінах шмат жабракоў, якія прыйшлі да яго з малюнкаў Кацусіка Хакусая і Пітара Брэйгеля-мужыцкага. Усе запазычанні з Пікаса, Брэйгеля і Хакусая на малюнках Радзівонава глядзяцца арганічна, а інакш і быць не можа ў часы постмадэрнізму.

## Салют

З усіх мастацтваў Андрэй найбольш любіць і шануе салют. Калі ён служыў у войску (а служба тая праходзіла ў снежнай і ледзяной Сібіры), дык удзельнічаў у падрыхтоўцы і запуску салютаў. На радавога Радзівонава салюты зрабілі каласальнае ўражанне. Ён можа расказваць і разважаць пра іх бясконца.

Асабліва хвалюе яго апавяданне пра салдата, які няўдала нахіліўся над ракетніцай, і яму адарвала галаву. На зямлі ляжаў безгаловы савецкі салдат, а салют працягваўся па запланаваным раскладзе. Людзі глядзелі на расквечанае агнямі неба, радаваліся і крычалі «ўра», бо ведаць нічога не ведалі пра мёртвага салдата.

Андрэй марыць пра свой вялікі антываенны салют, прысвечаны міру ва ўсім свеце. На такі салют мусяць сабрацца кіраўнікі ўсіх дзяржаў...

Андрэй разважае і расказвае пра свае планы, пакуль не заўважыць, што я пасміхаюся; тады і ён пачынае пасміхацца, і я бачу, што мянушка Лагодны яму вельмі пасуе.

## Узнагароды

У маёй майстэрні часам з'яўляюцца рэчы і прадукты, якія мне не вельмі і патрэбныя. Маці давала слоікі з агуркамі і чарнічным варэннем. Не адмовішся! Бярэш, нясеш у майстэрню і ставіш у халадзільнік. Сам я купляў бутэлькі з віном для гасцей. Тыя прыносілі і пакідалі неадкаркаваныя пляшкі гарэлкі. Так у мяне шмат чаго назбіралася ў халадзільніку і ў прадуктовай шафе. Стаіць яно. Есці не ем. Піць не п'ю. Выкінуць не магу, бо ўсе прадукты якасныя. Аднойчы я прыдумаў, што трэба прысуджаць узнагароды Андрэю Радзівонаву. Усіх добрых мастакоў недзе нечым узнагароджваюць. Граматамі, прэмія, медалямі... Я ўзнагароджваў Андрэя пляшачкай з белай. Узнагароджваў чарнічным варэннем. Нават закатанымі агуркамі ўзнагароджваў. Праз нейкі час ён заходзіў і расказваў, дзе, з кім і як адзначаў узнагароду.

## Крык

Аднойчы на маё заўсёднае «Як ты?» Андрэй адказаў, што ажаніўся. Давялося спытацца пра жонку. Ветлівасць. Як інакш? Тады Радзівонаў мяне ўразіў, бо расказаў, што яна актрыса і можа закрычаць там, дзе ёй захочацца. Яна можа закрычаць, стоячы пасярод вуліцы, а можа — седзячы ў перапоўненым трамваі.

Радзівонаў — добры чалавек, можна сказаць, занадта добры. Але нават у такога дабрадзея не хопіць дабрыні, каб пражыць усё жыццё з жанчынай, якая крыкам крычыць у перапоўненых трамваях. Так я падумаў тады, але нічога кепскага Радзівонаву не сказаў. І нічога добрага я не сказаў тады, калі ён разыходзіўся з жонкай і дзяліў маёмасць, якая ўпарта не жадала дзяліцца. Не мая гэта справа. Мая справа іншая — дапамагаць мастаку Радзівонаву. А Радзівонаў — муж, Радзівонаў — былы муж, Радзівонаў — дзяліцель маёмасці хай жыве без маіх парад і без маёй дапамогі.

## Дажджы

У ліпені ў нашай Беларусі ідзе шмат дажджоў. Здараюцца і грымотныя навальніцы са сляпучымі маланкамі, а бываюць і лёгкія пералётныя дожджыкі, што сыплюцца праз сонечныя промні. Зрэдчас ідуць і шэрыя доўгія, нудныя дажджы. Пачнецца такі дождж увечары, сыпле цэлую ноч і раніцай не аціхае. Здаецца, што мусіць удзень перастаць крапаць, а ён раптам робіцца яшчэ больш густым. У такі доўгі дождж усе стараюцца як мага хутчэй перабегчы з аднаго памяшкання ў другое. Нехта бяжыць на працу, хтосьці ў краму шыбуе, некаторыя дамоў вяртаюцца. Людзі бягуць. Яно і зразумела: ніхто не хоча мокнуць і нікому не патрэбныя прастуды ды запаленні лёгкіх.

Пад вокнамі маёй майстэрні цякуць цэлыя рэчкі з рознакаляровых парасонаў. У гэткай рацэ я і пабачыў Андрэя. Усе ляцелі, а ён ішоў павольна. Без шапкі пад густым дажджом.

Ішоў і курыў. Спакойна так, нібыта і няма ніякага дажджу. Андрэй так ішоў, што, здавалася, нібы ўсё патрэбнае і запланаванае ён перарабіў. Засталося толькі спакойна перакурыць на гэтым няўтульным свеце. Ціха прайсціся і ціха пакурыць пад бясконцым дажджом.

# ТАНЯ

*Словы пра паэтэсу Таню Сапач*

## Сыс і Ксаверый

Першы раз я пачуў вершы Таццяны Сапач у выкананні Сыса. На пасяджэнні «Тутэйшых» Анатоль Сыс урачыста абвясціў, што ў Гомелі жыве выдатная паэтэса, якую мы проста абавязаны залічыць у свае змагарныя шэрагі. Каб ніхто не засумняваўся, што гомельская паэтэса мае добрыя вершы, Сыс пачаў іх чытаць...

*Прыходзьце, калі сцямнее,*  
*ці свята будзе, ці будзень,*  
*калі ў азалелых прысадах*  
*прачнуцца на ноч ліхтары...*

Сыс так чытаў вершы Сапач, так стараўся, так выкладаўся, што ў нейкі момант я падумаў: ніякай Тані Сапач няма, гэта Сыс такім экстравагантным чынам прэзентуе сваю новую паэтычную падборку пра Ксаверыя... Па-

сля таго эфектнага чытання я доўга не мог прывыкнуць да вершаў Тані ў аўтарскім сціплым і крыху занудлівым выкананні. Дарэчы, я так і не прывык да яе чытання ўласных вершаў, бо Анатоль Сыс і Кася Камоцкая рабілі гэта значна лепш за аўтара.

## «Песняры»

Журналістыка — складаны занятак. Шмат хто з маіх калег — пісьменнікаў і журналістаў — адчуваў і адчувае на сабе чужую нянавісць і грэблівасць. Здаецца, што пішаш праўду і паказваеш аб'ектыўны малюнак, а людзі, пра якіх гаворыш, лічаць твае словы кепскімі, ілжывымі і нават абразлівымі.

З пэўнай доляй грэблівасці пра журналістку Таню Сапач казаў мне знакаміты музыкант з легендарных «Песняроў» — Улад Місевіч. Павел Якубовіч і Уладзіслаў Місевіч запрасілі мяне выпіць з імі шклянку віна. Было тое ў рэдакцыі шматтыражнай газеты «Знамя юнацтва». Выпіць з песняром я палічыў за гонар. Мы пілі недарагое віно і размаўлялі пра паэзію, пра тэксты для песень. Спявак заўсёды дбае пра рэпертуар, яно і зразумела. Місевіч распытваў пра маладую паэзію. Якія вершы варта прачытаць? Якія, на маю думку, добра пакладуцца на музыку і праспяваюцца? Я назваў Анатоля Сыса і Таню Сапач.

Лепей бы я назваў аднаго Сыса, бо Місевіч зрабіўся злым. Ён спытаў, ці не працавала паэтка Сапач журналісткай ў Гомелі. Таня працавала журналісткай у Гомелі, і падманваць Місевіча я не стаў.

— Прыйшла да нас перад канцэртам такая сціплая шэрая мышка. Мі-мі-мі... Пазадава-

ла пытанні дзіцячым галаском. Паўсміхалася. Развіталася. Напісала ў газету, што мы не гаворым між сабой па-беларуску. Маўляў, «Песняры» мала любяць і шануюць беларускую мову. На сцэне адно, а за сцэнай іншае. У артыстаў заўсёды на сцэне адно, а за сцэнай іншае. Мы ўсё жыццё паклалі на прапаганду і падтрымку беларускай мовы. Мы шмат пацярпелі ад абвінавачванняў у нацыяналізме. Мала пацярпелі! Не на той мове ў грымёрцы жартуем! Не шчырыя мы людзі. Падманшчыкі...

Якубовіч супакоіў Місевіча. Мы выпілі за мір і пачалі разважаць пра паэзію Караткевіча...

Ідучы дамоў, я думаў, што «Песняры» не будуць выконваць песні на вершы Сапач ні праз год, ні праз два, ні праз дзесяць гадоў...

## Прышчэпка

Тэлемайстрыца Сапач, ідучы па сонечнай Вільні, скардзіцца:

— Я тваёй жонцы распавядаю, што ў дзяцінстве перажывала за свой шырокі нос. Каб ён стаў больш вузкім і прыгожым, я насіла на ім прышчэпку. Тады я закахалася ў Васю Бычка, а той любіў толькі пінг-понг. А я ж думала, што ён з-за шырокага носа на мяне ўвагі не звяртае. Вось такая я была табурэтка з прышчэпкаю. Нос пасля экзекуцыі рабіўся сінім, як сліва. Жонка твая «ага-ага» і ўсё фатаграфуе. Ёй мой нос з прышчэпкаю нецікавы...

— Ёй нецікавы, а мне цікавы, — суцяшаю Таню, якая некалі даўно-даўно друкавала вершы, а яшчэ даўней кахала пінгпангіста Бычка.

## Лішні

У Тані Сапач быў даволі дзіўны падыход да кахання. Калі ёй падабаўся нейкі мужчына, яна не звярталася да яго наўпрост. Яна прасіла сяброўку, каб тая цішком распавяла мужчыне пра гарачыя пачуцці Сапач. Шмат каго з мужчын напружваюць і нават палохаюць падобныя захады. Не дарма людзі кажуць, што ў інтымных адносінах трэці лішні. Таня адразу ўблытвала ў любоўныя адносіны гэтага лішняга, чым моцна шкодзіла найперш сабе. Раней я проста не разумеў падобных паводзін; цяпер разумею, што Таня проста баялася пачуць адмову з вуснаў дарагога ёй чалавека.

## Пачуццё

Да мяне ў рэдакцыйны кабінет часопіса «Крыніца» прыйшла Кася Камоцкая. У нейкія моманты спявачка Кася рабілася зусім простай. Тады быў якраз такі момант яе дзіўнаватай прастаты:

— За крамай, што пад шпілем, на дзіцячай пляцоўцы цябе чакае Таня Сапач. Хоча пагаварыць. Здаецца, у яе да цябе пачуццё!

— Думаеш, мне варта ісці?

— Сходзі... Чаму не пайсці, калі цябе чакаюць?

— Ты са мной пойдзеш?

— А што мне там з вамі рабіць?

— Можна якога віна ўзяць і выпіць.

— Сёння выпівайце без мяне.

Я пайшоў у суседні двор, дзе на дзіцячай пляцоўцы сядзела паэтка Таня Сапач.

— Кася сказала, што ў цябе да мяне пачуццё. У мяне простая прапанова: а давай мы нічога не будзем рабіць з тваім пачуццём. Давай мы лепш

зробім кніжку тваіх вершаў. Ты збярэш найлепшыя вершы, я зраблю вокладку. Якога колеру ты хочаш вокладку для сваёй першай кніжкі?

— Кніжку? Вокладку? Колер? Няхай яна будзе такая, як і твая першая кніжка вершаў «Парк», — аранжавая.

## «Менск — Мінск — *Minsk*»

З рэжысёркай Зояй Катовіч мы здымалі фільм пра Мінск. У тым фільме я нават зняўся ў эпізодзе — выступіў у ролі паэта Глобуса. Так што музыка для фільма не магла быць песняй на мае вершы, бо гэта выглядала б нахабным пераборам. Але ж хацелася, каб у нашым фільме пра Менск — Мінск — *Minsk* гучала песня, адпаведная тагачаснаму гораду. Мы выбралі рок-паэта, які быў максімальна падобны да мяне, выбралі рок-гурт, які выконваў песні і на мае словы. Можа, некаму гэты выбар падаўся дзіўным, але ў фільме прагучала песня «Новага Неба» на верш Тані Сапач.

*Мы — дзеці чорнага горада,*
*мы выйшлі з ягонага чэрава,*
*мы сталі ягоным голасам,*
*а голас не мае ценю.*

*Мы — дзеці бацькоў памерлых,*
*мы носім чорныя строі,*
*і нашыя грубыя рукі*
*павек не адмыць ад работы.*

*Мы — дзеці шалёнага места,*
*мы жыць выходзім апоўначы,*
*і ты, выпадковы вандроўнік,*
*як трасцы, баішся нас.*

*Мы — дзецi мiнулага часу,*
*мы носiм пад чорнай вопраткай —*
*пад робамi i бразготкамi,*
*пад сэрцамi з дроту i кратаў,*
*на белых, бы аркушы, душах*
*чырвонай крывёй краслёнае —*
*ад нас адмыслова хаванае —*
*вашай радзiмы iмя.*

Дзякуючы гэтаму кiно я пабачыў, пачуў i адчуў, што самы блiзкi мне рок-паэт у нашай беларускай рок-тусоўцы не Лявон Вольскi i не Фелiкс Аксёнцаў, не Iгар Бабкоў i не Змiцер Лукашук, не Мiхал Анемпадыстаў i нават не Анатоль Сыс, а Таццяна Сапач.

## Лiхтары

Правiлы, правiлы, правiлы... Так трэба пiсаць! Не так, а гэтак. За жыццё таты яго iмя трэба было пiсаць пяццю рознымi правiльнымi варыянтамi. Правiлы... У таты складанае iмя — Вячаслаў. Больш простае iмя — Таня — моваведы таксама некалькi разоў трансфармавалi. То два «цэ» ў iм пiсалi, калi Таццяна, то адно — Таццяна. Можа, таму паэтка Сапач для мяне назаўжды засталася Таняй. Нават калi карэктары i выпраўляюць яе поўнае iмя i касуюць адно «цэ», яна для мяне застаецца Таняй з двума калянднымi лiхтарамi...

Заканчваўся 1994 год, я сустрэў Таню на мiнскiм праспекце напярэдаднi Калядаў. Яна запрасiла мяне ў Вiльню, i абавязкова з дачкою, бо ў яе ёсць два лiхтары. Адзiн лiхтар для маёй Ядзi, другi — для яе Адэлi. Нашы дзяўчаты запаляць лiхтары i пойдуць па вечаровай святочнай каляднай Вiльнi. Мы пойдзем за iмi

і будзем любавацца нашымі дзецьмі, святочнымі ліхтарамі і каляднай Вільняй.

Нешта ў мяне тады не склалася. Не паехаў я тады з дачкою ў Вільню. Шпацыр з ліхтарамі адклаўся на год, і яшчэ на год, і назаўжды.

## Муж

Каб напісаць яшчэ нешта новае пра Таню Сапач, варта падумаць пра яе мужа. Ён так шмат разоў напісаў, што любіць мыць вокны, ажно я падумаў: так яно і ёсць. Ён сам мыў вокны ў кватэрах, дзе жыў з Таняй. Яна — паэтка і вокны не мыла. Яна любіла змятаць пыл. Муж мыў шыбы, а жонка выцірала пыл. Так і жылі. Так яна і казала:

— Зараз пабягу і да вашага прыезду пазмятаю пыл...

## Спустошанасць

Складзеную з аповесцяў кнігу «Толькі не гавары маёй маме» я друкаваў фрагментамі ў штотыднёвіку «Наша Ніва». Былі тыдні, калі Таня Сапач рабіла карэктуру. Калі выйшла кніга, Таня, якая старанна прачытала ўсе мае аповесці, сказала, што так пісаць нельга.

— Чаму нельга? — запытаў я ў стараннай карэктаркі.

— Калі так пісаць, нічога не застанецца ў душы. Будзе пуста ў ёй. Ты выпішаш усё чыста і застанешся з пустатою сам-насам. Ты не баішся застацца са спустошанай душой?

— Не баюся. Нават калі я выпішуся да поўнай спустошанасці, новы дзень прынясе мне новыя ўражанні, і зноў будзе пра што падумаць і напісаць... Ну і ўспамінаў у мяне

столькі, што іх хопіць на тры пісьменніцкія жыцці.

Адным словам, я тады не прыняў заўвагу карэктаркі Сапач наконт маёй шчырасці і аголенасці ў літаратуры. Не прыняў тады, не прымаю і цяпер.

## Захіхікванне

У Тані Сапач ёсць верш «Адам Глобус» — адзін з найлепшых маіх партрэтаў. Зрэдчас я вяртаюся да яго і перачытваю. Згадваю нашы адносіны. Задаю сабе пытанні без адказаў... Чаму ў літаратурнай спадчыне Тані няма верша «Алесь Астраўцоў» ці «Леанід Галубовіч»? Чаму нашы з ёй адносіны склаліся выключна ў літаратуры, а ў жыцці былі прахалоднымі, напружанымі, а пазней і кепскімі?

Я не хацеў здымацца ў яе тэлесюжэтах. Лічыў і казаў, што яе мітуслівая праца каля тэлекамеры — марнаванне часу і сіл, бо, акрамя халтуры дзеля жменькі рублёў, нічога вартага тамака не зробіш. У адказ чулася какетлівае пахіхікванне. Такое кплівае пахіхікванне вечна чуецца на тэлебачанні, дзе халтуршчыкі і халтуршчыцы лічаць сябе разумнейшымі за паэтаў. Таня захіхікала сябе як паэтэсу.

## Паслядоўнікі

У паэткі Сапач палядоўнікаў не было і няма. Яна засталася самотнай на шырокім полі беларускай паэзіі. Ёсць прыхільнікі яе паэзіі, а вось паслядоўнікаў не выгадавалася. Мне заўжды хацелася паўтараць і паўтараць, што Таня шмат часу змарнавала на журналістыку, на радыё- і тэлежурналістыку. Пагатоў

я нават казаў ёй пра гэтае марнатраўства часу, здольнасцяў і сіл. Нават пісаў... Адмаўляўся здымацца ў яе тэлесюжэтах.

Толькі напісаць пра малапатрэбнасць яе журналістыкі не выпадае, бо менавіта там і знайшліся ў яе паслядоўнікі. Асабліва мяне здзівіла Таня Поклад, якая навучылася гаварыць у мікрафон голасам Тані Сапач. Нейкі час я нават думаў, што ніякай радыёжурналісткі Поклад і няма, што гэта Сапач выступае пад вясковым псеўданімам. Так што наяўнасць такой паслядоўніцы-двайніка пераканала мяне ў вялікіх здольнасцях Сапач-журналісткі. Але я ўсё адно шкадую, што Сапач-паэтка мела зусім мала часу на творчасць.

## Грошы

Аднекуль з іншасвету, аднекуль з недасяжнага здалёк пачуў голас нябожчыцы Тані Сапач:

— Навучы майго мужа грошы зарабляць...

Гэта ж яна казала на віленскай вуліцы Піліма. Адказваў, што немагчыма навучыць яе мужа зарабляць грошы. Тады мы смяяліся, бо на сям'ю зарабляла Таня.

## Згадкі

Розныя людзі згадваюцца ў розны час. Некаторыя, як мая маці, часцей згадваюцца адразу пасля навагодніх святаў. Нехта згадваецца на традыцыйныя Дзяды. Таццяна Сапач прыходзіць у мае ўспаміны напярэдадні Калядаў, у час, калі ўсе займаюцца выбарам і набыццём падарункаў. Некалькі гадоў запар я сустракаў Таню ў розных крамах, дзе яна вы-

бірала навагоднія і калядныя падарункі ды пачастункі для сваіх самых дарагіх людзей — дачкі і мужа.

— Гэта для Адэлі! — Сапач паказвала мне яркі ружова-бэзавы каляндарык.

— Гэта для Сярожкі майго! — Таня дэманстравала бутэльку моцнай бурштынавай настойкі «999» і нешта для святочнага стала.

## Сантока і Сыс

Брат працуе над кнігай перакладаў з лірыкі Танэда Сантока. Ёсць сярод яго хайку і такія радкі:

*Спаліў дзённікі,*
*шэрае папялішча,*
*увесь успамін.*

Прачытаў і падумаў пра пасмяротныя зборнічкі нашых найлепшых паэтаў, пра кнігі Анатоля Сыса і Тані Сапач. Мне падаецца: каб яны спалілі свае юнацкія практыкаванні, было б лепей. Сам я вершы і дзённікі паліць не буду. Прынцыпова. Так мяне вучылі разумныя выкладчыкі ў інстытуце: нельга зніштажаць свае творы. Вучылі і навучылі. Хай і пра мяне нехта жорсткі скажа:

— Добра было б, каб і Глобус свае дзённікі спаліў, як той Танэда Сантока.

## Ліпа

У красавіку на маёй вуліцы Чырвонай абразалі ліпы. Галіны рэзалі не шкадуючы. Краявід з абрэзанымі ліпамі набыў канструктыўны і агрэсіўны выгляд. У траўні дрэвы зазе-

лянелі, але не ўсе. Ліпа каля ўваходу на дзяржаўнае радыё засохла. Сам я тое радыё не слухаю. А хто слухае?.. Мне згадалася нававіленская кватэра Тані Сапач, у якой несупынна балбатала беларускае дзяржаўнае радыё. Падобным чынам яно некалі балбатала ў вясковых хатах. Вёска змянілася. Няма з намі Сапач. Ліпа засохла. Чорнае дрэва яшчэ не спілавалі. Чакаюць... Мо збярэцца з сіламі і зазелянее?

# РАМАН

*Словы пра мастака Рамана Заслонава*

## Паўза

У жывапісца Рамана Заслонава вельмі тэатральнае прозвішча. З такім прозвішчам ты проста абавязаны любіць тэатральнае мастацтва, тэатральныя касцюмы, сцэну. Раман усё гэта любіць. Ён малюе вытанчаных жанчын у шырачэзных спадніцах, гарады, падобныя да тэатральных дэкарацый, урачыстае казачнае working Сярэднявечча... Але тут я вырашыў расказаць пра яго вопыт артыста. У Рамана выдатныя артыстычныя здольнасці. Калі ён выходзіў на сцэну нашага тэатральна-мастацкага інстытута, усе ведалі: будзе весела, смешна і лепей за выступленні студэнтаў з тэатральнага факультэта. Чаму лепей? Таму што Раман Заслонаў не будзе рабіць знарочыстых паўз. Студэнт-артыст выходзіў на сцэну і завісаў — трымаў паўзу. Раман выбягаў — і скакаў, і спяваў, і танцаваў. Паўз у вы-

ступленнях Заслонава не было, і за гэта мы ўзнагароджвалі яго воплескамі. Раман рабіў нізкі паклон, заслона апускалася, а ўдзячныя гледачы ўсё яшчэ працягвалі напаўняць залу апладысментамі. Пра такое нават згадаць прыемна.

## Абяцанкі

Раман Заслонаў прыехаў з Францыі ў Беларусь, зрабіў выставу яркаколерных карцін і некалькі месяцаў купаўся ў промнях прахалоднай беларускай славы. Пра Заслонава шмат пісалі і яшчэ больш гаварылі. Некалькі разоў я сустракаў задаволенага жыццём чырванашчокага Рамана на праспекце Незалежнасці. Там, п'ючы каву з папяровай шклянaчкі, ён і расказаў мне пра Ігара Бархаткова і пятнаццаць аксамітных пінжакоў:

— Калі Бархаткоў пачне табе расказваць пра мае пятнаццаць чорных аксамітных пінжакоў, не вер. Ігар любіць перабольшваць. У мяне быў адзін чорны аксамітны пінжак. Адзін! Ён быў не толькі мой, ён быў яшчэ і бацькаў. У нас быў адзін пінжак на дваіх. На розныя ўрачыстасці я прыходзіў у бацькавым пінжаку. Цяпер Бархаткоў усім расказвае, што мая сям'я жыла багата, што ў мяне было пятнаццаць аксамітных пінжакоў, і ўсё дзякуючы майму дзеду — героюпартызану Канстанціну Заслонаву. Бархаткову верыць нельга, ён шмат на што пазабываўся і шмат што пра мяне навыдумляў.

Я паабяцаў Раману, што ўсё расказанае Ігарам Бархатковым буду цяпер правяраць і пераправяраць, а толькі потым запісваць. Чорнабароды Раман заўсміхаўся, дапіў ка-

ву і зрабіў выгляд, што паверыў у мае абяцанкі-цацанкі.

## Тэатр

Ёсць мастакі, для якіх самае важнае з усіх мастацтваў — тэатр. Калі яны малююць партрэт, у іх заўсёды атрымліваецца тэатральны партрэт. Калі яны пішуць краявід, атрымліваецца заднік дэкарацыі з краявідам. Нават батальныя сцэны выглядаюць у іх так, нібыта ў бітве ўдзельнічаюць не вайскоўцы, а пераапранутыя ў вайсковую форму студэнты і аматары ролевых гульняў. Такая тэатральнасць упершыню з'явілася ў палотнах Вато. Пазней яна цудоўна прамалявалася ў гуашах Бенуа, Сомава і Бакста. Найбольш натуральна тэатральная жывапіснасць і лялечнасць паўстала ў палотнах Тышлера.

Цяпер падобная стракатая тэатральнасць пануе ў творчасці Рамана Заслонава. Ён наскрозь тэатральны. Ён любіць сцэну. Любіць тэатральныя сукенкі, строі і капялюшыкі. На тэатральнай казачнасці Раман выбудаваў свой новы перыяд у жывапісе і завёз яго ў самы казачны горад — Парыж, дзе дадаў да яго сапраўднасці і пераканаўчасці, пазычанай у паветры Шарля Перо.

## Цыбульны суп

Да мяне ў маю часовую парыжскую студыю завітаў жывапісец Раман Заслонаў. Пасля адкрыцця сваёй выставы на Венецыянскім біенале Раман вырашыў крыху адпачыць і пагуляць па травеньскім Парыжы. Мы пахадзілі па маляўнічым яўрэйскім раёне Марэ. Паза-

глядалі ў розныя дарагія і танныя крамы. Да нашай кампаніі далучыўся сын Рамана — Піліп. Мы пачалі абмяркоўваць рэстарацыі. Наш выбар спыніўся на традыцыйнай французскай «Філосафы».

Там Раман і пачаставаў мяне цыбульным супам. Варта зазначыць, што ў Парыжы трэба абавязкова пакаштаваць гэтую страву. Я не гурман, але французскі цыбульны суп, з'едзены ў рэстарацыі «Філосафы», зрабіў на мяне моцнае ўражанне, амаль такое, як калаж Анры Матыса «Маркота караля».

Ты можаш абурыцца: дзе той суп, а дзе Матыс? Такія рэчы нельга параўноўваць! Не параўноўвай. Я наогул сумняваюся, што ты бачыў «Маркоту караля» ў арыгінале. Ха-ха! Карацей, суп быў выдатным.

Мая жонка, якая далучылася да нас у «Філосафах», замест супу заказала сабе салату з буракоў. Салата была самая звычайная, не тое што цыбульны суп. У юнацтве я чытаў, што скульптар Радэн любіў і штодня еў цыбульны суп. Цяпер я выдатна разумею Радэна.

Пасля вячэры мы схадзілі на востраў Святога Луі. Раман спытаў:

— Ці мог ты трыццаць гадоў таму ўявіць сабе, што цябе запросяць пажыць і папрацаваць у Парыж, ты прыедзеш сюды, а тут, у Францыі, буду жыць і працаваць я, што мы з табой будзем гуляць каля Сены і глядзець на Нотр-Дам? Ці мог?

Раману я сказаў, што не мог. У маладосці, калі мы разам з Раманам вучыліся ў інстытуце, я і сапраўды не мог такую карціну ўявіць, але таемна спадзяваўся і верыў, што нешта падобнае са мной здарыцца і я пакаштую ў Парыжы цыбульны суп.

## Паветра

Заслонаў тры гады правучыўся ў акадэмічных майстэрнях, якія ўзначальваў Міхаіл Савіцкі. А ён любіў выказвацца пра многае і многіх вельмі рэзка ў сваім бясконцым змаганні з сусветным злом.

Савіцкі стаяў на даволі высокай прыступцы сацыяльнай лесвіцы, таму большасць тых, хто знаходзіўся ніжэй за яго, стараліся не заўважаць ягоных з'едлівых тырад. У Беларусі не было іншай аспірантуры для жывапісцаў, акрамя той, якой кіраваў Міхаіл Андрэевіч Савіцкі, таму мастакі, якія не падзялялі яго палітычныя і рэлігійныя погляды, усё адно ішлі да яго ў вучні.

Вучыўся ў Савіцкага і Раман. Яму даводзілася чуць у свой бок самыя розныя закіды. Трываць такое цяжка.

— Раман, як ты змог так доўга трываць такое? — спытаў я неяк у Заслонава.

— Як толькі Савіцкі пачынаў лаяцца, я рабіўся празрыстым і бязважкім. Абразы праляталі праз мяне, як страла пралятае праз паветра. Яны праляталі хутка і не пакідалі следу. Так і вытрываў, так і скончыў аспірантуру...

Адказ Рамана Заслонава мне спадабаўся, бо сам я не здатны быць празрыстым і бязважкім, як паветра.

## Паласатыя тканіны

Тканіна з шырокімі кантраснымі палоскамі — сама выразнасць. З такой тканіны рэвалюцыйныя мадэрністы марылі зрабіць касцюмы для лётчыкаў, для жыхароў ідэальнага Горада Сонца. Марылі пабудаваць рай на зямлі

і ў ім выгадаваць новага дасканалага чалавека. Каб збудаваць новае, яны вырашылі зруйнаваць старое і зрынулі чалавецтва ў пекла сусветнай вайны. На руінах пасляваенных дзяржаў замет Гарадоў Сонца будаваліся канцэнтрацыйныя лагеры, распачалі працу рэпрэсіўныя машыны. Чалавецтва само не заўважыла, як апынулася ў віры Другой сусветнай вайны. З паласатай тканіны пачалі шыць не строі для новага чалавека, а робу для лагерных рабоў.

Пасля Другой сусветнай вайны мастакі намалявалі тысячы карцін з рабамі ў паласатых робах. Беларускі мастак Міхаіл Савіцкі зрабіў змрочны цыкл карцін пра жыццё і смерць вязняў. За Савіцкім паласатую тканіну пачалі пісаць на сваіх палотнах і навучэнцы жывапіснай майстэрні, якой ён кіраваў. Больш за астатніх паласатую тканіну палюбіў Раман Заслонаў.

Ён і зрабіў тое, што добры вучань робіць з настаўнікам. Ён мінус памяняў на плюс. Ён лагерную трагедыю ператварыў у тэатральны вадэвіль. На карцінах Рамана з'явіліся худыя манекеншчыцы. Замест бела-сіняй паласатай тканіны намаляваліся чырвона-белыя, блакітна-белыя і бела-зялёныя драпіроўкі. Роба знікла, а на яе месцы зазіхацелі шыкоўныя сукенкі. Калі хто не ведае, дык ніколі і не здагадаецца, з якога лагернага чарноцця паўстаў квяцісты свет карцін Рамана Заслонава.

## «Стол»

Раман Заслонаў два разы запар запрашаў мяне на сваю выставу «Стол». Першы раз я прыйшоў і апынуўся сярод сотні такіх жа запрошаных. Я паглядзеў на гледачоў. Навітаўся і наўсміхаўся да болю ў шчоках. Напа-

ціскаўся мастакоўскіх і журналісцкіх далоняў. Пастаяў каля сцяны побач з чыноўніцай Ярмошынай. Нафатаграфаваўся з самымі рознымі персанажамі. Нагаварыўся пра жыццё-быццё з акцёрам Дзянісавым і жывапісцам Дзенісенкам. Уласна выставы я ў той вечар і не пабачыў.

Другі раз я быў адным з нешматлікіх гледачоў. На выставе было светла і прасторна. Карціна з сотнямі сталоў была прыгожай, як свежыя і спрасаваныя габлюшкі. Раман завёў мяне ў кіназалу, і мы разам паглядзелі яго фільм «Стол».

За бясконцым сталом сядзелі розныя сУчаснікі. Сядзеў сам Раман, сядзеў акцёр Ігар Дзянісаў і глядзеў на аголеную натуршчыцу. Жывапісец Слава Лямачка ласкава пляснуў мастакоўскай даланёю па аголеным целе і сказаў, што ў нашым тэатральна-мастацкім інстытуце была знакамітая натуршчыца Соня, у якой былі такія вялікія грудзі, што студэнты называлі яе Ракетаносец. За сталом было шмат акцёраў і акцёрак. Яны елі, пілі, смяяліся, плакалі, танцавалі... Яны жылі і паміралі. Фільм скончыўся сваім пачаткам і пайшоў на другое кола, для новых гледачоў.

Гледачы віншавалі Рамана Заслонава з поспехам. Глядачкі цікавіліся жывапісам, пыталіся, дзе і як набыць карціны. Я паабяцаў Раману, што абавязкова напішу пра два запрашэнні на выставу «Стол». І вось — напісаў з прыемнасцю.

## Проста так

На прэзентацыі кнігі маёй дачкі сустрэў Рамана.

— Я пазваню табе на гэтым тыдні!
— Пазвоніш?
— Пазваню! Проста так пазваню!
— Проста так?
— Проста так!
— Ты мне пазвоніш проста так?
— Я табе пазваню проста так!

Тыдзень праляцеў. Раман не пазваніў. Сапраўды, на што я спадзяваўся? А на што спадзяваўся Раман, калі казаў, што можа ўзяць і проста так пазваніць? Карацей, мы з ім яшчэ кепска ведаем саміх сябе.

## Пазітыў

Адной з самых заганных рысаў у чалавеку я лічу штучны пазітыў. Сам я не песіміст, люблю весялосць і карнавальнасць, гумар мяне радуе, камедыі мяне цешаць, але жыццё трагікамічнае: за цёплым вясёлкавым днём абавязкова насунецца ледзянiстае чарноцце ночы. Таму і раздражняюся, калі бачу дурнаватую радасць там, дзе варта пабыць у спакоі. Наогул, арганічны пазітыў я мала ў каго сустракаў. Гэта ўнікальная з’ява. Чалавек жартуе — і табе смешна, ён распавядае пра самае звычайнае і будзённае, а ўсім навокал весела. Такая здольнасць ёсць у Рамана Заслонава.

Мне з ім заўжды цікава і радасна. Як на мой розум, з Рамана мог бы атрымацца выдатны рэдактар сатырычнага часопіса. Ён мог бы здымаць кароткаметражныя камедыі. Мог бы ставіць у камерным тэатры аднаактовыя п’есы. Замест усяго гэтага Раман Заслонаў піша алейнымі фарбамі карціны на палатне. Не стану казаць, што ў іх адсутнічаюць пазітыў і аптымізм, — усё гэта ў іх ёсць. Але аптымізм у

карцінах Рамана Заслонава грунтоўны і сур'ёзны.

## Артыстычны арыстакратызм

Арыстакратыя даўно сышла з гістарычнай сцэны. Яна згінула ў рэвалюцыйных бітвах і пад нажом гільяцiны. Але арыстакратычны дух застаўся ў творах мастацтва і працягвае культывавацца асобнымі мастакамі і літаратарамі. Тое, што было запачаткавана жывапісцамі ў часы ракако, знайшло працяг у святланосных краявідах імпрэсіяністаў. Нават звычайны стог сена на карціне Клода Манэ выглядае арыстакратычна. Не менш арыстакратычны і постімпрэсіяніст Анры Тулуз-Латрэк: нават вульгарны танцор на яго плакатах выглядае прынцам з блакітнай кроўю. Увесь «блакітны перыяд» у Пабла Пікаса, які захапіўся манерыстычнымі вобразамі Эль Грэка, варта лічыць узорам артыстычнага арыстакратызму.

У беларускім мастацтве да артыстычнага арыстакратызму ніхто не дайшоў, але былі спробы да яго наблізіцца. Найбольш яркай можна лічыць тэатральна-казачны перыяд у творчасці Рамана Заслонава. Шкада, што мастак не дайшоў да вяршыні, але сам намер варты ўхвалення і нават захаплення. Спроба ўзысці на вяршыню зачароўвае... Цяжка заставацца арыстакратычным артыстам, калі тон у мастацтве задаюць гандляркі і кухары, калі танная катлета больш важная за шыкоўны букет, калі апранахі лічацца даражэйшымі за цела... Таму я выдатна разумею мастакоў, якія адмовіліся ад артыстычнага арыстакратызму.

## Прозвішча

Ніхто не стане спрачацца з тым, што цяжка насіць прозвішча вядомага героя сусветнай вайны. Пагатоў калі гэта не проста супадзенне. Ты робішся часткай кінафільмаў пра дзеда-партызана. Часткай музея дзеда-падрыўніка. Часткай кніжак пра Вялікую Айчынную вайну і яе героя Канстанціна Заслонава, якому на чыгуначнай станцыі ў горадзе Орша стаіць велічны помнік.

Ад залішняй пафаснасці Рамана Заслонава вытаваралі самаіронія і аптымізм. Калі можна ад нечага аджартавацца, Раман абавязкова аджартуецца, а калі трэба стаць сур'ёзным і адказным, ён спакойна вернецца ў разважлівы і ўдумлівы стан. Думаю, што герою вайны спадабаўся б яго ўнук-мастак, чые карціны вісяць у самых розных месцах на свеце, а яшчэ і ў мінскім рэстаране з назвай «Заслонаў».

# МІ ША

*Словы пра мастака Міхала Анемпадыстава*

## «Не злоўжываў»

Мастак Міхал Анемпадыстаў ніколі нічым не злоўжываў. Ён быў выхаваны і тактоўны. Не любіў моцных напояў накшталт спірту, віскі ці гарэлкі. У той жа час мог доўга разважаць пра тутэйшыя наліўкі ды віно. Ён нават марыў пра наладжванне выпуску якаснага віна з яблыкаў і сліў у нашай вольнай Беларусі. Хацеў распрацаваць этыкеткі да бутэлек з такім віном. Міхал не любіў хамства, пошласці і экстрыму. Далікатнасць і густ уваходзілі ў спіс яго асноўных прыярытэтаў. Сярод Міхалавых каштоўнасцяў яшчэ можна назваць мінімалізм. Ні разу ў жыцці я не чуў, каб ён крычаў ці гучна сварыўся. Стрыманасць і асцярожнасць былі ў ягонай натуры, але гэта не замінала Міхалу быць настойлівым, працавітым і паслядоўным.

Трэба сказаць, што я не сам убачыў Міхалава «не злоўжываў». Гэта заўсёды адзначаў мой брат Мірык, які разам з Анемпадыставым працаваў у рэдакцыях і выдавецтвах.

І апошняе: Міхал не злоўжываў нават доўгай прысутнасцю на гэтай зямлі. Сышоў у пяцьдзясят тры. Ён нікога з блізкіх і родных не абцяжарыў сваімі хваробамі і доўгай старасцю.

## Рамонт

Ад адной згадкі пра кватэрны рамонт у звычайнага чалавека псуецца настрой. Вядома, рамонт трэба рабіць. Ад яго нікуды не падзенешся, асабліва ад капітальнага. Жыць у разрусе не па-чалавечы. Таму можна казаць, што большасць рамонтаў робіцца праз прымус і самапрымус. Тут самую звычайную сустрэчу з сантэхнікам адкладаеш, спатканне з электрыкам пераносіш на наступны тыдзень, а пра вялікі кватэрны рамонт і пагатоў думаць не хочацца. Але ёсць людзі, якія любяць рабіць рамонты. Яны любяць хадзіць па будаўнічым рынку. Любяць наведвацца ў крамы накшталт «Зрабі сам» і «Майстравітыя рукі».

Да такіх аматараў рамонту належаў Міхал Анемпадыстаў. Ён лічыў, што чалавек не можа называцца добрым мастаком, калі яго жытло ў кепскім стане, калі ў яго кватэры і майстэрні не зроблены еўрарамонт. Міхал любіў паразважаць пра якасны плінтус, пра філянговыя дзверы, пра грунтоўку і фарбаванне сцен. Рамонты Міхала радавалі, бадзёрылі і натхнялі. Зайздросная якасць, скажу я вам. Якасць, вартая павагі.

## Лінейка

Мастак заўжды мае свой улюбёны інструмент, які яму дапамагае ў працы. Зразумела, што ў мастакоў безліч розных прылад і прыстасаванняў, але заўжды ёсць нешта выключнае, самае зручнае і найлепшае.

У майго настаўніка Кіма Шастоўскага такім улюбёным інструментам быў пэндзлік. Такая сабе акуратная маленькая рука з сотняю мяккіх пальцаў. Марк Шагал казаў, што ён — фарба. Анатоль Александровіч усё сваё найлепшае выдрапаў на цынку афортнай іголкай. Сяргей Халамаў казаў, што для яго нічога лепшага за просты аловак не бывае. Яня Зельская працавала на фактурнай акварэльнай паперы... Можна сказаць, што ў кожнага мастака свае сакрэты майстэрства, і адзін з гэтых сакрэтаў — у любові да інструмента.

Любімым інструментам Міхала Анемпадыстава была лінейка. Дарэчы, металічная метровая лінейка вельмі пасавала Міхалу. Ён увесь час нешта нейкае мераў і перамерваў, крэсліў і падкрэсліваў, адмяраў і адразаў. З дапамогай лінейкі Міхал наводзіў парадак. Яна была яго рыцарскім мячом у змаганні з хаосам. Пэўна, таму на супервокладцы сваёй апошняй кнігі «Колер Беларусі» Міхал змясціў шмат розных, і ў тым ліку сталёва-шэрых, лінеек.

## Артыстычны псеўданім

У дзяцінстве ён быў сур'ёзным тоўстым хлопчыкам. Любіў сядзець на канапе з цацачным бурым мядзведзікам, ды і сам быў падобны на медзведзяня. Калі дарослыя пыталіся пра імя, ён глядзеў ім у вочы і казаў:

— Мі Ша!

Ён прамаўляў сваё імя ў два словы. Не проста ў два склады, а ў два выразныя словы. Для самых блізкіх ён і застаўся з гэтым сваім Мі Ша. Для мастакоўскай і артыстычнай тусоўкі ён прыдумаў сабе псеўданім — Міхал. Тады ўсім нам хацелася «заходнасці», культурнасці і нават арыстакратычнасці. Для яго Заходняя Беларусь і Польшча з Літвою былі каштоўнасцямі, адсюль і Міхал замест Міхаіла і Міхася, адсюль і проста Міхал замест Міхаіла Анемпадыстава і Анемпода. З псеўданімам Міхал і паводзіць сябе трэба было далікатна, і выкшталцонасць трэба было дэманстраваць. У яго атрымлівалася быць Міхалам. Яго любілі і ведалі як Міхала, але мне помніцца і ягонае імя ў два словы — Мі Ша.

## Каляды

У нашым Койданаве, як і ў нашых Навазельні ды Варакомшчыне, галоўным хрысціянскім святам лічыўся Вялікдзень. Фарбаваліся яйкі, пякліся булкі, накрываліся сталы, са спадачка я атрымліваў кавалачак ружовай аплаткі. На Вялікдзень можна было заходзіць у чужыя дамы і атрымліваць пачастунак. Я спяваў кароткую песню пра жачак — чырвонае яечка:

*Я — жачак-жачак,*
*Паўзу, як рачак,*
*Скачу, як жабка...*
*Дай яйцо, бабка!*

Дахаты я вяртаўся з поўнымі кішэнямі пачастункаў. Толькі ў хатах камуністаў-кі-

раўнікоў не было булак ды жакаў. Там нам давалі адно шакаладныя цукеркі і крамнае печыва.

Каляды праходзілі ў нашых мясцінах незаўважна. Большасць чакала і сустракала Новы год. Адраджэннем калядавання і святкавання Каляд займаліся хлопцы і дзяўчаты з фальклорных гурткоў.

Міхал Анемпадыстаў наведваў падобныя гурткі і лічыў, што Каляды вартыя таго, каб зноўку стаць усенародным, а не толькі касцёльным святам. Гэтую любоў Міхала да Каляд я і скарыстаў на літаратурным семінары.

У мастацкай майстэрні, якая належала АКМ — аб’яднанню камісійных магазінаў, мы з хлопцамі праводзілі штотыднёвы літаратурны семінар. Мы пісалі апавяданні і лірыку. Абмяркоўвалі напісанае. Дапамагалі адзін аднаму з публікацыямі. Міхал не збіраўся займацца літаратурай, таму не прымаў запрашэнні на семінар, ажно пакуль не пачуў: або ён з намі працуе і піша, або на яго месца мы пачынаем шукаць іншага мастака-афарміцеля. Міхал атрымаў заданне напісаць першае апавяданне ў часопіс для школьнікаў «Бярозку». Ён стварыў каляднае апавяданне. Напісаў выдатна. Твор апублікавалі. Міхал атрымаў ганарар і з першым сваім апавяданнем стаў прафесійным літаратарам.

Нават добрыя справы часам робяцца праз пагрозу і прымус.

## Часопісная графіка

У нас шмат даследаванняў пра кніжную і станковую графіку. Нават пра экслібрыс вы-

ходзіла асобная кніга. Шкада, што часопісная графіка засталася па-за ўвагаю арт-крытыкаў і даследчыкаў мастацтва. У беларускай часопіснай графіцы былі свае непаўторныя зоркі. У часопісе «Вясёлка» такой зоркай быў Алег Луцэвіч. У часопісе «Маладосць» з'яўляліся выдатныя малюнкі Сяргея Халамава, Леаніда Дубара і Арлена Кашкурэвіча. Часопіс «Беларусь» шмат гадоў аздабляў свае старонкі вытанчанай графікай Анатоля Александровіча, Міколы Селешчука і Валодзі Савіча. У часопісах «Парус» і «Крыніца» шмат гадоў працаваў Косця Вашчанка.

Пра аздабленне кожнага з гэтых выданняў можна ўзгадаць шмат цікавага. Але мне бліжэй за ўсіх мастакі, што працавалі ў часопісе «Бярозка». Пятро Драчоў і Кастусь Шаранговіч, Андрэй Радзівонаў і Андрэй Дубінін, Сяргей Харэўскі і Алена Дашкевіч зрабілі для «Бярозкі» безліч запамінальных разгортак і вокладак. Але я не памылюся, сказаўшы, што часопіс быў самым тыражным і меў самае запамінальнае аблічча менавіта ў 1990 годзе, калі мастацкім аддзелам загадваў Міхал Анемпадыстаў. Яго лагатып часопіса, яго рок-плакаты, яго палосныя ілюстрацыі былі ўзорнымі. Разам з Міхалам у «Бярозцы» працавалі мастакамі Лявон Вольскі і Ігар Варашкевіч. Выхад кожнага нумара быў святам для аўтараў і чытачоў, якіх тады штомесяц збіралася больш за дваццаць тысяч.

## Людзі

Выдавецтва «Валеў», якім кіраваў Жэня Кірылаў, вырашыла выдаваць серыю ка-

зак. Першы том склалі беларускія казкі ў перакладах Петнікава. У другі том мы паставілі казачныя гісторыі Свіфта пра Гулівера. Трэці і чацвёрты тамы былі з нямецкімі народнымі казкамі, сабранымі братамі Грым і перакладзенымі на рускую мову тым ж Петнікавым. Я адказваў за падрыхтоўку тэкстаў і малюнкі. Распрацоўку серыйнага аздаблення даручылі Цэслеру. Малюнкі да Свіфта рабіў Войчанка. Малюнкі да братоў Грым — Славук. Малюнкі да беларускіх казак я заказаў Міхалу Анемпадыставу. Ён мне сказаў тады:

— Валодзя, ты ж помніш, што я людзей не ўмею маляваць?

Гэта прагучала па-дзіцячы і кранальна.

— Памятаю. Таму людзей ты намалюеш толькі на вокладку. Зробіш лялечных бандытаў, а ў сярэдзіне будзеш маляваць сваіх любімых цмокаў, пацукоў і замкі з хаткамі.

Толькі Міхал Анемпадыстаў мог, атрымліваючы заказ, спакойна прызнацца, што не ўмее маляваць людзей. Розных людзей нам выдатна панамалёўвалі Войчанка і Славук. Кнігі з ілюстрацыямі Войчанкі і Анемпадыстава выйшлі вялікімі тыражамі ў 200 000 асобнікаў. Малюнкі Славука да казак братоў Грым Жэня Кірылаў згубіў. Акрамя гэтага сумнага здарэння ў гісторыі з казачнай серыяй была яшчэ адна недарэчнасць. Пасля братоў Грым мы запланавалі выданне кнігі японскіх казак «Дзесяць вечароў» у перакладзе Веры Маркавай. Ілюстрацыі да японскіх казак рабіў Сяргей Чарановіч. Шыкоўныя малюнкі Чарановіча і дагэтуль ляжаць у нашым выдавецтве, бо кніга так і не выйшла. Добра хоць тое, што ганарары Маркавай, Славуку і Чарановічу былі выплачаны.

## Тры «ха»

У часы заняпаду савецкай імперыі, якія пачаліся з прыходам да ўлады Брэжнева, заквітнеў самвыдат. Забароненыя цэнзураю кнігі хадзілі ў рукапісах. Янка Купала і Алег Бембель, «Сказ пра Лысую гару» і «Лука Мудзішчаў», Набокаў і Булгакаў перадрукоўваліся на папяроснай паперы і таемна перадаваліся надзейным чытачам. У майстэрні Гены Хацкевіча мы зачытваліся Хармсам. Сярод вялікіх аматараў пісьменніка я ведаў трох мастакоў. Яны не проста любілі Хармса, яны яго палюбілі ў часы самвыдата і пранеслі гэтую любоў да дзён сённяшніх. Хармсам захапіліся Ігар Цішын, Лёха Мартынаў і Міхал Анемпадыстаў.

У постаці Міхала заўжды праглядалася нешта хармсаўскае, нешта брытанска-піцерскае, нешта тэатральнае і трагікамічнае. Нават смех у Міхала быў тэатральна-выразны. Смех той складаўся з трох асобных «ха». Анемпадыстаў зачытваў верш Данііла Хармса, рабіў працяглую паўзу і потым выдаваў стрыманае «Ха-ха-ха!». Падобныя тры «ха» былі яшчэ і ў кінематаграфічнага Фантамаса, але ў Міхала смех быў больш цёплы, чым смех зялёнатварага французскага монстра. Ад Хармса ў творы да Міхала перайшлі абсурд, лапідарнасць і гумар. У сваіх тэкстах і малюнках Міхал заўжды быў вясёлым падлеткам, як і яго вечна любімы Ювачоў — Данііл Хармс.

## Праца

Мне падабаліся стадыённыя канцэрты. Мяне радаваў рок-н-рол. Але імперыя зруйнава-

лася. Паўсталі незалежныя дзяржавы. Рокеры сышлі ў клубы. Замест стадыённага року заквітнеў карчомны рок-н-рольчык. Чорная вопратка анархістаў змянілася на тэатральныя касцюмы. Да мяне падышоў Лявон Вольскі і сказаў:

— У Касі скончыліся тэксты. На ўсе твае найлепшыя вершы яна ўжо напісала музыку. Было б добра, каб ты напісаў ёй новы тэкст...

— Сам чаму не напішаш?

— Пішу для «Мроі». Для «Новага Неба» павінен нехта іншы пісаць. Мне так падаецца...

— Хай Міхал піша. У яго выдатна атрымліваецца з гэтымі каструбаватасцямі: «...дарога, дрэва, мур і вуліца ледзь-ледзь»...

Я саступіў Міхалу сваё месца ў «Новым Небе». Саступіў і ніколі пра гэта не пашкадаваў. Як ніколі не шкадаваў, што двойчы ўладкоўваў яго на працу. Першы раз я ўзяў Міхала мастаком у мінскія камісійныя крамы. Нейкі час я быў галоўным аздабляльнікам усіх сталічных камісіёнак. Мне дазвалялася мець аднаго падначаленага. Нейкі час ім лічыўся Міхал Анемпадыстаў. З камісіёнак я перацягнуў яго ў часопіс «Бярозка».

Працавалася з Міхалам добра. Ён быў крыху марудны, але вельмі адказны і ніколі не ствараў імітацыйнай мітусні. Для мяне Міхал заўжды быў майстравітым працаўніком, якому можна даручаць самае складанае, нават напісанне тэкстаў для песні можна даручаць.

## «Койданава»

Міхал быў з тых, хто ведае адказы на многія пытанні. Прынамсі, ён сам так лічыў. На спрэчкі з Міхалам сыходзіла шмат часу: ён

з вялікай цяжкасцю прызнаваў памылкі і мяняў свае перакананні. Таму я стараўся пазбягаць гэткіх доўгіх спрэчак. Нашто? Хай нехта іншы пераконвае Міхала Анемпадыстава ў відавочным. Нават калі ён памыляўся ў рэчах, звязаных асабіста са мною, я не спрачаўся, адкладаў палеміку на будучыя часы. Так атрымалася і з маім апавяданнем «Койданава».

Калі бацька Міхала папытаўся, з кім сын працуе, той сказаў, што з пісьменнікам Адамам Глобусам, і прапанаваў яму прачытаць адно маё апавяданне. Старэйшы Анемпадыстаў прачытаў і сказаў, што яму падабаецца рэалістычнасць і сур'ёзнасць маёй прозы. Міхал пачаў пераконваць бацьку, што ён памыляецца, што я не пішу рэалістычнай прозы, што я наскрозь іранічны, абсурдны і вялікі прыдумшчык. Бацька не пагадзіўся з сынам. Міхал прыйшоў да мяне, расказаў пра спрэчку вакол «Койданава» і папрасіў пацвердзіць, што ён, Міхал, а не ягоны тата мае рацыю.

Я працаваў з Міхалам, а не з яго бацькам Уладзімірам, з Міхалам, які мог рабіцца нарвістым і капрызным, як дзіця. Таму я запэўніў свайго супрацоўніка, што, безумоўна, праўда на ягоным баку. З-за рэалістычнасці і сур'ёзнасці апавядання пра мястэчка Койданава ўжо і без Міхала хапала і пакрыўджаных, і зняважаных, і абураных.

## Плакаты

Міхал шмат чым паспяхова займаўся і шмат рознага цікавага і вартага зрабіў, але для мяне ён найперш плакатыст. Міхал прыйшоў у прафесійнае мастацтва ў сярэдзіне

80-х, калі свет пачаў хутка змяняцца. З'явіліся новыя музыкі, новыя літаратары, новыя мастакі... Над старой зямлёю паўстала новае неба. Адным з самых актуальных жанраў тагачаснай культуры стаў плакат. У палітычным і сацыяльным плакаце заззялі зоркі Цэслера і Войчанкі, у рок-плакаце ўзышла зорка Міхала Анемпадыстава. Сцены інтэрнатаў і кватэр пачалі ўпрыгожвацца постарамі культавых рок-гуртоў.

Для «Бонды» Міхал намаляваў залатога пацука, які жарэ бэзавую гітару. Можна сказаць, што гэта быў першы яго шэдэўр і першы рок-плакат у Беларусі. Радавалі і яго тэатральныя плакаты. Усе захапляліся домам-чамаданам для п'есы Мрожака.

Я запланаваў у часопісе з паўмільённым тыражом артыкул пра моднага плакатыста Міхала Анемпадыстава. Пісаць мусіў малады і адпаведны Міхалу журналіст. Я знайшоў журналіста з добрым густам, з прагрэсіўнымі поглядамі на розныя Міхалавы захапленні.

«Яшчэ адно захапленне Анемпадыстава — панк-культура. На ягоную думку, гэта вельмі моцная рэакцыя на шэрасць, манатоннасць, аднастайнасць побыту. Хіба што панк-культура і ўяўляе сёння альтэрнатыву. Дарэчы, адзін з ягоных плакатаў так і называецца — "Альтэрнатыва шэрай сцяне". Апроч таго, Міхал сцвярджае, што калі прайсці па нашым горадзе і паглядзець на яго ўважліва, дык можна лёгка зразумець, што Мінск — найспрыяльнейшая глеба для зараджэння і развіцця панк-культуры. Міхал любіць панк-рок і ў некаторых сваіх работах выкарыстоўвае тэксты песень панк-груп ("Казікавы метамарфозы"). А яшчэ ён любіць Босха і Брэйгеля. А яшчэ —

раннеславянскі жывапіс. А яшчэ — сучасную эстонскую літаратуру. А яшчэ... Яшчэ — багата чаго...» — так напісала ў жнівеньскім нумары часопіса «Крыніца» за 1989 год Іра Бяльзацкая, якую шмат хто ведае як Ірыну Халіп.

## Папярэднікі

Жыццё так зладжана, што ты з самага дзяцінства пачынаеш звыкацца з думкамі пра смерць. Старыя сыходзяць, на іх месца становяцца маладыя і дарабляюць за старэйшымі недаробленае, здзяйсняюць недаздзейсненае, выконваюць недавыкананае. Надыходзіць час — і ты сам пачынаеш паціху перадаваць вопыт і сакрэты майстэрства сваім наступнікам. Ты бачыш, як недзе наперадзе сыплецца ў магільную яміну пясок. Ты мужна праходзіш праз сустрэчы са смерцю дзядоў і бацькоў.

Раптам прыходзіць вестка пра смерць блізкага чалавека, які быў маладзейшы за цябе. Ён мусіў жыць і жыць, ён павінен быў выканаць тваё недавыканае, здзейсніць недаздзейсненае, дарабіць недаробленае. Ён спыніўся раней за цябе. Пясок пасыпаўся ў магільную яміну ў цябе за спінаю. Ты згубіў трывалы грунт. Ты апынуўся ў паветры. Цяпер табе давядзецца дарабляць не толькі за папярэднікам, давядзецца дарабляць і за наступнікам, які далучыўся да тваіх папярэднікаў заўчасна, раней за цябе, далучыўся знянацку.

Такія думкі і такія адчуванні былі ў мяне, калі прыйшла вестка пра смерць Міхала. Раней думалася, што ён працягне распачатае мною, а цяпер я працягваю распачатае ім.

## Эпітафія Міхалу

*Давай паплачам... Міхала няма.*
*Быў і прапаў вясёлы светлы Міхал.*
*Ён маляваў, пісаў, спяваў, як дыхаў...*
*Давай паплачам... Міхала няма.*

*Ёсць нашы слёзы... Міхала няма.*
*Ёсць песні Міхала, і ёсць яго малюнкі,*
*Яго карціны і паштоўкі-падарункі...*
*Ёсць нашы слёзы... Міхала няма.*

*Жывым — жывое, мёртвае — кладам,*
*Куды паехаў назаўсёды Міхал,*
*І мы паедзем — добра, што паціху...*
*Жывым — жывое, мёртвае — кладам.*

# АРТУР

*Словы пра маэстра Артура Клінава*

## Праекты

Артур Клінаў рухаецца ад аднаго праекта да другога. Пачынаў ён з праекта «Карціны». Пісаў адно палатно за другім, пакуль не напісаў такую карціну, якую не змог прадаць. За праектам «Карціны» пайшоў праект «Інсталяцыі». За праектам «Інсталяцыі» з'явіўся «Часопіс», у якім нарадзіўся праект «Раманы». Паралельна з імі ў Артура ідзе праект «Фота». Дзіўна было б, каб Клінаў не паспрабаваў запусціць праект «Кіно». У Клінава шмат праектаў, і, што цікава, большасць з іх паспяховая і прыбытковая. Не толькі ў Беларусі, але і ў Германіі, Польшчы, Францыі і Расіі.

Апошнім часам Артур шмат займаецца праектам «Лецішча», і нават ён пачаў прыносіць прыбыткі, бо на лецішчы ў Клінава пачалі ладзіцца творчыя сустрэчы, фестывалі і семінары. Мяне заўсёды дзівіла здольнасць

Артура своечасова спыняць непрыбытковы праект, у гэтым яго талент праяўляецца найбольш яскрава.

## Альбомчык

Мы з жонкай выходзілі з універсама «Цэнтральны», калі нас пераняў Артур Клінаў з фотаапаратам напагатове.

— Вырашыў сфатаграфаваць усіх найлепшых мастакоў Беларусі! — патлумачыў ён свой намер.

— Нас будзеш разам фатаграфаваць ці паасобку?

— Вас? Разам!

Праз які месяц ці два Артур паказаў невялічкі альбомчык, у такія звычайна акуратныя дзяўчаткі збіралі партрэты сваіх сябровак, віншавальныя паштовачкі з ружамі і вясельныя здымкі знаёмых. У Артура альбомчык быў шчыльна наладаваны тварамі і постацямі сучасных мінскіх мастакоў. Там былі Люда Русава, Вова Цэслер, былі браты Кашкурэвічы... Пагартаўшы альбом, я сказаў, што Артур назбіраў найлепшых прадстаўнікоў альтэрнатыўнага мастацтва.

— Іншага мастацтва і не бывае! — сказаў тады Клінаў.

Пярэчыць я не стаў.

## Валянціна Цюленева

Я пазнаёміўся з Валянцінай Цюленевай, калі паспрабаваў набыць першы нумар часопіса *«pARTisan»*.

— Я прадаю часопіс толькі ў добрыя рукі! — пачуў ад яе.

— Скажыце рэдактару Артуру Клінаву, што яго першы часопіс набыў Адам Глобус!

— Добра, я так яму і перадам!

Праз тыдзень на прэзентацыі часопіса я даведаўся, што распаўсюджвальніца нашых свабодных слоў і меркаванняў пра сучаснае мастацтва — маці Артура. Яна была апранута па-святочнаму і выглядала вельмі шчаслівай, яна радавалася за поспех сына. Я павіншаваў яе з поспехам, і мы перазнаёміліся яшчэ раз.

Потым яе не стала.

Яшчэ тыдзень таму позна вечарам я бег па вакзальным падземны пераходзе, а яна стаяла з сынавым *«pARTisan*'ам*»* і ўсміхалася мне. Я спяшаўся, як і ўсе спяшаюцца, ідучы праз вакзал. Не ведаў, што менавіта такою будзе апошняя сустрэча са спадарыняй Валянцінай.

Каб можна было вярнуцца... Нельга. Свет незваротны.

## Гермафрадыт

Авангардыст Артур Клінаў атрымаў развод, у судзе ён скасаваў свой шлюб. Разводзіцца Артур задумаў яшчэ на ўласным вяселлі, але больш за пятнадцаць гадоў ішоў да рэалізацыі задуманага. Здзейснілася мара: Артур зноўку вольны мужчына, які шукае родную мастакоўскую душу для сумеснага пражывання. Патрабаванняў да душы ў Артура даволі многа. Душа мусіць любіць ці палюбіць наш Мінск — горад сонца, яна абавязана шанаваць сучаснае мастацтва і найноўшую літаратуру, павінна разумець авангардыста Артура Клінава. Цікава, што сэксуальных па-

трабаванняў Артур не высунуў. Таму душа можа быць як у жаночым, так і ў мужчынскім целе, яна нават мае поўнае права знаходзіцца ў целе гермафрадыта.

## Шчучынскі харор

Беларусы робяць сто першую спробу зняць сваё кіно. Калі ўлічыць, што ўсе папярэднія праваліліся з ціхім трэскам, ніякіх надзей атрымаць добры фільм няма. Таму і здымуць фільм жахаў у Шчучыне. Аўтарам ідэі і сцэнара абралі чалавека паважанага і вядомага — Мэрымэ Праспэра. Сюжэт пра чалавека-мядзведзя таксама ўсе ведаюць. А вось Шчучын у вялікім свеце мала хто бачыў. Шчучын нават у Беларусі месца не з самых папулярных. Так што шчучынскі харор (па-нашаму — жудасць) мае права на фільмаванне.

Найбольшае ўражанне на рэжысёра Кудзіненку і мастака Клінава зрабіў начны шчучынскі бар. Там сядзелі бландзіны з блакітнымі вачыма і спявалі беларускія песні.

— Уяўляеш? Усе бландзіны. Усе з блакітнымі вачыма, і ўсе спяваюць песні па-беларуску! — тройчы паўтарыў Артур Клінаў.

Харор! Шчучынскі харор! Сапраўды, жудасць. Калі каго і баяцца ў свеце, дык гэта бландзіна з блакітнымі вачыма, які ўначы запальвае агонь і пачынае спяваць сваё.

## Эталоны мінулага

Чытанне кнігі «Шклатара» Клінава прымусіла мяне перачытаць «Шклатару» Алеся Асташонка. Перачытваючы найлепшае апа-

вяданне Асташонка, я падумаў, што літаратура трымаецца менавіта на перачытваннях, а не на простых чытаннях. Калі ў нашай літаратуры ёсць творы не толькі для займальнага прачытання, а назапасіліся тэксты, вартыя шматразовага перачытвання, значыць, беларуская літаратура адчувае сябе нармальна.

Скажу шчыра, «Шклатара» Клінава, як і «Шклатара» Асташонка, вельмі далёкія ад маёй любімай «шклатары» Азанфана і Ле Карбюзье, якія пісалі на палотнах нацюрморты з бутэлькамі і стварылі эталонны стыль — пурызм. У іх карцінах чыстыя і празрыстыя слоікі, шклянкі ды бутэлькі выстройваліся ў геаметрыю ідэальных архітэктурных пабудоў. Менавіта чысціні і выбудаванай саборнасці няма ў «Шклатарах» Асташонка і Клінава. А я чамусьці шукаў у тэкстах менавіта пустату, загорнутую ў празрыстасць, якая ёсць нават у самай звычайнай бутэльцы.

## Мутант

Каб надмагільную пліту ўпрыгожваў любімы твор нябожчыка, дык на помніку раманісту Артуру Клінаву (Хай Артур пражыве сто дваццаць гадоў!) мусіў бы з’явіцца «Мутант» жывапісца Лёшы Жданава.

## Паражэнне

Адны мастакі лёгка перажываюць паражэнне, другім цяжка даецца пройгрыш. Артур належыць да тых, хто верыць у сваю зорку, ва ўласны талент, не сумняваецца ў якасці сваіх твораў, а таму цяжка пераносіць любы

нават самы дробны пройгрыш. Ну не далі табе прыз, ну не атрымаў ты сабачага медаля ці прэміі, скажы сабе: «Не вельмі я і спадзяваўся на ваш густ, прэміядаўцы! А ў розум ваш я ніколі не верыў!» Скажы, паўтары тры разы і супакойся.

Артур Клінаў так не можа. Ён доўга рыхтуецца да спаборніцтваў. Аддае на барацьбу шмат сіл. Да змагання на сваім баку набірае шмат рэкрутаў. Таму, атрымаўшы паражэнне, моцна маркоціцца. Можа некалькі дзён запар піць. Абурэнні цякуць з Артура, як лава з вулканічнага кратара. Алкаголь і час паціху залізваюць душэўную рану ад паражэння. Клінаў супакойваецца і пачынае актыўную падрыхтоўку да новых спаборніцваў і змаганняў.

## Паўторы

Для літаратараў, журналістаў і чытачоў злачынца цікавы толькі ў тым выпадку, калі ён серыйны. Раз — не Фантамас! Адно злачынства можа быць выпадковым, на гэтым будуць настойваць адвакаты і праваабаронцы, а вось з серыямі злачынстваў іншая справа. Яны больш уражваюць і больш пераконваюць. Таму, пабачыўшы палатно Артура Клінава «Смерць піянера», я параіў яму неадкладна напісаць працяг. Артуру не трэба два разы паўтараць. Ён схоплівае разумныя прапановы адразу. Таму ў хуткім часе гледачоў радавала «Смерць піянера — 2», якая і фарматам была большая за першую карціну, і колерамі ярчэйшая. Праўда, кампазіцыйна другое палатно паўтарала першае. Той жа школьны двор, той жа забіты ў бойцы хлопчык, на

шыі якога чырванее піянерскі гальштук, тыя ж дзеці вакол трупа.

Серыйнасць у творчасці Артура вельмі важная рэч. Ён любіць паўторы. Ён зрабіў шмат кампазіцый з вёдрамі, з чамаданамі, з выварками, са шпакоўнямі і з катафалкамі. Найбольш вядомай у Клінава атрымалася серыя саламяных рэчаў. Як у свой час Мерэт Апенгейм зрабіла кубачак для кавы з футра, так Артур Клінаў зрабіў тэлевізар з саломы. Саламяны тэлевізар мяне ўразіў, і я прапанаваў Артуру зрабіць саламяную Таемную вячэру. Клінаў вылепіў з саломы Хрыста і яго вучняў. Думаю, што Леанарда, якому ў той час якраз спаўнялася пяцьсот гадоў з дня нараджэння, залатая саламяная беларуская Таемная вячэра таксама парадавала.

## Паплечнікі

Артур заўсёды меў шмат паплечнікаў, якім давяраў. Па пытаннях з беларускай мовай ён звяртаўся да Зміцера Саўкі. Пра перформансы ён разважаў з Людай Русавай і Ігарам Кашкурэвічам. Пра колер і жывапіс гутарыў з Сяргеем Кірушчанкам і Ігарам Цішыным. Планы на здымкі кіно выбудоўваў з Андрэем Кудзіненкам. У паэзіі ён высока ставіў меркаванне Лёшы Жданава. У філасофіі — Валянціна Акудовіча. У літаратуры — Ігара Бабкова і Сяргея Дубаўца. Мастацкі радыкалізм Артур цаніў у паводзінах Віталіка Ражкова і Гены Хацкевіча. Майстэрства, аптымізм і гумар для Клінава найперш нітуюцца з прозвішчамі Цэслер і Вашкевіч. Экспрэсія для яго ўвасабляецца ў творах Уладзіміра Акулава і Валодзі Лапо. Усіх гэтых людзей Артур

не толькі любіць і паважае, ён прапагандуе іх творы, друкуе іх кнігі і альбомы, ладзіць іх выставы, робіць ім публікацыі ў сваім часопісе *«pARTisan»*.

# РУСЛАН

*Словы пра мастака Руслана Вашкевіча*

## Блытаніна

У жыцці шмат розных запамінальных выпадковасцяў. Аднойчы падобная здарылася ў мяне з Косцей Шаранговічам. Бег я ў майстэрню да Руслана Вашкевіча, а забег да Шаранговіча. Майстэрні Косці і Руслана былі ў суседніх двухпавярхховых і вельмі падобных жоўтых дамках. Я бег, думаў пра нешта сваё і патрапіў у адчыненую наросхрыст майстэрню Шаранговіча. Косця быў ў адных трусах і падмятаў падлогу. Я ледзь не спытаў, чаму гэта Шаранговіч мяце падлогу ў Вашкевіча. Не спытаў, сумеўся і прызнаўся, што паблытаў дамкі. Кастусь прапанаваў выпіць моцнай гарбаткі. Я адмовіўся і пайшоў у майстэрню да Руслана.

Даўно тое здарылася, а Косця з венікам пасярод майстэрні, асветленай цёплым вечаровым сонцам, помніцца добра, помніцца да

драбніц, да пылінак, што плывуць і плывуць у слупах святла.

## Запрашэнне

Хадзіў з унукам Вовам маляваць Мінск. Шукалі пазнавальныя архітэктурныя сілуэты. Сустрэлі мастака, які запрасіў нас у сваю майстэрню на каву. Я паабяцаў таму, што абавязкова зайду пасля вяртання з Барселоны. Прывязу невялічкі падарунак і заскочу. За вячэрай дома я папрасіў Вову расказаць пра нашу сустрэчу і запрашэнне на каву. Унук сказаў, што нас запрасіў мастак Ваньковіч. Калі я засмяяўся, Вова паспрабаваў выправіць памылку і сказаў, што мы атрымалі запрашэнне ад Пашкевіча. Толькі трэцяя спроба атрымалася ўдалай, і ўсе даведаліся пра запрашэнне ад Вашкевіча.

## Сыс

Мастак Руслан Вашкевіч расказаў, як аднойчы прапіў з паэтам Анатолем Сысам цэлы тыдзень. У самым пачатку таго п’янага тыдня ён падарыў Анатолю сваю карціну «Каўчэг». Працверазеўшы, Вашкевіч пайшоў да Сыса забіраць яе. Думаў, Анатоль абурыцца і будзе перажываць з-за страты «Каўчэга». Толя не заперажываў, наадварот, падзякаваў Руслану за тое, што тыдзень пражыў побач з выдатнай карцінай.

Каб не трапіць у падобныя абставіны, я ніколі не браў у захмялелага Вашкевіча карціны. Ён іх дарыў, а я не браў, бо ведаў: працверазее, прыйдзе забіраць, і будзе няёмка абодвум. Праз тую няўтульную няёмкасць нам

захочацца зноў панапівацца... І ўсё пойдзе па другім, а то і па трэцім крузе.

## Легендарнасць

Мастак Вашкевіч — асоба легендарная. Ён яшчэ толькі пачынае рабіць новы праект, а пра яго ўжо гавораць, яго абмяркоўваюць і нават крытыкуюць. Напрыклад... Ходзяць чуткі, што Руслану прапанавалі зрабіць грандыёзную выставу ў Санкт-Пецярбургу. Сам Рускі музей прапанаваў! Каб зрабіць выставу ў Рускім, Руслану трэба трыста тысяч долараў. У Вашкевіча такіх сродкаў пакуль што няма, таму піцерскія аматары сучаснага мастацтва вымушаны чакаць...

У гісторыі з Рускім музеем мяне зацікавіла не праўдзівасць фактаў, а легендарнасць мастака. Пра каго іншага такога і не расказваюць, бо што расказваць, калі ў расказанае нельга паверыць. У зорку Руслана Вашкевіча шмат хто верыць, таму чуткі пра яго і бягуць паперадзе падзей.

## Ложак

Калі п'е і співаецца звычайны чалавек, на гэта ніхто асаблівай увагі не звяртае. П'е? Хай сабе п'е. Усе п'юць. Калі співаецца чалавек таленавіты, пра яго гавораць зусім іншае. Як жа так можна піць? Нельга тапіць у гарэлцы свой талент! Яму трэба дапамагчы... Зазвычай дапамога зводзіцца да набыцця чарговай бутэлькі віна. Яна выпіваецца, і памагаты з гонарам кажа, што ён піў з талентам. Ён піў не абы з кім, а ого-го з кім, а таленты не п'юць абы з кім. Праўду кажучы, таленавітаму алкаголіку, як

і бяздарнаму, няма вялікай розніцы, з кім піць. Усім добра п’ецца з тымі, хто налівае... Думаю, Руслан Вашкевіч са мной пагодзіцца. Калі ён піў, то рабіў гэта з рознымі людзьмі. Піў шмат. Яго шкадавалі. Пра яго п’янства шмат гаварылі. Як у іншыя часы шмат гаварылі пра п’янства Анатоля Сыса, Міхася Стральцова ды Уладзіміра Караткевіча. Як і Сыс, Руслан у захмялелым стане паводзіў сябе буйна. Мог палезці біцца. А мог, як мне расказаў мастак Ілля Маланаў, легчы ў чужы ложак, не распранаючыся і нават не разуваючыся.

Аднойчы Руслан прыйшоў да Іллі пасярод ночы. Піць ён ужо не змог. Хацеў спаць. Ды так, што лёг у ложак Маланава абуты і адзеты. Ілля разам з жонкай у тую ноч спалі ў іншых месцах. Такіх гісторый было шмат ад розных людзей. Гісторыі і шкадаванні скончыліся раптоўна, калі Руслан піць кінуў.

## Сюррэалізм

Займацца сюррэалізмам даволі проста. Бярэш дзве рэальныя рэчы і складаеш з іх рэч фантастычную. Бярэш галаву рыбіны, прыкладаеш да жаночага безгаловага ды бязрукага цела і атрымліваеш новы від русалкі. Кентаўры, русалкі, цмокі — вобразы ўзорнага сюррэалізму, вобразы новай рэальнасці. Каб быць паспяховым сюррэалістам, трэба валодаць пераканаўчым малюнкам. Пажадана, каб глядач не толькі пазнаў намаляваныя элементы, але і паверыў у натуральнасць новай канструкцыі, складзенай з іх. Самы лёгкі шлях у сюррэалізм — ляпіць фотакалажы. Але ў фотакалажах сюррэалізм выглядае другасна і танна. Іншая справа — жывапіс, выка-

наны фарбамі на палатне, такі сюррэалізм усё яшчэ самы пераканаўчы.

У Беларусі, як і ва ўсім свеце, заўсёды хапала сюррэалістаў і сюррэалістычных твораў мастацтва. Савіцкі і Селяшчук, Войчанка і Цэслер шмат сваіх прац зрабілі ў гэтым стылі. Ёсць сярод іх вельмі ўдалыя творы. Але найлепш тутэйшы сюррэалізм выявіўся ў творчасці Руслана Вашкевіча, бо для Савіцкага і Селешчука ён не быў асновай творчасці, а для Цэслера і Войчанкі карціна заўсёды саступала першынство актуальнаму плакату.

## Суд

Мастака пакрыўдзіць лёгка. Зазвычай мастакоў крыўдзяць самі мастакі. Зразумела, старэйшыя крыўдзяць маладых. Так было, ёсць і будзе. Толькі здараюцца і выключэнні. Малады мастак не хоча трываць крыўду. Ён адчувае сябе роўным сярод роўных і намерваецца гэта нават даказаць. Дзе? А ў судзе!

Так Руслан Вашкевіч хацеў праз суд пераканаць Гаўрылу Вашчанку, што той не меў ніякага права перадаваць карціну Руслана ў галерэю імя... Вашчанкі. Не меў права, а перадаў. Вашчанка арганізаваў выставу сваіх вучняў, карціны з яе ён перадаў у галерэю. Зрабіў гомельскай галерэі вялікую ласку за чужы кошт. Руслан хацеў судзіцца з галерэяй і сваім былым настаўнікам, але па дарозе ў суд зайшоў да мяне пракансультавацца і параіцца. Мая парада была простая:

— Мастакі самі ў суд не ходзяць! Пакуль цябе не выклікаюць у суд, ты — калі лічыш сябе сапраўдным мастаком — абыходзіш яго трэцяй дарогай!

Вашчанка зрабіў дрэннае. Пакрыўдзіў Руслана. Усё так, але трэба пераступіць праз крыўду. У выніку Руслан у суд не пайшоў і праз гэта застаўся ў плюсе.

## Цяжкія пытанні

Руслан прыходзіў да мяне з цяжкімі пытаннямі. Можа, ён і да іншых хадзіў з імі. Можа, некаму падобныя пытанні і цяжкімі не падаюцца. Атрымаў пытанне, адказаў абы-як і жывеш сабе далей. У мяне так лёгка не атрымліваецца.

Аднойчы Руслан абняў мяне па-сяброўску, нават па-інтэрнацку, і спытаў:

— Праўда, што ў свеце мастацтва кіруюць геі?

Пытанне загнала мяне ў кут, бо я ніколі не задумваўся над тым, што ў мастацтве нехта можа па-сапраўднаму кіраваць. Хіба нехта кіраваў Ван Гогам? Кіравалі і кіруюць продажамі ягоных твораў. Ці шмат сярод гандляроў мастацтвам геяў? Ці дамінуюць яны ў галерэях? Мабыць, не... Так я Руслану і сказаў: зусім не абавязкова быць блакітным, каб зрабіць кар’еру паспяховага жывапісца. Можна быць і шэрым, і чорным, і вохрыстым.

Другое пытанне Вашкевіча было яшчэ цяжэйшым за першае. Мы шмат выпілі. Наша размова з Русланам выглядала гранічна шчырай, і ён спытаў:

— Ці можаш ты ўсім чыста ахвяраваць дзеля мастацтва? Ці можаш ахвяраваць часам, грашыма, жанчынамі, дзецьмі?

На гэтае пытанне я паспрабаваў адказаць пытаннем:

— Ці пагражалі табе калі-небудзь забойствам тваіх дзяцей?
— Не пагражалі! — сказаў Руслан.
Чалавек не ведае, як будзе сябе паводзіць у падобным стане. Сам я на такую пагрозу адказаў падобнай пагрозай. Але ахвяраваць дзецьмі дзеля мастацтва я б не стаў. Для мяне мастацтва — форма паводзінаў, якая не вымагае крывавых ахвярапрынашэнняў. Яна вымагае працавітасці, шчырасці, разумнасці, пэўнай эратычнасці і нават пэўнай рэлігійнасці, але страшных ахвяр не вымагае.
Руслан са мной катэгарычна не пагадзіўся. Ён вырашыў ісці ў мастацтва праз ахвяры.

## Маляванне

Мастакі падзяляюцца на два лагеры: фарбавальшчыкі і малявальшчыкі. Для фарбавальшчыкаў найгалоўнейшым у выяве з’яўляецца колер, для малявальшчыкаў — графічнасць формы. У фарбавальшчыкаў формы і абрысы вельмі прыблізныя і не зусім дакладныя, у малявальшчыкаў колеры спрошчаныя і фарбы не перамяшаныя. Руслан Вашкевіч па прыродзе сваёй — узорны малявальшчык. Колеры на яго палотнах пакліканы толькі абагульніць малюнак. Часам Руслан спасылаецца на беларускае наваколле, маўляў, яно ў нас шэрае, малаколернае і нават манахромнае. Рацыя ў гэткіх словах Вашкевіча, безумоўна, ёсць. Але сутнасць не ў гэтым, бо можна, як Пабла Пікаса, нарадзіцца ў сонечнай Іспаніі і пры гэтым быць узорным малявальшчыкам, і застацца ім, нават калі большую частку жыцця працуеш у шматколернай Францыі.

## Паспяховасць

Паспяховасць у Руслана Вашкевіча была заўжды. Колькі яго памятаю, ён заўсёды быў упэўнены ў выключнасці сваіх праектаў, і не беспадстаўна, што важна. Цікава яшчэ і тое, што ў Руслана той паспяховасці больш, чым патрэбна аднаму мастаку. Ён яе спрабуе раздаваць: збірае вакол сябе творцаў і робіць групавыя выставы. Праўда, на іх Руслан застаецца верхаводам. Ён любіць выступаць салістам з вялікім хорам. Нічога кепскага ў такіх выступленнях няма. Можна сказаць, што яны ў Вашкевіча заўжды ўдалыя. Праўда, Руслан не ўлічвае, што падзяліцца творчым поспехам немагчыма. Добра дзяліцца спрытам і паспяховасцю халтуршчыка. Усе зарабілі — і праз добры заробак сталі шчаслівымі. З творчасцю інакш... Усе зрабілі, добра і нават выдатна, але ўсе так і засталіся на сваіх узроўнях паспяховасці. У кожнага, як у народзе кажуць, — свая столь.

## Хадыка

У цябе з чалавекам цікавыя адносіны. Станоўчыя. Стваральныя. Вясёлыя. Шчырыя. Ты можаш загаварыць з ім на любую тэму. Можаш паскардзіцца на лёс. Можаш пасварыцца, ведаючы, што памірышся... Раптам заўважаеш: адносінаў больш няма. Паміж вамі адчужанасць. Халодныя позіркі. Ветлівыя прывітанні-развітанні. Чаму? Што здарылася? Калі? Дзе тая кропка, у якой адбыліся змены? Вяртаюся ў мінулае. Успамінаю. Перабіраю адну размову за другой...

Знайшоў момант... Руслан кажа, што Алег Хадыка, паглядзеўшы яго працы, сказаў вучням:

— Вось як трэба рабіць!

Руслан гаворыць са мной як мастак з журналістам, а не як мастак з мастаком. Ён думае, што Алег Хадыка мог бы такое сказаць, мог бы так уразіцца яго працамі, а я магу ў такое паверыць. Не магу! Я ведаю, што Алег Хадыка з вучнямі — адно цэлае. Ён і ёсць яго вучні. Хадыка ніколі нікога не паставіць вышэй за сябе, і пагатоў Руслана. Факт... Пасля гэтага я страціў да слоў Руслана давер. Мы застаёмся ветлівымі, прыяцелямі, калі цвярозыя. Зрэшты, і гэта не так каб мала.

## Арт-камерсанты

На першы погляд такіх мастакоў, як Ігар Бархаткоў і Руслан Вашкевіч, мала што аб'ядноўвае. Бархаткоў нібыта натуралістычны рэаліст, а Вашкевіч быццам бы тэатралізаваны постмадэрніст. Толькі ў іх агульнага значна болей, чым рознага, бо і той і другі найперш — арт-камерсанты. Зрабіў — прадаў, прадаў — зрабіў... Руслан і Ігар выпускаюць тое, што прадаецца. Калі з іх дзейнасці прыбраць зробленае на продаж, бадай нічога і не застанецца. Арт-камерсанты, адным словам. І ўсё ж я разважаю і пішу пра Руслана Вашкевіча ды Ігара Бархаткова, бо каліва мастацтва ў іх творах заўжды захоўваецца, яны ўсё яшчэ мастакі, а не дызайнеры з чыстымі рукамі і халодным сэрцам.

# ВАСЯ

*Словы пра рок-н-рольшчыка Васю Шугалея*

## Модныя кнігі

Ёсць людзі, што чытаюць толькі модныя кнігі. Стаў модным Сарокін — чытаюць Сарокіна. Новы сезон прынёс новую моду на англа-японца Муракамі — зачытваюцца Муракамі. Некалі такім модным і народным у рускамоўнага чытача быў дэтэктыўшчык Чэйз. Усе выдатна разумелі, што ён як дэтэктыўшчык горшы за Хэмета, Чандлера і Стаўта, але гэта не замінала яму стаць татальна папулярным.

Сярод аматараў Чэйза быў і мінскі рок-н-рольшчык Вася Шугалей. Ён чытаў Чэйза несупынна. Прачытваў усё, што мог дастаць. Вася марыў стаць пісьменнікам, падобным да Чэйза. Марыў пісаць крутыя крымінальныя раманы, атрымліваць за іх мільённыя доларавыя ганарары і жыць у Швейцарыі. Мары Васі не здзейсніліся, бо на змену папулярна-

му Чэйзу прыйшоў папсовы руска-амерыканскі Лімонаў з раманам «Гэта я — Эдзічка». Вася кінуў чытаць Чэйза, праглынуў Лімонава і напісаў «Гэта я — Васька Шугалей». Раман Васі быў горшым за раман Эдзічкі, як раманы Чэйза былі горшымі за раманы Хэмета, але ён быў не настолькі горшым, каб стаць татальна папулярным.

## Вася і Цімур

У мастацтве вельмі важна, каб твая творчасць мела прыродную адпаведнасць. Здараецца, што чалавек нарадзіўся з тварам і тэмпераментам П'еро, а спрабуе граць мажорную, завадную музыку. Ён стараецца, але атрымліваецца кепска, бо няма адпаведнасці і гармоніі. Вася Шугалей ад нараджэння меў тэмперамент вогненнага Арлекіна. Ён бегаў па сцэне ў чырвоных сямейных майтках, і яму гэта пасавала. Арлекіністасць Васі кантраставала са знешнасцю яго сябрука Цімура Грыба. Пара Вася і Цімур упрыгожвала ўсе рок-тусоўкі ў перабудовачным Мінску. Арлекін, куплетыст, малявальшчык, дэкламатар, спявак, танцор Васька Шугалей і журналіст, фатограф, канцэптуаліст Цімур Грыб. Іх любілі дзеўкі, тэлевізійнікі, рок-журналісты і рок-публіка. Вася і Цімур верылі ў свае зоркі. Яны верылі, што стануць знакамітымі. Ды так, што пасля заканчэння школы адразу пачалі працаваць, працаваць і працаваць. Яны вырашылі жыць хутка. Яны жылі хутка. Яны нарадзіліся, каб жыць хутчэй за астатніх. І, галоўнае, яны не супярэчылі сваёй прыродзе — хутка жыць.

У нетрах інтэрнэту я адшукаў раман «Гэта я — Васька Шугалей, або Як я стаў артыстам, і што гэта такое!» Ёсць у ім і пра мяне колькі радкоў. «У сярэдзіне зімы 1990 года па Мінску разляцелася вестка пра арганізацыю буйнагабарытнага музычнага фестываля “Тры колеры — 90”. (...) Усё было зроблена з размахам і помпай. Для судзейства аргкамітэт запрасіў дзесяць чалавек — ад прадстаўнікоў Дзяржаўнай філармоніі да незалежных рок-крытыкаў, адным з якіх быў Адам Глобус (у той час беларускі Арцём Троіцкі, пазней адзін з самых буйных выдаўцоў-піратаў на ўсёй прасторы былога Савецкага Саюза)».

Ну, дзякуй, Васька, дзякуй, Шугалей. Не забыўся, нават цытатку з майго артыкула ўціснуў у раман: «Дазволю сабе яшчэ раз працытаваць беларускі друк тых часоў: “Адкрыцці, без іх нельга. Адкрыцці — звычайная, будзённая і абавязковая на кожным рок-фестывалі справа. Трэба адкрыць — і адкрыем. Гэтым разам знайшлі, адкрылі, пачулі, вылучылі: а) новы жанр — рок-блазан — Вася Шугалей з гуртом “Ы.Ы.Ы.”. Праўда, гурт “Ы.Ы.Ы.” — гэта занадта гучна. Ёсць толькі некалькі музыкаў, якія кепска падыгрываюць Шугалею. А сам Вася — адкрыццё:

*Я бу-бу цябе ў губу,*
*Ты бу-бу мяне ў губу.*
*Я так болей не магу,*
*Я хачу бу-бу ў бу-бу!*

Чытае Вася... Васю трэба бачыць! Выдатная клаўнада, калі не перабярэ!..”

Вось так, бля!»

Сапраўды, ёсць што згадаць.

На другім фестывалі Ваську на сцэну не пускалі, бо яго гітарыст паказаў усім гледачам голую сраку. Васька — да мяне:

— Выпусціце на сцэну!

— Добра, зраблю, а ты выйдзеш і скажаш: «Чытаю вам геніяльны верш Глобуса», — а потым паваліш сваё “ы-ы-ы”».

І Васька выйшаў:

*Дзевачка ноччу злавіла таксі.*
*Ціха шафёр ёй сказаў: «Адсмакчы».*
*Доўга смактала бедная Зіна.*
*Месяц ад Зіны смярдзела бензінам.*

Вершык пра Зіну я напісаў разам з Воўкам Сцепаненкам. А Васька выкрыкваў са сцэны такое:

*Я знаю, ты — міліцанерка,*
*Цябе люблю я, нету сіл,*
*Но любіш ты міліцанера,*
*Хоць он а том і не прасіл.*
*Скажы, мне праўда не ў навінку,*
*За што ты любіш так яво?*
*Еслі за чорную дубінку,*
*Ты не відала маяво!*

І яшчэ:

*Наша Таня громка плачат —*
*Два мянта забралі мячык.*
*Ціша, Танечка, не плач,*
*Всё равно не аддадут!*

І такое:

*Піздата жыць в Амерыке,*
*А можа, і в Яўропе.*
*В адной уверан эврыке —*
*Гаўно далжно жыць в жопе!*

І яшчэ:

*Ты стаіш і кусаеш губы,*
*А в глазах — абіда і боль.*
*Слышыш, шол бы пасцал за вугал,*
*Сераглазы ты мой кароль!*

Шугалея несла і несла — і знесла ў Маскву разам з групамі «Бі-2» і «Ляпісам Трубяцкім». Там ён і тусаваўся, і раман напісаў, куды старыя вершы панаўстаўляў, бо новыя ў Ваські горшыя за старыя, як і ва ўсіх нармальных і ненармальных паэтаў.

## Масква

У 2004-м у Маскве загінуў наш мінскі рок-блазан Васька Шугалей...

*Забілі Васю Шугалея.*
*Забілі ў ёбанай Маскве.*
*Шкада, што свалата жыве,*
*Якая біла Шугалея.*

*Спі, Васька. Спі, мой дарагі.*
*Зямля табе хай будзе пухам.*
*Я на зямлю палью са скрухай*
*Саракаградуснай вады.*

Рок-н-рольшчыкі сыходзяць першымі, такі ў іх лёс — крута закручаны і кароткі.

## Футра

У кавярні «Лондан» няма вольных сталоў, даводзіцца падсесці да Шугалеіхі. Мы адразу пазнаём адно аднаго, хоць і не бачыліся гадоў пятнаццаць. Гаварыць пра яе мужа Васю, задушанага шнурам ад камп'ютара маскоўскімі адмарозкамі, не хочацца ні ёй, ні мне. Я гавару з доктарам філалагічных навук Сяргеем Кавалёвым, які не ведае ні пра Васіну заўчасную пагібель у Люберцах, ні пра маё з ім напаўзабытае сяброўства. Шугалеіха страляе ў мяне цыгарэту, просіць пачаставаць яе эспрэса і, зразумеўшы, што нічога нас не звязвае, акрамя ўспамінаў, кажа:

— А помніце, як ён вам прапанаваў пагаварыць як паэт з паэтам? Помніце?

— Не помню.

— Вы яму тады паказалі на сваю жонку і выдалі: «Вось купіш, Вася, сваёй жонцы такое футра, як я сваёй, тады і пагаворым як паэт з паэтам!» Не помніце?

— Не.

— Не купіў і не купіць. На магілу я не ездзіла. Далёка. Ды баюся я. Нават у інтэрнэце пра яго чытаць баюся. І ўсё адно я шчаслівая, што жыла з ім. А наш сын займаецца баскетболам... Сыходзіце? Пакіньце мне яшчэ адну цыгарэту...

## Вецер

У Васі Шугалея заўсёды свістаў вецер у галаве. Зазвычай гэта кепска, калі ў чалавека ў галаве гуляе вецер, але не ў выпадку з Шугалеем, бо ён рабіў з ветру і свісту запамінальныя песні. Вася рабіў такія песні, якія спявалі і любілі мільёны слухачоў.



«Андрый Радзівонаў –
аўтар карціны “Старая прытча пра сляпых”...»

2018 год. Папера, акрыл 30×21 см



«Вячаслаў Адамчык –
аўтар апавядання “Пах летніх траў”...»

2019 год. Папера, акрыл 30×21 см




«Міхась Стральцоў –
аўтар папявядання “Сена на асфальце”...»

2015 год. Папера, акрыл 30×21 см.



«Уладзімір Кожух –
аўтар карціны “Спакуса”...»

2017 год. Папера, акрыл 24×16 см.

# ЗМЕСТ

*Літаратурна-мастацкае выданне*

***Глобус Адам***
*Адамчык Уладзімір Вячаслававіч*

**РЫСЫ**
***Нарысы пра творцаў***

Адказная за выпуск *В. Н. Волкава*
Рэдактар *А. У. Нанас*
Мастак *М. В. Адамчык*
Карэктар *А. У. Ананас*
Вёрстка *С. М. Кандрацэнка*

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў .
Фармат 84×108/32. Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. . Ул.-выд. арк. .Тыраж экз. Заказ .

ТАА «Харвест».
Ліцэнзія № 02330/0494377 ад 16.03.09.
Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Кульман,
д. 1, корп. 3, пав. 4, п. 42.